Віктар Шніп

# Заўтра была адліга

Дзённікавы раман паэта

Студзень — снежань, 2013

СТУДЗЕНЬ

x

*1.01.2013.* Упершыню за апошнія чатыры гады мама і тата Новы год сустрэлі разам — на Ракаўскіх могілках...

x

*2.01.2013.* Сёння дзевяць дзён, як бацька пайшоў да мамы. Паміналі ў нас дома. Былі мае брат Вова і сястра Валя з мужам...

x

*10.01.2013.* Прыходзіў сын Якуба Коласа Міхась Канстанцінавіч. Прынёс рукапіс кнігі пра Янку Маўра для выдавецтва, а мне кнігу з серыі «ЖЗЛБ» «Якуб Колас. У думках, у сэрцах, у песнях» з прысвячэннем: «Стараўся, назбіраў я — успамінаў кіпу! За іх выданне — дзякуй Шніпу!»

x

*10.01.2013.* Учора ўвечары выбраў з двухтомніка Рыгора Барадуліна вершы для кнігі, якую выдадзім у серыі «Паэзія XX стагоддзя». Сёння патэлефанаваў Рыгору Іванавічу. Не спадзяваўся, што падыме слухаўку, бо толькі

ўчора ён выпісаўся з бальніцы, дзе яму зрабілі аперацыю на плячы, якое было пашкоджанае перад Новым годам пры выхадзе з Чырвонага касцёла. Размаўлялі коратка і па справе. Думаю, што маё тэлефанаванне дадасць Рыгору Іванавічу добрага настрою, які яму цяпер вельмі патрэбны...

**x**

*11.01.2013.* Чытаю рукапіс славацкага паэта Яна Замбара ў перакладзе Вікторыі Ляшук. Цікавая еўрапейская паэзія. Цяпер і ў нас так пішуць. Запомніліся парадыйныя радкі:

*О, лагод агрэсарка, вітаю.*
*Тваё цела — набітая зброя,*
*кожны твой рух — бліскавіца стрэлу.*
*Асеў,*
*скошаны двухстволкай тваіх ног.*



**x**

*12.01.2013.* Сёння мог паехаць на могілкі ў Дубровы шукаць магілы бацькоў Міколы А., як яшчэ нядаўна планаваў з Міхасём Казлоўскім, але не паехаў, бо ў мяне і так апошнім часам шмат магіл...

**x**

*12.01.2013.* Мяне і Люду Алесь Квяткоўскі паклікаў у майстэрню, каб ацанілі новыя працы. Малюе свае балоты паводле майго «Балота» для выставы, якая плануецца на травень. Развітваючыся, Алесь пахваліўся новай кнігай Севярына, але пачытаць не даў...

**x**

*13.01.2013.* Люда пастрыгла мяне. Накідка, якой яна затуляла мне плечы, яшчэ пахне бацькам, якога я стрыг на пачатку лістапада...

**x**

*14.01.2013.* Яшчэ ўсё палохаюся тэлефанаванняў, бо здаецца, што мне скажуць: «Гэта звоняць з Ракава. З бальніцы. Ваш бацька памёр. Заўтра прыязджайце і забірайце...» Мінула ўжо тры тыдні, як я пачуў гэтыя словы...

**х**

*14.01.2013.* Ранкам на працы, як развіднела, зірнуў у вакно. І пабачыў горад белы, як намаляваны крэйдай...

**х**

*15.01.2013.* Каля кнігарні «Светач» сустрэў Алеся Разанава, з якім мы, размаўляючы пра жыццё-быццё, праклалі на снезе пункціры нашых слядоў да Нямігі...

**х**

*16.01.2013.* Бацькі жывуць ува мне...

*студзень*

*Усё сыходзіць і знікае,*
*І не паўторыцца ані*
*Ні восень рыжа-залатая,*
*Ні шэрыя, як мышы, дні...*

**х**

*17.01.2013.* На вуліцы снегу, як у дзяцінстве...

**х**

*18.01.2013.* Сумна і адзінока, як у бяскрайнім заснежаным полі...

**х**

*18.01.2013.* Да бацькавых слоў «мама была добрая...» дадалося «бацька быў добры...».

**х**

*19.01.2013.* З Людмілай былі ў Музеі Янкі Купалы на вечарыне пераможцаў конкурсу аднаго верша. На крэсле, якое стаяла для вядоўцы, а ён на яго ні разу не сеў, я ўвесь час бачыў свайго бацьку...

Пасля вечарыны ў музеі з Людай схадзілі на прэзентацыю кнігі Сяргея Балахонава «Зямля пад крыламі Фенікса». Крэслы ўсе былі занятыя, і мой бацька стаяў з тымі, каму не хапіла месца...

**х**

*20.01.2013.* Загінуў Юра Гумянюк. З ім я пазнаёміўся на самым пачатку 1990-х гадоў. 19.08.1992 года Юра з Вітаўтам Чаропкам былі ў нас з Людмілай у гасцях.

У нашым «Альбоме сустрэч» застаўся запіс: «Не, Вітаўт быў тутака ў гадавіну путчу не сам. А са мной, то біш з Юрам Гуменюком, гарадзенскім паэтам. Ведаеце, дарагія Віця і Люда, нават я, няўрымслівы нонканфарміст, прадстаўнік андэграўнду, шчыра дзякую вам за BOMOND, за цікавы аповед пра пачынальнікаў новае плыні ў беларускай літаратуры... З самымі найлепшымі зычэннямі. Юры Гумянюк». Пасля мы амаль заўсёды сустракаліся, калі Юра прыязджаў у Мінск. Недзе ў 1996 годзе, калі я працаваў у «ЛіМе», Юра прыйшоў да мяне на працу і папрасіў пачытаць новыя творы. Сярод прачытанага быў верш «Адзінокі». «Гэта пра мяне! Ты мне яго прысвяці!» — усхвалявана сказаў Юра. І я выканаў яго просьбу.

*студзень*

## АДЗІНОКІ

***Юрыю Гуменюку***

*Ён ля вакна смакуе каву*
*І слухае замежны рок.*
*Дзяўчаты ходзяць, быццам павы,*
*І п'юць каньяк, нібыта сок.*
*Кароткія, як ноч, спадніцы*
*Букетамі спякотных ног*
*Яго чаруюць. Дым клубіцца*
*Ад цыгарэт, і ён, як бог,*
*Глядзіць на ўсіх, хаця ў кішэні*
*Няма й ламанага граша.*
*Якія вабныя калені,*
*Ажно заходзіцца душа!*
*У джынсах цёртых кавалеры*
*Бяруць за таліі дзяўчат,*
*Вядуць, вясёлыя, за дзверы*
*І не вяртаюцца назад.*
*А ён сядзіць, смакуе каву,*
*Як вусны прыгажунь начных.*
*І марыць, як заўжды, пра славу,*
*І праклінае свет услых.*
*Дакурыць ціха цыгарэту*
*І цяжка, стомлена ўздыхне:*
*— Ізноў адзін дамоў паеду...*
*І д'ябла ўбачыць у вакне.*

x

*23.01.2013.* Патэлефанавалі з Валожына і сказалі, каб заплаціў за тэлефон у вёсцы, бо адлучаць. Перад тым, як ісці плаціць, я набраў бацькоўскі нумар. Слухаў недзе з хвіліну гудкі і думаў: «Хто падыдзе? Мама ці бацька?» Ніхто не падышоў, і ўжо ніхто з бацькоў ніколі не падыдзе да тэлефона...

x

*24.01.2013.* Бацькі памерлі, а страх, што яны вось-вось памруць, і сёння жыве ўва мне...

*студзень*

x

*25.01.2013.* Нараджаемся і жывём, каб пахаваць тых, хто памрэ раней за нас...

x

*25.01.2013.* Нечакана зарыфмавалася:

*Жыццё забівае паэтаў*
*Дурной галавой аб асфальт.*
*Чытаем пра гэта з газетаў,*
*І кожны, хто піша — Уайльд.*

x

*26.01.2013.* Снег, як белая моль, над намі лятае...

x

*26.01.2013.* Хадзіў да цешчы. Калі падыходзіў да дома, здалёку пабачыў над дзвярыма, якія былі ўпрыгожаныя каляровымі стужкамі і шарыкамі, плакат: «Нявеста. Цілі-цілі-цеста! З нашага пад'езда!» Зайшоўшы ў пад'езд, дзе стаялі тры мужыкі, пачуў: «Вы жаніх?»

x

*26.01.2013.* Цешча апавядае: «Калі Люда была малая, я пад час адпачынку павезла яе ў Малдавію. Адпачывалі каля возера. Сядзім на беразе. Загараем. Раптам бачу, што Люды няма. Куды дзелася? І тут бачу: стаіць мая Люда сярод возера на вадзе...»

**х**

*26.01.2013.* Размаўляючы з цешчай, пачуў: «Калі памерла мая мама, я доўгі час ездзіла ў Чыжоўку да яе магілы. І неяк, папраўляючы свечку, так апякла палец, што ажно ўзнік велізарны пухір. А ў мяне дома бялізна замочаная з парашком. Як цяпер мыць? І апавяла я пра гэта памерлай маме, і, калі прыехала дамоў, на пальцы і знаку не было ад апёку...»

**х**

*28.01.2013.* Прыходзіла жонка Алеся Пісьмянкова Алена Рыгораўна. Падаравала Алесеву кніжку выбраных твораў «Не знікай», якая нядаўна выйшла ў выдавецтве «Рэдакцыя газеты «Звязда». Прыемна было перачытаць вершы Пісьмянкова, сярод якіх і гэты:

*Стаіўся птах*
*У голым вецці.*
*Задзьмуць ліхтар*
*Спрабуе вецер.*
*Нібыта з верша*
*Віці Шніпа*
*Азяблы ліст*
*Прыліп да шыбы,*
*Каб у святле*
*Настольнай лямпы*
*Душу сагрэць*
*І легчы ў ямбы.*

*студзень*

**х**

*29.01.2013.* На працы ў прыбіральні на дзявятым паверсе злавілі кажана. Цікава, з чыйго гэта ён рукапісу вылупіўся?

**х**

*29.01.2013.* «Каўчэг» — так я назваў кнігу выбраных твораў Рыгора Барадуліна, якую склаў для серыі «Паэзія ХХ стагоддзя». Патэлефанаваў Рыгору Іванавічу. Ён прыняў маю назву і запрасіў у госці...

**х**

*30.01.2013.* Зарыфмаваўся настрой:

*Нас штодня забівае самота*
*І не можа да смерці забіць,*
*Бо мы ходзім-паўзём на работу,*
*Хоць не хочам нікуды хадзіць,*
*І самота вандруе за намі,*
*Спакушае да вусмерці піць,*
*Каб мы п'яныя вылі ваўкамі:*
*«Аніхто нас не хоча любіць!»*

**х**

*студзень — люты*

*30.01.2013.* Ранкам па рэдакцыйных справах тэлефаную ў Быхаўскі райвыканкам: «Добры дзень!» — «Здароў!» — чую ў адказ. «Добры дзень!» — паўтараю. «Здароў!» — бурчыць мужык. «Гэта Быхаў?» — пытаюся. «Я не бухаў!» — чуецца крык. Я кладу слухаўку, разумеючы, што патрапіў не туды, куды хацеў.

## ЛЮТЫ

**х**

*1.02.2013.* У сасновым лесе карэнне дрэў віднеецца з зямлі, як утаптаныя ў зямлю змеі і вужакі...

**х**

*1.02.2013.* Заўтра 40 дзён па бацьку. Схадзіў у царкву і замовіў малітву. Час ляціць, як страла, а я ўсё думаю і думаю: «Чаму памерлі бацькі?»

**х**

*2.02.2013.* Былі ў царкве. Стала светла і крыху спакайней за бацьку...

**х**

*2.02.2013.* Пасля царквы са сваякамі ўспаміналі бацьку, а з ім маму і ўсіх, каго яшчэ памятаем. Госці пайшлі і стала журботна, і, здаецца, нават больш журботна, чым 40 дзён таму...

**х**

*3.02.2013.* Снілася родная хата, а ў ёй мама і бацька, сястра, брат і я. І нам было так добра, што я не змог падумаць, што гэта сон...

**х**

*4.02.2013.* Сёння завітаў да мяне змардаваны жыццёвымі праблемамі пісьменнік, які за апошнія два месяцы схуднеў на трыццаць кілаграмаў. Гаворачы пра жыццё-быццё, ён прызнаўся: «Калі б не праца над кнігай, я павесіўся б!»



**х**

*5.02.2013.* У снах цікавей і весялей, чым у жыцці. Там бацькі жывыя...

**х**

*6.02.2013.* Маме было кепска, і яна ела з талеркі тварог, як снег...

**х**

*6.02.2013.* Рыхтаваўся да кніжнай выставы, як да палёту ў космас...

**х**

*6.02.2013.* Другі месяц у выдавецтве чытаем рукапісы, у якіх шмат сэксу. Мы не супраць сэксу, але ж... Апошні хіт з прачытанага: «Ён зняў з яе трусікі ў кветачкі, а яна тут жа ўхапілася за яго свабодны мікрафон...»

**х**

*7.02.2013.* Цэлы дзень адпрацаваў на выставе. Цяпер у вачах людзі і кнігі, кнігі і людзі і бесперапынны выдавецка-чытацкі гуд, у якім нараджаюцца і адразу гінуць непаўторныя вобразы нашага часу...

**х**

*8.02.2013.* На кніжнай выставе сустрэў Юру, які ў 2002 годзе, калі ствараўся холдынг «ЛіМ», курыраваў мяне, як галоўнага рэдактара штотыднёвіка. Павітаўшыся

і пазнаёміўшы з Анатолем Длускім, ён адразу ўспомніў мой верш «Беларускае мора» і прапанаваў урэшце стварыць песню. Цяпер Юра займаецца пчоламі...

**х**

*9.02.2013.* Прадаваў свайго «Пугачоўскага цырульніка». Няёмка, што дорага. 65 тысяч. І страшнавата, калі купляюць тыя, пра каго ёсць у кніжцы, а такіх вельмі шмат. Сёння кнігу набыў знаёмы мастак. Спадзяюся, што ён не здагадаецца, што гэта пра яго: «Прыходзіў мастак, які ўжо шаснаццаць гадоў піша вершы. Творы цікавыя і месцамі вельмі нядрэнныя. Праўда, рыфмы не ўсе дакладныя. Амаль паўгадзіны давялося даказваць, што «рэдзька — феня» і «река — вода» не рыфмуюцца... »

*люты*

**КРЫЖЫКАМ ПАЗНАЧАНА**

*10.02.2013.* На кніжнай выставе да мяне падышоў стары і на вуха сказаў: «Можна з вамі пагаварыць? Давайце адыдземся, каб ніхто не чуў».— «Хочаце прапанаваць да друку вершы?» — пацікавіўся я. «Не. Я тут вылічыў чалавека, які не кніжкі прадае, а наркотыкі. Яго трэба тэрмінова арыштаваць»,— прашаптаў стары. «Дык у міліцыю звяртайцеся».— «Я міліцыянераў баюся. Я тут ужо трэці дзень усім кажу, каб лавілі наркадылера, а мяне ніхто не хоча слухаць. Усе смяюцца з мяне. А вы ж пісьменнікі — інжынеры чалавечых душ».— «І што, што інжынеры? Мы пішам, а не ловім бандытаў».— «У вас жа ёсць начальнік. Скажыце, каб ён злавіў наркамана,— сказаў стары і, даючы мне паперчыну з намаляваным планам стэндаў на выставе, дадаў: — Тут крыжыкам пазначанае месца, дзе стаіць чалавек, які прадае наркотыкі...»

**х**

*11.02.2013.* У «Жывым Часопісе» ў сваім каментары да маёй зацемкі «Крыжыкам пазначана» lightynna напісала:

*Напэўна, вось што меў на ўвазе*
*Стары наконт таго крыжа:*
*Падобна гэткай жа заразе,*
*Як гераін ці анаша,*

*Чытво — асветы вечнай дотык,*
*Разваг чыіхсьці цяжкі куль —*
*І ёсць, па сутнасці, наркотык,*
*Не забаронены... пакуль.*

**х**

*11.02.2013.* Ранкам, ідучы на працу і думаючы пра бацькоў, узгадаў слова «дабро», якое яны ўжывалі, кажучы пра жыта: «У нас там яшчэ пару мяхоў дабра ёсць. Трэба адзін на муку змалоць...»

**х**

*13.02.2013.* Прыснілася, што еду ў вёску аўтобусам. У Ракаве даведваюся, што бацька і мама хочуць дома пабыць адны, таму просяць, каб прыехаў праз тыдзень. Што рабіць? Вяртацца назад у Мінск? Не. І я паехаў у Валожын. Вечар. Тэлефаную Міхасю Курылу: «Можна я ў цябе пераначую?» Сябра кажа, што ён развёўся і цяпер яму самому няма дзе жыць. Успамінаю пра гатэль, у якім некалі начаваў. Прыходжу. Плачу за адну ноч 65 тысяч і сам сабе думаю: «Чаму столькі каштуе ноч у гатэлі, як мая кніжка "Пугачоўскі цырульнік"?» Людзей у гатэлі шмат, і ўсе лысыя. І я пачынаю ўспамінаць бацькоў, якія цяпер адны ў вёсцы, і прачынаюся... *люты*

**х**

*15.02.2013.* Сёння год, як мама адышла ў лепшы свет.

*Ужо аніколі мне ў роднае хаце*
*Не будзе больш бацькі, не будзе больш маці,*
*І мне ў роднай хаце таксама не жыць.*
*Між мною і хатай крыж чорны ляжыць,*
*Якім перакрэслена сонца маё.*
*Лістота на дрэвах, нібы вараннё,*
*Чарнее ды з дрэваў не хоча злятаць...*

**х**

*16.02.2012.* Дзень пачаўся з сустрэчы з Міхасём Казлоўскім каля Музея Янкі Купалы, дзе ён забраў падарунак (9 лютага ў Міхася быў дзень народзінаў) — кнігу пра Купалу, выдадзеную музеем. Я падараваў сябру

«Пугачоўскага цырульніка», а Люда — «Гульню ў Альбарутэнію», што выйшла ў Кіеве ў перакладзе на ўкраінскую мову. З Маладзечна Міхась прыехаў яшчэ і каб набыць поўны камплект нумароў часопіса «Калоссе». Зайшліся ў кнігарню на Карла Маркса. Каля тэатра імя Янкі Купалы да нас прычапілася п'яная сімпатычная дзеўка з просьбай завезці яе дахаты. Мы крыху пажартавалі і пайшлі хутчэй на вакзал — у Міхася а 10 гадзіне была электрычка на Маладзечна...

## САКРАТ ЯНОВІЧ І ШПРЫЦ

*люты*

*18.02.2013.* На пачатку 1990-х гадоў Сакрат Яновіч прыязджаў у Мінск на сваю вечарыну, якая праходзіла ў Доме літаратара. Дзякуючы нашай сяброўцы Міры Лукшы з Беластока, Сакрат начаваць спыніўся ў нас дома. Увечары заходжу ў пакой да госця і бачу: ён сабе ў вену робіць укол. І толькі я падумаў: «Ну, Мірка, прыслала нам нейкага наркамана!», як Сакрат сказаў: «У мяне цукроўка, і я вымушаны жыць на ўколах». Гадоў дваццаць шпрыц Сакрата Яновіча захоўваўся ў мяне ў шклянцы. Сёння зазірнуў у шафу — шпрыца няма. І сёння не стала самога Сакрата Яновіча...

**х**

*19.02.2013.* Ідучы ў Музей гісторыі беларускай літаратуры на прэзентацыю кнігі Навума Гальпяровіча «Сюжэт для вечнасці», спыніўся на мосце праз Свіслач, каб паназіраць за качкамі. Праз хвіліну да мяне падышла жанчына і сказала: «А ў нас у Лідзе лебедзі сёлета зімуюць...» — «Качкі падобныя да велізарных каларадскіх жукоў...» — працягнуў размову я. «Сапраўды...» — адказала жанчына і пайшла да станцыі метро «Няміга».

**х**

*20.02.2013.* Вершы ў кнізе як чорны пясок на белым лёдзе...

### Х

*20.02.2013.* Вяртаючыся з працы і марачы пра вясну, нашаптаў:

*Белы свет у траве, як зялёнае мора,*
*У якім усе мы кожны міг патанаем,*
*І, крыжамі сваё пазначаючы гора,*
*Мы ратунку ад мора сабе не шукаем...*

### ХАРОШАЯ ПАЭТКА

*21.02.2013.* Сёння на працы да мяне на прыём было шмат народу, нібы пад час грыпу ў паліклініку. Пад абед знаёмы выкладнік прывёў (сам адразу ўцёк) жанчыну, якая піша вершы. На маю просьбу даць пачытаць рукапіс жанчына сказала, што яна ўсе свае творы ведае на памяць, і тут жа пачала: «Хороший город Ленинград...» Скончыўшы чытаць, паэтка сказала: «А цяпер паслухайце пра Машэрава! Харошым быў у нас Машэраў...» Праслухаўшы некалькі строф пра Машэрава, я пацікавіўся: «Можа, у вас ёсць вершы пра каханне, пра прыроду...» І пачуў: «Ёсць! Слухайце! Харошае было між нас каханне... Харошая цяпер у нас прырода...»

### Х

*22.02.2013.* Рускі паэт Аляксандр Твардоўскі, які працаваў рэдактарам, зайздросціў Някрасаву-рэдактару: «Некрасову было хорошо. Он мог прочесть две строчки и швырнуть рукопись в камин. А я не могу, меня потянут куда следует».

### ЧАМУ?

*25.02.2013.* Сёння паэту Алесю Пісьмянкову споўнілася б 56 гадоў. З гэтай нагоды ў Музеі гісторыі беларускай літаратуры прайшла прэзентацыя ягонай новай кнігі выбраных твораў «Не знікай». На вечарыне было шмат слухачоў, шмат успамінаў, вершаў Алеся і песень на яго словы. Не было ні жонкі паэта, ні сыноў, і ўсе адзін у аднаго пыталіся: «Чаму?»

**БАГУШЭВІЧ І БУРАК**

*25.02.2013.* Калі скончылася прэзентацыя кнігі Алеся Пісьмянкова «Не знікай», да мяне падышоў Уладзімір Содаль і запытаўся: «А ці ведаеце, чаму ў Францішка Багушэвіча адзін з псеўданімаў быў Мацей Бурачок?» — «Не!» — адказаў я. «У той час, калі жыў і тварыў Багушэвіч, бедныя людзі не мелі свечнікаў для свечак, і таму яны ставілі свечкі ў бурак. Свечка ў бураку была своеасаблівым светачам, і Багушэвіч быў светачам, таму ён і ўзяў псеўданім Мацей Бурачок. Трэба будзе сказаць мастакам, каб яны намалявалі Багушэвіча з бураком, у якім, як у свечніку, гарыць свечка!»



**Х**

*25.02.2013.* Тэлефанаваў Леанід Маракоў, у якога нядаўна ў «Мастацкай літаратуры» выйшла кніга «Галоўная вуліца Мінска (1880 — 1940 гг.). Доўга скардзіўся, што да яго датэлефанавалася старая жанчына і накрычала: «Вы напісалі хлусню! У майго прадзеда, які быў вядомым лекарам, у 1914 годзе не было дзвюх кватэр! Ён быў бедным! У яго была адна пяціпакаёвая кватэра!»

**СПАКОЙНА!**

*25.02.2013.* Калі адзін чалавек цябе хваліць, то гэта толькі адзін чалавек, а не мільён. І калі цябе адзін крытыкуе, то гэта адзін чалавек, а не мільён. І калі цябе журы, у якім 10 чалавек, прызнае найлепшым, то гэта толькі думка дзесяці чалавек, а не 10 мільёнаў. І калі цябе 10 чалавек журы пракінулі, то гэта толькі дзесяць чалавек, а не 10 мільёнаў. І таму няма чаго радавацца, што цябе хваляць, і таму няма чаго перажываць, калі цябе пакрытыкавалі...

**ПАЭТЫ**

*26.02.2013.* У старога паэта быў дзень народзінаў. Паэт пачуваўся кепска, таму яму было не да гасцей. З самага ранку не заціхалі тэлефанаванні. Стары паэт цешыўся, як дзіця, што пра яго не забыліся сябры і знаёмыя. І раптам званок у дзверы. Павіншаваць старога паэта прыйшоў немалады паэт. Прыйшоў з пляшкай каньяку і з фатографам. Праз паўгадзіны немалады паэт выпіў сваю пляшку

каньяку, а фатограф зрабіў каля сотні здымкаў двух паэтаў. А яшчэ праз некалькі хвілін у вітальні старога паэта засталіся дзве невялікія брудныя калюжыны ад расталага снегу, што быў на ботах гасцей...

**х**

*27.02.2013.* На працу да мяне зайшоўся Юрась Пацюпа, і мы разам пайшлі на вечарыну памяці гарадзенскага паэта і журналіста Юрыя Гуменюка (24.09.1969 — 19.01.2013), якая прайшла ў чытальнай зале Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва. Арганізаваў і вёў вечарыну Віктар Жыбуль. Прыйшлі ўспомніць Гуменюка сябры і тыя, каму цікавая ягоная творчасць. Сабралася чалавек трыццаць. Усё было, як належыць у такі дзень, калі ўспамінаюць паэта, але не абышлося без Анатоля Сыса, ролю якога як мог выканаў Арцём Кавалеўскі...

*люты — сакавік*

## САКАВІК

**х**

*2.03.2013.* Быў у майстэрні Алеся Квяткоўскага. Палюбаваўся новай карцінай «Паэт Віктар Шніп. Грамадзян і Сабака». Алесь рыхтуецца да выставы «Песні дрыгвы» паводле маіх белых вершах. Казаў, што ў нашай «дрыгве» некаторыя ўжо бачаць болей, чым напісана і намалявана...

**х**

*3.03.2013.* З бацькам і маці іду лясной дарогаю. Чым далей іду, тым дарога ўсё глыбей уразаецца ў зямлю і ператвараецца ў шырокую траншэю. Штокрок навокал цямнее, а пад нагамі ўсё больш гучна хлюпочуць гліна і вада. «Куды мы ідзём?» — пытаюся ў бацькоў і чую: «Дамоў...» — «Дом жа наш у іншым баку!» — паспяваю сказаць я і... прачынаюся.

**х**

*3.03.2013.* Памёр Мікола Арочка (10.01.1930—2.03.2013). Даведаўшыся пра гэта, адразу ж узгадаў сваіх бацьку і маці, якія былі з аднаго пакалення з паэтам і якія таксама да сваіх апошніх дзён корпаліся ў зямлі. Помніцца, як спадар Мікола ў 1996 годзе прыязджаў у Мінск і, зайшоўшы ў «ЛіМ», дзе я працаваў з Барысам Пятровічам, доўга апавядаў пра сваё вясковае жыццё-быццё і чытаў па памяці новыя вершы. Мы папрасілі даслаць іх, а ён сказаў: «Дашлю, але вы іх не надрукуеце. Мяне болей ніхто не хоча друкаваць...»

*сакавік*

**х**

*4.03.2013.* Да мяне на працу заходзіў Вячаслаў Рагойша. У 2015 годзе нашаму Ракаву спаўняецца 550 гадоў. Вячаслаў Пятровіч думае, як адзначыць гэты юбілей і далучыць да правядзення мерапрыемства мяне і Люду. Мы не супраць, пагатоў, што цяпер крыжамі маіх бацькоў мы прыбітыя да ракаўскай зямлі...

**х**

*4.03.2013.* Вада ў Свіслачы амаль цалкам вызвалілася з-пад лёду і цяпер, як ртуць у градусніку, паказвае на вясну...

**х**

*5.03.2013.* Ужо трэці месяц, калі прыходжу раней за ўсіх на працу, адчуваю, што паветра на выдавецкім калідоры патыхае, як у Ракаўскай бальніцы, дзе 25 снежня памёр бацька...

**х**

*6.03.2013.* На працы, перабіраючы старыя паперы ў шуфлядах, знайшоў паперчыну з фрагментам свайго верша, якога цалкам, здаецца, у мяне няма. Занатаваў у сваім дзённіку з-за трэцяга і чацвёртага радкоў:

*...Гучыць і над зямлёй плыве*
*Праз нашы душы, як вякі,*
*Дзе чорныя чарнавікі,*
*З якіх, нібы з раллі, ўстае святло*
*Самотнае, як тое, што было,*
*І вечнае, як закапаны скарб...*

**x**

*6.03.2013.* Калі прыйшоў час сканаць, то ніякія дактары цябе не ўратуюць. Учора памёр прэзідэнт Венесуэлы Уга Чавес. І што мне тут казаць пра свайго бацьку, які быў пастухом...

**x**

*6.03.2013.* Гляджу, як будуецца гмах. На будаўніках чырвоныя каскі, як багоўкі, якія грэюцца пад вясновым сонцам...

**x**

*8.03.2013.* Свята. Цвярозыя з кветкамі, п'яныя без кветак...

*сакавік*

**x**

*8.03.2013.* Яна ішла па снезе, як па белых ружах...

**x**

*10.03.2013.* Нядзельная раніца. Па нашым двары ходзяць вароны і галубы, нібыта ўсе людзі ператварыліся ў гэтых птушак...

**x**

*10.03.2013.* Свята мінула. Першымі ў двары з'явіліся п'яніцы, якія адразу разагналі варон і галубоў...

**x**

*10.03.2013*. Праз сквер вяртаюся з крамы сцяжынаю, якой хадзіў да бацькі. Іду і спінай адчуваю, што бацька глядзіць мне ўслед. Адварочваюся і бачу на сцяжыне сініцу...

**x**

*13.03.2013.* Завітала адзінокая жанчына гадоў сарака. Піша вершы і прозу. Яшчэ нідзе не друкавалася. Скардзілася амаль на ўсё на свеце. Пайшла, а ў мяне зарыфмавалася:

*У словах тваіх адзінота*
*Схавана, бы ў снезе вада.*
*Жывеш (хоць і жыць неахвота),*
*Як кошка жыве без ката...*

**x**

*16.03.2013.* У горадзе снегу, як у лесе...

**x**

*16.03.2013.* Вясна. Жабы яшчэ не прачнуліся, а графаманы адзін за адным ужо ходзяць па рэдакцыях...

**x**

*16.03.2013.* Праз гурбы прабіраюся да крамы. У галаве гучыць радок: «Як пасля снежнага выбуху!»

*сакавік*

**x**

*17.03.2013.* Машыны ў снезе, як рознакаляровыя цукаты ў белым зефіры...

## У СЛОНІМ І ДАМОЎ

*20.03.2013.* З Уладзімірам Мазго ездзіў у Зэльву на адкрыццё Тыдня дзіцячай кнігі...

Ехалі мікрааўтобусам «Радзіміч». Наглядзеўшыся ў вакно і нагаварыўшыся з Валодзем, я кінуў вокам у люстэрка, якое ў кабіне кіроўцы, і пабачыў, што наш кіроўца — стары і сівы — плача. Праз хвілін дзесяць кіроўца пачаў нешта сам сабе казаць і смяяцца. Пасмяяўшыся, стары прыклаў руку да сэрца, пасля чаго пачаў смаркацца і кашляць. Яшчэ праз хвілін пяць кіроўца зноў заплакаў. Потым зноў смяяўся хвілін дзесяць. І я ўжо не глядзеў у вакно, а ўсю дарогу да Баранавіч сачыў праз люстэрка за паводзінамі кіроўцы. На прыпынку да нас падышоў мажны, з адным зубам мужык, які ехаў з намі, і сказаў: «Хачу вам прызнацца, што мы, відаць, дамоў не даедзем! Нешта з нашым кіроўцам здарылася! Ён то смяецца, то плача! Вы заўважылі гэта?» — «Заўважылі!» — адказаў я, і адназубы стаў апавядаць пра тое, што ён кіроўца аўтобуса з саракагадовым стажам і ён ужо тры гады на пенсіі. Пенсія малая. Мільён дзевяцьсот. І ён па сённяшні дзень працуе на аўтобусе. Плацяць мала і таму вось такія старыя, як наш кіроўца, нас і возяць. Пасля размовы з адназубым мы з Валодзем усю дарогу да Зэльвы глядзелі толькі ў люстэрка, у якім наш кіроўца то плакаў, то смяяўся...

Выступілі двойчы. Адзін раз у бібліятэцы перад школьнікамі малодшых класаў, другі раз у вялікай зале перад старшакласнікамі і жыхарамі Зэльвы. Усё было цудоўна. На развітанне дзеці хацелі нам зрабіць музычны падарунак, але хлопец, які адказваў за музыку, хвілін пяць пакорпаўшыся ў сваёй апаратуры, так і не змог уключыць фанаграму...

За плотам каля царквы бюст Ларысы Геніюш. Праз дарогу хата, дзе жыла паэтка. Побач з ёй двухпавярховы дом, дзе была кватэра, у якой гадаваўся Уладзімір Мазго...

З Зэльвы выехалі дызелем да Баранавіч. Абапал дарогі лес і снег, як у Сібіры. «А дзе ваўкі, ласі, лісіцы, дзікі?» — гледзячы з вакна, раз-пораз я задаваў сабе пытанне. На сваю радасць за Слонімам пабачыў казулю, якая выйшла з лесу і спынілася, гледзячы на дызель...

*сакавік*

У Слоніме Шчара не замерзла і не занесеная снегам. Узгадаліся Сяргей Новік-Пяюн, Алег Лойка, Анатоль Іверс. Вада ў Шчары, як халоднае расплаўленае жалеза, з якога робяць кайданы і зброю...

Не даехаўшы кіламетраў пятнаццаць да Баранавіч, наш дызель спыніўся. Стаяў хвілін дваццаць. Потым раптам мы паехалі назад. Праехалі кіламетраў дзесяць. Зноў спыніліся. Пастаялі хвілін дзесяць і паехалі іншай дарогаю ў Баранавічы. Усё адбывалася без тлумачэнняў з боку машыністаў дызеля...

А дзявятай нуль дзевяць выехалі з Баранавіч швейцарскай электрычкаю. Ехалі, як ляцелі самалётам...

**x**

*21.03.2013.* У выдавецтва прыходзіў Адам Глобус. Прынёс аздабленне да бацькавай кнігі «Песня», якую будзем выдаваць у серыі «Проза ХХ стагоддзя». Узгадаўшы мае Пугачы, Глобус сказаў: «Чаму я, Віця, ні разу не быў у тваіх Пугачах? Звазі мяне ў Пугачы! У Барселоне быў 19 разоў, а ў Пугачах ні разу!»

**x**

*23.03.2013.* Прачнуўшыся, зірнуў у вакно і пабачыў над вышынным домам у белым небе чырвонае сонца. Японцы захапілі нас? Ды не! Гэта яшчэ не скончылася зіма...

**x**

*24.03.2013.* На шафе пыляцца рукапісы, як фанера, якая праляцела над Парыжам...

**x**

*24.03.2013.* Ліда Шніп, будучы ў выхадныя ў Пугачах і сфатаграфаваўшы заснежаную, але расчышчаную вуліцу, дзе стаіць мая родная хата, даслала здымак. Гляджу на хату і здаецца, што там і цяпер жывуць мае мама і тата і чакаюць вясну...

*сакавік*

**x**

*25.03.2013.* Прыходзіў Анатоль Клышка, падараваў мне сваю кніжку «Тысяча арэшкаў» (загадкі для дзяцей і дарослых), а таксама маю кніжку «Пошук радасці» (1987), якую ён купіў перад тым, як я яму падараваў з аўтографам. А цяпер амаль усе маладыя, кніжак сваіх не дораць старэйшым, а старэйшыя пісьменнікі амаль маладых не купляюць...

**x**

*26.03.2013.* Учора быў настрой, што жыць не хацелася, і я разумеў мільярдэра Барыса Беразоўскага, які гэты свет пакінуў. А сёння сонца і віншаванні з днём народзінаў і мне радасна, што свеціць сонца і я яшчэ патрэбны ў гэтым несправядлівым жыцці...

**x**

*26.03.2013.* А сёння «неба чыстае, як шклянка», якая чакае святочнай вячэры...

**x**

*26.03.2013.* Гляджу ў неба і бачу маму і тату, якія мне падаравалі сонца...

**x**

*26.03.2013.* Жыццё цудоўнае, як запаленыя свечкі на святочным торце...

**х**

*27.03.2013.* Снілася спявачка Ірына Дарафеева. Пыталася, за каго пайсці замуж. Пакуль я думаў, спявачка ўзяла ў мяне зімовую шапку і, насунуўшы сабе на галаву, знікла...

**х**

*28.03.2013.* Жыццё сумнае, як запаленыя свечкі каля труны...

**х**

*28.03.2013.* Думаў, што журавы лятуць, а прыгледзеўся — вароны...



**х**

*28.03.2013.* Тэлефанаваў Адам Мальдзіс. Павіншаваўшы з добрым і арыгінальным «Пугачоўскім цырульнікам», сказаў: «Вы мяне згадваеце, пішучы пра вечарыну Шамякіна: «Найбольш з усяго запомнілася тое, што Адам Іосіфавіч выглядаў, як ксёндз». А я і павінен быў стаць ксяндзом, бо так хацеў бацька, аднак, пабачыўшы, што я ўсё нешта пішу і друкуюся, змірыўся з маім жаданнем быць пісьменнікам...»

**х**

*29.03.2013.* За апошнія тры месяцы, дзякуючы сеціву, наладзіў сувязь з некаторымі сваякамі, якіх не бачыў па гадоў 20 ці наагул не ведаў пра іхняе існаванне. На мінулым тыдні пазнаёміўся з траюраднай сястрой Наталляй Каральковай. Мая бабуля Параска і яе бабуля Дуня — родныя сёстры. Сёння Наталля даслала мне здымкі нашых прадзеда Андрэя і прабабулі Магдалены. Іх прозвішча — Сарока. Сярод атрыманых мною здымкаў ёсць і здымак вучняў Беларускай гімназіі імя Ф. Скарыны ў Радашковічах, дзе вучыўся муж Еўдакіі Бародзіч Уладзімір Ігнатавіч (1907 — 1997), які ў той час быў добра знаёмы з Максімам Танкам...

**х**

*29.03.2013.* Ад траюраднай сястры Наталлі Каральковай даведаўся, што наша прабабуля Магдалена нарадзілася ў 1877 годзе і пражыла 74 гады. Пахаваная ў Дубровах, дзе непадалёку спачывае муж Андрэй…

**х**

*30.03.2013.* Думаючы пра вясну, перабіраў адзенне. З маёй чорнай кашулі выпала паперчына: «Крыж каштуе 104 тысячы…»

*сакавік*

**ВАЛЕРЫЙ ЗАЛАТУХІН**

*30.03.2013.* Інтэрнат Літаратурнага інстытута. 1986 год. Мой сябра паэт з Чалябінска Генадзь Суздалеў запрасіў да сябе ў пакой, каб разам чакаць прыезду ў госці ягонага сябра артыста Валерыя Залатухіна. Тады мабільных не было, і мы з Генадзем сядзелі ўсю ноч у чаканні. Не дачакаліся. Сёння прыйшла вестка, што народны артыст Расіі Валерый Залатухін памёр…

**х**

*31.03.2013.* Сумна, што няма вясны. Сумна, што няма бацькоў. Ад самоты з’явіліся радкі:

*Ты плывеш у труне*
*Праз лясы і палі.*
*Ты плывеш ад мяне*
*На край роднай зямлі,*
*Дзе крыжы, камяні*
*І сухія вянкі,*
*Як пражытыя дні,*
*Як былыя вякі…*

**х**

*31.03.2013.* Каля суседняга пад’езда ходзіць кот, як з «Майстра і Маргарыты»…

**х**

*31.03.2013.* Амаль паўтары гадзіны размаўляў па тэлефоне з Анатолем Блашчыцыным. Успаміналі Пугачы і сваякоў. Ад Анатоля даведаўся, што мой траюрадны брат

Антон Янушкевіч у школе пісаў вершы для насценнай газеты. Мінула больш за пяцьдзясят гадоў, а Анатоль памятае Антонава:

*Патрыс Лумумба — пламенны герой.*
*Ён за свабоду Афрыкі*
*Сваіх неграў*
*Смела вядзе ў бой...*

## КРАСАВІК

### X

*3.04.2013.* Дзякуючы «Жывому Часопісу» і фрэнду jacviah, прачытаў «Колькі словаў пра а. Адольфа Шніпа, Альбярцін і беларускіх езуітаў» і даведаўся, што мой сваяк Адольф Шніп нарадзіўся 30 лістапада 1906 года ў рымакаталіцкай сям'і Вінцэнта Шніпа ў вёсцы Пугачы (сёння — Валожынскі раён Мінскай вобласці) і памёр 4 студзеня 1985 года ў Польшчы ў вёсцы Ваўжэньчыцы Уроцлаўскага павета Ніжнесілезскага ваяводства.

*сакавік — красавік*

«Адольф Шніп — беларускі каталіцкі святар лацінскага і бізантыйскага абрадаў, святар з Таварыства Ісуса, адзін з выдаўцоў беларускага рэлігійнага часопіса «Злучэнне», актыўны дзяяч дабрачыннага каталіцкага таварыства «Карытас».

Да езуітаў уступіў у Альбярціне 21 лютага 1927 г. На святара бізантыйскага абраду высвечаны ў Ковелі 16 чэрвеня 1935 года. Належаў да духавенства Віленскай рымакаталіцкай архідыяцэзіі.

Ва Усходняй місіі айцоў-езуітаў у Альбярціне пэўны час быў кіраўніком дома, асістэнтам кіраўніка навіцыяту (соцыюш магістра навіцыяту), адным з рэдактараў беларускага ўнійнага штомесячніка «Да Злучэння» / «Злучэнне», які выдавалі беларускія езуіты.

У 1937—39 гг. у Вільні быў адміністратарам каталіцкай парафіі Маці Божай Суцяшэння візантыйскаславянскага абраду. Гэтай уніяцкай парафіяй апекаваліся езуіты, а на рэлігійныя патрэбы ёй у 1926 г. быў перададзены былы аўгусцінскі касцёл.

Вядома, што ў 1939 г. быў таксама прэфектам малой езуіцкай духоўнай семінарыі ў Вільні. Праводзіў духоўныя рэкалекцыі для беларускіх студэнтаў, што навучаліся ў Вільні.

У 1940—41 гг. у Кракаве прайшоў трэці этап выпрабаванняў на шляху сваёй духоўнай фармацыі (звычайна ў езуітаў гэта 8—10 месяцаў), які прадугледжаны Канстытуцыяй Таварыства Ісуса перад складаннем вечных зарокаў. Вядома, што затым працаваў на Падляшшы ў Кожухаве.

У паваенны час жыў у Польшчы пад Уроцлавам, служыў у лацінскім абрадзе. Вядома таксама, што 01.07.1946 а. Адольф Шніп з нейкіх прычынаў пакінуў Таварыства Ісуса.

У 1945—49 гг. быў першым пробашчам шматнацыянальнай парафіі Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Беляве пад Уроцлавам, утворанай на атрыманых пасля вайны ад немцаў землях. У 1948 г. вялікая парафія ў Беляве была падзеленая на 2 часткі: горная і дольная, пробашчам апошняй быў кс. Адольф Шніп.

*красавік*

Наступным месцам служэння кс. Адольфа Шніпа была парафія Найсвяцейшага Сэрца Ісуса ў Жаруве (Уроцлаўская архідыяцэзія), дзе ён быў пробашчам у 1951—53 гг.

Пасля Жарува ў 2-й палове 1950-х ён працаваў пробашчам у парафіі Пекары-Уданін. Быў удзельнікам усіх з’ездаў і канферэнцый мясцовага каталіцкага дабрачыннага таварыства «Карытас» Уроцлаўскай архідыяцэзіі.

За актыўную дабрачынную дзейнасць у часы камуністычнай Польшчы кс. Адольф Шніп, згодна з ухвалай Рады дзяржавы, быў двойчы ўзнагароджаны «Залатым крыжам заслугі». (Другі раз гэтую ўзнагароду атрымаў 19 ліпеня 1954 года «з нагоды 10-й гадавіны Народнай Польшчы за заслугі ў грамадскай працы».)

У літургічным календары Легніцкай дыяцэзіі на 2011 г. падаецца дзень малітоўнай памяці (дзень смерці) кс. Адольфа Шніпа: 4.01.1985 і мясцовасць, дзе ён пахаваны — Ваўжэньчыцы.

У кнізе ўспамінаў супрацоўнікаў «Карытасу» («Księża Caritas. Wspomnienia») змешчаны ўспаміны кс. Адольфа Шніпа «Znad Dniepru nad Odrę» (Ks. Sznip, Adolf. Znad Dniepru nad Odrę / Księża Caritas. Wspomnienia. — Warszawa, Wydawnictwa Caritas, 1984.— S. 391—400.)

**x**

*4.04.2013.* Самае папулярнае друкаванае выданне — гэта грошы. Сказаў не я, але...

**x**

*5.04.2013.* Сумна, быццам з дуба зваліўся...

**x**

*6.04.2013.* Сонца няма, але дома сонечна — сёння дзень народзінаў у нашай дачкі Веранікі і ў майго брата Валодзі...



**x**

*7.04.2013.* У «Беларускім Гістарычным Зборніку» № 18 надрукаваны артыкул «Беларускія гімназіі ў жыцці Заходняй Беларусі (1920—1930-я гг.)», у якім напісана: «Унікальнай з'явай культурнага жыцця заходнебеларускага краю з'яўляліся беларускія гімназіі. Хоць іх было няшмат — на пачатку 1920-х гг. працавалі 6 такіх сярэдніх школ (у Вільні, Гродне, Нясвіжы, Навагрудку, Радашковічах, мястэчку Гарадок Вілейскага павета), аднак яны захоўвалі і развівалі традыцыі беларускай нацыянальнай школы. (...) Пазіцыі беларускіх гімназій увесь час слабелі. Не вытрымаўшы ўціску і фінансавых цяжкасцей, спыніла сваё існаванне беларуская гімназія ў Гродне. Праз тыя самыя праблемы, а таксама аддаленасць ад густанаселенай мясцовасці, кіраўніцтва гімназіі ў Гарадку з 1922 г. спрабавала перанесці яе ў Валожын, але праз 2 гады польскія ўлады наагул зачынілі школу. Такі лёс напаткаў і гімназію ў Нясвіжы». Гарадок знаходзіцца ў кіламетрах шасці ад Пугачоў і некалькі маіх аднавяскоўцаў вучыліся ў Гарадоцкай беларускай гімназіі. Пра гэта я даведаўся недзе дваццаць пяць гадоў таму, калі яшчэ жылі тыя старыя, у якіх можна было шмат пра што распытацца, але, але...

**x**

*7.04.2013.* Усё! Відаць, будзе вясна! На лаўках у скверы поўна п'яных, і іх галасы, як карканне гракоў, якія ўрэшце прыляцелі...

**x**

*7.04.2013.* Думаючы пра роднае і родных, занатаваў:

*Родны край напоўнены слязамі,*
*Быццам Храм святымі абразамі.*
*І жыву-гляджу на абразы,*
*Як на водсвет Божае слязы...*

**x**

*9.04.2013.* У словах «хутчэй бы на пенсію!» можна пачуць гатоўнасць памерці...

*красавік*

**x**

*9.04.2013.* Сумна. Была б жывою мама, дык узяла б венік і настрой бы вярнула мне, а так сяджу, як ёлуп, каля камп'ютара...

**x**

*11.04.2013.* У скверы з-пад снегу прарэзалася сцяжына, якой летась хадзіў да бацькі на кватэру...

**x**

*11.04.2013.* З-пад снегу на асфальтаваную дарогу цячэ вада, як з белай травы ручаіна...

**x**

*13.04.2013.* На вуліцы ціха. Туман. Адчуванне, быццам сяджу ў роднай вясковай хаце і чакаю з працы бацькоў...

**x**

*14.04.2013.* У нашым двары ўжо амаль растаў снег і цяпер бачна, дзе часцей за ўсё спыняліся курыльшчыкі, дзе стаялі алкаголікі і дзе выгульваліся сабакі...

**x**

*15.04.2013.* Дастаў старыя летнія чаравікі са скрынкі, як з труны...

**х**

*15.04.2013.* Захад чырвоны, быццам царкоўнае віно...

**х**

*16.04.2013.* Пасля смерці бацькоў адчуў, што дзяцінства, якое ўспаміналася, як блізкае мінулае, стала такім далёкім, нібыта яно наагул мне прыснілася...

## НАСТРОЙ ТАКІ...

*16.04.2013.* Тыдзень таму сайт «Нашай Нівы» перадрукаваў з маёй старонкі, што ў Фэйсбуку, верш «Настрой такі, што ўсё няміла». І сёння знаёмыя і сябры пры сустрэчы кажуць, што гэты твор іх вельмі ўразіў, спадабаўся і г. д. Усе, дарэчы, верш успрынялі, як толькі што напісаны, а ён ужо даўно надрукаваны ў кнізе «Балада камянёў» (2006) на старонцы 219... *красавік*

* * *

*Настрой такі, што ўсё няміла,*
*І шэры горад, як магіла,*
*Дзе мы, як прывіды, жывём.*

*І жоўты снег, і белы вецер,*
*І сонны, як хвароба, вечар*
*Душу апальваюць агнём.*

*Агонь жа не стушыць вадою,*
*Ён быццам крыж па-над царквою,*
*Якая ў памяці стаіць.*

*І я іду дамоў з работы,*
*І ўслед смяюцца ідыёты,*
*І сіл няма, каб іх любіць.*

**х**

*16.04.2013.* Вяртаючыся з абеда на працу, прайшоў міма народнага артыста Расціслава Янкоўскага, з якім нядрэнна знаёмы і ў якога, калі рыхтавалася кніга пра яго

для серыі «ЖЗЛБ», бываў дома і некалькі гадзін разам з ім поўзаў па падлозе, абіраючы з альбомаў фотаздымкі для друку. Я прайшоў міма не вітаючыся, бо Расціслаў Іванавіч ішоў прыгожа і так, нібыта навокал не было нікога апрача яго...

**х**

*17.04.2013.* «Ён моліцца толькі на свой пуп!» — характарызуючы аднаго вядомага творцу, сказаў Алесь Масарэнка. Думаю, што такіх вядомых творцаў у нас, на жаль, набярэцца больш за дзясятак...

*красавік*

**х**

*17.04.2013.* Прыходзіў сын Якуба Коласа Міхась Міцкевіч. Прынёс некалькі матэрыялаў да кнігі пра Янку Маўра, якую мы збіраемся выдаць. Гаворачы пра жыццёбыццё, Міхась Канстанцінавіч прапанаваў надрукаваць паэму Якуба Коласа «На шляхах волі», над якой паэт працаваў трыццаць гадоў і якая яшчэ ніколі не выходзіла асобнай кнігай...

**х**

*17.04.2013.* На месцы філфакаўскага інтэрната БДУ выкапаны катлаван глыбінёй метраў пяць. Будаўнікі ў ім ужо больш за паўгода змагаюцца з вадой, якая перашкаджае працаваць. Палова катлавана, што бліжэй да Свіслачы, чорнага колеру — ляжыць торф, а другая палова — пясчаная. Назіраючы за будаўніцтвам, увесь час думаю, што ў торфе будаўнікі мусяць знайсці калі не косткі мамантa, дык рыцарскія латы...

## ПІСЬМЕННІЦА І ЗУБЫ

*18.04.2013.* У пісьменніцы памерла маці. Прыехаўшы ў вёску на пахаванне, яна дастала з рота ніжні зубны мост і паклала за шкло ў сервант навідавоку. Потым, вярнуўшыся з могілак, пісьменніца зазірнула ў сервант, каб забраць свае зубы, а іх там і няма. Перашукала ўсюды, дзе толькі магла, але зубоў так і не знайшла. І пісьменніца вырашыла, што нехта яе зубы паклаў маці ў труну, думаючы, што гэта зубы памерлай. Да ўсяго яна з братам узгадала, што калі хавалі бацьку, то забыліся

пакласці яму ягоныя зубы, і потым брату давялося прыкапваць іх да бацькавай магілы. Цяпер пісьменніца ўжо амаль месяц думае толькі пра свой ніжні зубны мост, які пахаваны разам з маці...

**x**

*18.04.2013.* Урэшце пабачыў шпакоў, якія вярнуліся з выраю. Шпакі чорныя, як афрыканцы...

**x**

*18.04.2013.* У катлаване на месцы інтэрната філфака БДУ ў тарфяной жыжы корпаюцца будаўнікі, як мележаўскія людзі на балоце...

**x**

*18.04.2013.* Зямля заўсёды сырая...

**x**

*18.04.2013.* Царква на другім беразе ракі, як у іншым свеце...

**x**

*19.04.2013.* Растаў снег і на клумбе жоўтыя і белыя недапалкі, як абляцелыя пялёсткі кветак смерці...

**x**

*19.04.2013.* Маме было б 83. Учора хадзіў у царкву і замовіў на сёння малітву за спачын...

**x**

*19.04.2013.* Пад дрэвам каля сцяжыны, якой год таму хадзіў да бацькі на кватэру, прабіліся з сухой травы, як прывітанне з таго свету ад мамы і таты, дзве жоўтыя кветачкі (на гэтым месцы летась была толькі адна)...

**x**

*20.04.2013.* З братам Вовам, сястрой Валяй і яе мужам Віцем ездзілі ў вёску...

Адразу заехалі на Ракаўскія могілкі да бацькоў. Снегу няма. Помнікі сумныя, як сіроты...

Непадалёк ад бацькоўскіх магіл завіхаліся далакопы. Мы падышлі і даведаліся, што ў Ракаве памёр былы пажарнік, якому было 73 гады. У доле вада, і мужчыны накідалі яловых галін, але яна ўсё адно прасвечваецца праз іх. «Гэта не бяда! Некалькі дзён таму мы тут паблізу капалі. Выкапалі, чакаем труну, а тут раптам лінула вада з зямлі і нацякла ажно па самыя берагі. Давялося закапаць іісці на новае месца. А вада тут усюды, бо крыніцы б'юць!» — апавядаў старэйшы далакоп.

Над могілкамі праляцелі журавы, нібыта спецыяльна, каб мы паглядзелі ў неба…

Ходзячы па могілках, натрапілі на сціплую магілу:

*красавік* «Тут спачывае нястомны працаўнік настаўнік Адам Малахавіч Прышчэпаў (11.07. 1894—22.05.1964)».

Могілкі — гэта нашыя каменныя энцыклапедыі, у якіх болей таямніц, чым тлумачэнняў…

У вёсцы каля хат суха і толькі каля нашай стаіць вада — няма каму з ёй змагацца…

У хаце на сценах два змоўклыя гадзіннікі. Адразу падумалася, што адзін мамін, а другі бацькаў…

Суседка Зіна Мальчыкава падышла да плота пагаварыць. Апавядала, што два тыдні таму ў Мінску памёр яе брат Коля. Яму было 56 гадоў. Пахавалі ў Дубровах. Узгадалася, як Коля ішоў у войска. Я быў на праводзінах. З роднага дома ў невядомы свет Колю павезлі цяжкавіком і цяпер такім шляхам Коля вярнуўся ў родную зямлю…

Суседзі з нашых бяроз і клёна спусцілі сок. Трохлітровыя слоікі пад дрэвамі свецяцца на сонцы і асвятляюць тыя часы, калі жылі бацькі…

У хляве поўна вады, як у басейне…

Па вуліцы швэндаецца моладзь, нібыта заблукаўшы…

У садзе пад яблынямі сям-там ляжаць яблыкі. За зіму не змерзлі і іх можна есці…

Кусты агрэсту, як скруткі калючага ржавага дроту…

Брат расчыніў старую валізку, у якой мама захавала мае лісты і газетныя публікацыі вершаў. Усё пажаўцелае, нібыта з фронту…

Пасаджаныя мамай касачы вось-вось закрасуюць…

У паштовай скрынцы рудая лістота, як попел…

З сястрой вырашылі, каб зямля не дзічэла, пасадзіць грады…

Зайшліся да бацькавага стрыечнага брата Шуры, які ўжо 21 год, як з жонкай Дзінай пераехаў з Маладзечна. Падараваў дзядзьку «Пугачоўскага цырульніка»...

У горад вярталіся, як з планеты, на якой яшчэ нядаўна жылі бацькі...

**x**

*21.04.2013.* Выступаў у бібліятэцы імя Пушкіна на пасяджэнні абласнога творчага аб’яднання «Жывіца». Прысутнічала чалавек трыццаць. На жаль, моладзі амаль не было. Запомніўся мужчына, які задаў пытанне: «У мяне апрача музы-жонкі ёсць яшчэ дзве музы, да якіх можна прыйсці ў любы час і яны мяне абагрэюць і накормяць. А ў вас колькі такіх муз?» *красавік*

**x**

*23.04.2013.* Сяджу дома. Нікуды не хачу ісці і нічога рабіць, і няма каму прымусіць мяне. Тэлефанаванні, нібы для праверкі: «Ці яшчэ жывы ён там?»

## ЯЗЭП ДРАЗДОВІЧ І МЫ

*24.04.2013.* З Вячаславам Рагойшам, Яўгенам Лецкам, Ганнай Запартыкай і Людмілай Рублеўскай ездзіў у Маладзечна на канферэнцыю, прысвечаную жыццю і творчасці Язэпа Драздовіча, якую арганізаваў Міхась Казлоўскі...

У вагоне электрычкі поўна старых. Едуць на лецішчы, як у эміграцыю...

Па вагоне прайшла цыганка з дзецьмі. Ніхто нічога не даў...

«Не паліце сухую траву!» — штогод увесну ўсё гучыць і гучыць з дынамікаў у вагонах. А трава ўсё гарыць і гарыць...

Лапікі снегу абапал чыгункі, як скура з вялікай белай змяі, якая прачнулася пасля зімы і цяпер мяняе свой колер...

Сонца, як шчасця, няма...

Чым далей ад Мінска, тым больш пусцеюць вагоны. Старыя выходзяць на сваіх станцыях, як паміраюць у свой час...

Мы размаўляем пра літаратуру, нібыта больш няма пра што...

У Маладзечне на вакзале вецер, нібыта п'яны дворнік, які нядаўна прачнуўся, мяце сюды-туды смецце і пыл...

Нас сустрэў Міхась Казлоўскі, як тутэйшы Ной...

Да бібліятэкі імя Максіма Багдановіча ідзём вуліцаю Прытыцкага. Вуліца пешаходная, як Арбат...

На канферэнцыю сабралася народу поўная зала. Запомніўся пытаннем мастак Кастусь Харашэвіч: «Да якога рэалізму можна аднесці творчасць Язэпа Драздовіча? — і адказаў: — Да нацыянальнага рэалізму!»

*красавік*

Па-за планам канферэнцыі выступіла настаўніца Маладзечанскай СШ №12 Алена Сымановіч. Дваццаць гадоў таму яна вучылася на філфаку ў Вячаслава Рагойшы. Пачала выступ з віншавання Вячаслава Пятровіча з ордэнам Скарыны, а скончыла: «Мне, Вячаслаў Пятровіч, Ваш падручнік па літаратуры не падабаецца. Ён вельмі складаны. Не для нашых дзяцей!»

Ад'язджалі са станцыі «Фестывальная». Міхась Казлоўскі, паказваючы на могілкі, якія непадалёку, сказаў: «Там на ўзгорку пахаваны Мікола Ермаловіч...»

Пасля Ермаловіча ўзгадалі Міколу Капыловіча. «На вечарыну, якая была прысвечаная Міколу, з Мінска аніводзін ягоны таварыш-пісьменнік не прыехаў, хоць і абяцалі...» — уздыхнуў Міхась Казлоўскі і перавёў размову на весялейшае, на Язэпа Драздовіча...

Дамоў ехалі, размаўляючы пра літаратурную крытыку. Людміла ўсё запісала на дыктафон, каб не прапалі цікавыя думкі Вячаслава Рагойшы, Яўгена Лецкі і Ганны Запартыкі...

Абапал дарогі высякаюць кусты і выразаюць вялікія дрэвы. Пні, мокрыя ад соку, свецяцца ў рудой траве, як патэльні, на якіх пячэцца нашая будучыня...

Вярнуліся дамоў, нібыта пабываўшы ў гасцях у Язэпа Драздовіча. І радасна на душы, і сумнавата...

**X**

*25.04.2013.* З сябрам ездзілі на лецішча. Дапамог яму разгрэбці кратавінне ў агародзе...

Вецер выганяў сухое лісце з двара. Здавалася, што лісце само ўцякае, баючыся, што мы зараз раскладзём вогнішча і спалім яго...

Шпакі чорныя, а песні ў іх светлыя...

Муха праляцела па пакоі, радуючыся, што перазімавала...

Шкельцы ў траве, як ільдзінкі, што яшчэ не раставалі...

Бусел стаіць у буслянцы, як чалавек пасля доўгай жыццёвай дарогі на споведзі...

Буслянка з буслом, як цэнтр вясны...

Вада ў азярыне, якая нядаўна вызвалілася з лёду, рудаватая, як гарбата з лясных і палявых зёлак...

Коцікі на вярбе, як чмялі, якія п'юць мёд з вясновага сонца і паветра...

Хвалі б'юцца аб бераг, нібыта будзяць траву...

Лапікі снегу, як белая шчыгрынавая скура... *красавік*

Ялінам няёмка, што яны зялёныя...

На раллі чорныя крумкачы. На могілках чорныя помнікі...

Вярталіся ў горад, як у клетку...

**х**

*28.04.2013.* Дождж. На дрэве пад маім вакном мокне варона, як чорная ануча...

**х**

*28.04.2013.* За вакном на вуліцы цішыня, нібыта спыніўся час...

**х**

*28.04.2013.* Цэлы дзень ішоў дробны дождж і каля майго вакна цэлы дзень на дрэве сядзелі вароны, нібыта чакалі, калі я засну і яны змогуць выдзяўбці мне вочы...

**х**

*29.04.2013.* «Мне ўжо не быць прыгожым!» — уздыхнуў сусед Дзіма, гледзячы на шпака, што сядзеў на шпакоўні.

## СМІЛАВІЧЫ І ХАІМ СУЦІН

*30.04.2013.* Дзякуючы нашай сяброўцы Надзі Вусавай з Людай з'ездзілі ў Смілавічы, дзе наведалі музей, прысвечаны Хаіму Суціну...

Мастак нарадзіўся 13 студзеня 1893 года ў Смілавічах (Мінская губерня, цяпер Чэрвеньскі раён), а памёр

9 жніўня 1943 года ў Парыжы, як французскі мастак-экспрэсіяніст, ураджэнец Беларусі, адзін з найбольш вядомых прадстаўнікоў «парыжскай школы» жывапісу ў 1920 — 1930-х гг.

«Хаім быў дзясятым з адзінаццаці дзяцей у сям'і. Яго маці Сара была жанчынай добрай і ледзь паспявала накарміць і абслужыць шматлікую сям'ю. Бацька быў краўцом (паводле іншых звестак, сінагагальным служкам) і знаходзіўся ў самым нізе сацыяльнай іерархіі мястэчка. У адных кнігах пра Суціна гаворыцца, што бацьку звалі Борух, у іншых яго называюць Саламонам. Хутчэй за ўсё, і тое, і іншае — праўда,— напэўна, імя бацькі мастака было Борух-Шалом. Ён не быў ні выбітным эрудытам, ні чалавекам, які бясконца верыць у сілу розуму. Ён верыў у свае рукі працаўніка і быў адзіным дабрадзеем цэлай плоймы галодных ратоў» — так пішуць у адной з кніг пра Хаіма Суціна.

*красавік*

Музей размяшчаецца ў двух пакоях у доме «Цэнтра дзіцячай творчасці». Арыгіналаў няма, але копіі карцін добра выглядаюць і ствараюць уражанне каштоўнасці таго, што бачыш...

Да нашага прыезду сярод дзяцей быў праведзены конкурс на лепшую варыяцыю карцін Хаіма Суціна. Усе ўзнагароды атрымалі дзяўчаты, а хлопцы, здаецца, у конкурсе і наагул не ўдзельнічалі...

У музеі шмат фотаздымкаў таго часу, калі ў Смілавічах жыў Хаім. Глядзіш на фотаздымкі і забываешся, што ты знаходзішся ў мястэчку, дзе ўжо няма таго, што раньш было...

Раней, да бальшавікоў, у Смілавічах былі царква, касцёл, сінагога і мячэць. Цяпер толькі царква і мячэць...

На месцы хаты, у якой нарадзіўся будучы мастак, збудаваны велізарны катэдж...

Паглядзелі палац Ваньковічаў-Манюшкаў. Дзяржава яго ахоўвае, а ён разбураецца...

Хацеў зазірнуць у палацавыя сутарэнні, але дарогу мне перапоўз паўметровы вуж, і я пабаяўся ісці далей...

Парк вялікі і прыгожы. Еўропа...

На беразе Волмы велізарныя вербы. Многія паваліліся і ляжаць у леташняй траве, як мёртвыя беларускія цмокі...

Вада ў рацэ няспешная, як нашае агульнае беларускае разуменне, што палац Ваньковічаў-Манюшкаў у

Смілавічах — гэта нашае нацыянальнае багацце, якое гіне на нашых вачах...

Каледж пчалаводаў. Дзясяткі вулляў. Пчолы гудуць навокал, быццам ты сам знаходзішся ў вуллі...

У парку дым — дагараюць купы мокрага леташняга лісця. Адчуванне нібыта нядаўна была аблога палаца Ваньковічаў-Манюшкаў, і абложнікі, на нейкі час захапіўшы палац і разбурыўшы яго, сышлі з нарабаваным у невядомасць...

Не толькі ў назве мястэчка Смілавічы, але і ў самім мястэчку ёсць шмат мілага, нашага даўняга мінулага, беларускага, ад чаго хочацца жыць і вандраваць па роднай зямлі...

*красавік — травень*

## ТРАВЕНЬ

### Х

*1.05.2013.* Сёння нашаму з Людмілай Максіму 20 гадоў. Ён студэнт другога курса Беларускай акадэміі мастацтваў. А я ў ягоным узросце працаваў грузчыкам на лікёра-гарэлачным заводзе «Крышталь». Меў дзве мянушкі — Вожык і Шніцаль і наперадзе было яшчэ пяць «рамантычных» гадоў валацужніцтва...

### СПАЛОХАНЫЯ

*1.05.2013.* Спалоханыя зайцы... Спалоханыя мышы... Спалоханыя вароны... Спалоханыя пісьменнікі...

### РОВАР

*3.05.2013.* У Лягезах, дзе я гадаваўся ў бабулі, было дзесяць хат, а ровараў у людзей не было. Я ўпершыню пабачыў ровар, калі мне было шэсць гадоў. Мамін ровар быў з кошычкам, у якім яна прывезла пазнаёміць са мной маю малодшую сястру Валю. Потым, калі мяне бацькі забралі дамоў у Пугачы хадзіць у школу, нашым роварам ездзіў толькі я. Ён часта псаваўся, і я днямі корпаўся ў ім. Рамантаваць ніхто мне не дапамагаў, таму бывала некалькі месяцаў роварам нікуды не выязджаў. Адрамантаваўшы, гойсаў вуліцамі, як угарэлы. Скончылася

ўсё тым, што я на хуткасці паваліўся і пагнуў кола, а да ўсяго падраў ланцуг. Пасля гэтага ровар некалькі гадоў іржавеў у паветцы. Калі я паехаў вучыцца ў горад, бацька вынес ровар у лясок і выкінуў...

**ПІЛА**

*3.05.2013.* Піла была старая і ржавая. Бацька, за зіму і вясну навазіўшы ў двор усялякага ламачча і дачакаўшыся маіх школьных вакацыяў, аднойчы ранкам, калі ў мяне былі свае планы, сказаў: «Ну, хлапец, хадзем пілаваць!» І мы цэлае лета амаль штодня, калі бацька вяртаўся з працы, пілавалі дровы на зіму. Напачатку я

*травень*

пілаваў спакойна, а праз некалькі тыдняў пачаў ленавацца і злавацца. Выдумляў, што мне баляць жывот, галава, рукі, ногі. Словам, я выдумляў сабе хваробы, а бацька мяне лекаваў абяцаннем даць магчымасць пакатацца на ровары. Часам я хаваў пілу ад бацькі, але ён заўсёды знаходзіў яе. Бывала, я выкрыўляў у піле зубы, а бацька адразу іх раўняў. І мы зноў пілавалі і пілавалі дровы. Піла была старая і ржавая...

**СЯЧКАРНЯ**

*3.05.2013.* Сячкарня стаіць у пуні. Я доўгі час баяўся яе. Бацька з мамай раз на тыдзень рэзалі сечку, а я, хлапчук, здалёку праз адчыненыя дзверы назіраў і слухаў рытмічнае: «Чах! Чах! Чах! Чах!» Аднойчы мама выйшла з пуні і сказала: «Віця, ідзі дапамажы бацьку!» З таго дня сечку карове рэзаў бацька толькі са мной. Першых хвілін дваццаць было лёгка, а чым далей, тым усё цяжэй было круціць кола сячкарні. Праўда, бацька, пабачыўшы, што я стаміўся, мяняўся са мной, і я клаў канюшыну і салому ў латок, у якім яны з’язджалі да нажоў. Праз некалькі гадоў дзядзька Барыс прывёз з Мінска рухавік да сячкарні, і мы з бацькам за гадзіну нарыхтоўвалі сечкі на цэлы месяц. Сёння ў мяне няма ні мамы, ні бацькі, а сячкарня ўсё стаіць у пуні, і я ўсё бліжэй і гучней чую: «Чах! Чах! Чах! Чах!»

**Х**

*3.05.2013.* Дождж. Змрочна. Сяджу ў кватэры, як у камандзірскай зямлянцы...

## Х

*4.05.2013.* Дождж не перастае. Тэлефанаваў брат Вова. Ён быў у Ракаве на могілках. Падсыпаў бацькоўскія магілы. Ідучы праз лес з лецішча на аўтобус, Вова напалохаў лася і трох чорных дзікоў. А я сяджу дома, корпаюся ў інтэрнэце і чакаю з мора пагоды...

## ВІЛЫ

*4.05.2013.* З бацькам віламі кідалі сена на воз і везлі ў пуню. Віламі кідалі салому на воз і везлі. Віламі выносілі гной з хлява і развозілі па полі, скідаючы з воза ў невялікія купы. Потым віламі растрасалі гной. Потым... І гэта ўсё было яшчэ нядаўна. Цяпер няма ні мамы, ні бацькі. Няма ў пуні ні сена, ні саломы, і ў хляве няма гною. А вілы стаяць каля хлява, чакаючы гаспадара...



## РЫДЛЁЎКА

*4.05.2013.* Некалькі тыдняў таму ездзіў у вёску. У людзей у дварах было суха, а наша хата стаяла сярод вады, як на выспе. Такога не было б, калі б жыў бацька. І я, узяўшы рыдлёўку, накапаў раўчукоў, якімі вада пачала сцякаць з нашага двара. Дзяржанне ў рыдлёўкі было цёплае, нібыта за яго толькі што трымаўся бацька і я, капаючы, увесь час думаў пра бацькоў. Зрабіўшы справу, паставіў рыдлёўку ў сенцы, дзе яна ўжо стаіць без працы амаль два гады...

## ПЛУГ

*4.05.2013.* Калі памёр мой дзед, плуг забраў сабе мой бацька. Калі памёр мой бацька, плуг забралі невядомыя мне людзі...

## СВОЙ ВОЗ

*4.05.2013.* Мужчына працаваў у калгасе, і ў яго была мара — мець свой воз. І толькі стаўшы пенсіянерам, ён здолеў узяцца за ажыццяўленне сваёй мары. Здавалася, што там такога складанага ў тым возе, каб яго зрабіць, але ішлі гады, а стары ўсё ніяк не мог давесці свой воз да ладу. І калі воз быў зроблены, мужчына нечакана памёр.

Труну везлі на могілкі на возе памерлага, у які быў запрэжаны калгасны конь...

Мой бацька гадоў дзесяць да пенсіі майстраваў свой воз. Я часам дапамагаў яму. І калі воз быў зроблены, мы бралі ў калгасе каня і вазілі на ім што было патрэбна. Даўно я не бачыў наш воз. І дзе ён — не ведаю. У бацькі не спытаеш. Бацька памёр, маючы свой воз...

**КОМІН**

*травень*

*5.05.2013.* У дзяцінстве я любіў залезці на хату і сесці на комін. Седзячы на коміне, я разглядаў вёску і слухаў, што ў хаце гавораць бацькі з маімі сястрой і братам. І мне было добра. Я і сёння залез бы на хату і сеў бы на комін, але цяпер няма каму зганяць мяне на зямлю...

**х**

*5.05.2013.* Такога сумнага Вялікадня ў мяне яшчэ не было: у царкву не схадзіў, булкі не атрымаліся, свята сустрэў з дачкой, якая, пасядзеўшы са мной, пайшла ў госці. Люда з Максімам на экскурсіі ў Вільні, а бацькі ў зямлі...

**МЕХ БУЛЬБЫ**

*5.05.2013.* Яны мелі машыну і ў выхадныя ездзілі ў вёску, дзе засталася хата ад бацькоў. Ездзілі не адпачываць, а вырошчваць бульбу. У іх быў малалетні сын, які заўсёды прасіўся, каб бацькі ўзялі яго ў вёску. «Ты тоўсты! Я лепей лішні мех бульбы прывязу!»— казаў бацька і не браў малога з сабой. Так працягвалася яшчэ гадоў дзесяць і, калі бацькі захацелі, каб сын паехаў з імі ў вёску дапамагчы выбіраць бульбу, хлопец адказаў: «Я тоўсты! Вы лепей мех бульбы прывезяце!»

**х**

*5.05.2013.* Вялікдзень. Пчолы з вярбы забралі золата...

**х**

*6.05.2013.* Сяджу ў адпачынку, як схаваўшыся ў бульбе...

**ДЗЯДЗЬКА ВІЦЯ**

*6.05.2013.* Сёння мамінаму брату Віцю, які жыве ў Лягезах, 80 гадоў. Я патэлефанаваў яму і павіншаваў з юбілеем. Дзядзька паскардзіўся, што са здароўем не вельмі добра, але трымаецца. Узгадалася далёкая вясна, калі я жыў у Лягезах у дзядзькі Вані і цёткі Алі. У адзін цудоўны дзень, калі нікога не было дома, я, шасцігадовае хлапчаня, расклаў вогнішча на ганку дзядзькавай хаты. Не ведаю, чым бы скончылася тое маё вогнепаклонніцтва, калі б не дзядзька Віця, які ішоў з працы. Ён накрычаў на мяне і, патушыўшы вогнішча, крыху прайшоўся дзягай па маім мяккім месцы. Гэта было даўно, але гэта было...

*травень*

**КВЯТКОЎСКІ І ЮБІЛЕІ**

*7.05.2013.* З Людмілай быў у галерэі Мінскага абласнога цэнтра народнай творчасці на адкрыцці выставы жывапісу Алеся Квяткоўскага «Песні дрыгвы», якую мастак прысвяціў свайму 35-годдзю творчай і выкладніцкай дзейнасці. На выставе можна паглядзець на мой і Людмілін партрэты. З Валожыншчыны павіншаваць Алеся прыехаў Алесь Лось з дзяўчатамі, якія хораша ігралі і спявалі. Я пачытаў сваё «Балота», а Уладзімір Кожух і Барыс Жанчак сказалі Квяткоўскаму, які ён харошы мастак і выкладнік. Выступаць было перад кім, але тыя, каго Алесь асабліва чакаў — не прыйшлі. Георгій Скрыпнічэнка, які мае лецішча на Валожыншчыне, падараваў мне таўшчэзную кнігу пра сябе і сваю творчасць. З Людмілай, вяртаючыся дамоў, узгадалі юбілей мастака Міколы Цудзіка і яго апошнюю ў жыцці выставу...

**Х**

*8.05.2013.* «Пры Саветах касцёл у Дубровах падпалілі мясцовыя камсамольцы, і ён тры дні гарэў. Побач з развалінамі касцёла знаходзіцца магіла ксяндза Мурончыка, якога ў вайну забілі быццам бандыты за тое, што «пашкадаваў» аддаць хромавыя боты. Я ведаю, што гэта былі за бандыты, але не скажу, бо баюся... — апавядае стары, але, пабачыўшы, што я пачынаю запісваць, кажа: — Ай! Нічога я не памятаю!»

**х**

*9.05.2013.* У скверы каля крамы сядзяць маладыя алкаголікі і віншуюць адзін аднаго са святам, нібыта яны ваявалі…

**ТАДЭВУШ РЭЙТАН І МЫ**

травень

*10.05.2013.* Дзякуючы запрашэнню кіраўніка арт-суполкі імя Тадэвуша Рэйтана Змітру Юркевічу з Людмілай схадзілі ў Музей сучаснага выяўленчага мастацтва на вечарыну «Вяртанне Героя на Бацькаўшчыну», прысвечаную дэпутату ад Наваградскага ваяводства Вялікага Княства Літоўскага на Варшаўскі Экстраардынарны сойм 1773 года Тадэвушу Рэйтану. З выступаў даведаўся, што Рэйтаны паходзяць з прускіх немцаў, як і мой продак Герман Шніп (1760—1830), які ў графа Патоцкага быў аканомам. На вечарыне мне прапанавалі выступіць, і я прачытаў «Баладу Тадэвуша Рэйтана». З Людмілай паглядзелі выставу, якая складаецца з мастацкіх, навуковых і публіцыстычных твораў, што прысвечаны Рэйтанам. Дарэчы, пляменнік Тадэвуша Станіслаў быў даволі цікавай асобай і пісьменнікам. Адзін з яго твораў — «Як было ў нас»— прадстаўлены на выставе. Твор апавядае пра падзеі на Літве (Беларусі), ліцвінах і паляках пачатку і паловы XIX стагоддзя. На выставе шмат фотаздымкаў грушаўскіх краявідаў і той спадчыны, якую пакінулі пасля сябе Рэйтаны (аўтар — мастак-краязнавец Сяргей Чарановіч). На жаль, як і большасць таго, што нам засталося ад нашых продкаў, хоць і мае шыльды «Ахоўваецца дзяржавай», разбураецца часам і людзьмі…

**х**

*11.05.2013.* У бясхмарным небе птушка, як парушынка ў воку…

**х**

*11.05.2013.* Набылі кнігу Зоські Верас «Я помню ўсё», у якой змешчаныя ўспаміны і лісты. Чытаю, нібы жыву побач з Людвікай Антонаўнай і яна мая родная бабуля…

**x**

*11.05.2013.* Цягнік, як тромб...

**x**

*12.05.2013.* Дзень быў доўгім, як дарога праз незнаёмы лес...

**x**

*12.05.2013.* На могілках сярод чорных помнікаў чорныя машыны, як помнікі. Нумары на машынах, як дні жыцця...



**x**

*12.05.2013.* Быў у сябра на лецішчы. Нашыя Людмілы садзілі грады, а мы рабілі цяжэйшую працу...

Жаўрукі высока ў небе, буслы на гнёздах, шпакі ў траве і каля шпакоўняў. Іншых птушак амаль не відаць, нібыта іх няма...

Навокал жоўтыя дзьмухаўцы, як Залатая Арда...

У кустах на беразе возера барадаты рыбак, быццам лесавік...

На старых могілках вёскі Навасёлкі Дзяржынскага раёна помнік Карусю Каганцу, які быў пастаўлены ў 1988 годзе. Магіла паэта дагледжаная, а навокал у траве і ў кустах валяюцца ржавыя крыжы і пабітыя надмагільныя пліты...

Варона на дрэве, як магільны вартаўнік...

У цэнтры Волмы на ўзгорку касцёл Святога Яна Хрысціцеля. І здаецца, што тут найвышэйшае месца ў Беларусі, а не гара Святая, якая ў некалькіх кіламетрах ад мястэчка...

Стары млын на замку і вокны, забітыя дошкамі, нібыта вочы волата-млынара, затуленыя пальцамі...

Мясцовыя дзеці хочуць залезці ў млын, але ў іх гэта не атрымліваецца, і яны хваляцца нам, што знайшлі ў балоце ржавы гаршчок, які тут жа выцягваюць на дарогу: «А можа, ён залаты?»

У Волме сядзіба Ваньковіча XIX стагоддзя. Цяпер тут тэрыторыя інстытута імя Сахарава. На адным з будынкаў, дзе, магчыма, раней быў герб роду Ваньковічаў, вялікая савецкая зорка...

Падышоў вартаўнік і загаварыў па-беларуску: «Вы тут доўга не будзьце! Калі начальства пабачыць вас, дык мяне з працы могуць выгнаць!»

Дарогаю да капліцы Ваньковічаў праз рэчку невялікі мост. Дзеці пад ім рукамі ловяць рыбу. Рыба дробная, як леташняе пасівелае лісце з вербалозаў, што растуць на беразе...

Красуе чаромха. Пчол не відаць і не чуваць. Камары радуюцца нашаму прыходу...

Ад капліцы Ваньковічаў засталася адна цагляная сцяна. Чырвоная, як кроў, якая запяклася пад сонцам...

*травень*

## ХАТА АНЯМЕЛАЯ...

*14.05.2013.* Я з Людай і сястра Валя з мужам і дачкой Надзяй ездзілі ў Пугачы. Нашая хата без бацькоў за зіму пастарэла. Люда ўзгадала мой даўні верш:

*Хата анямелая, сівая,*
*З шэраю буслянкай, як вянком,*
*Вокнамі задумна пазірае,*
*Склаўшы рукі на дзвярах замком...*

У двары буяе трава. Асабліва дзьмухаўцы і лопух. Падумалася: «Як у чарнобыльскай зоне...»

У хаце ні павукоў, ні мух...

Дзядзька Толя прывёў каня, каб пасадзіць бульбу і зрабіць грады. Зямля пасля начнога дажджу вільготная. Раней па раллі, збіраючы чарвякоў, хадзілі куры з пеўнем, а цяпер адзінокі шэры верабей скакаў...

У абед з пашы ў вёску вярнуліся каровы. Нашая не прыйшла і не прыйдзе...

Абкасіў траву каля хаты, і хата павышэла...

На яблыні шпакоўня, а шпакі ў ёй не жывуць...

У паштовай скрынцы павуцінне, як расколінкі на маім вясковым жыцці...

Ад'язджаючы да бацькоў на Ракаўскія могілкі, нарэзалі цюльпанаў, якія садзіла мама...

## ВЯЛІКІ КАМУНІСТ І КАПЛІЦА

*15.05.2013.* Па справах да мяне на працу заходзіў Вячаслаў Рагойша. Размаўлялі пра Радаўніцу і Ракаўскія могілкі. Ад Вячаслава Пятровіча даведаўся, што на месцы

цяперашняй капліцы, што непадалёк ад могілак, раней была іншая капліца, да якой прыходзілі людзі па святую ваду. За Саветамі мясцовы начальнік, які быў вялікім камуністам, уздумаў разбурыць капліцу. На ягоны загад прыгналі трактар, але трактарыст адмовіўся тросам зрываць купал. Начальнік сам не мог сесці ў трактар, бо быў аднаногі, і тады ён сказаў свайму сыну-школьніку сесці за стырно. Хлопец сеў і зрабіў усё, што хацеў бацька. Разбурыўшы капліцу, вялікі камуніст надумаў заараць крыніцу. Доўга не мог знайсці трактарыстаў, якія б згадзіліся на такую справу, але ўсё-ткі знайшоў двух тутэйшых мужыкоў. Пасля гэтага вялікі камуніст некуды паехаў машынаю і знік. Доўга шукалі. Знайшлі яго выпадкова школьнікі з піянерскага лагера разам з машынай у рэчцы каля Новага Поля. Праз год сканаў адзін трактарыст, які заараў крыніцу са святой вадой, а яшчэ праз год і другі памёр...

*травень*

**х**

*16.05.2013.* Раніцай сцюдзёна. Кветкі на каштанах, як марозіва...

**х**

*17.05.2013.* Тэлефанавала жонка Хведара Жычкі. Ёй 82 гады. Скардзілася: «Майго Хведара ніхто не ўспамінае, нібыта яго на свеце і не было. Мінула шэсць гадоў, як ён памёр, а я ўсё ніяк не магу помнік паставіць...»

## ШНІП-РАМАНЧЫКІ

*17.05.2013.* На Радаўніцу, ходзячы па Ракаўскіх могілках, з сястрой Валяй знайшлі магілу роднай сястры нашага дзеда Юзі Раманчык Зінаіды Іванаўны (1915 — 7.08.1985). Памятаю, як яна з сынамі прыязджала да нас у Пугачы. Звалі яе не Зінай, а Зенькай. Жанчынай Зенька была ёмкай. Магла выпіць добрую чарку, а потым добра пагаварыць і паспяваць. Памерла нечакана — скасіў інфаркт.

Побач з Зенькай пахаваны яе сын (нашага бацькі стрыечны брат) — Раманчык Анастасій Мікалаевіч (6.01.1934—13.06.1991). Дзядзьку звалі Стасем. Быў ён высокі і прыгожы. Побач з бабуляй Зенькай пахаваная

нашая траюрадная сястра Раманчык Наталля Анастасьеўна (4.07.1967—1.07.1980). Недзе на Ракаўскіх могілках пахаваны яшчэ адзін сын Зенькі. На жаль, магілу мы з Валяй не знайшлі. Наш бацька апошнія гады і дні свайго жыцця нярэдка ўспамінаў сваю родную цётку Зеньку і ейных сыноў і ўнукаў...

**СВЯТЛО Ў ВАКНЕ...**

*18.05.2013.* З Людай хадзілі ў Музей Якуба Коласа, дзе ўдзельнічалі ў музейнай ночы «Святло ў вакне», прысвечанай стагоддзю з дня вяселля Якуба Коласа і

*травень*

Марыі Каменскай. Дзякуючы таму, што ўжо 25 гадоў жывём сям'ёй, мы з Людай разам з супрацоўнікамі і гасцямі музея яшчэ раз адзначылі срэбнае вяселле і атрымалі пасведчанне пра наш юбілей. Апрача нас яшчэ былі чатыры сям'і, якія адважыліся на паўтор свайго вясельнага свята. Сярод іх быў мастак Анатоль Гармаза з жонкай і малой дачкой. Яны разам жывуць пяць гадоў. Пасля музейнага свята Анатоль запрасіў да сябе на працу ў офіс, дзе мы, юбіляры, хараша пасядзелі, радуючыся жыццю і добрай задуме дырэктаркі музея Зінаіды Камароўскай нас сабраць...

**Х**

*20.05.2013.* Тэлефанаваў мастак Андрэй Смаляк. Запрасіў на пятніцу на праспект Незалежнасці на адкрыццё выставы «Ажылыя карціны». Прадстаўляе 110 рэпрадукцый, якія будуць вісець на агароджы парку Чалюскінцаў да першых маразоў або да таго часу, пакуль іх не папсуюць неабыякавыя гледачы...

**Х**

*20.05.2013.* Мастак Алесь Марачкін выдаў кнігу вершаў і паэм «Калодзеж у жыце». Чамусьці адразу ўзгадалася кніжка вершаў Міколы Мятліцкага «Абеліск у жыце», якая выйшла ў 1980 годзе...

**Х**

*20.05.2013.* З Міхасём Казлоўскім нясём з Вішнева ад Канстанцыі Буйло і Пятра Бітэля дзве цяжкія торбы з рукапісамі новых твораў. Стаміліся. Тут раптам з кустоў выходзіць стары ў міліцэйскай форме і кажа: «Кіньце гэтыя рукапісы! Іх ніхто не надрукуе!» Мы не слухаем старога і цягнемся далей са сваёй ношай. На зжатым полі сярод купаў саломы знаходзім машыну. Я саджуся за стырно, і мы едзем у Валожын, куды нядаўна перабраліся ўсе выдавецтвы. Праз нейкую хвіліну Міхась кажа: «Як ты едзеш? Ты ж на кіроўцу не вучыўся!» — і тут жа машына развальваецца, а мы, упаўшы на зямлю, бачым, як торбы з рукапісамі нашых землякоў Канстанцыі Буйло і Пятра Бітэля ператвараюцца ў авечак і ўцякаюць ад нас...



**ЦЭГЛА І ХАВЕР**

*21.05.2013.* У сакавіку ў доме, які будуецца насупраць выдавецтва, пад час цыклона Хавер, калі ўсё было замеценае, нібыта перад канцом свету, з трыццатага паверха выпаў добры кавалак сцяны. Нядаўна дзірку заклалі цэглай...

**Х**

*21.05.2013.* Прыходзіла старая з пафарбаванымі ў ружовы колер валасамі. Піша вершы. Гледзячы на жанчыну і чытаючы яе творы з чужымі праўкамі, узгадаў нядаўна пачуты ў КВЗ жарт пра тое, што на пошце старых, якія атрымалі пенсію, пазначаюць ружовай фарбай, каб яны другі раз не станавіліся ў чаргу...

**ВЕЧАРЫНЫ**

*23.05.2013.* Сёння дзень быў багаты на вечарыны, куды я меў запросіны. Першая была а 17 гадзіне ў Музеі Янкі Купалы, дзе прэзентавалі альбомы Міколы Купавы, прысвечаныя Янку Купалу і Якубу Коласу. Другая пачалася а 18 гадзіне ў Музеі кіно, дзе была вечарына кінарэжысёра Уладзіміра Арлова. На 19 гадзіну ў кнігарню «Ў» на прэзентацыю кнігі за тры гадзіны да пачатку мяне запрасіў Юрась Пацюпа. Я пайшоў да Арлова, дзе ў невялікай зале сабралася шмат вядомых рэжысёраў тэатра і кіно, артыстаў

і прыхільнікаў іх творчасці. Уладзімір Аляксандравіч доўга і цікава пераказваў змест прэзентуемых кніг, паказаў два невялікія фільмы пра кінастужкі «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» і «Уся каралеўская раць», у здымках якіх ён браў удзел. Дамоў вяртаўся, думаючы пра вечарыны Міколы Купавы і Юрася Пацюпы...

**НА РОДНАЙ ЗЯМЛІ...**

*22.05.2013.* Ездзіў у Івянец на сустрэчу са школьнікамі...

*травень*

Па мяне да Каменнай горкі прыехалі машынаю настаўнікі: Людміла Уладзіміраўна і Валянціна Васільеўна. Усю дарогу гаварылі, нібыта сто гадоў знаёмыя...

У Івянцы жыве каля пяці тысяч чалавек. Вучняў у школе 730. Вучацца ў дзве змены. Паслухаць мяне ў актавую залу прыйшло больш за трыста дзяцей...

Вучні чыталі мае вершы і спявалі песні. Я адказваў на пытанні, жартаваў, раздаваў аўтографы. Сядзеў на сцэне, як на Парнасе...

Пасля імпрэзы папрасіў Людмілу Уладзіміраўну паказаць касцёл, які быў збудаваны ў 1705 годзе. Чыста ў двары. Усё па-беларуску. Пахадзілі касцёльнымі сутарэннямі, нібы па мінулых стагоддзях...

Пры касцёле жывуць манашкі. З іх дзве нядаўнія выпускніцы Івянецкай школы. Прыгожыя, як Мадонны Рафаэля...

Увесь час хмурэлася, але я не адмовіўся ад жадання паехаць у родныя Пугачы. Ехалі з Валянцінай Васільеўнай праз Яршэвічы. Навокал усё зялёнае, прыгожае і роднае да слёз...

Пайшоў дождж, як пачатак патопу...

Прыехаў дамоў. Хата самотная. Парасчыняў дзверы, каб праветрыць пакоі. Накруціў насценны гадзіннік, які ўжо гады два маўчаў, і ён затукаў, нібыта сэрца...

У хату заляцела муха. Палётаўшы і нічога сабе не знайшоўшы, вылецела на вуліцу...

У двары зноў трава вырасла. Дзьмухаўцы адкрасавалі і цяпер стаяць белыя, як створаныя з дыму майго мінулага...

У хаце раптам захацелася паклікаць маму і бацьку. Паклікаў. Ніхто не адгукнуўся і ніколі ўжо не адгукнецца...

На куце каля абраза заўважыў засохлыя вербныя галінкі. Відаць, іх там яшчэ мама прымацавала…

Грады абышлі. Травы няма, нібыта мама іх прапалола перад маім прыездам…

Прыціх дождж, і я выйшаў на вуліцу. Побач пустыя хаты. У адной яшчэ нядаўна жыў Дзяўго. На двары, як і ў нас, поўна травы. Куст бэзу каля ганку, як велізарны букет…

Насупраць нас жыў Сашка Балотнік. Вось ужо 7 гадоў, як мой аднакласнік на Дуброўскіх могілках. Хату купілі нейкія людзі, і цяпер у двары Сашкі іншыя парадкі. Трава скошаная, ламачча і смецце прыбраныя. Хата падрамантаваная. Гляджу ў двор і бачу школьнікаў — Сашку і сябе, якія сядзяць на ганку і гуляюць у карты…

*травень*

Далей жылі Геня і Манька Балотнікі. Памерлі… Далей… Памерлі… Памерлі… Памерлі…

Асфальтаваная вуліца паміж пустымі дамамі, як плаха…

У агародзе пабачыў цётку Валянціну Іосіфаўну. 85 гадоў. Жыве адна. Дзеці прыязджаюць на пару гадзін і з’язджаюць у горад. «У іх сваіх клопатаў хапае…»— уздыхае Валянціна Іосіфаўна, і мне хочацца падысці да яе і абняць. Плот перашкаджае…

Самая старая пугачоўская хата (150 гадоў), дзе раней жылі Вярбіцкія, развальваецца. На страсе сям-там трава, як зялёны агонь…

На беразе сажалкі, у якой гадоў дзесяць таму я з Барысам Пятровічам і Андрэем Федарэнкам лавілі рыбу, сядзяць хлопцы з вудамі. А можа, гэта і цяпер мы там сядзім?

Каля плота, за якім была школа, дзе я вучыўся, вялікая лужына. А ў лужыне дзіцячыя сляды, як Млечны Шлях у небе…

Іду вуліцаю, і раз-пораз паўз мяне праязджаюць машыны і трактары. З некаторых кіроўцы, вітаючыся са мной, махаюць рукой, а гэта значыць, што ў Пугачах не ўсе мае знаёмыя вымерлі. Няхай жывуць як даўжэй!

На аўтобусным прыпынку толькі я…

Сеў у аўтобус. Еду. Мая душа дагнала мяне пад самым Мінскам…

х

*24.05.2013.* Вайна скончылася амаль 70 гадоў таму, а летась у Валожынскім раёне (мне апавялі знаёмыя) унукі расстралянай сямейнай пары, даведаўшыся, хто яе расстраляў, і знайшоўшы былога паліцая, прыйшлі ўначы і пакаралі смерцю забойцу сваіх дзядулі і бабулі...

х

*24.05.2013.* Быў Юрась Пацюпа, а цяпер Юр Пацюпа. Так назваўся Юрась, выдаўшы мовазнаўчую кнігу. Адразу ж узгадаўся твор Анатоля Казлова «Юргон»...

*травень*

х

*24.05.2013.* Я не магу выпіць ні грама віна з закаркаванай пляшкі, але я магу яе цалкам разбіць...

х

*25.05.2013.* Апошнім часам адчуваю, што я пачаў пакрыху вызваляцца ад трывогі за старых бацькоў, якія памерлі летась. Мне гэтае вызваленне ўяўляецца так — пеўню на калодцы адсеклі галаву, а ён бегае па родным двары...

х

*29.05.2013.* Каля Храма лётае тапалёвы пух, нібыта грэшныя душы мітусяцца...

х

*29.05.2013.* Яны хацелі яго забіць. Ён жа ўначы падкапаў лаз пад сцяной і ўцёк з хлеўчука. Каляды святкаваліся без свежаніны...

**ЗЕМЛЯКІ**

*30.05.2013.* Учора ў Валожыне і ў мястэчку Вішнева, дзе нарадзіўся (2 жніўня 1923 года) будучы прэзідэнт Ізраіля Шымон Перэс, прайшлі імпрэзы, прысвечаныя яго 90-годдзю. Дачка Перэса Цвія Вальдэн і пасол Ізраіля Іосіф Шагал адкрылі выставу «Шымон Перэс: шлях ад Віленскай вуліцы ў Вішневе да Прэзідэнцкай вуліцы ў Ерусаліме». На месцы, дзе стаяў дом сям’і Перскіх і дзе

нарадзіўся хлопчык Шымон, быў усталяваны помны знак. Шымон Перэс жыў у Вішневе да 11 гадоў, у 1934 годзе разам з сям'ёю эміграваў у Палесціну. Усе ягоныя сваякі, якія засталіся ў Вішневе, загінулі пад час Другой сусветнай вайны. Ад сядзібы Перскіх у Вішневе захаваўся калодзеж. На пачатку 1990-х гадоў Перэс, будучы міністрам замежных спраў Ізраіля, наведаў роднае мястэчка. Мастак Алесь Квяткоўскі, які нарадзіўся ў Валожыне, думаючы, што на сваё 90-годдзе Шымон Перэс прыедзе ў Вішнева, напісаў партрэт нашага славутага земляка, каб яму падараваць. Аднак, відаць, Шымон Перэс больш не прыедзе ў Вішнева. Шкада, але, думаю, ягоны партрэт, напісаны Алесем Квяткоўскім, не прападзе…

*травень*

**У «КНІЖНЫМ САЛОНЕ»…**

*30.05.2013.* У «Кніжным салоне» прэзентавалася кніга Людмілы Рублеўскай «Рифма ценою в жизнь», у якой змешчаныя эсэ, што ў свой час друкавалі ў газеце «СБ. Беларусь сегодня». За вокнамі падаў дождж, шумеў вецер, машыны ездзілі сюды-туды, разбіваючы калюгі на брудныя пырскі, а ў кнігарні было светла і ўтульна. Прысутныя апавядалі пра беларускую гісторыю і людзей, якія ішлі праз вязніцы да Беларусі. Ішлі і гінулі за Беларусь. Адам Мальдзіс, кажучы пра кнігу Людмілы Рублеўскай, сказаў: «Мы прызвычаіліся меркаваць, што Людміла працягвае Уладзіміра Караткевіча. Не! Яна яго не працягвае, як гэта робіць Вітаўт Чаропка і некаторыя іншыя. Рублеўская ў сваіх гістарычных творах даўно самастойная і ў яе свае адметныя літаратурныя набыткі. Яна проста наша Людміла Рублеўская!» Пасля прэзентацыі, калі ўсе пілі гарбату, Адам Іосіфавіч, працягваючы размову пра новую кнігу Рублеўскай, апавёў, што шэсць гадоў таму напісаў п'есу памерам амаль 50 старонак пра каханне Адама Гурыновіча і аддаў у часопіс «Маладосць» Раісе Баравіковай. П'есу Мальдзіса не сталі друкаваць, але і не аддалі аўтару. Потым і наагул згубіўся рукапіс. Другога асобніка п'есы няма, бо, калі пісаўся твор, у Мальдзіса яшчэ не было камп'ютара…

**Х**

*30.05.2013.* Прайшла навальніца, як цягнік па затопленым небе…

## ЧЭРВЕНЬ

**х**

*1.06.2013.* З Людай аўтобусам ездзілі ў Пугачы. Нейкіх 54 кіламетры, а ехаць трэба дзве гадзіны. Было паўнютка народу. З вёдрамі, з торбамі, з катамі, з сабакамі. У Пугачы прыехалі два чалавекі — Люда і я...

Завіталі ў краму. Тут працуе мая траюрадная сястра Люда — унучка Уладзіміра Бародзіча, які ў свой час у Радашковічах вучыўся з Максімам Танкам. З Мінска можна нічога не везці. Асартымент, як у горадзе, і аніякай чаргі...

*чэрвень* Хата нас чакала. Зайшоўшы, адразу парасчынялі дзверы і вокны, каб праветрывалася. За пару хвілін у пакоі наляцела мух. Мінулы раз, калі мы прыязджалі, толькі адна муха, як выведніца, заляцела і адразу вылецела...

Два тыдні таму накручаны насценны гадзіннік, якому гадоў пяцьдзясят, не спыніўся. Я зноў падкруціў спружыну, думаючы пра тое, каб заводу хапіла да наступнага нашага прыезду...

Люда палола грады, а я граблямі бульбу баранаваў. Падышоў сусед Анатоль. Паразмаўлялі пра вясковае жыццё-быццё. Суседу неўзабаве 60 гадоў. Нядаўна выпісаўся з бальніцы, куды трапіў з інсультам. Яшчэ рука і нага слаба слухаюцца, але сусед ужо касіў: «Няма на каго спадзявацца!»

На яблыні ў шпакоўні вывеліся шпачкі. Прыгожыя і крыклівыя...

У двары зноў трава па калена. Я крыху пакасіў, Люда пакасіла і мяне пакрытыкавала, кажучы, што яна з касой дае рады лепей за мяне. А я і не стаў пярэчыць. Няхай косіць!

За працай праляцеў дзень. У горад вярталіся стомленыя і задаволеныя, што добра папрацавалі і пасаджанае ў агародзе паціху расце...

**х**

*2.06.2013.* З Максімам у Дубровы выехалі электрычкай. Праз прыпынак да нас далучыўся Анатоль Блашчыцын — наш сваяк. Народу быў паўнюткі вагон. Паблізу ўсю дарогу вясёлы стары гучна гаварыў пра

Амерыку, пра Расію, пра геяў і лесбіянак, і пра каларадскіх жукоў, за якіх за Савецкім Саюзам плацілі па 50 капеек за штуку і пра гэта было напісана на кожным школьным сшытку...

У Дубровах на станцыі нас сустрэў сваяк Леанід Жыткевіч. Машынаю паехалі да могілак. Я больш за дзве гадзіны хадзіў сярод помнікаў, нібы на полі бою, шукаючы яшчэ жывых...

## МЫ З РОДУ ФЕДАРОВІЧАЎ

*2.06.3013.* Маю просьбу напісаць успаміны пра нашых прадзедаў, якія паходзяць са шляхецкага роду Федаровічаў, Леанід Станіслававіч Жыткевіч (нарадзіўся 13 верасня 1946 года) выканаў. І я з прыемнасцю ягоны запіс набраў на камп'ютары: *чэрвень*

«Мой дзед Федаровіч Іосіф Андрэевіч (бацька маёй маці) нарадзіўся ў 1882 годзе і большую палову свайго жыцця пражыў у вёсцы Пугачы, дзе ажаніўся з Лукомскай Анастасіяй Андрэеўнай (1892—1978), жыхаркай вёскі Віндзелева, якая нарадзіла яму дзвюх дачок і трох сыноў. Недзе ў канцы 1920-х гадоў сям'я перасялілася на хутар побач з чыгункай паміж вёскамі Аляхновічы і Пазнякі. Дом і зямлю ён арэндаваў у літоўца Міклюкшыса. Было шмат зямлі і скаціны, але з прыходам савецкай улады ў 1939 годзе сям'ю дзеда разам з гаспадаром сядзібы Мілюкшысам спрабавалі зрабіць кулакамі, а пасля выслаць у Сібір, але дапамагло заступніцтва дзедавага брата Рыгора, які працаваў «вялікім» начальнікам на чыгунцы. На жаль, жыццё дзеда скончылася трагічна. Улетку 1951 года каля капы калгаснага сена, якое дзед Юзя вартаваў, яго забіў са стрэльбы жыхар вёскі Пазнякі. Дарэчы, следства нічога не дало, мабыць, забойцу шукаць не стараліся і такім чынам забойца нават у турме не пабываў. І ўсё-ткі Боская кара не дала яму памерці сваёй смерцю,— аднойчы ён зваліўся з драбінаў і ад цяжкіх пашкоджанняў памёр.

Брат дзеда Рыгор Федаровіч у 1950-я гады разам з сям'ёю перабраўся ў Варонеж. Некалькі разоў адтуль ён прыязджаў на радзіму, гасцяваў у сваіх бацькоў. Аднак у 1970-я гады сувязь з Рыгорам абарвалася і звестак пра яго сям'ю няма.

Апрача Рыгора ў майго дзеда былі яшчэ два браты і сястра. Сястра Крыстына Федаровіч (у замужжы Шніп,

мая прабабуля.— *В. Ш.*) мела дзяцей — Іосіф (Юзя — мой дзед.— *В. Ш.),* Іван (Янка) і Зенька, якая напачатку жыла ў вёсцы Стары Ракаў, а пасля ў Ракаве.

Брат дзеда Андрэй Федаровіч у польскія часы паехаў на заробкі ў Амерыку (тады было магчыма), пакінуўшы жонку з дачкой. Дасылаў паштоўкі і пасылкі, але праз некалькі гадоў памёр. Дачка да 1990-х гадоў жыла ў вёсцы Зарэчча Валожынскага раёна, у 12 кіламетрах ад Пугачоў (Дорскі сельсавет). Засталіся дачка і сын. Сына завуць Дзянісік Яўген Паўлавіч. Жыў у вёсцы Новае Поле бліз Ракава, працаваў дырэктарам Навапольскага сельгастэхнікума. Аднак ужо гадоў 20 звестак пра яго ў мяне няма.

*чэрвень*

Другі дзедаў брат Адам Федаровіч таксама вырашыў шукаць шчасця за мяжой, толькі ў процілеглым кірунку — у Савецкім Саюзе. У польскія часы многія юнакі, начытаўшыся падпольных камуністычных агітак, марылі ўцячы за кардон, і многім удавалася.

Першая спроба перайсці мяжу, якая праходзіла паміж вёскамі Туркаўшчына і Віндзелева, была няўдалай. Адам і некалькі хлопцаў з песнямі пад гармонік рушылі да мяжы. Аднак польскія жаўнеры і ваенныя, якія знаходзіліся ў Дуброўскіх кашарах, разагналі шэсце, і юнакі вярнуліся дамоў. Другі раз яны ўжо да мяжы ішлі крадучыся, і задума ўдалася. Па нейкім часе ад Адама да бацькоў прыйшоў ліст, у якім ён паведаміў, што жыве на Урале, уладкаваўся на працу. Пасля даслаў яшчэ некалькі паштовак. У апошняй ён паведаміў, што ажаніўся і ў наступным лісце дашле вясельны фотаздымак.

Аднак гэта была апошняя вестка, пасля чаго ад Адама перасталі прыходзіць лісты, што дае падставу разважаць, што яго адправілі ў ГУЛАГ, а можа, нават адразу знішчылі паводле надуманага абвінавачання.

Маці мая — Жыткевіч Ганна Іосіфаўна (1.07.1918—16.08.2008) — апавядала, што ў вёсцы Віндзелева (цяпер Мінскі раён) жылі яе дзядзька і дзве цёткі. І вось наведваючы сваіх сваякоў у вёсцы Туркаўшчына, ёй даводзілася быць недалёка ад мяжы і бачыць працуючых на тым баку на полі цётак і іх дачок. Яе здзіўляла тое, што на гучныя воклічы сваячкі не толькі нічога не адказвалі, а нават адварочваліся, удаючы, што яны не чуюць. І толькі пасля 1939 года сваякі ўжо маглі, не баючыся, бачыцца і гасцяваць

адзін у аднаго. Тады цёткі і прызналіся, што баяліся адказваць на воклічы, бо за гэта маглі да іх прычапіцца ўлады.

Што тычыцца нашчадкаў маіх дзеда Іосіфа і бабулі Анастасіі, то ў іх апрача маёй маці было яшчэ чацвёра дзяцей.

Дачка Ніна жыла ў вёсцы Татарскія з мужам і чатырма дзецьмі. Адна дачка памерла ў 2011 годзе. Дзве дачкі на пенсіі, а сын працуе і жыве ў Мінску.

Сын майго дзеда Валодзя (мой дзядзька) уладкаваўся ў горадзе, дзе ўсё жыццё да пенсіі працаваў на Мінскім аўтазаводзе ліцейшчыкам. У пасёлку Чыжоўка пабудаваў свой дом. Яго сын Чэслаў да выхаду на пенсію працаваў намеснікам дырэктара Мінскага трактарнага завода, а пасля намеснікам старшыні Мінскай абласной федэрацыі прафсаюзаў. *чэрвень*

Двое іншых сыноў майго дзеда Янак і Віця жылі з сем'ямі ў вёсках Уша-2 і Раманы. Па маці ёсць таксама шляхецкія карані і фамільны герб. На жаль, звестак пра прадзедаў і прабабак няма. Ведаю толькі, што мой дзед Іван быў надта набожным і пэўны час працаваў у царкоўнапрыходскай школе настаўнікам. Ну а мой бацька Станіслаў Іванавіч Жыткевіч (23.02.1912—27.08.1980) быў не надта адукаваным, недзе два класы пачатковай польскай школы скончыў. Затое быў добрым сталяромчырванадрэўшчыкам і цесляром. Увесь час майстраваў калёсы, сані, вокны, дзверы, гнуў дугі, да пенсіі працаваў на дуброўскім бровары сталяром. Захапляўся пчалаводствам. Пра сваё мінулае ён рэдка ўспамінаў. Ды я надта і не распытваўся (на жаль). Неяк бацька прызнаўся, што за ўсё жыццё ён толькі адзін раз пабываў у рэстарацыі. Гэта было ў Варшаве пад час службы капралам у Войску Польскім...

## ВАЙНА І ЖЫЦЦЁ Ў АКУПАЦЫІ

Маці апавядала, што як толькі пачалася вайна з немцамі, то бацьку, як і многіх іншых сялян, прызвалі ў войска. Аднак практычна ўсе яны разам з адступаючымі вайскоўцамі трапілі ў акружэнне, а потым і ў нямецкі палон. І вось мая маці са сваёй маці (маёй бабуляй) пайшлі ў горад з торбамі, набітымі харчам, шукаць бацьку. Маміна суседка і мая цётка з Пазнякоў папрасілі пашукаць і іхніх мужыкоў. Ідучы ўзбочынаю шашы ў кірунку Мінска, яны здзіўляліся таму, колькі немцаў на танках і на іншай

тэхніцы рухаліся ў бок горада, не звяртаючы на жанчын ніякай увагі.

Абышлі яны два ці тры лагеры для ваеннапалонных каля горада, аднак бацьку не знайшлі. Затое нагледзеліся жахаў. За калючым дротам тоўпіліся палонныя вайскоўцы: хто стаяў, хто сядзеў, а хто ляжаў. Некаторыя былі ўжо ў непрытомнасці, як маці казала: «Толькі зяхае». Бацьку не знайшлі, затое знайшлі суседа Мяльгуя Фадзея і мужыка маёй цёткі Лобача Юзю, якім аддалі амаль усе прадукты. Потым ім немцы дазволілі вярнуцца дадому.

Бацьку майму немцы таксама далі дазвол на вяртанне дадому з нейкага лагера. Паблізу вёскі Ратамка бацьку нечакана абстраляў нямецкі патруль, прабіўшы яму разрыўной куляй руку. Некалькі кавалачкаў гэтай кулі доктар-хірург ужо на пачатку 1970-х гадоў дастаў з рукі. Непадалёк ад сваёй хаты яго ізноў захапілі акупанты. Паколькі ён быў нагола падстрыжаны, хоць і пераапрануты ў цывільную вопратку, то яны далдонілі: «Рус! Рус!» Адчапіліся яны ад майго бацькі толькі тады, калі маці (мая бабуля) змагла немцам патлумачыць, што гэта яе сын.

*чэрвень*

Увесь перыяд акупацыі бацька з сям'ёй пражыў на хутары каля вёскі Татарскія. Некалькі разоў даводзілася хаваць ад немцаў дзяцей у выкапанай у лесе зямлянцы.

У нашых мясцінах пад час акупацыі таксама былі партызаны, прытулкам якіх быў і лес, і сялянскія хутары. Фашысты ў нашых вёсках не лютавалі.

Маці апавядала пра такі выпадак. Аднойчы раніцай прыйшлі да іх на хутар некалькі партызан. Адзін з іх даў бацьку стрэльбу і запатрабаваў пільнаваць, пакуль яны будуць адпачываць у гумне, якое ад хаты было ў пяцідзесяці метрах. І вось па нейкім часе наш сабака пачаў брахаць з такім выглядам, як ён звычайна брэша на ўзброеных людзей (натапырыўшы спіну). Калі маці вызірнула з хаты, то пабачыла, што сцежкаю да іх ідуць двое немцаў з аўтаматамі і торбай. Падышоўшы, адзін з іх мовіў: «Матка, яйка, яйка». Атрымаўшы яек, немцы павольна пайшлі да другога хутара. Бацька ў гэты час назіраў за імі з пралеску. Партызаны нічога не чулі і пра гэта не дазналіся. А каб была якая сутычка, то вынікі яе для нашай сям'і былі б трагічнымі.

Заканчэнне вайны хутаранцам запомнілася паветраным боем непадалёк ад Дзявочай гары. Маці апавядала, што надта жахліва было назіраць, як некалькі самалётаў насіліся ў небе і стралялі адзін у аднаго.

Праз нашыя мясціны ўцякалі адзінкавыя нямецкія ваякі, якіх нашыя наганялі і забівалі. Чацвёра немцаў засталіся ляжаць ва ўрочышчы Малышоўка непадалёк ад дарогі Дуброва-Татарскія, а адзін, здаравенны, у лесе на адлегласці метраў чатырыста ад нашага хутара. Потым савецкія ўлады загадалі сялянам іх закапаць. Цяпер ужо ніхто не ведае, дзе яны пахаваныя.

Бацьку майго ў 1944 годзе ў войска не ўзялі. Ён быў добрым сталяром, і яго накіравалі ў майстэрню Маладзечанскага паравознага дэпо. У тыя часы чыгунка была на ваенным становішчы. І бацька быў вымушаны калі-нікалі дабірацца дадому таварным цягнікам (пасажырскія цягнікі тады не хадзілі), саскокваючы з вагона на хаду на павароце каля Раман... *чэрвень*

## ПАВАЕННЫЯ ГАДЫ. ЧАКАННЕ СПАКОЮ І НАДЗЕІ НА ЛЕПШАЕ

З заканчэннем вайны навакольныя лясы не апусцелі. Зноў з'явіліся «партызаны». Сярод гэтых «лясных братоў» былі і мясцовыя жыхары. Жытла ў іх не было, таму ўзімку яны адаграваліся не ў зямлянках ці якіх-небудзь часовых буданах, а на хутарах сваіх сваякоў. Іншым хутаранцам таксама спакою не было, бо «лясныя браты» маглі сярод ночы загрукаць у дзверы ці вокны і запатрабаваць гарэлку і ежу. Аднойчы ўночы пастукалі да маіх бацькоў і запатрабавалі мёду (мой бацька, як і некалі дзед, былі пчалярамі), кажучы, што ў адной жанчыны (нашай суседкі) захварэла дзіця.

Колькі часу гэтыя «партызаны» гаспадарылі на Навасёлкаўскіх і Татарскіх хутарах і ў навакольных лясах, я не ведаю. Улады і падкантрольныя ім службы НКУС і міліцыі таксама ў шапку не спалі. Зімою нейкага сорак... года непадалёк ад аднаго хутара на Доўгай гары каля Глыбокага Логу «лясныя браты» былі аточаныя вайскоўцамі НКУС і знішчаныя. Потым некалькі акачанелых мерцвякоў паставілі каля будынка Дуброўскага сельсавета для апазнання. І дзецям, і дарослым назіраць гэта відовішча было жахліва.

Пасля быў суд. Некаторых аднавяскоўцаў, якія былі звязаныя з «ляснымі братамі», адправілі на некалькі гадоў у месцыны зняволення, у тым ліку і гаспадыню хутара, дзе яны адпачывалі...

## ДЗІЦЯЧЫЯ ЎРАЖАННІ

Што тычыцца паваенных 1950-х гадоў, то для мяне яны (а я нарадзіўся ў 1946 годзе) былі досыць шчаслівымі. Жывучы сярод лясоў і палёў на хутары, як бы ў вёсцы, раскіданай на лясных узгорках паабапал раўка з сенажаццю пад назвай Малышоўка,— цяпер гэта месца больш называюць Каліткамі, я прасякнуўся любоўю да ўсяго жывога, палюбіў прыроду. І да сённяшняга дня выкарыстоўваю любую магчымасць пабываць на месцы, дзе стаяла некалі родная хата.

Трэба дадаць, што я, як мабыць і іншыя мае аднагодкі, не галадаў, хоць і не заўсёды выпадала есці смачна. *чэрвень* Напрыклад, я не надта паважаў панцак. Нярэдка маці частавала цукеркамі і іншымі прысмакамі, купленымі ў горадзе ці ў мясцовай краме. Помніцца, у нас расло шмат трускалак, якія маці разам з назбіранымі ў лесе чарніцамі вазіла прадаваць кошыкамі на сталічныя рынкі. Мне было вялікім шчасцем, калі маці ў горад брала і мяне. Я і аднагодкі любілі гуляць у лапту, кілу, чыжыка, пікара.

У тыя часы ў навакольных лясах было шмат грыбоў і ягад. Амаль кожнае лета я з дзецьмі рабіў грыбныя вылазкі ажно пад Пугачы ў лес пад назвай Галубоўшчына, дзе падасінавікаў было хоць касой касі.

Прыгадваецца выпадак. Я, яшчэ малы, узімку сяджу на печы, а бацька гоніць самагонку. А ўжо быў доўгі зімовы вечар. І вось адчыняюцца дзверы і ў хату ўвальваюцца чалавек 7-8 міліцыянераў. Разгубленасць маіх бацькоў хутка прайшла, і вось ужо маці рупліва стала накрываць стол рознымі стравамі з гарэлкай, і ўсе нечаканыя госці ўселіся пры стале грэцца. Як пазней высветлілася, іх да нас прывёў колішні ўчастковы І. Варыкіш, які сказаў, што ў нас добрая самагонка. Пра Варыкіша засталіся толькі цёплыя ўспаміны. Маці казала, што некалі ён хацеў ажаніцца з дзяўчынай з Пугачоў, але яе бацькі катэгарычна яму адмовілі. І вось ён сваю каханую праз вакно выкраў і ажаніўся з ёй, і жылі яны разам, пакуль яна на пачатку 1990-х не памерла. Звалі яе Соф'я Фёдараўна. Працавала настаўніцай рускай мовы і літаратуры Дуброўскай СШ...

## З ХУТАРОЎ У ВЁСКУ

У другой палове 1950-х гадоў савецкая ўлада пачала ўсіх хутаран зганяць у вёскі. Большасць пераехалі і пабудавалі новыя хаты, а некаторыя перавезлі ў вёскі старыя будынкі. Калі хутарскія хаты былі ўсе з саламянымі стрэхамі, то новыя вясковыя ўжо былі пакрытыя шчапой, а некаторыя, у тым ліку ў нас — шыферам. Трэба адзначыць, што Навасёлкаўскія хутары мясціліся на плошчы ад Пазнякоў да Татарскіх (на поўдзень) і ад Дуброў да Еленкі (на захад).

У 1959 годзе мы пераехалі ў новую хату. У першы год было нялёгка адвыкаць ад хутарскога жыцця. Такога раздолля, як раней, не было. Але час браў сваё і хутка ў вёску правялі электрычнасць, а ў 1963 годзе ў нашай сядзібе з'явіўся першы ў вёсцы тэлевізар. Першы час тэлевізар прыходзілі глядзець многія вяскоўцы, а таксама школьнікі старэйшых класаў з інтэрната. Потым завуч Дуброўскай школы прасіў маіх бацькоў скасаваць гэты кінатэатр, бо ён адмоўна дзейнічаў на паспяховасць вучняў. *чэрвень*

У 1960—1970-я гады большасць вясковай моладзі рванула ў гарады: хто вучыцца, а хто працаваць. Не абмінула гэтая з'ява і маю вёску.

Мне цікава было падлічыць сваіх вяскоўцаў па іх прозвішчах. У адрозненне, напрыклад, ад такіх вёсак, як Бортнікі і Агароднікі, дзе большасць жыхароў былі Салаўямі, Татарскія — Мяльгуямі, Пугачы — Шніпамі, то ў Навасёлках было шмат розных прозвішчаў. Але некаторыя, такія, як Грышэль, Багіна, Харук, Паўкалас, Мяльгуй, Зеньчык складалі большую частку прозвішчаў Навасёлак у 1950-1970-х гадах.

Паводле некаторых звестак прозвішча Грышэль французскага паходжання з часоў напалеонаўскага паходу. Дарэчы, дзявочае прозвішча маёй бабулі па бацькоўскай лініі таксама Грышэль. І мне часам, здаецца, што аднаго з маіх далёкіх продкаў звалі Жанам ці Жакам. І хочацца, як той казаў, пабачыць Парыж і...

Бальшыня жыхароў вёскі Туркаўшчына таксама Грышэлі. Шмат іх і ў Дубровах. Як мне стала вядома, прозвішча Багіна італьянскага паходжання, а Паўкалас — літоўскага. Я налічыў пяць сем'яў Паўкаласаў. Тры сям'і мелі прозвішча Шніп. Аднак у нашай вёсцы, як і ў іншых,

вяскоўцаў больш ведалі не па прозвішчах, а па мянушках. Напрыклад, жыў стары Сымон Ермаловіч. Аднак усе яго звалі Зайцам, ці Лазавіком. Насупраць жылі Коцікі, ці Лабазікі, а крыху далей Вавёрка. Вавёрка меў прозвішча Балотнік, зваўся Стасем, быў бабылём, па характары добры і чулы. Дзеці малыя яго баяліся, бо ён любіў жартам якому-небудзь малому хлапчуку крыкнуць: «Хадзі сюды, яйцы адрэжу!» Непадалёку на хутары жылі Баран (прозвішча Салавей) і Варонка (прозвішча Аніська)...

## СТАЎЛЕННЕ ДА РЭЛІГІІ

*чэрвень* Бальшыня маіх вяскоўцаў да рэлігіі ставілася з павагай, хоць былі і такія, якія маглі брыдка лаяцца, успамінаючы пры гэтым нашага Творцу. Пераважна насельніцтва Навасёлак і навакольных вёсак было праваслаўным, аднак і католікоў было не менш трэці. А ў Татарскіх больш за 90 адсоткаў насельніцтва былі каталіцкай веры.

У мінулым здараліся дробныя канфлікты паміж дзвюма канфесіямі, асабліва ў 1919 годзе, калі памяшканне касцёла вярнулі каталікам. Аднак ужо шмат гадоў назіраецца мірнае суіснаванне дзвюх галін хрысціянства. Многія праваслаўныя парадніліся з каталікамі. Напрыклад, мае дзве цёткі Ніна і Васіліна выйшлі замуж за каталікоў з вёскі Татарскія, а дзядзька Валодзя ажаніўся з каталічкаю.

Вялікдзень у маім жыцці быў і застаецца самым галоўным і ўрачыстым святам. У гады майго дзяцінства існаваў звычай, калі дзеці хадзілі да суседзяў у жачкі. Пры гэтым замест звычайнага прывітання казалі: «Хрыстос Уваскрос!» Пасля чаго дзецям давалася велікоднае яйка. І вось такіх яек можна было назбіраць больш за дзясятак. Падгадаваўшыся я з падлеткамі ў велікодны вечар хадзіў у валачобнікі, спяваючы песні пад вокнамі суседзяў. Перад гуртамі дарослых валачобнікаў амаль у кожнай хаце гасцінна адчыняліся дзверы і іх, як дарагіх гасцей, запрашалі за святочны стол. Такая традыцыя існавала да 1980—1990-х гадоў. Прыемна ўспомніць, як у вечаровым прыцемку адначасова ў розных дварах вёскі на розныя лады гучалі велікодныя песні.

Настаўнікі нашай школы святкаванне Вялікадня і іншых царкоўных свят успрымалі ў штыкі. Бывалі выпадкі, калі настаўнікі праганялі дзяцей з царкоўнага

кірмашу, дзе заўсёды можна было купіць нешта смачнае, у тым ліку і марозіва.

Пастановаю ўлад у 1961 годзе Дуброўская царква была зачыненая. Актыўны ўдзел у гэтай акцыі разам з сельскімі актывістамі-бязбожнікамі бралі і некаторыя настаўнікі. Царкву ператварылі ў зернясховішча, а мясцовы святар Сурвіла быў змушаны з сям'ёй некуды з'ехаць.

Касцёл такі лёс напаткаў яшчэ ў 1949 годзе. Пасля закрыцця царквы мае бацькі вымушаныя былі на велікодную ўсяночную дабірацца ў Красненскую царкву.

Недзе ў 1970-х гадах мясцовымі ўладамі было прынятае рашэнне прысвоіць бацькоўскаму дому найменне «Хата ўзорнага парадку». Незадоўга перад гэтым у сядзібе пабывалі прадстаўнікі ўлад і, звярнуўшы ўвагу на развешаныя па кутах абразы, сказалі, што ўсё добра, а толькі трэба было б паздымаць абразы. На гэта бацька адказаў, што абразы здымаць не будзе. Тым не менш шыльду з ганаровым надпісам да хаты прымацавалі. *чэрвень*

У суседніх Дубровах жылі тры сям'і баптыстаў. Людзі яны былі паважаныя, шматдзетныя, асабліва Булах, які з маім бацькам працаваў сталяром на дуброўскім бровары. Апрача гэтага, ён быў някепскім мастаком, вырабляў і ўпрыгожваў мэблю. І вось яго, а таксама Раманчыка ў 1950-я гады асудзілі на некалькі гадоў зняволення за тое, што яны быццам бы адмоўна ўздзейнічалі сваёй верай на дзяцей, заміналі іхняму ўступленню ў піянеры.

## ПРА ШКОЛУ, НАЦЫЯНАЛЬНЫЯ МЕНШАСЦІ І ЗНАКАМІТЫХ ЗЕМЛЯКОЎ

У 1950—1960-я гады ў Дуброўскай СШ працавала шмат настаўнікаў (мабыць, больш за палову) з габрэйскімі каранямі. Амаль усе з іх засталіся ў памяці як высокаадукаваныя, добрыя і чулыя педагогі. Добрым словам хачу ўспомніць Вінакур Інэсу Захараўну і Рудкоўскую Іраіду Фёдараўну. Ад першай у мяне любоў да геаграфіі, ад другой — да хіміі і заалогіі.

Дуброўская школа заўсёды ганарылася сваім былым завучам Станчуком-Леўчуком, у якога продкі таксама былі габрэямі. Ён на высокім узроўні выкладаў рускую мову і літаратуру, што падзейнічала на выбар маёй адукацыі. У 1976 годзе я скончыў аддзяленне рускай мовы і літаратуры філалагічнага факультэта БДУ.

Добрую памяць у выпускнікоў школы пакінула сямейная інтэлігентная пара настаўнікаў (беларусаў) — Мацэральнік Яўген Фёдаравіч і Людміла Іванаўна.

Пакінулі свой светлы след у Дубровах і татары. Да нядаўняга часу там пражывала такіх тры сям'і. Адзін з іх — Газіеў Міхаіл Іванавіч працаваў выкладнікам фізічнага і вайсковага выхавання ў мясцовай школе. Сын яго Юрый (аднакласнік маёй жонкі) скончыў Мінскі тэатральна-мастацкі інстытут і доўгі час працаваў акцёрам Львоўскага абласнога драматычнага тэатра.

*чэрвень*

Наагул Дубровы і навакольныя вёскі ганарацца сваімі знакамітымі землякамі: ураджэнцы Адамарына — навукоўцы браты Дыбоўскія, навуковец Стэльмах, а таксама ўраджэнец вёскі Шапавалы Багданкевіч Станіслаў, доктар эканамічных навук, былы старшыня Нацыянальнага банка Беларусі. І Стэльмах, і Багданкевіч у 1950-х гадах скончылі Дуброўскую школу.

Ураджэнец вёскі Бортнікі Каўрыга Здзіслаў, які таксама скончыў Дуброўскую школу, наменклатурнай лесвіцай дайшоў да намесніка міністра радыётэхнічнай прамысловасці СССР. Мой аднакласнік Мацкевіч Іван Ф., ураджэнец вёскі Зарэчча Валожынскага раёна (бліз вёскі Вялікія Крывічы), дзякуючы сваёй працавітасці таксама далёка пайшоў па наменклатурнай лесвіцы. Словам, ёсць пра што і каго ўспомніць...»

**МУЖЧЫНА**

*7.06.2013.* На працу да мяне прыходзіў Валер Ярмоленка. Падараваў кніжку «За небасхілам спякотнага Турана», якая выйшла ў серыі «Нашы славутыя землякі» ў выдавецтве «Тэхналогія». Кніжка пра Мікалая Пржавальскага (1839—1888) — славутага падарожніка, першага даследніка Цэнтральнай Азіі. Даведаўшыся, што я родам з Валожынскага раёна, Валер Аляксандравіч сказаў: «А я 8 і 9 клас заканчваў у Валожыне! Мой бацька быў кадэбістам, і яго часта перакідвалі з аднаго горада ў іншы». Успамінаючы бацьку, Валер Аляксандравіч апавёў цікавую гісторыю. У 1945 годзе Аляксандр Андрэевіч Ярмоленка старшы лейтэнант СМЕРШа прыехаў у вёску Забрэззе Валожынскага раёна, каб арыштаваць мужыка, які скраў у калгасе шэсць вядзёр бульбы. Зайшоўшы ў хату, ён адразу каля парога наткнуўся на шасцёра малых

паўголых дзяцей, якія поўзалі па земляной падлозе. Дома былі і маладыя бацькі. Смершавец, агледзіўшы хату, запытаўся: «Гэта вашы дзеці?» Пачуўшы «Нашы!», ён стаў кругамі хадзіць па хаце, паўтараючы: «Шэсць вядзёр! Шэсць дзяцей! Шэсць гадоў турмы!» Хадзіў хвілін дзесяць, а потым дастаў ордэр на арышт і падраў. Выехаўшы з Забрэззя, Аляксандр Андрэевіч спыніўся, схапіўшыся за галаву: «Што я нарабіў?! Цяпер мяне расстраляюць! Трэба ехаць і забіраць мужыка!» Недзе з паўгадзіны смершавец думаў над сваім учынкам і ўрэшце сам сабе сказаў: «Я ж мужчына! Я не павінен мяняць сваё рашэнне!» Дамоў у Мінск ён вярнуўся позна. Жонка, пабачыўшы бледнага мужа, занепакоілася: «Што здарылася?» Аляксандр Андрэевіч расказаў усё як было, і жонка параіла яму заўтра з самага ранку ісці да Цанавы і паразмаўляць з ім. І вось смершавец зайшоў у кабінет да Цанавы і адразу пачуў: «Старлей, чаму не забраў мужыка?» — «Я вырашыў параіцца з вамі»,— адказаў Аляксандр Ярмоленка. «А ў чым справа?» — палагаднеў Цанава, пачуўшы, што смершавец з ім хоча параіцца. І старшы лейтэнант апавёў Цанаву прыдуманую размову з мужыком, якога ездзіў арыштоўваць. А прыдумана было, што мужык паведаміў пра «лясных братоў», якія хаваюцца ў Мёрскім раёне, і ён іх дапаможа злавіць. Цанава, выслухаўшы смершаўца, сказаў: «Даю табе званне капітана! Паедзеш у Мёры і там зоймешся барацьбой з бандытамі!» Капітан Аляксандр Ярмоленка паехаў на новае месца службы, дзе хутка сапраўды разбіў банду «лясных братоў». У 1980 годзе сын Аляксандра Андрэевіча Ярмоленкі Валер Аляксандравіч са сваімі студэнтамі трапіў на бульбу ў Забрэззе, дзе пазнаёміўся са святаром, які па выхадных прыязджаў служыць у мясцовую царкву з мястэчка Краснае Маладзечанскага раёна. І вось, пазнаёміўшыся і размаўляючы пра жыццё-быццё пры гасцінным стале ў царкве, бацюшка раптам запытаўся: «Скажыце, а кім даводзіцца вам кадэбіст Аляксандр Андрэевіч Ярмоленка?» — «Гэта мой бацька»,— адказаў Валер Ярмоленка. Бацюшка са словамі «Можна я вас абдыму?» тут жа ўстаў і абняў свайго суразмоўцу. Высветлілася, што бацюшка — родны брат таго мужыка, які ў 1945 годзе скраў шэсць вядзёр бульбы і які не быў арыштаваны смершаўцам, дзякуючы гэтаму ўсе шасцёра дзяцей выраслі...

## ПІСЬМЕННІК І ЗЯМЛЯ

*10.06.2013.* Да мяне на працу прыходзіў пажылы пісьменнік. Хоча выдаць кніжку. Размаўлялі доўга. З усёй размовы запомніліся пісьменніцкія пальцы з даўно неабстрыганымі пазногцямі, пад якімі чорная зямля...

**Х**

*10.06.2013.* Невысокія дзяўчаты і маладыя жанчыны паабувалі туфлі на абцасах па 20 сантыметраў і цяпер ходзяць, як высокія...

**Х**

*чэрвень*

*10.06.2013.* Вычытаў: «Люди оскорбляют тремя способами. Они могут сказать, что ты глуп, назвать тебя рабом, упрекнуть в бездарности. Если такое случилось с вами, вспомните простую истину: только дурак назовет этим именем другого, только раб ищет ничтожество в другом, только бездарь оправдывает то, чего не понимает сам, чужой тупостью. Поэтому никогда ни на кого не обижайтесь и не оскорбляйте сами, чтобы не прослыть глупыми бездарными рабами...»

**Х**

*11.06.2013.* На ўсе пасткі бясплатнага сыру не набярэшся...

## ЮРАСЬ І ГАРЭЛКА

*12.06.2013.* Узгадалася леташняе. Юрась, вярнуўшыся з вёскі, прынёс на працу ў цэлафанавым пакеце пару кілаграмаў пераспелай вішні. Паклікаў мяне, каб пачаставаць. Я не адмовіўся. Перад тым як есці вішні, якія месцамі падгнілі, Юрась дастаў з партфеля пляшку з гарэлкай. «Я не п’ю!» — заявіў я. «Гэтая гарэлка не на піццё! Я ёй мыю рукі!» — сказаў Юрась і тут жа, лінуўшы на даланю, расцёр гарэлку па руках.

**Х**

*12.06.2012.* У вёсцы за плотам маёй роднай хаты нехта скасіў траву, а ўсю крапіву і лопухі пакінуў мне...

**х**

*12.06.2013.* На жаль, хата без бацькоў стала больш роднай, чым была пры іх жыцці...

**х**

*14.06.2013.* З сябрамі еду далёка-далёка ад Мінска. Люда мяне выпраўляе ў вандроўку, як школьніка ў піянерскі летнік...

**х**

*17.06.2013.* Каля мурашніка спелыя суніцы, як чырвоныя ліхтары на мурашынай вуліцы...

*чэрвень*

**х**

*17.06.2013.* Іржавыя цвікі на асфальце, як мёртвыя дажджавікі...

## УЛАДЗІМІР СТЭЛЬМАШОНАК І ГАЗЕТЫ

*19.06.2013.* Калі я вадзіў дзяцей у пачатковыя класы мастацкай школы, што на Камуністычнай вуліцы, то часта па пятніцах каля шапіка на Старажоўскай сустракаў мастака Уладзіміра Стэльмашонка. Аднойчы я запытаўся: «А ці не лепей выпісаць «ЛіМ» і «Культуру», чым хадзіць і штораз іх купляць?» Уладзімір Іванавіч усміхнуўся і сказаў: «Калі б не газеты, то я сядзеў бы дома цэлымі тыднямі і мы ніколі б не сустрэліся і не паразмаўлялі...»

**х**

*19.06.2013.* Усё чытаю і чытаю чужыя рукапісы. Добрыя творы, як родныя, радуюць душу, а кепскія толькі раздражняюць, як галодныя бяздомныя сабакі, якім мне няма чаго даць...

## ШТО РАБІЦЬ?

*20.06.2013.* Патэлефанаваў Алесь Квяткоўскі з пытаннем: «Што рабіць? Я купіў нагавіцы, каб з дзецьмі ехаць на пленэр у Вішнева. Прынёс дамоў, а ў нагавіцах усе кішэні зашытыя?»

## X

*22.06.2013.* Ездзіў у родныя Пугачы...

Аўтобус ішоў праз Русакі каля Лягез, дзе я да школы гадаваўся ў бабулі Ганны. Праз дрэвы, якія выраслі, вёскі амаль не бачна. Відаць толькі тое, што помніцца з дзяцінства...

У вёсцы Салаўі, праз якую я з мамай хадзіў у Лягезы, салаўёў не чуў, а штораз сабакі брахалі...

Кудзяўцы... Карнюткі... Звяркі... Караблі... За кожнай назвай вёскі ў мяне цэлыя гісторыі пражытыя мной, і яны ўва мне, як у скарбонцы, захоўваюцца...

*чэрвень*

Гляджу на азярыну ў Хмарышках і на беразе бачу сябе малога з вудай. Чырвоны паплавок то знікае ў вадзе, то выплывае, а я ўсё не выцягваю лёску, бо нельга двойчы злавіць адну і тую ж рыбіну...

З пашы гоняць калгасных кароў. Яны ідуць, як ваеннапалонныя, якіх расстраляюць...

На гары стаяць тры кароўнікі. У крайнім справа працавала мая мама даяркай. І я, школьнікам, часта дапамагаў ёй даіць кароў. А можа, і не часта. Я і цяпер бы пайшоў на кароўнік дапамагаць маме, але...

На прыпынку ў Пугачах нікога няма. Была б мама, яна стаяла б і сустракала аўтобус...

Роднай хаты праз бярозы і яблыні адразу не бачна, таму думаецца: «Ці цэлая там хата?»

Насценны гадзіннік не спыніўся. Жыццё ў хаце не спынілася...

У кране няма вады. Няўжо нам адлучылі? І ў калонцы на вуліцы няма. Ужо крыху весялей...

У агародзе ўсё расце. Найбольш трава...

За працай час ляціць, як першае жоўтае лісце з дрэў...

Захмурэлася. Узяўшы свайго «Пугачоўскага цырульніка», пайшоў у госці да Шнапса (Лёнькі Шніпа). Мама да яго не пусціла б...

З часу пасадкі бульбы я ўжо, здаецца, шосты раз у вёсцы. З кожным прыездам усё болей упэўнена іду вуліцаю і ўсё больш атрымліваю задавальнення ад роднай прыгажосці, якая не хаваецца ад мяне...

Зайшоў да Лёнькі Шніпа ў двор. Ціха. Можа, нікога дома няма? Не. Бачу Лёнькаву жонку ў градах. Ды і Лёнька

раптам з'явіўся. Абняліся, як родныя, і нібыта толькі ўчора развіталіся. А не бачыліся мы гадоў дваццаць...

Жонка ў Лёнькі з Ракава. На гадоў дваццаць маладзейшая за яго. А Лёнька нарадзіўся ў 1949 годзе...

«Пугачоўскага цырульніка» Лёнька ўжо крыху чытаў — прыносіла Ліда Шніп. «Мо я там абы-чаго пра вёску і вяскоўцаў панапісваў?» — пытаюся. «Усё правільна! — усміхаецца суразмоўца і прапануе: — Самагонка? Віно? Кава? Гарбата?» — «Гарбата!» — адказваю. «А я ўжо 15 гадоў як закадаваны! Цяпер жыву як чалавек!»— кажа Лёнька і разлівае па кубках травяны напой. На вуліцы пачынаецца навальніца, а я грымотаў амаль не чую, бо слухаю аповед пра Пугачы, пра якія не ведаю... *чэрвень*

«Мой дзед Канстанцін Пятровіч Шніп за вайсковую кампанію 1877 года на Шыпцы атрымаў у Пугачах добры кавалак зямлі. І вось гэтая хата, якая стаіць у садзе, была ім збудаваная...

Бацька твой служыў у берыеўскіх войсках... І яшчэ адзін вясковец быў у тых войсках...» Пачуўшы гэта, я падумаў: «Дык вось чаму бацька нічога пра службу з 1950 па 1953 год не расказваў. І гэта таму пасля войска яму прапанавалі быць міліцыянерам у Чысці. І, відаць, быў бы, калі б ягоная маці не сказала: «Не хапала тут нам паліцыянтаў! Ідзі і аддай назад гэтыя балаханы!» І бацька пайшоў у Радашковічы і аддаў міліцэйскую форму. Праўда, пасля гэтага працаваў усё жыццё на ферме то падвозчыкам, то пастухом...

Бацька мой Канстанцін Канстанцінавіч Шніп служыў у Войску Польскім. Калі пачалася вайна і нас захапілі Саветы, бацьку ў ліку дзвюх тысяч польскіх салдат гналі з Радашковіч на расстрэл пад Мінск. Аховы было чалавек дзесяць. Можна было ўцячы, але ўсе былі сяляне і ўсе пакорліва ішлі насустрач сваёй смерці. Гэта было, калі ўжо жыта красавала. За Радашковічамі раптам над калонай, страляючы па ўзбочыне дарогі, праляцелі нямецкія самалёты. Пачалася паніка, і ўсе палонныя разбегліся па жыце. Бацька вярнуўся дамоў і ўсю вайну прасядзеў у падмосці...

У 1939 годзе, калі ў вёску прыйшлі Саветы, у бацькі забралі цэлы воз кніжак і розных дакументаў, якія ён меў. Два мяхі кніжак бацька закапаў, і яны цяпер у мяне ёсць. Кніжкі на польскай і на беларускай мовах...

Найлепшая бібліятэка ў тваёй цёткі Валянціны Іосіфаўны. У яе ёсць кніжкі 1920—1930-х гадоў, а таксама выданні, што выходзілі пад час нямецкай акупацыі...

Маці мая Вольга Аляксееўна Мятліцкая нарадзілася ў Кудзяўцах, а бацька яе быў недзе з Палесся. Яна ў 1930-я гады была добра знаёмая з Сяргеем Пясецкім, які жыў у Ракаве і потым стаў вядомым пісьменнікам. Пясецкі прапаноўваў ёй выйсці за яго замуж, але мая будучая маці абрала Шніпа Канстанціна Канстанцінавіча...

За палякамі на плоце былі шыльды з пазнакай дома і такія ж шыльды былі на вазах. Калі на рынку конь накладаў кучу, то штраф выпісваўся ў памеры пяці

*чэрвень*

злотых. За 10 злотых можна было купіць 4 пуды жыта. 10 злотых каштаваў 1 даляр. Бацька мой не любіў золата. Карыстаўся папяровымі грашыма...

На цэлы павет быў адзін паліцыянт і яго ставала...

У Гарадку за палякамі быў зямельны банк, дзе можна было браць грошы. Давалі не ўсім. Глядзелі, які чалавек. Ці п’яніца, ці рабацяга? Толькі пасля пяці гадоў трэба было вяртаць грошы і то паўтары працэнты гадавых...

Вярбіцкая хата за палякамі належала пану Юркоўскаму. Там была крама. Можна было пазычаць...

У 1968 годзе ў раёне Івянца ў пушчы былі знішчаныя апошнія “лясныя браты”...»

Незаўважна пад мелодыю навальнічнага дажджу праляцелі амаль тры гадзіны. Мы з Лёнькам сфатаграфаваліся і дамовіліся, што я, прыехаўшы ў Пугачы, не буду мінаць яго хаты...

**Х**

*25.06.2013.* Да мяне на працы ў кабінет зайшла жанчына з прапановай купіць губную памаду. «Навошта мне памада? Я ж мужчына!» — сказаў я. «А я вось дзесяць гадоў таму пісала вершы і прыносіла ў ваша выдавецтва Дранько-Майсюку! Ніякага толку! Цяпер памаду прадаю! І мяне палова Мінска ведае!» — усміхнуўшыся на развітанне, жанчына выйшла з кабінета.

## ДОМА Ў БЫКАВА

*27.06.2013.* Хадзіў да Ірыны Міхайлаўны Быкавай. Насіў на подпіс дамову на выданне кнігі «Пакахай мяне, салдацік» Васіля Быкава. Ішоў з нейкай незразумелай трывогай, нават са страхам, што яна адмовіцца ад выдання кніг у «Мастацкай літаратуры». Хваляванне было дарэмным. Ірына Міхайлаўна сустрэла мяне з даверам, адразу ж прапанавала пачаставацца. Пасля таго як я апавядаў пра сустрэчы з Васілём Уладзіміравічам і пра добрыя дачыненні з нашымі агульнымі знаёмымі, Быкава яшчэ больш параднела. Менавіта параднела, бо я стаў сябе адчуваць, як дома ў роднага чалавека. Учора ў Ірыны Міхайлаўны ў гасцях было 16 чалавек, і яна недзе паклала акуляры і цяпер дрэнна бачыць, таму я паказваў, дзе распісацца, і яна распісвалася. Завёўшы ў кабінет Быкава, сказала: «Музейцы хацелі ўсё забраць, каб вызваліць кабінет. Я адмовілася, бо тут душа Васіля Уладзіміравіча!» У кніжнай шафе за шклом на паперы фламастарам напісана: «Бывай, родная хата! ...вітанне новым гаспадарам! Васіль Быкаў. 20.07.2000 г.». «Гэта Васіль напісаў, калі пакідаў назаўсёды кватэру. Ён адчуваў, што ўжо ніколі сюды не вернецца, хоць пасля гэтага пражыў яшчэ тры гады. Калі ў вас ёсць якія аўтографы Быкава, то прынясіце мне — я іх збіраю для музейнай экспазіцыі». Пасля паўгадзіннай размовы мы дамовіліся, што як выйдзе кніга, то я прынясу пару асобнікаў. Развітваючыся, Ірына Міхайлаўна выйшла за мной на лесвічную пляцоўку і сказала: «Прыходзьце ў госці з жонкай, з Барысам Пятровічам! Не забывайцеся!» А я, вяртаючыся на працу, падумаў: «Вось такімі душэўнымі і гасціннымі, як Ірына Міхайлаўна, павінныя быць жонкі ў пісьменнікаў!»

*чэрвень*

## Х

*27.06.2013.* Ідучы ў Нацыянальную бібліятэку, непадалёк ад тралейбуснага прыпынку пабачыў пажылую мёртвую жанчыну, якая ляжала на асфальце і каля яе стаяў міліцыянер. Праз хвілін дзесяць да мёртвай пад'ехалі яшчэ міліцыянеры. Яны нешта пісалі, размаўлялі паміж сабой, а я ўсё глядзеў і спадзяваўся, што вось-вось старая падымецца і запытаецца: «А што вам трэба, маладыя людзі?»

x

*27.06.2013.* У Нацыянальнай бібліятэцы быў на прэзентацыі новай кнігі Анатоля Бутэвіча. Выступоўцы больш казалі пра 65-годдзе Анатоля Іванавіча, чым пра кнігу. Я сядзеў побач з Васілём Зуёнкам, які прыехаў з лецішча, каб павіншаваць юбіляра. Людзей было шмат і амаль усе знаёмыя. Мальдзіс не прыйшоў, бо мае высокі ціск і цяпер лекуецца. Пасля імпрэзы на 22-м паверсе бібліятэкі быў фуршэт. Усё было, як у самым гасцінным доме...

x

*чэрвень — ліпень*

*28.06.2013.* Па выдавецкіх справах прыходзіў Васіль Зуёнак. Узгадалі Янку Сіпакова. Размаўляючы пра нечаканую смерць Івана Данілавіча, Васіль Васільевіч сказаў: «У Сіпакова была анкалогія, але ён пра гэта нікому не казаў. Ён быў утойлівы. Блізкіх сяброў на старасці не меў. Ды і пры жыцці ён сябраваў, здаецца, толькі з Барысам Сачанкам. Сачанка памёр, і Сіпакоў застаўся адзінокім...»

x

*30.06.2013.* На выходныя быў у Мосары, Глыбокім, Шаркаўшчыне і на двух Браслаўскіх азёрах. Вярнуўся дамоў, нібыта дома не быў цэлы тыдзень...

## ЛІПЕНЬ

x

*1.07.2013.* Раптам заўважыў, што ў мяне начыста не перапісаныя ў сшытак некалькі вершаў, якія былі напісаныя пару тыдняў таму на выпадковых шматках паперы. Пашукаў. Няма. І ўспомніў, што я тыя чарнавікі выкінуў у сметніцу разам з непатрэбнымі пажаўцелымі паперамі. Шкада. Але не было б горшай бяды, а вершы напішуцца...

x

*2.07.2013.* На працу да мяне прыходзіў Леанід Маракоў. Калі ўсё па выдавецкіх справах было перагаворана,

сталі размаўляць пра жанчын. Лёня пахваліўся, што да яго вельмі часта чапляюцца красуні, а ўсё ад таго, што ён карыстаецца замежнай парфумай і ў прыватнасці духамі «Шанэль Блю». Раіў і мне купіць у кантрабандыстаў у Ждановічах за сто даляраў. Развітаўшыся, я пайшоў у бліжэйшую кавярню. Сяджу, абедаю і раптам бачу, што да майго століка ідзе прыгожая маладая жанчына і ўсміхаецца. Сеўшы насупраць і прывітаўшыся, яна сказала: «Вы мяне пазнаяце?» Я адразу падумаў, што гэта нейкая паэтэса з тых, якія нярэдка прыносяць мне свае творы, каб пачытаў і ацаніў, а потым знікаюць з майго жыцця. «Не пазналі?» — усміхаючыся, пытаецца прыгажуня. «Не!» — прызнаюся. «Я — Святлана Касач! Ваша пляменніца!» — кажа жанчына, і я пазнаю ў ёй дачку маёй стрыечнай сястры Ірыны з Аляхновіч, якую не бачыў гадоў дваццаць. Святлана ўжо два гады працуе ў суседнім доме з маім выдавецтвам, і толькі сёння мы выпадкова сустрэліся. Увесь час пасля таго, як сувязі былі згубленыя, Святлана спрабавала мяне знайсці. Гадоў пяць таму тэлефанавала ў «ЛіМ», але там мой тэлефон не далі і не сказалі, дзе я працую...

*ліпень*

**х**

*2.07.2013.* Быў у «Кароне». Завітаў у прыбіральню. У суседняй кабінцы зазвінеў мабільны. Чую: «Размаўляць не магу. Я цяпер на нарадзе! Праз хвілін пяць перэтэлефаную!»

**х**

*3.07.2013.* З Максімам ездзілі ў Пугачы. Я грады палоў, а сын касіў у садзе. А трэцяй гадзіне з Палачанкі патэлефанаваў Лёня Шчарбінскі з прапановай прыехаць і забраць нас у Мінск. Мы адмовіліся, бо наш аўтобус з Пугачоў адпраўляецца а сёмай вечара, а гэта яшчэ чатыры гадзіны, каб пабыць з роднай сялібай...

Крапіва і дзядоўнік адчуваюць, што ў хаце ўжо няма старых гаспадароў, і таму растуць і растуць...

Без бацькі ў скрынцы ўсе цвікі паржавелі...

Соль скамянела, даведаўшыся, што гаспадары памерлі...

На градзе зялёная цыбуля яшчэ не ведае, што будзе залатой.

Вулей у суседскім садзе сярод высокай травы, як хатка Бабы Ягі...

Бацька са мной, як я з сынам, не хадзіў па палях каля вёскі. Бацьку проста не было калі...

Цяпер у бацькоўскай хаце жыве толькі гадзіннік...

**х**

*5.07.2013.* «Наш свет мы зляпілі з газет, дзе літары — чорныя ніткі...» — напісаў, а далей не захацелася...

**х**

*6.07.2013.* Каля суседняга пад'езда спыніўся легкавік, з якога выйшаў мужчына ў шортах. Паглядзеўшы па баках, ён адчыніў другія дзверцы і, трымаючы пад пахі, вывалак з машыны старую. Паставіў каля сябе, паправіўшы на старой хустку і халат, павёў у пад'езд. Адразу ўзгадалася мама, якая па чарзе жыла то ў сястры, то ў мяне, і падумалася: «Якія яны нашы матулі падобныя перад сваёй смерцю! Падобныя і тварамі, і постацямі, і хусткамі, і халатамі, і тапкамі на непаслухмяных нагах...»

*ліпень*

**ПЫТАННЕ**

*6.07.2013.* Сябры суполкі «Літаратурнае прадмесце» прыходзілі ў госці, каб павіншаваць Людмілу (сваю кіраўніцу) з днём народзінаў. Гутарылі шмат, спявалі, жартавалі. Найбольш запомніўся Усевалад Гарачка, які пасля доўгага маўчання, запытаўся: «Вось вы мне, Людміла і Віктар, адкажыце: "У якіх паўстаннях удзельнічалі вашыя продкі?"»

**х**

*9.07.2013.* Ліда Шніп — дачка Марыі Вікенцьеўны (маёй першай настаўніцы) — праз Фэйсбук запрасіла мяне і Люду ў госці. Я не адмовіўся. Праўда, было крыху неяк страшнавата ехаць да людзей, з якімі гадоў трыццаць не кантактаваў у жывую. У Пугачах Ліда жыла па-суседску праз адну хату. Успамінаючы дзяцінства і маё вяртанне з Лягез, Ліда сказала: «Даведаўшыся, што ты прыехаў жыць у Пугачы, мы з сябрамі пайшлі да цябе з прапановай гуляць разам. Ты адмовіўся...»

**САШКА І РОВАР**

*9.07.2013.* У Ліды Шніп ёсць брат Сашка, які даўно атабарыўся ў Расіі, у Валгадонску. Штолета ён з сынам Лёнем прыязджае ў Пугачы да маці і нейкі час жыве ў Мінску ў Ліды. Чытаючы майго «Пугачоўскага цырульніка», Сашку захацелася сустрэцца са мной, таму Ліда сярод тыдня запрасіла мяне і Люду ў госці. Сашку ў Пугачах я памятаю толькі на ровары, якім ён катаў дзяўчат-студэнтак, што ўлетку прыязджалі ў вёску на практыку. У васямнаццаць гадоў Сашка ажаніўся. І тады ў мяне, хлапчука, склалася ўражанне, што мой сусед ажаніўся з адной са студэнтак, якую вазіў роварам. Да ўсяго, я стаў лічыць, што калі дзяўчына напросіцца, каб ты яе пакатаў роварам, і ты яе пакатаеш, то пасля гэтага табе трэба будзе абавязкова з ёю ажаніцца. Сашка ж ажаніўся! І я, маючы ровар, ніколі не вазіў дзяўчат, памятаючы пра Сашку і яго раннюю жаніцьбу...

*ліпень*

**САШКА І РЫБА**

*10.07.2013.* Сашку Шніпу было дванаццаць гадоў. Ён ішоў каля сажалкі, дзе на беразе сядзеў Лёнька Шніп (Шнапс) і лавіў рыбу. «Ідзі сюды! У мяне сёння дзень нараджэння! Сямнаццаць гадоў! Выпі за маё здароўе!» — сябра паклікаў Сашку і працягнуў пляшку з самагонкай. Хлапчук адпіў колькі змог і тут жа Шнапс даў яму жывога карасіка, паказаўшы, як трэба закусваць. Ап’янелы Сашка не змог праглынуць рыбу, і яна засела ў горле. Праз некалькі хвілін хлапчука званітавала, але карасік так і не скрануўся з месца. Тады Шнапс пачаў ратаваць сябра. Браў за ногі і трос уніз галавой, клаў на схіл берага сажалкі і стукаў па спіне. Намаганні Шнапса скончыліся паспяхова, а Сашка з таго дня ўжо амаль пяцьдзясят гадоў не есць рыбу...

**Х**

*12.07.2013.* Галава ў кустах. Кусты ў галаве...

**Х**

*12.07.2013.* Першае апалае лісце, як выцвілыя пад сонцам абгорткі ад цукерак, якія ў маленстве я збіраў у драўляную скрыначку...

## З МАЙГО РАДАВОДУ

*12.07.2013.* Мая прабабуля Крыстына Андрэеўна Шніп (у дзявоцтве Федаровіч) пражыла 62 гады. Нарадзілася ў 1885 годзе, памерла 20.03.1947 года. Яна была жонкай Шніпа Івана Кандратавіча (1866—1916), які ў царскім войску быў уланам і загінуў на Еўрапейскай (Першай сусветнай) вайне ў раёне Крэва. У іх было трое дзяцей — Юзя (майго бацькі бацька), які нарадзіўся ў 1911 годзе і памёр 5.10.1982 года. Пахаваны ў Дубровах. Другі сын — Янка (1914—13.05.1961). Пражыў 47 гадоў. Пахаваны ў Дубровах. Дачка — Зенька. У замужжы Раманчык Зінаіда Іванаўна (1915—7.08.1985). Жыла і пахаваная ў Ракаве.



**Х**

*13.07.2013.* Прачытаўшы, што мой продак Шніп паходзіць з прускіх немцаў, Раман Урбановіч у сваім «жэжэшным» каментары напісаў: «Прускі немец Шніп, верагодна, меў прускае (ад тых прусаў, каторыя заходнія балты) альбо літоўскае (ад тых літоўцаў, каторыя летувінінкі-літоўнікі) паходжанне (параўнайце з літоўскім словам šnipas 1. «шпіён» 2. прастамоўнае «пыса», «рыла» etc.)».

## ШНІФТ

*14.07.2013.* Прыснілася, што мне на чыгуначным вакзале, правяраючы дакументы, міліцыянер сказаў: «Тваё прозвішча не Шніп, а Шніфт!» Прачнуўшыся, зазірнуў у сеціва і знайшоў, што на зэкаўскім жаргоне «шніфт» — гэта «вока». (Вырубить (вынуть, погасить) шнифты. «Большой словарь русских поговорок». Жарг. угол. Выколоть глаза кому-либо.)

**Х**

*16.07.2013.* Стары пісьменнік хваліцца ўзнагародамі, як дзіця цацкамі. Кніжкамі не хваліцца, бо ў мяне сваіх кніжак стае...

**Х**

*17.07.2013.* Падпісваючы мне кніжку, выдадзеную ў прыватным выдавецтве, паэтка прызналася: «Заплаціла

нямала. Думала не траціцца на карэктуру, але мне сказалі: “Тут вось у вас коска патрэбная ці працяжнік? Не ведаем. Таму раім, каб ваш рукапіс наш карэктар пачытаў! Ён у нас былы вайсковы лётчык...”»

**x**

*17.07.2013.* Лета паміж нас, як паміж пальцаў цёплая вада, працякае...

**x**

*17.07.2013.* З мамай, сястрой і братам хадзіў у чарніцы. Збіраў і не еў, бо хацелася збіраць так, каб мама пахваліла. Мама хваліла ўсіх...

*ліпень*

**x**

*17.07.2013.* Дзень, як рана на целе цемры, ужо амаль месяц меншае...

**x**

*18.07.2013.* Штодзень у выдавецтва тэлефануюць яшчэ невядомыя нікому... Хацеў напісаць «графаманы», але, не чытаўшы незнаёмцаў і незнаёмак, не магу іх гэтак абазваць...

**x**

*18.07.2013.* Дождж, як апладысменты, і яна ў кароткай спаднічцы і на высокіх абцасах сышла з двара, як са сцэны, у пад’езд, як за тэатральныя кулісы...

**x**

*20.07.2013.* Збіраемся ў адпачынак, як у эміграцыю...

**ПАЛАНГА. ПЕРШЫ ДЗЕНЬ**

*21.07.2013.* Лёг спаць а дванаццатай і прачнуўся а другой гадзіне. Болей заснуць не змог. Таксоўка прыйшла а чацвёртай, як і выклікалі. Рэчаў на траіх набралі цэлую гару, нібыта едзем адпачываць на поўнач. На вакзале ўжо быў аўтобус і амаль усе яго пасажыры. Выехалі а палове пятай. Люда драмала, а мы з Максімам глядзелі

ў вакно, нібыта запаміналі дарогу, каб, калі спатрэбіцца, самастойна вярнуцца дамоў...

Да мяжы з Літвой заехалі за дзве гадзіны. Недзе на кіламетраў пяць стаяла калона фур. Нам пашанцавала — мы былі першымі з вандроўнікаў, таму амаль без чакання прайшлі беларускі кантроль. Беларускамоўных надпісаў на памежных будынках няма, таму адчуваў, што нібыта не з Беларусі едзем...

Праз свіную чуму ўсіх пасажыраў аўтобуса прапусцілі дарожкаю, змочанай нейкай вадкасцю. Амаль усе прайшлі шумна і ўсміхаючыся, некаторыя не разумеючы, што гэта і навошта...

*ліпень* Дарога да Вільні рамантуецца. Праўда, рамонтнікаў не відаць, мажліва, таму, што нядзеля...

Каля літоўскай дарогі заяц падбіты. А каля нашай вожыкі...

Зноў калона фур. Невялікая. Дзе машын няма, там усё ўзбочча на некалькі кіламетраў закіданае белымі пустымі пляшкамі. Млечны Шлях дальнабойшчыкаў...

Па Літве ходзяць беларускія буслы...

Каля дарогі на палях, дзе за камуністамі сеялі жыта і саджалі бульбу, стаяць рэкламныя шчыты, як дзядоўнік рукатворны...

Каля дарогі на палях месцамі сонечныя батарэі, як надмагільныя пліты...

Слупы з электраправодкай яшчэ савецкія...

Як і ў нас, пілуюць лясы...

Шмат каля дарогі старых закінутых хат. У нас іх даўно б пазносілі...

Згарэлы прыдарожны матэль не зносяць і не рамантуюць...

Шыкоўных лецішчаў, як у нас у Беларусі, няма...

Чым далей ад Вільні ў бок Палангі, на палях болей буслоў і кароў...

Скруткі сена ў белай упакоўцы, як кавалкі цукру... як кавалкі лёду для віскі...

Паланга. Аблепленая шыкоўнымі лецішчамі. Толькі тут адчулася, што мы ў еўрапейскай краіне...

На вакзале ў Паланзе нас разабралі гаспадары сядзіб. Нашага гаспадара завуць Віктар. Прыемны пажылы літовец...

На пытанне: «Ці былі ў вас беларускамоўныя беларусы?» — гаспадар адказаў, што не было, бо тыя людзі, якія жылі ў яго, яшчэ ўсё савецкія…

Наведалі краму, дзе набралі прыпасаў, бо там, дзе мы будзем жыць, такіх крам няма…

Нашае жытло на другім паверсе. Навокал лес. Да мора дзвесце метраў. Шум марскога ветру і хваль чуецца на балконе…

Расклалі рэчы і адразу пайшлі да мора. Прыгажосць невыказная. Людзей мала…

Каля вады знайшоў капейку — літоўскі цэнт. Нехта, відаць, кінуў у мора, каб зноў прыехаць…

Вецер, як у нас бывае зімой. Пясок, нібы снег, засыпае сляды… *ліпень*

Люда пакупалася, а Максім уцёк ад сцюдзёнага ветру дамоў, бо быў апрануты, нібыта ішоў не да Балтыйскага мора, а да Чорнага…

Вяртаючыся дамоў, мы з Людай крыху прыблукалі, бо вакол сосны і катэджы, сярод якіх не разабрацца, дзе можа быць наш…

Крыху адпачыўшы, пайшлі зноў пагуляць берагам мора. Купілі вэнджаную рыбу-іглу, якая была ўчора злоўленая ў моры…

Шмат людзей на роварах. Плануем і мы сесці на ровары і пачаць даследаванне мясцовасці, дзе жывём…

## ПАЛАНГА. ДЗЕНЬ ДРУГІ

*22.07.2013.* Падняліся з ложкаў а дзявятай гадзіне. Выспаліся па-панску…

Сонечна. За вакном сасновы лес і чайкі ў небе, як вялікія белыя матылі…

Сабраліся ў Палангу. Выйшлі на вуліцу і тут жа дробны дождж пасыпаўся, які праз хвілін пятнаццаць суняўся…

Сеўшы ў маршрутны аўтобус, успомнілі, што мы не ведаем, як называецца нашае мястэчка, дзе мы жывём і куды нам трэба будзе вяртацца…

У цэнтры Палангі былі праз хвілін пятнаццаць. Вуліца Вітаўта. Побач касцёл, ён збудаваны ў XVIII стагоддзі на месцы таго, які ў 1554 годзе заснавала Ганна Ягелонка. Завіталі. На адной са сцен гадзіннік з маятнікам, як у нас дома ў Пугачах. На гадзінніку 12 гадзіна 15 хвілін.

Якраз у гэты час аўтобус «Мінск—Пугачы» прыходзіць у вёску...

Вельмі шмат рускамоўных адпачывальнікаў. Спакойныя, і некаторыя, як дзеці, разгубленыя. Няма таго, што раньш было...

Пайшлі мясцовым «Брадвеем». Кавярні, кавярні, кавярні. Месцамі надпісы дублююцца па-руску...

«Брадвей» вядзе да мора і пірса. Вецер з мора вар'яцкі. Людзі з пірса вяртаюцца ўскудлачаныя, нібыта толькі што вырваліся з абдымкаў не самага гжэчнага гаспадара...

Пірс вялікі. Вельмі ветрана. Не ўсе даходзяць да сярэдзіны, а тым больш да самага канца. Мы пайшлі.

*ліпень* Навокал мора. Жывое і злоснае. Чаго злуецца? Не ведаю...

Чорны баклан, як чорны змей, нырцаваў і па некалькі хвілін прападаў у марской стыхіі, нібыта хвалячыся сваім бясстрашшам і спрытам...

Вецер мяце пясок, як снег. А на беразе людзі загараюць, нібыта масоўка для фільма пра нейкую будучую рэвалюцыю...

Вяртаемся з пірса і бачым на беразе шэраг лавак, дзе сядзяць людзі, некаторыя захутаныя ў коўдры, і глядзяць на бурлівае мора. Як у тэатры аднаго акцёра...

На мясцовым «Брадвеі» зайшлі ў кавярню. Селі, дзе захацелі. Праз хвіліну падышла маладзенькая афіцыянтка і звярнулася да нас па-літоўску. Зразумеўшы, што мы не літоўцы, паклікала другую: «Эта рускагаваряшчыя...» Нас папрасілі з вуліцы прайсці ў залу. Мы пайшлі. Праз пару хвілін падышла афіцыянтка і пачала па-руску знаёміць нас з меню. Люда адразу загаварыла па-англійску і астатні час нашага абеда быў англамоўны...

Максім, вярнуўшыся з прыбіральні, сказаў: «Мне толькі што прапанавалі метамфетамін. Я адмовіўся!»

Выходзячы з кавярні, ледзьве не сутыкнуўся з велізарным мурынам у квяцістым халаце, як у падзішаха. Мурын быў тоўсты, як ажылы тапелец...

На «Брадвеі» шмат атракцыёнаў. Спыніліся каля тарзанкі. Хлопец дзяўчыну гадоў дзесяці падкідваў угару на метраў дзесяць, а потым, калі яна апускалася, хапаў яе за ногі і адпускаў зноў. Дзяўчынка лётала моўчкі. Гледзячы на ўсё гэта, я сказаў: «Яна ўжо, відаць, мёртвая, раз маўчыць!»

На аўтобусным прыпынку даведаліся, як называецца нашае мястэчка, куды нам трэба вярнуцца. Літоўская назва па-беларуску гучыць як «Вужканава»...

## ПАЛАНГА. ДЗЕНЬ ТРЭЦІ

*23.07.2013.* Раніца. Сонца няма, нібыта ўчора ўвечары яно не пераплыло Балтыйскае мора...

Дрэвы за вакном нагадалі Ракаўскі лес і той час, калі мы адпачывалі ў Доме творчасці «Іслач». Цяпер там дома няма. Дакладней ёсць, але ён нежывы, як і тое, што засталося ў мінулым, як у Ракаўскім лесе...

На дрэве варона. Беларускай мовы не разумее...

Сабраліся ехаць у Палангу. Ідучы на аўтобусны прыпынак, пабачылі маладзенькую вавёрку. Яна выбегла на нашу сцежку. Спынілася, паглядзела на нас і, нібыта, зразумеўшы, што мы прыезджыя, уцякла...

*ліпень*

Максім у Палангу не паехаў. Застаўся ў Вужканаве. А мы паехалі, як на працу...

У горадзе таксама холадна. Людзей меней, чым учора. Ідзём галоўнай вуліцаю. Рускамоўных вельмі шмат. Ходзяць, нібыта заблукалі...

Пайшлі ў батанічны сад, каб паглядзець палац Тышкевічаў, у якім цяпер Музей бурштыну. Дарогаю бачылі сажалкі з дзікімі качкамі і з лебедзямі. Здавалася, што вось-вось з кустоў выйдзе графская ахова і скажа: «Пакажыце, што ў вашых торбах?»

Палац Тышкевічаў, як кавалачак Беларусі...

У бурштыне мухі, павукі і ўсялякія казюркі, як у жоўтай вечнасці, захоўваюцца...

У музеі можна набыць вырабы з бурштыну. Усё дарагое і ніхто пры нас нічога не купіў...

Вяртаючыся да цэнтра, зазірнулі ў дворык каменных скульптур. Нейкае ўсё савецкае...

У будынку старасвецкай аптэкі сучасныя лекі...

Пайшлі на мясцовы «Брадвей», каб паабедаць. Завіталі ў адну кавярню. Афіцыянтка прынесла меню і знікла. Пасядзеўшы хвілін дзесяць, і мы зніклі з кавярні. Зайшлі ў іншую. Тое самае. Літоўцаў абслугоўваюць, а астатнія няхай чакаюць. Мы і гэтую кавярню пакінулі. Зазірнулі ў прасцейшую, дзе і людзей шмат, і кошты меншыя. Дзве афіцыянткі. Дзяўчаты гадоў па дваццаць. Англійскай мовы не разумеюць. Замовілі паесці па-руску...

На «Брадвеі» босы велізарны мурын зноў нешта мне прапаноўваў на літоўскай мове, нашто яму я сказаў: «Адчапіся, хлопец!»

Над Палангай было сонца, як рэклама добрага адпачынку...

Прыехаўшы ў сваю Вужканаву, як звычайна, ішлі дарожкаю, якой на роварах гойсаюць сюды-туды адпачывальнікі, нібыта даганяючы некага ці ўцякаючы. Да нашага жытла было метраў трыста, як раптам нас абагнаў мужчына на ровары, а следам за ім яшчэ тры дзяўчыны. І тут адна з раварыстак сутыкнулася з другой і кулём паляцела з ровара на зямлю. Пазногці ў яе былі пафарбаваныя ў чырвоны колер...

*ліпень*

Паводле слоў Максіма, над нашай Вужканавай сонца не было. А можа, Максім яго не заўважыў...

## ПАЛАНГА. ДЗЕНЬ ЧАЦВЁРТЫ

*24.07.2013.* Дзясятая гадзіна раніцы. За вакном туман, як белы пясок з марскога берага...

З Вужканавы паехалі ў Палангу без асаблівых планаў на дзень. У аўтобусе, які ад нас ідзе да цэнтра горада хвілін пятнаццаць, надумалі павандраваць у Клайпеду, што ў 26 кіламетрах ад Палангі. Запыталіся ў кіроўцы, як дабрацца да Клайпеды, і ён, даведаўшыся, што мы беларусы, на паперы намаляваў нам невялічкі план горада і апавёў, дзе што варта паглядзець. Да ўсяго напісаў па-літоўску, калі будзем блукаць, адрас вакзала, каб мы змаглі яго паказаць людзям і яны нам дапамаглі дабрацца да патрэбнага месца...

Маршруткі да Клайпеды ходзяць адна за адной. Аднак людзей на вакзале было шмат, і мы не адразу змаглі паехаць. З маршруткі Люда заўважыла сваю каляжанку. Яна з сям’ёй прыехала ў Палангу тры дні таму, як і мы...

Праз паўгадзіны былі ў цэнтры Клайпеды. Гэта ўжо горад больш еўрапейскі за Палангу. Дамы шыкоўныя і прыгожыя. На вуліцах людзей няшмат. Працоўны ж дзень. Разявакі турысты сустракаюцца рэдка, але ёсць і яны, амаль усе рускамоўныя...

Сярод машын з літоўскімі нумарамі бачыў за гэтыя дні тры-чатыры з беларускімі, штук пяць-шэсць з расійскімі і адну з нарвежскімі.

Пайшлі ў марскі порт. Ветрана і людна. Бачылі два ваенныя караблі і з дзясятак гандлёвых. Вада ў моры, як

звадзянелая вечнасць, дзе адначасова ёсць былое і будучае...

Чатыры дні ў Літве, і ніводнага разу нідзе не бачылі ні паліцыянтаў, ні вайскоўцаў, нібыта іх зусім тут няма...

Зайшлі ў кавярню. Інтэр'ер музычны. І я ўвесь час чуў музыку, хоць яна і не гучала...

Сёння якраз 26 гадоў, як мы з Людай ажаніліся. У кавярні назамаўлялі чаго хацелася. Максім уздумаў бліны з чырвонай ікрой, якія прынеслі тады, калі ўжо мы добра наеліся. Каб дабро не прападала, мне давялося душыцца блінамі з чырвонай ікрой...

Пагулялі па старой Клайпедзе. Брукаванка, дамы і вузкія вулачкі нагадваюць нашае Траецкае прадмесце. Праўда, нашае прадмесце вельмі маленькае, як цацачнае... *ліпень*

Схадзілі ў кірху. Высокая і прасторная. У ёй на лаўцы сядзела старая і спакойна глядзела перад сабой. Калі пакідалі кірху, бабулі ўжо не было, нібыта яе і не было зусім...

«Станьце! Я вас сфатаграфую на фоне Храма!» — сказаў я Людзе і Максіму і адразу пачуў ад жанчыны, што з мужыком спынілася каля нас: «Вам надо в цірке фатаграфіраваться!» Я схаваў фотаапарат. Жанчына пацікавілася: «Откуды вы?» — «Мы — беларусы!» — адказаў я. «Мой муж беларус!» — усклікнула літоўка і заўсміхалася. Высветлілася, што яе муж Аляксандр выхоўваўся ў Валожынскім дзіцячым доме, а потым жыў у Маладзечне, з якога паехаў у Літву, дзе стаў мараком. Нейкі час жыў у Шатландыі. Развітаўшыся з земляком, я запытаўся ў Люды: «А чаго гэта літоўка сказала, што нам трэба ў цырку фатаграфавацца?» Люда засмяялася: «Ты не дачуў! Яна сказала, што нам трэба ў кірсе сфатаграфавацца!»

На вакзал ехалі аўтобусам № 8. Зайшоўшы ў пярэднія дзверы і пабачыўшы далей пустыя месцы, пайшлі, каб сесці. Селі і адразу ўнюхалі смурод, які ішоў ад мужыка гадоў сарака, што сядзеў сагнуўшыся паблізу, і, трымаючы пачак ад цыгарэт, як замаскаваны перадатчык, гаварыў і гаварыў незразумелыя нам словы, відаць было па ўсім, што ён высочваў шпіёнаў, якія панаехалі ў ягоны родны горад...

Вярнуліся ў нашую Вужканаву а шостай гадзіне. Вецер з мора дзьмуў, і туману ўжо не было...

## ПАЛАНГА. ДЗЕНЬ ПЯТЫ

*25.07.2013.* Сонца няма. Ёсць мора, у якім ёсць вада і агонь, і ёсць рыба, і яна залатая, як сонца, якога няма...

Сёння вырашылі нікуды не ехаць. Стаміліся ад вандровак. Будзем у Вужканаве слухаць музыку мора...

Снілася родная вёска і жывыя мама і тата. Цяпер сумна і трывожна...

З Людай выйшлі на паўгадзіны пагуляць каля мора. І пайшлі басанож, і пайшлі, і пайшлі, і пайшлі... Назад вяртацца было далёка, і мы надумалі берагам мора схадзіць у Палангу...

*ліпень*

На беразе водарасці, як мох з сосен, якія растуць у моры...

Ідзём каля вады, і раптам з прыбярэжных кустоў выбягае мужык і, спыніўшыся ў метрах дзесяці перад намі, распранаецца дагала і павольна заходзіць у мора. «Нейкі нудыст!» — кажа Люда, і мы ідзём далей.

Угледзеўшы на беразе шапік з сукенкамі, Люда папрасіла мяне пабыць аднаму, і я, адышоўшы далей, сеў на лаўку. Сяджу, гляджу на мора і тут чую, як жанчына ў чорным нешта кажа мне па-літоўску. «У чым справа?» — пытаюся і чую: «Здесь женский пляж и вам нечего здесь рассиживаться!» Я ўстаў і пабачыў навокал сябе з дзясятак голых красуняў розных узростаў і камплекцый...

Ад нашага пляжа, каля якога мы жывём, да пірса ў Паланзе кіламетраў пяць. Гэты шлях мы няспешна прайшлі за гадзіну. Я ўвесь час углядаўся ў каменьчыкі, спадзеючыся сярод іх знайсці бурштын, але ўсё знаходзіў коркі ад пляшак і размоклыя жоўтыя цыгарэтныя фільтры...

На мясцовым «Брадвеі» і сёння людна. Каля кавярні, дзе мы першы раз абедалі, тоўстага мурына не было. Быў худы, але ў тым самым халаце ў кветках, што і тоўсты...

Прапусцілі свой аўтобус на 16:20, і, маючы гадзіну да наступнага, Люда пайшла па крамах, а я застаўся з рэчамі на прыпынку. Седзячы сярод літоўцаў, я час ад часу адчуваў сябе літоўцам, які не ведае роднай мовы...

Літоўскія дзяўчаты прыгожыя. І ўсё ж нашыя прыгажэйшыя, і не толькі таму, што яны нашыя...

Узгадаўся драматург Леанідас Яцынявічус, з якім я вучыўся ў Літінстытуце. Гадоў 15 таму ён памёр. Калі

запытацца ў літоўцаў Палангі, ці ведаюць яны свайго драматурга Леанідаса Яцынявічуса, і што ён стварыў, то, думаю, наўрад ці хто б адказаў на гэтае пытанне... На жаль...

Вярнуліся ў Вужканаву а палове шостай. Максім без нас не сумаваў...

## ПАЛАНГА. ДЗЕНЬ ШОСТЫ

*26.07.2013.* Раніца прыйшла нечакана. Мы не паспелі выспацца...

Сёння вырашылі павандраваць у Крэцінга (*літ.* Kretinga) — горад у заходняй Літве, да 1915 года афіцыйная назва Крэцінген (*ням.* Crottingen). Колькасць насельніцтва каля 21,5 тыс. чалавек. З'яўляецца адміністрацыйным цэнтрам Крэцінгскага раёна Клайпедскага павета. Крэцінга адносіцца да этнаграфічнай вобласці Жамойць. Ёсць адным з найболей старажытных гарадоў рэгіёна, першы ўспамін адносіцца да 1253 года, як успамін пра касцёл «Крэцін» Курляндскага біскупства...

*ліпень*

Да Крэцінга ад Палангі 13 кіламетраў. Даехалі вельмі хутка. Хацелі выходзіць на вакзале, але пажылая літоўка, пачуўшы, куды мы едзем, сказала нам не выходзіць, а ехаць далей, і яна нам пакажа дарогу да этнаграфічнага музея і палаца Хадкевічаў...

Білеты недарагія. Этнаграфічны музей невялікі, але ў ім ёсць усё: і вілы, і граблі, і плугі, і нават дзве курыцы...

Палац Хадкевічаў быў пабудаваны на пачатаку XVII стагоддзя. Вельмі шмат карцін. Праўда, большасць — фотакопіі ў каштоўных рамах...

Да палаца ў XIX стагоддзі быў прыбудаваны зімовы сад. Дрэвы зелянеюць, кветкі красуюць. У невялічкім басейне залатыя рыбкі, і на дне літоўскія цэнты. У клетцы адзінокі папугай з выдраным хвастом...

У парку з камянёў і бярвенняў зроблены астранамічны каляндар. Не затравеў, і, значыць, людзі каля яго ходзяць...

Зайшлі на могілкі. Старых магіл мала. Сучасныя помнікі падобныя да нашых, але пераважна без здымкаў памерлых...

У касцёле, што каля могілак, было вянчанне. Пасядзелі, паслухалі. На душы пасвятлела, палягчэла і нагам...

На цэнтральнай плошчы касцёл, які быў пабудаваны ў 1897 годзе. Замкнуты...

Вярнуліся ў Вужканаву. Сонечна і ціха. З-за раварыстаў спакойна не прайсці. Мы ровараў не бяром. Нам і пехатою добра...

На вуліцы нешта гучна затарахцела. Я падумаў, што гэта ляціць верталёт, бо непадалёк ад Вужканавы аэрадром. Вызірнуў на вуліцу: маладая літоўка ў садзе газонакасілкай косіць траву...

## ПАЛАНГА. ДЗЕНЬ СЁМЫ

*ліпень*

*27.07.2013.* Жывём у Вужканаве, як на іншай планеце, дзе існуе жыццё, падобнае да нашага...

З Людай паехалі ў Клайпеду на гарадское свята марака. Максім паленаваўся...

Цэнтральная вуліца стала велізарнай сцэнай усім, хто хоча паказаць сябе. Тут і валейбалісты, і калекцыянеры машын, і музыкі...

Ідучы цэнтральнай вуліцаю, бачылі «манашак» у кароткіх спадніцах і з велізарнымі крыжамі на шыі...

На вежы старой Клайпедскай пошты зазвінелі званы. Пайшлі паслухалі. Зазірнулі ў будынак. Пошта працуе. Памяшканне маленькае і прыгожае...

Чым бліжэй да порта, тым болей народу і шапікаў, дзе можна шмат чаго купіць. Праўда, усё дарагое...

Шмат рускамоўных турыстаў. Увесь час думаю: «Гэта нашыя панаехалі ці расіяне?»

Паром на Куршскую касу ходзіць адзін за адным праз хвілін дваццаць. Білеты танныя. Народу назбіралася шмат. На другім паверсе парома, як на айсбергу, які стаў жалезным...

Адразу пайшлі Куршскай касою ўслед за ўсімі і праз хвілін дзесяць трапілі на вялікі пляж. Народу, як голых лялек у суперкраме. Пясок цёплы, вада сцюдзёная...

Вяртаючыся да паромнага пірса, сустрэлі тых «манашак» у кароткіх спадніцах, якіх бачылі ў горадзе...

Селі на паравозік і паехалі да марскога музея. Я чакаў пабачыць больш, а там розныя жывыя рыбы, марскія коцікі, пінгвіны, каралы і водарасці...

Пінгвіны за шклом выглядаюць так, нібыта не могуць прычакаць, калі на іх перастануць глядзець людзі і яны змогуць заняцца тым, чым хочуць...

Брукаванка пакладзеная так, нібыта спецыяльна, каб разяватыя вандроўнікі ногі павыкручвалі...

На Клайпедскі вакзал вярталіся праз натоўп народу, які святкаваў гарадское свята...

У Вужканаву вярнуліся амаль а сёмай гадзіне. Стомленыя і задаволеныя...

## ПАЛАНГА. ДЗЕНЬ ВОСЬМЫ

*28.07.2013.* Прачнуліся ад таго, што сонца зазірнула і ў наша ваконца...

Сёння вырашылі нікуды з Вужканавы не вылазіць...

Пайшлі да мора. На пляжы народу, як на Камароўцы...

*ліпень*

Мора ціхае, як зацуглянае...

Люда з Максімам купаліся, а я пясок з рукі на руку перасыпаў, думаючы пра пясочны гадзіннік...

Мурашкі бегаюць па пяску, як шпіёны...

Далёка-далёка віднеецца пірс, што ў Паланзе, да якой берагам кіламетраў пяць. І ўсё людзі, людзі, людзі, як морам выкінутыя на бераг тапельцы, сярод якіх ёсць жывыя...

Дзеці з пяску будуюць замкі. Аніводнага беларускага...

На абед купілі марскога акуня і васьмінога. Вяртаючыся да сябе ў катэдж, знайшоў чарапашку Ніндзя. Яшчэ нядаўна Максім з такімі чарапашкамі гуляў. Цяпер нават і ў рукі не ўзяў...

Упершыню паразмаўлялі з гаспадаром нашага жытла. Пытаўся, ці жывы Бяляцкі...

Адпачыўшы, зноў пайшлі на мора. Людзей на беразе, як водарасцяў пад час шторму...

Люда з Максімам купаліся, а я шукаў бурштын. Знайшоў жывога каларадскага жука...

Чайкі на вадзе, як вялікія папяровыя караблікі, што прыплылі з маленства...

Сюды сонца прыходзіць з Беларусі, а знікае ў Швецыі...

## ПАЛАНГА. ДЗЕНЬ ДЗЯВЯТЫ

*29.07.2013.* Паводле сеціўных прагнозаў сёння мусіла быць сонечна і 25 градусаў. Прагнозы не спраўдзіліся. Сонца амаль не было. Гледзячы ў сеціва штодня, я прыйшоў да высновы, што гарачыню тут не прагназуюць, а рэкламуюць. І штодня 30—35 градусаў абяцаюць роўна праз 6-7 дзён...

У Палангу пайшлі берагам мора. Вада халаднейшая, чым учора...

Зноў праходзілі нудысцкія пляжы для мужчын і для жанчын. Голых мужчын было чалавек пятнаццаць, а жанчын — сто пяцьдзясят...

*ліпень*

За кіламетр да пірса звярнулі ўвагу на жанчыну, якая корпалася ў моху, які хвалі выкінулі на бераг. Жанчына шукала і знаходзіла бурштын. Мы спыніліся і таксама пачалі корпацца ў моху. Максім першы знайшоў маленькі драбок бурштыну, потым я, а потым і Люда...

Прайшлі мясцовым «Брадвеем». Заўважылі, што ў мурына, які запрашае ў кавярню, вырасла невялічкая барада...

Вярнуліся дамоў стомленыя і задаволеныя, як дзікія бурштынашукальнікі...

## ПАЛАНГА. ДЗЕНЬ ДЗЯСЯТЫ

*30.07.2013.* Усю ноч гаспадарыла навальніца. Здавалася, што наш дом — карабель, які заблукаў у кіпучым вогненным моры...

Люда з Максімам паехалі з гаспадаром нашага жытла ў Клайпеду ў «Акрапаліс», а я застаўся дома слухаць шум дажджу...

Прачытаў «Каляндар Бахарэвіча», у якім ён напомніў, што «ў ноч з 30 на 31 ліпеня 1991 года паміж трыма і шасцю гадзінамі раніцы ў літоўскі памежны пункт каля Меднікаў уварваліся некалькі ўзброеных чалавек загадалі ўсім легчы на падлогу і стрэламі ў патыліцы забілі шэсць літоўскіх службоўцаў». Узгадалася, што якраз у 1991 годзе на пачатку жніўня я і Люда з навучэнцамі ліцэя імя Якуба Коласа ездзілі на экскурсію ў Вільню. Праязджаючы літоўскі памежны пункт каля Меднікаў, бачылі абгарэлы вагончык, у якім былі забітыя літоўскія памежнікі. Было

страшнавата і асабліва неспакойна, калі ў нас правяралі пашпарты памежнікі ў масках і з аўтаматамі...

У праваслаўных людзі — рабы Божыя, а ў католікаў — дзеці Божыя...

Неўзабаве абед, а навальніца, якая пачалася ўчора ўвечары, яшчэ не заціхла.

Дождж час ад часу то драбнее, а то ізноў лье як з вядра...

Сяджу пад дажджавым арыштам...

У «Нёмане» (№ 6) уражанні Генадзя Аўласенкі ад прачытання майго «Пугачоўскага цырульніка». Напісана, быццам я сам пра сябе напісаў...

А чацвёртай гадзіне вярнуліся Люда і Максім з «Акрапаліса». Купілі, што хацелі. Дождж скончыўся... *ліпень*

З Людай пайшлі да мора шукаць бурштын. Мора злое, як у казцы пра рыбака і залатую рыбку...

У лесе нарасло сыраежак. Ніхто не збірае, бо не бурштын...

Вечар. У лесе каля мора стракочуць конікі, як у майстэрні, дзе робяцца ўпрыгожванні з бурштыну...

Зорак у небе няма. Яны сталі бурштынам і цяпер у моры...

На вуліцы загаўкаў сабака, і я ўспомніў родныя Пугачы, дзе ў нас быў сабака, дзе былі мае бацькі, дзе быў я і мае мары пра вандроўкі...

Мора гудзіць, як армада самалётаў, якія гатовыя ўзляцець, але загаду на ўзлёт усё няма і няма...

## ПАЛАНГА. ДЗЕНЬ АДЗІНАЦЦАТЫ

*31.07.2013.* З Людай паехалі ў Палангу. З'явілася сонца. Адразу на душы павесялела...

Пайшлі ў батанічны сад на гару Біруты. На ёй было язычніцкае капішча, з якога Кейстут выкраў жрыцу Біруту. Яна, стаўшы жонкай князя, нарадзіла сына, які стаў Вітаўтам Вялікім...

З гары Біруты спусціліся да мора. Ішлі басанож берагам і любаваліся белапеннымі хвалямі...

Гаспадар угаварыў пакатацца на роварах. Пакаталіся. Жывыя...

ЖНІВЕНЬ

## ПАЛАНГА. ДЗЕНЬ ДВАНАЦЦАТЫ

*1.08.2013.* Гаспадар нашага жытла Віктар завёз нас у Клайпеду на паром. Пераправіўшыся на Куршскую касу, мы селі ў аўтобус «Клайпеда — Ніда». Да Ніды 55 кіламетраў. Прыдарожныя мясціны парослыя соснамі, бярэзнікам, непралазным кустоўем, зноў сосны высокія, каржакаватыя, сухія, пясчаныя горы, на якіх пажаўцелая трава. Праехаўшы некалькі курортных паселішч, праз гадзіну трапілі ў Ніду. Шмат замежнікаў, асабліва немцаў. Зазірнулі ў Музей бурштыну. Нічога незвычайнага. У гістарычным музеі зноў бурштын. Не абмінулі могілкі і Храм. Крыжы драўляныя і выразныя, як днушкі, на якіх кроящь хлеб. Да Музея Томаса Мана падымаліся лесвіцаю, як на неба...



Музей вялікі, але рэчаў мала. Два бюсты, крэслы, сталы пустыя і здымкі на сценах за шклом, як за мінулым часам...

Немцы ў музеі размаўляюць гучна, як гаспадары, і глядзяць на нас, як на немцаў. Мы глядзім на немцаў і ўсміхаемся, нібыта ўсё разумеем, што яны кажуць...

Абышоўшы музей і крыху спусціўшыся лесвіцаю, селі на лаўцы, каб перакусіць. Калі мы елі булачкі з ёгуртамі, паўз нас праходзіла група пажылых немцаў, і сівая немка, прыпыніўшыся каля нас і гледзячы на мяне, сказала ўсміхаючыся: «Томас Ман!» — «Томас. Томас...» — паўтарыў я...

Вярталіся ў Палангу з Томасам Манам...

## ПАЛАНГА. ДЗЕНЬ ТРЫНАЦЦАТЫ

*2.08.2013.* Прачнуліся а дзявятай гадзіне. Сонечна. Паелі. Селі на ровары і паехалі ў Палангу. Дабраліся хутка. Па горадзе не адважыліся рухацца, бо вельмі шмат пешаходаў-разявак і раварыстаў...

Хадзілі да мора. Сядзелі на пяску, а мора ўсё спрабавала і спрабавала выпаўзці як мага далей на бераг і дабрацца да нас...

Прызвычаіліся да гаспадароў і, здаецца, яны прызвычаіліся да нас...

Катоў не відаць. Сям-там на слупах вісіць абвестка: «Прапаў кот...»

Часам марская вада, якая выплюхваецца на бераг, падобная да вады з балеі, у якой толькі што памылі бялізну...

Некаторыя берагам мора ходзяць, нібыта шукаюць, дзе б тут утапіцца...

Некалькі разоў гаспадар казаў, што нашыя продкі жылі ў адной дзяржаве, а цяпер мы асобна і таму ў нас, беларусаў, няма свайго мора...

Неўзабаве дамоў і гэта не радуе. На жаль, усё добрае канчаецца. Праўда, канчаецца і дрэннае...

*жнівень*

## ПАЛАНГА. ДЗЕНЬ ЧАТЫРНАЦЦАТЫ

*3.08.2013.* Зранку неба чыстае, як вада марская, дзе сонца, як велізарны кавалак бурштыну...

На роварах ездзілі ў Палангу. Не пабаяліся гойсаць па горадзе і па пірсе. Словам, прыжыліся...

Купаліся. Цэлую гадзіну праплюхаўся ў моры, як дзіця, якое засталося без бацькоўскага нагляду...

Пясок як рассыпаная манка...

Другі дзень далёка ад берага стаіць вялікі карабель, нібыта сочыць, каб ніхто з прыезджых не ўцёк у Швецыю...

Сыраежак ніхто не збірае, і яны, велізарныя, стаяць у траве, як антэнкі...

На сцежках шышкі, як ракавінкі, з якіх выкалупаны бурштын...

Човен пад белым ветразем, як радок для белага верша...

Лес і мора прыгожыя. Ніхто не малюе...

Мора прыціхла, нібы прыслухоўваецца, каб зразумець, пра што мы размаўляем...

За дзень накупаліся, нахадзіліся, на роварах наездзілі па кіламетраў дваццаць пяць. Стомленыя і задаволеныя збіраем валізы. Заўтра вяртаемся ў Беларусь, якая блізка і далёка...

## ПАЛАНГА. ДЗЕНЬ ПЯТНАЦЦАТЫ

*4.08.2013.* Усталі раней і пайшлі развітацца з морам. А яно нам на добрую памяць навыкідвала на бераг бурштыну. Бурштын дробны, але ж бурштын...

Як у дзень прыезду ў Вужканаву, на беразе мора каля вады знайшоў адзін цэнт. Літоўцы кажуць, што гэтыя капейкі не толькі не маюць каштоўнасці, але і не тонуць у вадзе...

Доўга глядзеў у мора, як у душу літоўскую...

Развітваючыся з Віктарам і Рэгінай, прыемна было пачуць, што мы ў іх былі найлепшыя жыхары...

У Паланзе перад дарогай з Людай схадзілі ў касцёл. Там было вянчанне. Пасядзелі, паслухалі, нібыта паўдзельнічалі ў вяселлі...

Едучы да мяжы, амаль увесь час глядзеў у вакно. Нічога не бачыў, апрача дарожных слупоў з пазнакай: колькі кіламетраў праехалі і колькі засталося да Беларусі...

*жнівень*

Ад нашага суправаджаючага з турыстычнай фірмы даведаліся, што наш гаспадар Віктар быў капітанам і шмат гадоў хадзіў у мора...

Праз усю Літву ад Балтыйскага мора да мяжы ехаў у Беларусь, думаючы пра Беларусь. І прыехаў у «пункт пропуску “Каменны Лог”»...

Хвілін пятнаццаць наш аўтобус стаяў пярэднімі коламі на тэрыторыі Беларусі, а заднімі на тэрыторыі Літвы. У гэты час два невялічкія сабакі бегалі адзін за адным то ад літоўскага памежнага слупа да беларускага, то ад беларускага да літоўскага. «Для іх ніякіх межаў няма...» — думаў я, гледзячы на памежныя слупы.

Перад намі мяжу праязджаў маршрутны аўтобус «Калінінград — Мінск». У час стаянкі з аўтобуса выйшла размяць ногі і пакурыць некалькі маладзёнаў і жанчын. Сярод іх я заўважыў шмат каму вядомага Валерыя Шчукіна. Ён хадзіў сюды-туды каля аўтобуса, заклаўшы рукі за спіну, нібыта выпушчаны з турэмнай камеры на шпацыр...

Дарогу праз ноч ад Каменнага Логу на мяжы да Каменнай Горкі ў Мінску праехалі за дзве гадзіны...

**х**

*5.08.2013.* Вяртаючыся з Палангі ўначы, усю дарогу ад мяжы не мог зразумець, дзе мы праязджаем, і толькі калі пад’ехалі да Ракава, па Ракаўскіх могілках, дзе пахаваныя бацькі, адчуў сваё месцазнаходжанне ў гэтым свеце...

**х**

*6.08.2013.* Другі дзень на працы пасля адпачынку, і да мяне сёння была чарга пісьменнікаў, як чарга пенсіянераў у сабесе...

**х**

*6.08.2013.* Толькі хацеў выйсці паабедаць, як да мяне завітаў Сяргей Вераціла. Увесь у чорным і сам загарэлы, як камбайнер. Казаў, што гэты год арэхавы, таму ні грыбоў, ні бульбы не будзе. Я падараваў Сяргею свайго «Пугачоўскага цырульніка» і паказаў яму ў кніжцы запіс, дзе напісана пра яго, і мы разышліся як у моры караблі. Сяргей пабег на цягнік, каб вярнуцца да маці, а да мяне завітаў яшчэ адзін паэт, які нядаўна пасля працы ў міліцыі выйшаў на пенсію і «разабраўшыся ў Мандэльштаме» цяпер піша вершы і хоча выдаць кніжку, бо «людзям няма чаго добрага пачытаць»...



**х**

*7.08.2013.* Стаміўся ад пісьменнікаў, як ад ваўкоў у авечых скурах...

**х**

*7.08.2013.* Патэлефанаваў Віктару Казько і павіншаваў з выхадам кнігі «Бунт незапатрабаванага праху». Сёлета гэта ўжо другая выдадзеная кніга пісьменніка з пазнакай выдавецтва «Мастацкая літаратура». Віктар Апанасавіч цяпер крыху прыхварэў, і таму, спадзяюся, мая навіна для яго будзе добрымі лекамі...

**х**

*8.08.2013.* На сённяшні ранак меў дамову з Адамам Глобусам, што ён зойдзе да мяне і забярэ сігнальны экзэмпляр кнігі Вячаслава Адамчыка «Песня». За гадзіну да сустрэчы патэлефанаваў Валодзя і сказаў, што не можа прыйсці — а трэцяй гадзіне раніцы памерла маці. Праз паўгадзіны Глобусператэлефанаваў і папрасіў мяне пабыць на працы, бо хоча ўзяць кніжку. Прыйшоў. Увесь у чорным. У вачах сусветная самота. Ніна Уладзіміраўна чакала кніжку і не дачакалася некалькі гадзін, але пра тое, што кніжка выйшла ёй сказала ўнучка Ядзя. «Цяпер,

Віця, мы з табой поўныя сіроты»,— развітваючыся, сказаў Валодзя і пайшоў з бацькавай «Песняй» да маці...

**х**

*8.08.2013.* Каму горача, а каму гора...

**х**

*8.08.2013.* З пяску, абсыпанага шыльнікам, павылазілі грыбы, як цвікі з рассохлых дошак...

**х**

*жнівень*

*8.08.2013.* Хадзіў з Людай у Нацыянальны мастацкі музей на святкаванне 60-годдзя дырэктара музея Уладзіміра Пракапцова. Урачыстасці пачаліся а 8 гадзіне 8 хвіліне і 8 секундзе. Сабралася чалавек сто, але начальства было болей, чым людзей, і здавалася, што канца выступам не будзе. Ды не! Пасля васьмі віншаванняў Уладзімір Іванавіч прапанаваў усім выпіць шампанскага, і тут жа амаль усе пайшлі частавацца. Мы з Людай напачатку зайшлі ў залу, дзе віселі карціны Пракапцова. Там такіх, як мы, было чалавек пятнаццаць. Работы Пракапцова падобныя да самога Пракапцова...

## МАЦІЕВІЧ І МУЗЕЙ

*8.08.2013.* Я пазнаў яго адразу. Ён быў у джынсавым паношаным, даўно не мытым гарнітуры і з торбай у руцэ. Мы з ім не бачыліся гадоў пяць, і я думаў, калі яго сустрэну, то жахнуся, бо колькі разоў чуў ад знаёмых, што ён цяпер выглядае, як бомж. Ды не. Да бамжа яму яшчэ далекавата, але і не так далёка. Алег няспешна падышоў, спыніўся і, разглядаючы мяне, пачухаў сабе патыліцу, якая хавалася ў доўгіх валасах. «Што, не пазнаеш?» — запытаўся я. «Пазнаю, Віця»,— без асаблівых эмоцый прамовіў мастак і пачаў мяне абдымаць. Ад Алега я даведаўся, што цяпер ягоная майстэрня над «Акіянам», дзе раней былі Селяшчук і Тоўсцік. Дамовіліся па нейкім часе сустрэцца, тады Алег мне пакажа свае новыя працы. Я хацеў запытацца: «Ты прыйшоў віншаваць Пракапцова?», але па выглядзе мастака зразумеў, што ён у Нацыянальны мастацкі музей прыйшоў проста выпіць...

**Х**

*9.08.2013.* Многія начальнікі, перастаўшы быць начальнікамі, не становяцца людзьмі…

**НЯСВІЖ**

*10.08.2013.* З супрацоўнікамі выдавецтва ездзіў у Нясвіж на экскурсію. Нашая дарога пачалася з дажджу, пад які трапілі амаль усе, таму ў аўтобусе мокрым напачатку было неяк няўтульна, але неўзабаве мы сагрэліся, і да ўсяго вызірнула сонца…

Поўна турыстаў, нібыта ўсе дарогі вядуць у Нясвіж…

Ідучы дарогаю да палаца, якой Радзівілы, бывала, на забаву ўлетку ездзілі ў санях па солі, думаў пра соль, якая ляжыць пад асфальтам… *жнівень*

Хадзілі па абарончых валах за экскурсаводам, як яўрэі за Маісеем па пустэльні…

У былой радзівілаўскай стайні пакуль што гатэль…

У двары палаца, як у іншым свеце і ў іншым часе, дзе забываешся, што ў Беларусі цяпер выразаюць свіней…

Вандроўка па палацы, быццам сон, які нечакана прысніўся, і ты ў гэтым сне, як малое дзіця, ходзіш, разінуўшыся, разглядаючы пакоі, у якіх жылі нашыя Радзівілы…

Парк каля палаца, як зачараванае радзівілаўскае войска, якое ахоўвае сваіх уладароў…

У касцёле ў сутарэннях стаіць семдзесят трунаў з Радзівіламі. Тут мёртвыя больш жывейшыя, чым амаль усе мы, жывыя…

Вярталіся з Нясвіжа, нібыта з XIX стагоддзя, дзе была, ёсць і будзе радзівілаўская Беларусь…

**Х**

*11.08.2013.* Патэлефанаваў Алесь Квяткоўскі і запрасіў у майстэрню паглядзець на новыя працы. Я пайшоў з Людай. На мальберце і побач стаялі два партрэты аголенай маладзенькай красуні. Гэта былая Алесева вучаніца, якая пабралася з заможным масквічом і цяпер захацела свайго адлюстравання на палатне. Думаю, партрэты дзяўчыне і яе жаніху спадабаюцца. Ад Алеся даведаліся, што зусім захварэў мастак Фёдар Ястраб. Захварэў так, што нават ужо напісаў запавет…

## ГЛЕБКА І ВЕРШЫ

*12.08.2013.* Паўгода таму дачка Пятра Глебкі прынесла вялікі трохтомавік твораў свайго бацькі (выйшаў у 1969 — 1971 гадах накладам кожны том па 7600 асобнікаў) з просьбай пачытаць і па магчымасці запланаваць хоць невялічкую кніжку ў серыі «Беларуская паэзія XX стагоддзя», бо ўжо больш за сорак гадоў паэт не выдаваўся. Сёння ніхто з пісьменнікаў да мяне не прыходзіў, і я змог пачытаць Пятра Глебку. Чытаў доўга і знайшоў толькі адзін класічны верш, які вядомы многім з нас яшчэ са школы.

*жнівень*

*Ноч. Халодная зямлянка.*
*Перастрэлка. Цішыня.*
*Неба чыстае, як шклянка.*
*Тупат быстрага каня...*

І яшчэ адсоткаў дваццаць — вершы, якія могуць больш-менш паэтычна прадстаўляць асобу паэта, а ўсё астатняе — гэта рыфмаванкі пра камсамол, партыю, савецкі лад і г. д. Сярод нядрэнных вершаў ёсць і перапевы Багдановіча, Труса і яшчэ некаторых паэтаў, якіх ужо не было на свеце, калі свае творы пад іх пісаў Пятро Глебка...

## Х

*12.08.2013.* Сніўся чарнявы кучаравы паэт. Прыйшоў да нас да хаты. Сеў на канапу і пачаў паміраць. Я выклікаў «хуткую дапамогу». Пакуль дактары ехалі, паэт памёр і высах, як мумія. Я ўзяў бінт і абкруціў паэта з ног да галавы. Кучаравую галаву не забінтаваў, і паэт стаў падобны да паходні, якая гарыць чорным агнём...

## ВІЛЫ

*13.08.2013.* Вілы заўсёды былі каля хлява, каля гною. Цяпер у хляве няма гною, няма і вілаў...

## Х

*13.08.2013.* Быў на Вайсковых могілках, дзе ўдзельнічаў у памінальным мітынгу і ўскладанні кветак да помніка Якубу Коласу. Людзей сабралася, як заўсёды, не мала, але і не шмат. Прыйшлі пісьменнікі (восем чалавек), родныя сям'і паэта, а таксама навукоўцы і супрацоўнікі

музеяў сталіцы. Перад пачаткам выступаў на помніку правае вока Якуба Коласа было зацягнута павутой, у якой трапятаў жоўты лісток, як агеньчык свечкі. Пад час мітынгу наляцеў вецер, падраў павуту і вызвалены лісток узляцеў над могілкамі...

**х**

*14.08.2013.* Сёння меў магчымасць за кампанію схадзіць у Музей Петруся Броўкі, у якім ні разу не быў, але не пайшоў. Не пахла чаборам...

**х**

*14.08.2013.* Шараговыя кучкуюцца, як крапіва каля плота. Геніі адзінокія, як прыдарожныя крыжы... *жнівень*

**х**

*14.08.2013.* Паланга... Мора... Балтыйскі паланэз...

**НА «ВЕЧАРЫНЦЫ Ў ПАЎЛІНКІ»**

*15.08.2013.* Па запрашэнні супрацоўнікаў Музея Янкі Купалы ездзіў у Радашковічы, дзе ў мясцовым цэнтры культуры і адпачынку ўдзельнічаў у «Вечарынцы ў Паўлінкі» з нагоды 100-годдзя пастаноўкі п’есы Янкі Купалы ў Радашковічах...

У 1913 годзе Янка Купала перадаў тэкст п’есы драматычнаму гуртку ў Мінску. Заснавальнікамі гэтага калектыву былі Фларыян Ждановіч, Ігнат Буйніцкі і Алесь Бурбіс. Яны меркавалі адкрыць у Мінску беларускі прафесійны тэатр, але афіцыйныя ўлады не далі дазволу. Драмгурток пад кіраўніцтвам Ф. Ждановіча паставіў «Паўлінку», але пастаноўка была забароненая. Толькі дзякуючы намаганням Аляксандра Уласава і самога Купалы быў атрыманы дазвол на паказ спектакля ў Радашковічах, які адбыўся 15 жніўня 1913 года ў будынку мясцовай пажарнай дружыны. Гэта была прэм’ера «Паўлінкі» на беларускай зямлі. Так Радашковічы, разам з Вільняй і Санкт-Пецярбургам, увайшлі ў тройку першых мясцінаў, дзе была пастаўленая п’еса Песняра...

Ад маіх Пугачоў да Радашковіч недзе кіламетраў дваццаць. Думаю, што ў 1913 годзе хоць адзін мой аднавясковец быў на прэм’еры «Паўлінкі»...

З Радашковіч мой дзед Іосіф Іванавіч ішоў на вайну з немцамі... З Радашковіч мой бацька Анатоль Іосіфавіч ішоў служыць у войска... У Радашковічы я ўпершыню прыехаў, калі мне было васямнаццаць. Прыехаў з Мінска аўтобусам, каб потым пехатою ісці ў родную вёску. Электрычкаю не паехаў, бо помнілася нядаўняя жудасная аварыя з чалавечымі ахвярамі на станцыі Крыжоўка. На маё пытанне: «Як тут дайсці да Пугачоў?» — мне адказалі, што напачатку трэба дайсці да станцыі Радашковічы, а гэта дванаццаць кіламетраў. Я хуценька сеў назад у аўтобус і вярнуўся ў Мінск...

*жнівень*

Міхась Казлоўскі сказаў: «Калі б чыгунку праклалі праз Радашковічы і побач з Маладзечнам, то сёння ў Маладзечне жыло б, як цяпер у Радашковічах, шэсць тысяч жыхароў, а ў Радашковічах, як у Маладзечне — сто тысяч». І Вязынка, дзе нарадзіўся Купала, была б у межах горада Радашковічы. Ну а да маіх Пугачоў было б ад Радашковіч кіламетраў пяць. І я сёння, хутчэй за ўсё, жыў бы ў горадзе Радашковічы, а не ў сталіцы...

Музей Янкі Купалы адкрыў выставу «Янка Купала і тэатр», правёў творчую сустрэчу з акцёрамі Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы Марыяй Захарэвіч і Паўлам Яскевічам, а фальклорныя калектывы «Гуда» і «Рада» падаравалі ўсім прысутным музыку і спевы, якія гучалі сто гадоў таму, і без якіх не праходзіла ніводная беларуская вечарынка...

З Міхасём Казлоўскім, Анатолем Бутэвічам, Пятром Васючэнкам і ягонай жонкай схадзілі ў касцёл Найсвяцейшай Тройцы. Ксёндз нам падараваў буклецікі, у якіх напісана: «Упершыню г. п. Радашковічы ўпамінаецца ў 1447 годзе ад рыма-каталіцкага касцёла Святой Тройцы. Фундатар касцёла Пётр Гедыгольдавіч, смаленскі намеснік. Першы касцёл быў збудаваны з дрэва. У 1734 годзе касцёл быў адрамантаваны. Неўзабаве пажар знішчае будынак касцёла. Намаганнямі ксяндза Жылінскага быў закладзены ў 1855 годзе краевугольны камень на будову цяперашняга касцёла. Кансэнкрацыя новазбудаванай святыні адбылася ў 1859 годзе біскупам Жылінскім. Колькасць парафіянаў: католікаў — 883, праваслаўных — 200, яўрэяў — 1160. Як апавядалі старэйшыя парафіяне, паны прыязджалі да святыні на Св. Імшу, слугі з калёсамі і фурманкамі стаялі на вялікім пляцы

перад касцёлам. Па сканчэнні Св. Імшы, шляхта збіралася на спатканні, а слугі праводзілі продаж, абмен тавару, прывезенага з сабой. На жаль, час камуністычнага рэжыму зрабіў сваё. Плошчу перад касцёлам забудавалі, а невялікую частку забралі ў маёмасць керамічнай фабрыкі. Прыканцы пяцідзясятых — пачатку шасцідзясятых касцёл быў забраны пад керамічную фабрыку. Быў збудаваны другі паверх, пастаўленыя варштаты для прадпрыемства. Па прадукцыі ўтворанага цэха ў будынку святыні (рабілі свечкі парафінавыя), можна сказаць, што будынак не згубіў свайго духоўнага прызначэння. (...) У гэтай святыні 12.07.1882 года атрымаў сакрамент Св. Хросту выдатны беларускі пісьменнік Янка Купала, які пражываў са сваімі бацькамі непадалёку ў Вязынцы. У касцёле ёсць маленькая каплічка з цудоўным святым абразам Маці Божай Вастрабрамскай, які вернікі называюць «Абраз — слаўны Божымі Ласкамі». Штонядзелю а 18-й гадзіне правіцца Імша, пад час якой вернікі складаюць свае просьбы перад цудадзейным абразам».

*жнівень*

**Х**

*17.08.2013.* Ездзіў у Пугачы. На жаль, адзін...

Ідучы з аўтобуса, здалёку ўглядаўся: «Ці стаіць хата?»

У двары і ў агародзе ўжо восеньскія колеры і парадкі. Яблыкі ў траве самотныя — ніхто не падымае...

Гадзіннік цікае па-гаспадарску...

Скошаны за хлевам дзядоўнік знасіў у купу і спаліў. Узгадалася, што ў апошні год жыцця ў вёсцы бацька вынес з хлява салому і падпаліў. Суседзі злаваліся, баючыся пажару. З усмешкай падумаў: «Бацька паліў, а цяпер і сын паліць! Абое рабое!»

Дзядзька Шура (бацькаў стрыечны брат) навастрыў мне косы. Казаў, каб, прыехаўшы, не абміналі яго хату, завіталі ў госці. Дзядзьку 71 год...

Заходзіў сусед. Тыдзень таму, калі загадалі парэзаць усіх свіней, ён зарэзаў кабана, а двух парасят пакінуў. Пасля інсульту сусед працуе вартаўніком.

Куды ні гляну, усюды бачу маму і бацьку...

На аўтобусным прыпынку было чалавек дзесяць аднавяскоўцаў і ніводнага знаёмага...

Дамоў ехаў з нябачнымі бацькамі, якія выйшлі ў Ракаве...

**х**

*18.08.2013.* Два тыдні як вярнуліся з Палангі. Цела тут, а душа то з чайкамі каля мора, то ў родных Пугачах...

**х**

*19.08.2013.* Ужо тыдзень штоноч сніцца бацька. Сёння з усёй нашай размовы запомнілася бацькава: «Есці хачу!» Схадзіў у царкву і замовіў абедню...

**х**

*жнівень*

*19.08.2013.* Не кладзіцеся пад цягнік. У яго і так колы змазаныя...

**х**

*20.08.2013.* Замест таго каб спакойна працаваць на сваіх месцах, пачынаем высвятляць, хто з нас больш любіць Бацькаўшчыну і каго як купляюць...

**х**

*20.08.2013.* Бомж быў чорны, як мурын. Ён еў белае марозіва і запіваў чырвоным вінам, раз-пораз выкрыкваючы: «Глядзіце! Я не п'ю! Я ем і запіваю!»

**х**

*20.08.2013.* Учора ў Дубровах у возеры каля спіртзавода дзеці знайшлі мясцовую мастачку Яўгенію Васілеўскую, якая нарадзілася ў Пугачах 3 ліпеня 1928 года. Да апошніх дзён жыцця яна малявала родныя краявіды і дарыла школе і знаёмым. Узгадалася Алена Кіш, якая малявала дываны. Увосень 1949 года яна была знойдзеная мёртвай у рове з вадой...

**х**

*21.08.2013.* Горача. Мама з бацькам сядзяць на лаўцы каля хаты. Па двары ходзяць куры. У хлеўчыку рохкаюць свінні. У агародчыку квітнеюць кветкі, над якімі гудуць пчолы. Бацькі размаўляюць паміж сабой... Я расплюшчваю вочы... Горача...

**х**

*21.08.2013.* Дуброўская мастачка Яўгенія Васілеўская, якую два дні таму знайшлі дзеці ў возеры, пры жыцці малявала абразы для царквы і касцёла. У царкве яе абразы бацюшка даўно памяняў на куплёныя, а ў касцёле і цяпер вісяць. Сёння мастачку адпяваў ксёндз, бо праваслаўны бацюшка адмовіўся, сказаўшы: «Яна, магчыма, жыццё скончыла самагубствам...»

**х**

*22.08.2013.* Год таму ў гэты дзень я адвёз бацьку ў Ракаўскую бальніцу. Едучы з Мінска, бацька ўсю дарогу казаў пра тое, што лета канчаецца, неўзабаве восень, а там і зіма. Бацька памёр у Ракаўскай бальніцы 25 снежня...

*жнівень*

**х**

*23.08.2013.* З самага ранку запісваўся на тэлеканале «Беларусь 3» для перадачы «Пра літаратуру». З вядоўцамі Таццянай Сівец і Стэлай Чырковай гаварылася лёгка і з натхненнем. Пасля мяне на запіс прыехаў Алесь Бадак, які, пабачыўшы Таццяну, сказаў тое, што я толькі думаў: «Прыгажуня! Прыбраная, як нявеста...»

**х**

*23.08.2013.* Нашаптана сённяшнім дажджом і залатой лістотай, якой ішла прыгажуня:

*З яе рук матылі вылятаюць*
*І лятуць, і лятуць, і лятуць.*
*А куды — матылі і не знаюць,*
*Бо галоўнае зараз — жывуць.*
*І ніхто іх не бачыць прыгожых,*
*Апрача прыгажуні самой,*
*Што сабой упрыгожыла ложак,*
*Да мужчыны зайшоўшы ў пакой...*

**х**

*23.08.2013.* Тэлефанаваў Андрэй Федарэнка. Прыемна было пачуць, што ён чытаў мае запісы пра Палангу, як «найцікавейшы раман»...

**x**

*23.08.2013.* Наша выдавецкая машына стаіць пад вялікім навесам, дзе паркуюцца іншыя машыны з нашага дома і дзе можна трапіць праз чорныя хады ў крамы, што на праспекце Пераможцаў. Сёння з кіроўцам пайшоў на стаянку, каб выбрацца па справах у горад. Адразу паехаць не змаглі — прабітае кола. Пакуль Уладзімір Арнольдавіч займаўся рамонтам, я вырашыў разгледзець, што тут робіцца ў змроку. На трубе цеплатрасы заўважыў грудастую жанчыну гадоў пад пяцьдзясят. Каля яе круціліся пяць бамжоў. Неўзабаве з'явіліся яшчэ два. Яны прынеслі грошы. Пералічыўшы, трое пайшлі па выпіўку, астатнія працягнулі нешта лапатаць каля жанчыны, якая сядзела на трубе, як на троне...

*жнівень*

**x**

*25.08.2013.* Мамінай сястры Шурцы ў гэтым месяцы споўнілася 90 гадоў, а ў які дзень — ніхто не ведае. Жыве яна ў вёсцы Татары, што ў трох кіламетрах ад Пугачоў. Усё збіраюся схадзіць да цёткі і ніяк не збяруся. Калі я да школы жыў у Лягезах, то і цётка Шурка выхоўвала мяне. Памятаю, як яна прыходзіла да нас у госці ў Пугачы, а я потым яе далёка праводзіў і, развітаўшыся, падоўгу не вяртаўся дамоў, бо плакаў, успамінаючы сваё жыццё ў Лягезах, дзе мне было добра з бабуляй Ганнай, цёткамі Аляй, Шуркай і дзядзькамі Ванем і Віцем...

**x**

*25.08.2013.* Сяджу дома, як карась у гразі...

**x**

*26.08.2013.* З Барысам Пятровічам, ягонай Людай і Сяргеем Харэўскім ездзіў у вёску Маркава Маладзечанскага раёна, дзе нарадзілася Таццяна Сапач. Сёння ёй было б 51. Як і летась, прыехала шмат сяброў Таццяны і Сяргея Дубаўца. Сабраліся каля школы, дзе працуе жонка брата Таццяны Ларыса Сапач, а потым паехалі на могілкі. Помнік зроблены Генікам Лойкам. Пасля малітвы і ўскладання кветак паехалі ў школу, дзе адбылася вечарына. Вёў Сяргей Харэўскі. Міхась Казлоўскі прэзентаваў «Куфэрак Віленшчыны» № 15, які прысвечаны Таццяне. Выступілі Барыс Пятровіч, Ірына Дубянецкая,

Вольга Цярэшчанка, Кася Камоцкая, Сяргей Дубавец і я. Сяргей абяцаў, што на наступную вечарыну прывязе кнігу з творамі жонкі, якія ў сваёй большасці яшчэ не друкаваліся. Потым была жалобная вячэра ў хаце брата Таццяны. Хораша паразмаўлялі і пра Таццяну, і наагул пра нашае цяперашняе жыццё-быццё. Вярнуўся дамоў а сёмай гадзіне. І цяпер у маёй душы ўсе нашыя размовы каля магілы, у школе, у братавай хаце зліліся ў адно цэлае, падобнае да пошуму ветру, які варушыць маленечкі дубок (усяго ў тры лісткі), што гэтай вясной вырас каля магілы Таццяны Сапач...

**x**

*жнівень*

*27.08.2013.* Ён высмоктваў з пальца стрэмку, каб ёю запарушыць вока камп'ютару...

**x**

*27.08.2013.* Першы восеньскі дождж пахне танным яблычным віном...

**x**

*27.08.2013.* Прайшла навальніца, як вечнасць прайшла...

**x**

*28.08.2013.* Калі цябе не заўважаюць або зневажаюць, дык значыць гэта некаму патрэбна...

**x**

*28.08.2013.* Поўня, як клубок залатых нітак, што выпаў з маміных рук...

**x**

*28.08.2013.* Хочацца, каб мама і бацька былі разам і ў небе...

**x**

*29.08.2013.* Восень, як бульбіна, коціцца з дзіравага кошыка часу...

**x**

*30.08.2013.* Сонца, як ліст залаты на вакне, за якім цяпер жывуць мае бацькі...

## ВЕРАСЕНЬ

х

*2.09.2013.* Хварэю і ўсё навокал, як хворае...

х

*3.09.2013.* Снілася Вужканава. Сосны і шум Балтыйскага мора. Прачнуўся. За вакном змрочна і дождж, як хвароба, на якую трэба перахварэць, каб трапіць у восень...

**х**

*4.09.2013.* Хварэю. Сяджу ў пакоі перад вакном, як у велізарным акварыуме, у якім поўна ўсяго, а вады няма...

*верасень*

**х**

*4.09.2013.* Белы маладзік, як шкарлупіна яйка, з якога вылупіўся восеньскі цмок...

**У ДЗЯЦІНСТВЕ...**

*5.09.2013.* Лета. Цеплыня. Басанож іду сцяжынкаю. І нішто мяне яшчэ не хвалюе апрача каменьчыкаў, якія колюцца...

**х**

*6.09.2013.* Хварэць — гэта таксама жыць...

**х**

*8.09.2013.* Сёння майму бацьку было б 82. Гадоў трыццаць ён прапрацаваў у калгасе пастухом. Увесь час быў з канём, як і трэба было. І не ведаў бацька, што па амерыканскіх мерках ён быў каўбоем...

**х**

*11.09.2013.* У двары каркнула варона. Адразу ўзгадаліся Ракаўскія могілкі...

**х**

*13.09.2013.* Прыходзіў фантаст Алег. Прынёс рукапіс рамана пра перамогу Савецкага Саюза над ЗША. Развітваючыся, сказаў: «Меней чым за тысячу баксаў аддавацца не буду!»

**х**

*14.09.2013.* Сабраўся ў вёску бульбоўнік касіць, але ранішні восеньскі дождж змыў мой план, як пажоўклы ліст бульбоўніку з баразны...

**х**

*15.09.2013.* З сябрамі і Людай ездзілі ў Пугачы. Родная хата была амаль мёртвая. Недзе за паўгадзіны нашая прысутнасць ажывіла яе. З'явіліся цяпло ў пакоях, утульнасць і адчуванне, што бацькі некуды часова пайшлі, даручыўшы нам, дзецям, весці гаспадарку...

Скасіў бульбоўнік. Мама б пахваліла...

*верасень*

Яблыкі ў траве гніюць. Лісце, ападаючы, яшчэ не можа іх схаваць...

Пад'ехалі ў Давідовічаў лес. Крыху пашукалі грыбоў. Назбіралі ладна падасінавікаў. Не пахвалішся перад бацькамі...

На былым нашым полі стаяць белыя мяхі, як белыя прывіды з таго часу, калі мы самі выбіралі бульбу...

**х**

*17.09.2013.* Зноў снілася вёска. Што снілася? Не памятаю. Нешта сумнае-сумнае, як павуцінка на прыдарожным валуне...

**х**

*17.09.2013.* «Сэрца збалеўшы, не трэба чапаць!» — казаў бацька, калі быў у гуморы.

**ДРУКАРКІ**

*18.09.2013.* Сваю першую друкарку я набыў у 1983 годзе, калі атрымаў аванс за дэбютную кнігу «Гронка святла». Была яна югаслаўскай вытворчасці і каштавала больш за дзвесце рублёў. Літар «і» і «ў» не было, і я іх ставіў па вялікім блаце ў майстра па друкарках, які жыў у раёне вуліцы Казінца. Майстра быў чалавекам гаваркім і, робячы сваю справу, апавядаў пра пісьменнікаў, якім рамантаваў друкаркі. За час працы мы выпілі пляшку віна, якую я захапіў з сабой, бо мне сябры параілі так зрабіць. «Мая праца каштуе 50 рублёў! Мы з табой

хораша пасядзелі, і таму я з цябе вазьму толькі 20!», — так адказаў майстра на маё пытанне: «Колькі заплаціць?»

Другую друкарку я набываў ужо з Людай у 1991 годзе. Яна была не новая. Савецкая «Масква». Прыгледзелі ў камісіёнцы...

Югаслаўская друкарка і сёння ў нас захоўваецца, а савецкую гадоў сем таму падаравалі маладой паэтцы Дашы Лосевай...

X

*19.09.2013.* Ёсць людзі, якім нельга верыць, але мы ім верым, бо яны кажуць тое, што мы хочам пачуць...

*верасень*

X

*19.09.2013.* Іду праз восеньскі дождж, як праз павуціннe...

X

*19.09.2013.* Сусед Дзіма перастаў чапляцца да мяне з просьбай (ці надоўга?) пазычыць грошай на выпіўку пасля таго, як я заявіў: «Не дам! Ты падохнеш, а мне пасля гэтага ўсё жыццё пакутаваць з адчуваннем, што падтрымліваў тваё п'янства!» Цяпер Дзімавы сябры ў нашым двары глядзяць на мяне, як на «ворага народа»...

X

*21.09.2013.* Я з Людай, сястра Валя з мужам і дачкой Надзяй ездзілі ў Пугачы. Выбіралі бульбу. Увесну пасадзілі два мяхі. Сёння выбралі два. Бульба не прапала...

X

*21.09.2013.* На зямлю, з якой выбралі бульбу, нападала кляновага лісця, і поле стала не такім самотным, як толькі што было ў час, калі мы корпаліся ў разараных бульбяных градках...

X

*21.09.2013.* Паблізу хаты паліў бульбоўнік. Сыры. Болей было дыму, чым агню. За час, пакуль выбіралі бульбу, бульбоўнік увесь так і не згарэў. Перад ад'ездам я перанёс вогнішча падалей ад хаты, бо мама сказала б: «Гэта ж трэба! Агонь кінулі і паехалі...»

x

*21.09.2013.* Заехалі да мамы і бацькі на Ракаўскія могілкі. Паблізу нядаўна з'явіліся дзве новыя магілы. Памерлыя былі маладзейшымі за нашых бацькоў...

x

*21.09.2013.* У вёсцы было ціха, як у бульбе...

x

*23.09.2013.* На месцы філфакаўскага інтэрната БДУ будуецца трэці паверх новага будынка. Больш за паўгода будаўнікі змагаліся з крыніцамі, што былі ўспораныя, як вены, пад час капання катлавана. Калі будаўнічую пляцоўку залілі бетонам, вада пачала праточвацца на волю побач з будаўнічай пляцоўкай у падземным пераходзе, што праз праспект Пераможцаў...

*верасень*

x

*25.09.2013.* На сёння быў запрошаны на вечарыну, прысвечаную 100-годдзю Сяргея Грахоўскага. Не змог пайсці, бо на гэты ж час яшчэ месяц таму даў згоду Алесю Кваткоўскаму выступіць у бібліятэцы імя Пушкіна на адкрыцці выставы ягоных студэнтаў, якія з ім тыдзень былі на пленэры ў Вішневе. Добра, што пайшоў да Алеся, а то зусім не было б каму пахваліць дзяцей...

x

*25.09.2013.* «Кожную кнігу трэба пісаць так, нібы гэта твая лепшая і апошняя»,— казаў Уладзімір Караткевіч. Трэба, але не заўсёды нашыя жаданні супадаюць з нашымі магчымасцямі. І мы пішам кнігі, і яны ў нас (кажу не пра ўсіх) атрымліваюцца не лепшымі за папярэднія, а тым больш не апошнімі. Апошнімі і не трэба! Узгадаўся паэт Сяргей Грахоўскі, які, калі я працаваў у «ЛіМе», сем гадоў усё прыносіў і прыносіў новыя вершы і казаў: «Гэта мае апошнія творы...» Памёр на 90-м годзе жыцця...

x

*26.09.2013.* Прыходзіла дачка Пятра Глебкі Ларыса. У наступным годзе ёй будзе 80, а яна яшчэ жвавая і выглядае на гадоў 70. У нас да друку рыхтуюцца творы Глебкі і, кажучы пра кнігі, Ларыса Пятроўна сказала:

«Даўным-даўно нічога не перавыдавалася бацькавага, і я, маючы некаторых ранейшых выданняў па дзясятку экзэмпляраў, час ад часу па кнізе здаю ў букініст. Здаю не дзеля грошай, а каб людзі бачылі, што быў і ёсць такі пісьменнік Глебка...»

**х**

*26.09.2013.* Там, дзе не адамкнеш ключом, там адамкнеш каханнем...

**х**

*27.09.2013.* Прыходзіў малады невядомы мне пісьменнік, які піша фантастыку. Прывітаўшыся і расказаўшы крыху пра сябе, ён запытаўся: «Вы мяне ведаеце?» — «Не! Я першы раз вас бачу!» — адказаў я. «Я добра свячуся ў інтэрнэце і, калі вы мяне не ведаеце, то да свідання»,— сказаў малады чалавек і пайшоў.



**х**

*27.09.2013.* Зайшоў у кнігарню. Купы кніг, як купы каляровай пены на марскім беразе пасля шторму...

**х**

*27.09.2013.* Тэлефонны званок. Падымаю слухаўку і чую: «Гэта вас з Масквы турбуе піянер. Мне 80 гадоў. У вашым выдавецтве «Юнацтва» ў 1986 годзе выходзіла кніжка пра юных піянераў антыфашыстаў. Там ёсць і пра мяне. Прашу вас даслаць мне гэтую кніжку, бо я хачу, каб мне павысілі пенсію за тое, што я быў піянерам-антыфашыстам!»

**х**

*27.09.2013.* Некаторыя, пішучы слабізну, толькі падобную слабізну разумеюць і ёй захапляюцца...

**х**

*27.09.2013.* Калі няма ніякіх іншых філосафаў, то і Граждан філосаф...

## X

*27.09.2013.* Два тыдні таму нам у выдавецтва прынеслі рукапіс кнігі пра расійскага касманаўта-беларуса Алега Навіцкага, напісаны ягонай жонкай. Тэкст на сённяшні дзень ужо цалкам падрыхтаваны да друку. Ранкам патэлефанаваў скульптар Іван Міско і паведаміў, што а 16 гадзіне Алег Навіцкі будзе ў ягонай майстэрні. Даведаўшыся пра гэта, я паклікаў Людмілу з сабой, каб яна зрабіла інтэрв'ю для газеты. Касманаўт прыехаў на машыне з Чэрвеня, дзе гасцяваў у маці. Зграбны, прыгожы, з усмешкай, як у Гагарына. Амаль гадзіну Алег Віктаравіч са свайго камп'ютара перакідваў здымкі для кнігі на флэшку і адказваў на Людмаліны пытанні. Гаварыў шчыра, без носазадзірання: «Я касманаўт! А вы хто тут?» Потым мы сфатаграфаваліся на памяць і дамовіліся, што ў нядзелю ранкам зноў сустрэнемся ў майстэрні Івана Якімавіча. *верасень*

Ад Алега Навіцкага мы даведаліся, што за пяць месяцаў, якія пражыў на касмічнай станцыі, ён ні разу не бачыў іншапланетнікаў, дадаўшы з усмешкай: «А іх і няма!»

На касмічнай станцыі дзве прыбіральні. Адна расійская, а другая амерыканская, якая часта псуецца, і амерыканцы ходзяць да расіян...

Калі зямлю ўявіць, як трохметровы шар, то касмічная станцыя лётае над ім на адлегласці каля двух сантыметраў...

За суткі касманаўты 16 разоў аблятаюць вакол Зямлі...

Калі замружваешся, то ў вачах час ад часу адбываюцца выбухі святла — гэта касмічны карабель, і ўсе, хто ў ім, пранізваюцца касмічнай радыяцый...

На святы пілі каньяк, прывезены з сабой. Па грамаў 50 — 100...

У космасе не страшна...

Сумна не было, бо не было часу сумаваць...

Беларускую мову добра разумее — у школе вучыў...

З касмічнага карабля некалькі разоў тэлефанаваў Івану Міско. Іван Якімавіч сказаў: «Мой тэлефон цяпер каштоўны! Па ім я з космасам звязваўся!»

На 2017 год для Алега Навіцкага запланаваны новы касмічны палёт...

x

*28.09.2013.* Апалае лісце яшчэ не смецце...

x

*29.09.2013.* А шостай гадзіне раніцы мяне пабудзіла Людміла і дала за ноч перазнятую з дыктафона і зробленую ёю гутарку з касманаўтам Алегам Навіцкім, а сама легла спаць. У майстэрню да скульптара Івана Міско я ўзяў з сабой Максіма. Прыехалі а дзясятай гадзіне. Нас ужо чакалі Іван Якімавіч і Міхась Кенька. У печцы гарэлі бярозавыя дровы і ў майстэрні пахла родным вясковым цяплом. Неўзабаве Алег нам патэлефанаваў і паведаміў, што праз хвілін дваццаць будзе. З'явіўся амаль праз гадзіну і адразу ж апавёў, што яго на ўездзе ў горад спыніла міліцыя: «Чаму вы так леціце?» — «Я прызвычаіўся да хуткасці. Я касманаўт!» — «У нас тут усе касманаўты! Плаці штраф! На першы раз трыста тысяч!» Праз хвілін дзесяць міліцыянеры зразумелі, што перад імі сапраўдны касманаўт і прапанавалі ўзяць з яго сто тысяч, але Алег Навіцкі заявіў: «Не! Калі вы прынцыповыя, то і я прынцыповы! Выпісвайце штраф, бярыце трыста тысяч і да пабачэння!» Пасля аповеду Алега мы з Максімам прабылі ў майстэрні яшчэ амаль гадзіну. Слухалі расказы пра космас, глядзелі, як Іван Акімавіч робіць бюст касманаўта, фатаграфаваліся...

*верасень*

Іван Якімавіч сказаў Максіму: «Калі ты мастак, то павінен мець з сабой паперу і аловак, каб рабіць замалёўкі. Вучыцца трэба ў розных мастакоў, бо адзін мастак — гэта ўсяго адзін мастак, у якога ёсць свае плюсы, але і стае сваіх мінусаў...»

Сёння Іван Якімавіч планаваў разам з усімі намі пасадзіць каля майстэрні бярозку, якую павінен быў з-пад Чэрвеня прывезці Алег Навіцкі. На жаль, дрэўца пасадзім іншым разам...

x

*29.09.2013.* Наша бяда — мы сядзім у адным акопе і часта ў ім шукаем і бачым адзін у адным ворагаў, забываючыся глядзець з акопа...

x

*29.09.2013.* Часцей за ўсё той, хто крыўдзіцца на сяброў, сам жа іх і крыўдзіць...

## КАСТРЫЧНІК

### Х

*1.10.2013.* З братам, сястрой і яе мужам ездзіў у Пугачы. Перааралі бульбу. Назбіралі пару кашоў. Вырашылі, што болей не будзем траціць час на працу, якая толькі стамляе. Урэшце паабразалі сухія сукі ў яблынь і сліў, скасілі крапіву, да якой улетку не даходзілі рукі. Цяпер наша родная сяліба стала падобнай да той, якой яна была пры жывых бацьках. І на душы палягчэла...

Брат лазіў на гарышча і знайшоў ладны бітончык з самагонкай, які там праляжаў гады чатыры. Ніхто з нас не п'е, і я зноў схаваў гарэлку. Можа, калі і спатрэбіцца. Галоўнае цяпер — не забыцца куды схаваў...



У вёсцы ціха. На палях пуста. Няўжо ўсе ў лес пайшлі ў грыбы?

Заехалі на Ракаўскія могілкі да бацькоў. Паблізу з'явілася яшчэ адна магіла...

### ДЫСГАРМОНІЯ

*2.10.2013.* Расійскі мысляр Васіль Розанаў (1856 — 1919) у кнізе «Опавшие листья» напісаў: «Социализм пройдет как дисгармония. Всякая дисгармония пройдет. А социализм — буря, дождь, ветер...

Взойдет солнышко и осушит все. И будут говорить, как о высохшей росе: «Неужели он (соц.) был?» — «И барабанил в окна град: братство, равенство, свобода?»

— О, да! И еще скольких этот град погубил!!

— Удивительно. Странное явление. Не верится. Где бы об истории его прочитать?»

Усялякая дысгармонія праходзіць, але не мінаючы нікога на сваім шляху...

### Х

*3.10.2013.* На працы холадна. Можна было б змерзнуць, калі б не ўзгарачаныя восенню наведвальнікі...

### Х

*4.10.2013.* Ціха прайшло 100-годдзе з дня нараджэння паэта і празаіка Масея Сяднёва, які нарадзіўся 1 верасня 1913 года ў вёсцы Мокрае Клімавіцкага павета

і памёр у Глен-Коў у ЗША 5 лютага 2001 года. На пачатку 1990-х, калі Беларусь стала незалежнай краінай, Сяднёў некалькі разоў прыязджаў на родную зямлю. У той час пры газеце «Чырвоная змена» працавала літаб'яднанне «Крыніцы», якім кіраваў Алесь Масарэнка. На адно з пасяджэнняў быў запрошаны госць з Амерыкі. Паслухаць Масея Сяднёва прыйшло 30—35 маладых творцаў. Памятаю, як на просьбу Алеся Герасімавіча апавесці пра жыццё на чужыне, Масей Ларывонавіч адказаў: «Я прыехаў на Радзіму не выступаць, а слухаць і глядзець на ўсіх вас!» І мы амаль дзве гадзіны апавядалі Сяднёву пра сябе, чыталі вершы...

*кастрычнік*

**x**

*4.10.2013.* У Дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва адбылася прэзентацыя зборніка «Ісці на святло лабірынтамі даўніх падзей», прысвечанага памяці Віталя Скалабана. Па-мойму, на імпрэзу прыйшлі ўсе, хто атрымаў запрашэнне па пошце, бо супрацоўнікам архіва не было дзе сесці, і яны стаялі каля дзвярэй. Выступы былі лаканічныя і змястоўныя, як архіўныя дакументы. Ад Ганны Запартыкі мы даведаліся, што цяпер у архіве-музеі ёсць асабістая справа Віталя Скалабана пад № 500...

**x**

*5.10.2013.* Калі памерлі бацькі, то ў нашай краіне паменела людзей на два чалавекі, якія размаўляюць па-беларуску...

**АПЯРЭДЗІЛІ...**

*8.10.2013.* Два дні таму ў нас дома быў Іван Чарота. Размаўлялі пра жыццё-быццё, і, калі зайшла гаворка пра літаратуру, Іван Аляксеевіч апавёў пра ідэю некаторых літаратараў стварыць Саюз праваслаўных пісьменнікаў. Сёння ў сеціве з'явілася інфармацыя: «30 кастрычніка ў прыходзе іконы Божай Маці «Усіх тужлівых Радасць» у Мінску будзе здзейсненае чытанне акафіста перад іконай Святой Багародзіцы «Перад Раством і па Растве Дзева» — святыняй, вельмі шанаванай сталічным Клубам праваслаўных міліцыянераў. Пра гэта паведамляе сайт Беларускай праваслаўнай царквы. На сумесную малітву

запрашаюцца ўсе ахвотныя. Пачатак а 19:00. 2 лістапада плануецца правесці адкрыты сход Клуба праваслаўных міліцыянераў».

**х**

*8.10.2013.* З Кацярынай Безмацерных я быў малазнаёмы. Некалькі разоў яна па справах прыходзіла ў выдавецтва, некалькі разоў размаўлялі праз тэлефон. Ды гэта не галоўнае. Вельмі шкада, што 29 верасня жыццё дваццацішасцігадовай таленавітай дзяўчыны абарвалася пад час вандроўкі аўтаспынам у Пакістане дарогаю ў Індыю. У нашым выдавецтве ў маім укладанні падрыхтаваная да друку кніга прозы маладых літаратараў «Кахаць і верыць», у якой ёсць апавяданне Кацярыны Безмацерных «Як шпалеры». Яна пра гэта і не ведала...

*кастрычнік*

**х**

*9.10.2013.* Выступаў у гімназіі-каледжы імя І. Ахрэмчыка на адкрыцці літаратурнага клуба «Пад белымі крыламі» перад будучымі музыкамі. Дзеці сядзелі і слухалі спакойна, толькі адзін другакласнік разоў дзесяць задаваў пытанні: «Чаму? Як? Дзе? Адкуль? З чаго?» Ён мне і запомніўся. Завуць малога Каміл...

**х**

*9.10.2013.* Маладыя без аглядак вучаць старэйшых, як трэба цяпер жыць у літаратуры, як трэба пісаць. І, відаць, не думаюць, што хутка прыйдзе новы-а мудры гісторык і дасць ім выспятка не горш, чым яны гэта самі цяпер робяць у дачыненні да старэйшых. І нічога ў гэтым новага няма...

**х**

*9.10.2013.* Расійскі мысляр Васіль Розанаў (1856 — 1919) у кнізе «Опавшие листья» напісаў: «Русский ленивец нюхает воздух, не пахнет ли где «оппозицией». И, найдя таковую, немедленно пристает к ней и тогда уже окончательно успокаивается, найдя оправдание себе в мире, найдя смысл свой, найдя, в сущности, себе «Царство Небесное». Как же в России не быть оппозиции, если она, таким образом, всех успокаивает и разрешает тысячи и миллионы личных проблем». Гэта ў Расіі...

**х**

*10.10.2013.* Народжаныя за Саветамі ніколі не атрымаюць Нобелеўскую прэмію...

**х**

*14.10.2013.* Снілася родная вёска. Восень. Змрочна. Там, дзе раней была сажалка, у якой я купаўся ў дзяцінстве, і невялічкае балотца, мне ў сне пабачыўся белы цагляны дом, які быў вельмі падобны да Ракаўскай бальніцы. Ідучы ў дом, я ішоў да бабулі Параскі і дзеда Юзі, а прыйшоў да мамы і бацькі. Яны былі ў невялічкім пакойчыку і разам сядзелі на разасланым ложку, спусціўшы ногі. Пабачыўшы бацькоў, падумаў: «Бог ты мой, ізноў трэба мне за імі глядзець!» І толькі я нахіліўся да мамы, каб пацалаваць, як бацькі ператварыліся ў незнаёмых дзяцей па гадоў дзесяць...

*кастрычнік*

**НА ПАКРОВЫ**

*14.10.2013.* Маладая жанчына вярнулася ў Мінск з вёскі з падарункамі ад сваякоў. Найбольш усяго навезла пяцігадоваму сыну. Малы радаваўся да позняй ночы, а потым доўга не мог заснуць. Заснуўшы, плакаў у сне. Так было і на другую ноч, потым і на трэцюю, ды і праз месяц малы спаў, як на вуголлі. Жанчына звярнулася да знахаркі, якая запыталася: «Прывезенае адзенне ваш малы апранае?» — «Апранае!» — «Больш не апранайце! А на Пакровы адзенне спаліце апоўначы за горадам на скрыжаванні дарог. Падпаліце і, не азіраючыся, едзьце дамоў!» І вось прыйшлі Пакровы. Жанчына з мужам машынаю паехалі за горад. Навокал туман, што нічога не відаць. Вецер. Сабакі выюць. Пакуль ехалі да скрыжавання ў машыны разоў дзесяць глух матор. Сяк-так даехалі. Выйшлі з машыны. Вецер з ног збівае. Сабакі выюць, ажно заходзяцца. Абліўшы бензінам адзенне, падпалілі. Не азіраючыся, селі ў машыну і паехалі. Адразу знік туман, заціх вецер і замоўклі сабакі. Дамоў вярнуліся за дваццаць хвілін. Сын спаў спакойна. Праз пару дзён жанчына даведалася, што цётка, якая давала адзенне малому, ляжыць хворая ў бальніцы...

**х**

*15.10.2013.* Пайшоў дождж. Адразу ўсплыла ў памяці родная хата, у якой працякае страха. Усплыла і хутка патанула ў шуме восеньскага дажджу...

**х**

*17.10.2013.* З вялікай торбай, у якой можна панесці свінню кілаграмаў на 200, прыходзіў Сяргей Вераціла. Быў не адзін, а з Ігарам Кашкурэвічам. Сяргей хоча выдаць у нас новую кнігу ў афармленні Ігара. Размаўляючы пра Арлена Кашкурэвіча, я ўзгадаў сваю баладу. Пачытаў. Тут жа Ігар сказаў: «У бацькі ёсць карціна, на якой стары чалавек, нахіліўшыся, падбірае апалае лісце. На пахаванні мы неслі яе, як абраз. Твая балада вельмі сугучная з ёй, хоць ты карціну і не бачыў. Сёння ж верш дам пачытаць маме». Развітваючыся, Вераціла пакінуў мне літровую пляшку вараных кабылак. Цяпер не ведаю, што рабіць з грыбамі...

*кастрычнік*

**х**

*17.10.2013.* Глядзеў фільм Фёдара Бандарчука «Сталінград», за які ён спадзяецца атрымаць «Оскар». Вайна, каханне, смерць... Усё, як на вайне. Узгадаўся фільм «Цытадэль» Мікіты Міхалкова. Ён больш уражвае, але і яму далёка да вялікіх узнагарод. І яшчэ — у памяці засела фраза: «У мяне было пяць бацькоў...» — так кажа сын жанчыны, якая дзевятнаццацігадовай дзяўчынай жыла ў адной кватэры з пяццю салдатамі, якія абаранялі дом ад немцаў...

**х**

*18.10.2013.* «Я знайшоў сабе атамную сяброўку! Дзевятнаццаць гадоў! Піша прозу атамную! Па-руску. Сказаў, каб пісала па-беларуску! Будзе атамная пісьменніца! Дам пачытаць. У мяне былі напачатку атамныя абзацы, а ў яе кожны сказ атамны!» — пахваліўся знаёмай дзяўчынай Леанід Маракоў.

**х**

*19.10.2013.* Ідучы скверам, падняў найпрыгажэйшы кляновы ліст. Другі бок ліста быў увесь у брудзе...

**х**

*19.10.2013.* Калі бацька жыў у Мінску на кватэры, я па суботах пёк яму бліны і яешню. Рабіў так, як мама, ранкам адпраўляючы мяне малога да бацькі на поле, дзе ён касіў дзялку ржанішча. Неўзабаве будзе год, як я не пяку бліны так, як мама...

**х**

*20.10.2013.* Не першы дзень думаю пра эпітафію на помнік на бацькоўскія магілы. Сёння з'явіўся варыянт:

*Без Вас сумуюць Пугачы,*
*Ды не канчаецца дарога.*
*І нам яе прайсці змагчы —*
*За Вамі ўслед ідзем да Бога...*

*кастрычнік*

**х**

*23.10.2013.* Замест таго каб пісаць творы, некаторыя на старасці гадоў трацяць свае літаратурныя здольнасці на пасквілі, скіраваныя на тых, хто спакойна працуе ў літаратуры і не агрызаецца на звягі зласліўцаў...

**х**

*23.10.2013.* Урэшце скончылася будаўніцтва трыццацідвухпавярховага дома. Сёння на шпілі пачапілі сцяг нейкай фірмы. І цяпер здаецца, што дом такой вышыні будаваўся толькі на тое, каб над ім узняць сцяг...

**х**

*25.10.2013.* Літары, як ніткі, якімі да паперы прышытыя думкі...

## ВАНДРОЎКА Ў ВІЛЬНЮ-1

*26.10.2013.* У цягніка «Мінск — Вільнюс» шэсць вагонаў. Мы з Людай ехалі ў першым, дзе ўсё было, як у звычайнай электрычцы, але толькі з паўмяккімі лаўкамі. У Маладзечне да нас прыйшлі мытнікі і пачалі правяраць пашпарты. Дарогаю да Гудагая яны сваю справу зрабілі. У нашым вагоне адсоткаў 90 — беларусы, астатнія — літоўцы і рускія...

У Вільню даехалі за дзве з паловай гадзіны. Яшчэ за паўгадзіны да прыезду некаторыя пасажыры паапраналіся і з рэчамі сталі каля дзвярэй на выхад. «Чаго гэта яны?» — запытаўся я ў Люды. «Відаць, кантрабандысты. Хочуць раней пайсці па сваіх справах»,— адказала жонка.

Цягнік спыніўся, і людзі пабеглі на перон. Мы няспешна выйшлі і пабачылі чаргу на літоўскі мытны кантроль. Прастаялі хвілін пяцьдзясят у вузкім калідоры, які вёў у сутарэнне. Падумалася: «А як тут стаяць у маразы і завіруху?»

Прайшлі мытнікаў. Здалі торбы ў камеру захоўвання і пайшлі на могілкі Роса. Арыентаваліся па літоўскай мапе. Некалькі разоў пыталіся дарогу ў людзей. Ніхто дакладна не сказаў. Урэшце ўзабраліся на велізарныя пагоркі, зарослыя кустоўем і старымі дрэвамі. Лазілі па гэтых гарах, як горныя беларусы... *кастрычнік*

Знайшлі могілкі за гарамі. Каля ўвахода на могілкі купы лісця, як сапсаванага золата...

Кругом палякі. З граблямі, з венікамі, з мяхамі. Прыбіраюць магілы. Чыста, нібыта не было ліставіру...

Пахадзілі па могілках, спадзеючыся выпадкова знайсці невядомыя нам беларускія магілы. Не знайшлі. Узгадаўся краязнаўца Міхась Казлоўскі, які казаў, што неўзабаве ніхто не будзе ведаць, дзе ў Вільні пахаваныя нашыя пісьменнікі і не будзе каму даглядаць іх магілы...

Хадзілі, хадзілі і самі па сабе прыйшлі да помніка Луцкевічам, які паблізу агароджы на ўзгорку. Побач Францішак Аляхновіч, Казімір Сваяк. Магілы пазначаныя стужкамі...

Назад да вакзала зайшлі хутка. Цяпер будзем ведаць, што да могілак Роса трэба ісці каля чыгункі...

У гатэль «Еўропа-сіці» паехалі таксоўкаю. Заплацілі 31 літ...

А другой гадзіне засяліліся. Пакой на пятым паверсе. Прыстойны для трох зорак. Адпачыўшы з паўгадзіны, пайшлі ў Музей генацыду, які знаходзіцца ў будынку, дзе за Савецкім Саюзам было КДБ Літоўскай ССР...

Першы паверх музея — партызаншчына супраць Саветаў. Другі паверх — рэпрэсіі пры СССР і праца КДБ у Літве. Экскурсія завяршаецца ў сутарэнні, дзе раней была турма КДБ Літоўскай ССР. Першае, што пабачылі — гэта два карцары плошчай па метры квадратным. Далей камеры для турэмшчыкаў. Асабліва мяне «забіла» камера

на катаванні. У некаторых камерах пахне мярцвячынай. Час ад часу здавалася, што мы трапілі ў тыя часы, калі чыніліся рэпрэсіі і нешта раптам адбылося, што ўсё жывое знікла — і каты, і ахвяры...

Музейны работнік, з якім мы некалькі разоў, ходзячы па музеі, сустракаліся, відаць, зразумеў, што мы не літоўцы і не рускія, даў нам буклет на рускай мове «Потери населения Литвы за период оккупаций». У ім напісана: «В 1940—1941, 1944—1947 и 1957—1960 годах уехало и репатриировано 497 000 литовцев, поляков, немцев, «мемелендеров». С 15.06 1940 по 22.06.1941 заключено в тюрьмы, убито, сослано 23 000 человек. Погибло во время июньского восстания 1941 года 700 человек. В 1944 — 1953 годах арестовано, заключено в тюрьмы 186 000. Сослано 118 000. Погибло партизанов и их сторонников 20 500. В лагерях и тюрьмах погибло 20 000—25 000. В ссылке погибло 28 000. В 1954—1986 годах арестовано и заключено в тюрьмы по политическим мотивам 1000 человек». Пра беларусаў ні слова...

*кастрычнік*

Апошняя камера — месца, дзе расстрэльвалі. На сцяне сляды ад куль...

На праспект Гедыміна выйшлі, калі ўжо сцямнела. Пасядзелі ў кавярні. Пачаўся дождж, але мы дамоў не сталі вяртацца. Блукалі па горадзе да паловы на дзявятую. І чым даўжэй хадзілі, тым глыбей траплялі ў беларускую Вільню...

## ВАНДРОЎКА Ў ВІЛЬНЮ-2

*27.10.2013.* Якраз сёння літоўцы перавялі свае гадзіннікі на гадзіну назад, таму, калі мы прачнуліся, было яшчэ а сёмай. За сценкай чулася размова і кашлянне. Спаць далей не змаглі. Пачалі паціху збірацца ў вандроўку па горадзе. Надвор'е выдалася светлае, як восеньскае лісце пад нагамі...

Сняданак быў у кавярні. Шведскі стол. Выбар даволі добры. Пры суседнім століку сядзела сям'я з сынам гадоў дзесяці. Яны не толькі елі так, нібыта сто гадоў галадалі, але і нарабілі цэлы стос канапак і схавалі ў торбу, каб забраць з сабой...

Тралейбусам пад'ехалі да старога горада і там пачалі заходзіцца ў кожны Храм, што сустракаўся нам на шляху.

Я ўвесь час думаў пра свайго сваяка айца-езуіта Адольфа Шніпа, які ў 1937—1939 гг. у Вільні быў адміністратарам каталіцкай парафіі Маці Божай Суцяшэння. На жаль, касцёл мы не знайшлі, а магчыма, прайшла міма...

Былі ў Музеі-палацы князёў ВКЛ. Уражвае. Узгадаўся Нясвіж і палац Радзівілаў. У нас зроблена багацей...

Ездзілі ў «Акрапаліс». Ён мяне не здзівіў. Цудаў ніякіх я там не пабачыў. Наглядзеўся на людзей і наслухаўся іх дробных клопатаў і радасцяў...

На вакзал ехалі таксоўкаю. Уся дарога была ў змроку. Відаць, літоўцы эканомяць на святле...

У цягніку назад вярталіся ў лепшым вагоне, чым прыехалі. І добра, што не пашкадавалі грошай, бо ў тым вагоне, у якім прыехалі, было душна, як у лазні...

*кастрычнік*

На станцыі Кена літоўскія памежнікі правяралі дакументы і ставілі штампы ў пашпарты, нібыта стралялі...

У Гудагаі зайшлі нашыя мытнікі. Скончыўшы сваю справу, адзін з мытнікаў сказаў: «Усім шчаслівай дарогі!» Тут жа нехта з пасажыраў гучна адказаў: «Служу Савецкаму Саюзу!»

Да Мінска ехалі тры гадзіны. Затаміліся. Іншым разам трэба ехаць улетку, каб можна было пахадзіць па горадзе пры дзённым святле. Будзем чакаць лета...

**x**

*30.10.2013.* Пасля вандроўкі прыхварэў. Цяпер лекуюся ўспамінамі пра Вільню...

**x**

*30.10.2013.* Заходзіў Ігар Пракаповіч з Пастаў. Цяпер ён у Мінску на павышэнні настаўніцкай кваліфікацыі. Казаў, што ў ягонай групе толькі два мужчыны, а ўсе астатнія жанчыны і ўсім ужо за пяцьдзясят. «Мала хто цяпер хоча ісці ў настаўнікі. Калі так будзе далей, яшчэ гадоў дзесяць—пятнаццаць і ўся адукацыя ў вёсках ляснецца...» — сумна сказаў Ігар.

**x**

*30.10.2013.* Ідучы з працы, каля кнігарні «Светач» сустрэў Лявона Вашко з Галай Гарой і дачкой. З Лявонам мы не бачыліся гадоў пятнаццаць. Я прапанаваў

яму даць творы ў зборнік пра каханне. «Нічога ў мяне няма, каб даць у зборнік. У маіх творах зашмат сэксу!» — усміхаючыся адказаў Лявон.

**x**

*30.10.2013.* У Вільні на могілках Роса палякі зграбаюць лісце і ў вялікіх чорных мяхах выносяць яго на вуліцу. Шчыруюць, як дома...

## ЛІСТАПАД

*кастрычнік — лістапад*

**x**

*1.11.2013.* Учора на 69-м годзе жыцця памёр мастак Аляксей Кузьміч. Я з ім пазнаёміўся больш за дваццаць гадоў таму, працуючы ў часопісе «Беларусь» у аддзеле культуры. Нейкі час мы сябравалі, і я часта бываў у майстэрні мастака, што ў Траецкім прадмесці. Цяпер у нас у кватэры вісіць ягоная карціна «Мадонна. Умиление. 1995 г.» з подпісам: «Дорогим Виктору Шнипу и его мадонне Людмиле Рублевской. С любовью! Алексей Кузьмич. 11 августа 1996 г.».

**x**

*1.11.2013.* У выдавецтва прыходзіў расійскі касманаўт Алег Навіцкі, які нарадзіўся ў Чэрвені. Мы выдаем пра яго кнігу, напісаную ягонай жонкай Юляй. Даючы падпісаць выдавецкую дамову, я сказаў: «У нас яна па-беларуску». Пачуўшы гэта, Алег узяў дакумент і пачаў жонцы адразу чытаць яго на рускай мове...

**x**

*2.11.2013.* Усё яшчэ хварэю, і мне здаецца, што на дварэ вельмі холадна. На лаўцы каля пад'езда ўжо з паўгадзіны сядзіць сусед Дзіма са сваім сябрам. Няўжо ім цёпла? І раптам заўважаю ў руках Дзімы пляшку з гарэлкай...

**x**

*3.11.2013.* Лісце апала, і цяпер яблыкі на яблынях, як апошнія кроплі святла ў бацькоўскім садзе...

x

*4.11.2013.* Сніліся Пугачы. Я сядзеў у ляску на беразе сажалкі і лавіў рыбу. Рыба была вялікая, як гумовыя боты, якія другі год стаяць каля бацькавага ложка...

x

*4.11.2013.* Прачынаюся і не радуюся, што яшчэ жывы...

x

*5.11.2013.* Прачнуўся а трэцяй гадзіне ночы. Самі па сабе з душы прараслі радкі, прысвечаныя бацькам:

*лістапад*

*Без вас сумуюць Пугачы,*
*І вы ўсё бачыце з нябёс.*
*Пра вас нам памяць берагчы,*
*Як беражэ ўсіх нас Хрыстос...*

x

*5.11.2013.* Быў у Нацыянальнай бібліятэцы на вечарыне Вячаслава Адамчыка, прысвечанай ягонаму 80-годдзю з дня нараджэння. Супрацоўніца бібліятэкі, гаворачы пра прысутных, сказала: «Сёння да нас прыйшоў сын Вячаслава Адамчыка пісьменнік і выдавец Адам Глобус...» Было б гэта ўсё слушна, калі б у першым шэрагу не сядзеў Міраслаў Шайбак. Праўда, калі Адам Глобус пачаў весці імпрэзу, ён узгадаў брата, але мой настрой ужо быў падпсаваны крыўдай за Міраслава, які потым і не выступаў. Валодзя імпрэзу вёў лаканічна і казаў па справе. Выступоўцаў было няшмат — Адам Мальдзіс (апавёў пра паездку з Адамчыкам у Вільню, дзе яны атрымлівалі прэміі за лепшыя публікацыі ў моладзевым друку), Алесь Бадак (узгадаў, як ён служыў у Манголіі і пад час службы атрымаў бандэроль з кнігай ад Адамчыкаў), Міхась Тычына (амаль давёў, што Вячаслаў Адамчык — адзін з лепшых празаікаў. Ён мог атрымаць званне народнага пісьменніка Беларусі, але яму не далі), а я апавёў пра свае сустрэчы з Вячаславам Уладзіміравічам у іх дома, куды прыходзіў да Адама Глобуса, і апошнюю сустрэчу ў «ЛіМе», куды пісьменнік завітаў ужо зусім хворы і, развітваючыся з намі (Міколам Гілём, Бырысам

Пятровічам і мною), сказаў: «Бывайце, хлопцы, я да вас сюды ўжо болей не прыйду ніколі...»

**х**

*6.11.2013.* Выдалі ладную кнігу Валянціны Паліканінай. Пад час падрыхтоўкі рукапісу да друку я з паэткай шмат размаўляў і пра яе вершы, і наагул пра жыццёбыццё, і Валянціне захацелася зрабіць са мной інтэрв'ю для часопіса «Гаспадыня», дзе яна працуе. І вось сёння мы пагаварылі. У мяне быў добры настрой, і я натхнёна разважаў пра ўсё, што цікавіла Валянціну. Думаю, што нашая размова была не з шэрагу «ты — мне, я — табе»...

*лістапад*

**х**

*7.11.2013.* Нельга быць шчырым з усімі запар, бо потым некаторыя тваю шчырасць скарыстоўваюць супраць цябе...

**х**

*10.11.2013.* У суботу і ў нядзелю з Людай праводзілі рэвізію сваёй хатняй маёмасці. Вынес на сметніцу каля сотні відэакасет, якімі даўно не карыстаемся, бо цяпер набываем кружэлкі і фільмы глядзім у сеціве. Я выкладаў касеты з пакетаў, і адразу чатыры чалавекі, хапаючы іх адзін у аднаго з рук, забіралі сабе. Старэйшы мужчына, узяўшы некалькі касет, пацікавіўся: «А кніжкі будзеце выкідаць?» і, пачуўшы, што не будзем, сказаў: «Правільна! Я таксама кніжкі цаню!»

**х**

*12.11.2013.* У «Нашай Ніве» пад загалоўкам «Вынікі працы Мабільнай бібліятэкі МТС: лідары Топ-10 — Быкаў, Гарэцкі, Рублеўская і Колас» з'явілася інфармацыя: «Мабільны аператар МТС падвёў вынікі першага тыдня працы «Мабільнай бібліятэкі» на плошчы Якуба Коласа. Наведвальнікі загрузілі на мабільныя прылады больш за 36 тысяч кніг, а аўдыторыя віртуальнай чытальнай залы перавысіла 4700 чалавек. Лідарамі па колькасці запамповак сярод прадстаўленых на віртуальных стэлажах твораў сталі кнігі замежных і беларускіх аўтараў,

як сучасных, так і класікаў. Самай папулярнай, паводле версіі жыхароў і гасцей Мінска, стала англійская паэтка і раманістка Шарлота Бронтэ. Таксама прыцягнуў увагу мінскіх кнігачытаў амерыканскі фантаст Рэй Брэдберы. Прыкладна аднолькавую папулярнасць заваявалі Гётэ, Уайльд, Уэлс і Гамер. Сузор'е замежных класікаў паспяхова дапоўнілі і беларускія прозвішчы, паведамляе прэс-служба МТС: аўдыторыя «Мабільнай бібліятэкі» аддае перавагу творам Васіля Быкава, Максіма Гарэцкага, Якуба Коласа і Людмілы Рублеўскай». У «Мабільнай бібліятэцы» 800 назваў кніг...

**х** *лістапад*

*12.11.2013.* Адна маці дамагаецца смяротнага пакарання забойцу яе дачкі, а другая маці — памілавання свайму сыну, які стаў забойцам.

**х**

*12.11.2013.* Прысніліся радкі:

*Бярыце свабоду, бярыце!*
*Дарослым і дзецям дарыце!*
*Свабоды нікому не шкода —*
*Як келіх з атрутай, свабода!*

**х**

*13.11.2013.* У апошнія гады жыцця бацькоў мне часта снілася пустой родная хата. Цяпер хата сапраўды пустая...

**х**

*15.11.2013.* Поўня — гэта святло ў канцы тунэля...

*х*

*16.11.2013.* У нашым двары ў некага вяселле. Моладзь упрыгожыла рознакаляровымі стужкамі і шарыкамі тры машыны. Потым, як удзельнікі свята сабраліся ехаць, мужчына з абразом тройчы абышоў усіх. Следам за ім ішла жанчына і з мяшэчка шчодра рассявала жыта. Адразу пасля першага круга я стаў думаць: «Хоць бы ёй хапіла зерня!» Хапіла...

**x**

*17.11.2013.* Пятровіч звазіў мяне ў Пугачы. У вёсцы холадна, змрочна, чорна, нібыта нядаўна бушаваў пажар, які быў затушаны восеньскім дажджом...

На лавачцы на аўтобусным прыпынку нікога няма. Мамы тут ужо ніколі не будзе...

Гадзіннік чакаў, калі я зноў яго завяду...

На падлозе мёртвая пчала... Не пчаліная матка...

Вуліцаю гучна праехаў трактар, нібыта на хвіліну расчыніўся паралельны свет, дзе ўсё яшчэ гудзе вясковае жыццё...

*лістапад*

На гарышчы непатрэбныя кнігі. Ім пашанцавала. Бацька іх не спаліў...

На калаўроце павуцінне, як рэшткі воўны, якую прала мама...

Брамка ў сад павалілася, не дачакаўшыся гаспадароў...

У траве ў садзе знайшоў яблык, нібыта цёплы вугаль у прыску...

Цішыня, ці гэта я аглух...

Вяртаюся ў горад, нібыта ўсплываю з дна нашага часу, дзе ўсё яшчэ існуе жыццё...

**x**

*18.11.2013.* Друкуе на камп'ютары, нібыта танцуе чачотку...

**x**

*19.11.2013.* Патэлефанавалі з Гомельскай друкарні «Палессе»: «Мы тут аддрукавалі кніжку казак «Звычайныя рэчы» Лізаветы Ахроменкі. Наш дырэктар, пачытаўшы выданне, сабраў сход і зачытаў радкі з «Казкі пра крывавую мэрыю»: «Градуснік вырашыў, што Мэр — пярэварацень-крывасмок, які ловіць па ўсім горадзе малых дзетак, прыводзіць у сваю мэрыю і дарэшты выціскае з іх кроў у вялікія шкляныя колбы. А маленькіх нябожчыкаў потым закапвае ў зямлю. Грэлка сказала, што ўначы трэба абавязкова патрапіць у мэрыю, каб не дазволіць злыдню здзекавацца з хлопчыка». Гэта ж нельга такое пісаць! Маленькія нябожчыкі! Злыдзень! Мэр не можа быць такім!» Выслухаўшы жанчыну і абяцаўшы

разабрацца іператэлефанаваць, я, прыпалоханы, пайшоў у вытворчы аддзел, каб перачытаць казкі Лізаветы. Казка пра памідоры і Мэра заканчваецца абзацам: «Мэр наліў у Грэлку таматнага соку пад самы верх, закруціў корак і папрасіў, каб яна абавязкова частавала ім у аптэцы параненых дзетак, якія туды прыйдуць. А Градуснік загадаў неадменна прасачыць, каб сок не схаладнеў, бо нават ад чароўнага таматнага соку, калі яго піць халодным, дзеткі могуць застудзіць горла».

**х**

*21.11.2013.* У «Звяздзе» Уладзімір Ліпскі надрукаваў артыкул памяці мастака Аляксея Кузьміча пад загалоўкам «Рафаэль беларускай зямлі». Словам, Рафаэль пра Рафаэля… *лістапад*

**х**

*23.11.2013.* Аляксей Пятроў у свой час для «Мастацкай літаратуры» вярстаў і рабіў дызайн некалькіх кніг, за якія мы потым на конкурсах «Мастацтва кнігі» атрымлівалі вышэйшыя ўзнагароды. Аляксей жыве на суседняй вуліцы ад мяне. У скверыку, праз які яшчэ нядаўна я хадзіў да бацькі на кватэру, мы сёння сустрэліся. Паразмаўлялі пра жыццё-быццё. Запомнілася сказанае Аляксеем: «Надвор’е як у фільмах Аляксея Германа…»

**х**

*24.11.2013.* Па тэлеканале «Беларусь 3» глядзеў фільм пра тэатральнага рэжысёра Валерыя Раеўскага, які быў зняты ў 2008 годзе. Дарэчы, ягоны сын вучыўся ў адным класе з нашай дачкой Веранікай і мы з Валерыем Мікалаевічам раз-пораз сустракаліся на бацькоўскіх сходах. Фільм завяршаецца тым, што рэжысёр, ідзе са свайго лецішча да могілак, звоніць у званы ў невялічкім Храме, спыняецца каля магілы і кажа: «Не хочацца мне паміраць…» Валерый Раеўскі памёр 19 лістапада 2011 года…

**х**

*25.11.2013.* Тыдзень пачаўся з дробнага снегу. Гляджу праз вакно, як праз першы лёд…

**x**

*25.11.2013.* У дзяцінстве, калі выпадаў першы снег, я ў той самы дзень браў лыжы і соўгаўся на іх, пакуль мама не пачынала клікаць дадому. Сёння снег выпаў, а ў мяне ні лыжаў, ні мамы, ды і снег растаў...

**x**

*26.11.2013.* Ганна Кісліцына ў Фэйсбуку ў зацемцы «Пра вершы, напісаныя на працы...» напісала: «Апошнім часам мяне мучае пытанне: «А калі нашыя пісьменнікі думаюць?» Не, з жыхарамі правінцыі ўсё больш-менш ясна. Схадзіў на працу, праверыў Фэйсбук і сядзі сабе — рэфлексуй. Але ж з мінчанамі ўсё складана, асабліва з папулярнымі. Раней я гэтага не заўважала, але сеціва, як тая вясна, ускрыла праблему. Нашыя пісьменнікі ўвесь час перабягаюць з мерапрыемства на мерапрыемства, з прэзентацыі на прэзентацыю. Днём яны на працы, вечарам — на людзях. Тут, так выглядае, ужо і ў краму па прадукты не схадзіць, не тое, што пакутаваць над радком! Якія ўжо тут творчыя пакуты. І тут мяне асяніла: адзіны час сачыняць у такіх умовах, гэта пісаць вершы на працы, натхняючыся відам з вакна. І калі гэта разумееш, становіцца ясна, чаму так мала свежых галасоў у сённяшняй паэзіі, чаму так мала творчых індывідуальнасцяў». Адразу паўстае пытанне: «Дзе сёння ёсць такая праца, на якой можна сядзець і вершы пісаць?» Раней, да стварэння холдынгаў, у рэдакцыях «Полымя», «Маладосць», «ЛіМ» пры штаце ў 30 чалавек можна было некаму і дурня валяць, і штодзень выпіваць, на працу не хадзіць, а цяпер, калі ўсё скарочана да 5—7 чалавек, супрацоўнікам няма часу на забавы, а тым больш на напісанне вершаў на працы. І ў нас у выдавецтве вершаў не напішаш. Раней адных толькі сяброў Саюза пісьменнікаў працавала каля сарака чалавек, а на сённяшні дзень у нас толькі тры літаратары — Аксана Спрынчан, Анатоль Зэкаў і я, а пішучых не стала меней і ад іх нікуды не схаваешся. І ходзяць цяпер па рэдакцыях у асноўным няспешныя вольныя пенсіянеры, ад якіх, сапраўды, нічога свежага не прычакаем...

**х**

*26.11.2013.* Выступаў у кнігарні «ЛогвінаЎ» на прэзентацыі першых тамоў Збору твораў Уладзіміра Караткевіча. На маё запрашэнне прыйшлі ўкладальнікі Анатоль Верабей, Пятро Жаўняровіч і пляменніца Караткевіча Алена Іванаўна Сінькевіч. Слухачоў назбіралася паўнюткая кнігарня. Павел Касцюкевіч распачаў імпрэзу, даўшы слова Адаму Глобусу. Валодзя падсумаваў вынікі конкурсу на лепшы фотаздымак пры стале Уладзіміра Караткевіча, які ён падараваў кнігарні са свайго лецішча. Першае месца атрымалі Уладзімір Арлоў і Валянцін Акудовіч. Іх не было, і канверт з прэміяй застаўся на захаванні ў кнігарні. Потым выступілі ўсе, хто працаваў над кнігамі Караткевіча. Седзячы побач са мной, Пятро Жаўняровіч на вуха сказаў мне: «У рукапісе назва твора «Блакіт і золата дня» ў Караткевіча закрэсленая і напісана «Каўчэг». Я хацеў аднавіць, а Верабей не дазволіў...»

*лістапад*

**х**

*27.11.2013.* Паводле рэкамендацыі паэта Васіля Зуёнка да мяне ў выдавецтва прыходзіла ўнучка празаіка Паўла Ткачова Саша Крот. Дзяўчына вучыцца ў дзясятым класе. Выдатніца. Удзельніца шматлікіх школьных алімпіяд. Ёй праз месяц будзе 16. Прынесла для выдання сваю аповесць пра сучасную школу. Размаўлялі (дакладней, дзяўчына гаварыла, а я слухаў і задаваў пытанні) амаль паўгадзіны. Дзяцей такіх, як Саша, я раней не сустракаў. «У мяне ёсць мэта — быць карыснай роднай Беларусі. Усе думаюць пра тое, каб вырасці і нічога не рабіць. Сядзяць у сеціве, слухаюць цяперашнюю дурную музыку і песні! Я люблю песні 80-х гадоў. Можа, я не сучасная, але я такой, як большасць моладзі, не хачу быць!» — «Чаму ты не пішаш, як твой дзед Павел Ткачоў, па-беларуску?» — «У мяне ёсць творы на беларускай мове!» — адказала Саша і перайшла на мову. Развітаўшыся з дзяўчынай, я ўсміхнуўся: «Вундэркінд!»

x

*28.11.2013.* Прыходзіў Эрнэст Ялугін. Хоча выдацца ў «Мастацкай літаратуры». Галоўны аргумент: «Мяне ў нашым саюзе не вельмі любяць. Праўда, у «Дзеяслове» пачалі друкаваць...»

x

*28.11.2013.* Праходзіў па Захарава побач з літаратурным холдынгам. Узгадаліся часы, калі там працаваў у «ЛіМе» і да нас прыходзілі Васіль Быкаў, Янка Брыль, Вячаслаў Адамчык, Іван Шамякін, Іван Навуменка, Іван Чыгрынаў...



x

*29.11.2013.* Прыязджаў Сяргей Чыгрын са Слоніма. Дамовіліся, што ён падрыхтуе і здасць у «Мастацкую літаратуру» кніжку Міколы Арочкі. Пасля смерці паэта ўсё, напісанае ім, Сяргею перадала ягоная жонка. У рукапісе ёсць паэма пра Міндоўга і вельмі шмат вершаў, якія нідзе не друкаваліся. Да ўсяго Сяргей абяцаў падрыхтаваць нам для друку творы Кандрата Лейкі і Сяргея Дарожнага, якія ён хацеў выдаць за свой кошт хоць бы накладам у 100 асобнікаў...

## СНЕЖАНЬ

x

*1.12.2013.* Снежань, а снегу зноў няма. Снег растаў, як сон пра снег..

x

*3.12.2013.* Падрыхтавалі кніжку Франца Сіўко. Засталося толькі запісаць на кружэлку, каб адвезці ў друкарню. І тут завітвае Аксана Спрынчан і кажа: «Віктар Анатольевіч, у нас у выдавецтве нікому не падабаецца назва кнігі Сіўко «Я пешкі, мама!». Гучыць смешна!» Ды я сам адразу быў супраць «Я пешкі», але рэдактар кніжкі і аўтар настаялі, каб назва была такой. І я пры

Аксане патэлефанаваў Францу і патлумачыў, чаму кепская ягоная назва. Праз паўгадзіны Франц ператэлефанаваў: «Я зразумеў, чаму назва кепская. «Я пешкі, мама!» гучыць гэтак жа як «Канец чырвонага чалавека» Святланы Алексіевіч». Пасмяяўшыся, мы абралі новую назву. «Эдэм».

**х**

*3.12.2013.* Перад абедам да мяне ў выдавецтва прыйшла жанчына з вялікай торбай. Прынесла тры важкія тэчкі вершаў, куды прыклала ліст, які пачынаецца: «Виктор Анатольевич, я пришла убедить Вас издать мои стихи. Меня не любят баптисты, они критикуют меня за то, что я хочу свидетельствовать этому миру...» *снежань*

**х**

*5.12.2013.* Тэлефанаваў Анатоль Вярцінскі: «Я цябе турбую, каб сказаць дзякуй за вершы ў «ЛіМе», якія ты напісаў памяці сваіх бацькоў...»

**х**

*5.12.2013.* Сёння дзень народзінаў Алеся Разанава. Напачатку 1980-х гадоў я вадзіў Алега Мінкіна ў «Мастацкую літаратуру», каб пазнаёміць з Алесем Сцяпанавічам. Праўда, я і сам яго мала ведаў, але мы былі маладыя і не саромеліся ісці туды, куды нам хацелася. Мы гарэлі жаданнем даведацца, калі ж выйдзе кніжка «Шлях-360». Разанаў тады быў падстрыжаны «пад нуль», і я з Алегам, пакінуўшы выдавецтва, прыйшлі да думкі, што наш любімы паэт падобны да іншапланетніка не толькі стрыжкай, але і нетутэйшым розумам...

**х**

*8.12.2013.* Тэлефанаваў Усевалад Гарачка. Запрасіў мяне і Люду на свой дзень народзінаў. Яму 12 снежня будзе 45. Ужо нямала, а Сева ўсё яшчэ эксперыментуе і сцябаецца. Праўда, працуючы на заводзе, іншы даўно б стаптаўся ў нішто...

х

*8.12.2013.* На вуліцы снег. Светла і змрочна. Думаю пра бацькоўскія магілы на Ракаўскіх могілках і пра родную пустую хату ў Пугачах. Усё засыпана снегам і ні следу чалавечага побач...

х

*8.12.2013.* Прыходзіў да нас у госці Сяргей Календа з жонкай Васілісай. Ён з 1986 года, а яна з 1987. Крыху старэйшыя за нашых дзяцей. Паразмаўлялі пра літаратуру, пра жыццё-быццё. Васіліса мастачка. За свае грошы выдаюць часопіс «Макулатура». Харошая, таленавітая пара...



х

*9.12.2013.* На вечарыну, прысвечаную дню нарадзінаў Максіма Багдановіча, Аксана Спрынчан прынесла ў музей шархунцы. Іхны звон напомніў, што такія шархунцы ўпершыню пабачыў у дзядзькі Віці ў Лягезах на гарышчы, куды я, пяцігадовы хлапчук, палез, каб паглядзець зблізку на галубоў, якія там жылі. Звон тых дзядзькавых шархунцоў і сёння жыве ў маёй душы недзе там глыбока-глыбока, дзе жывуць мама і тата, бабулі і дзядулі, і ўсе родныя, каго я любіў і люблю, і каго цяпер няма ў гэтым свеце...

х

*9.12.2013.* Мароз. У нас на зашклёным балконе захоўваецца бульба. Грэю ў вялікім рондалі ваду і стаўлю каля ўхутаных у старую вопратку мяхоў. У вёсцы бацька ў моцныя маразы насіў у вядры жар з печы ў варыўню, дзе была ссыпаная бульба. Я тады ўвесь час, кладучыся спаць, баяўся, што мы ўначы ўчадзеем і памром або загарыцца хата, і мы згарым...

х

*10.12.2013.* Белы верш, як снег, які не растае...

**X**

*11.12.2013.* Тыдзень таму Павел Навуменка прапанаваў паехаць з ім у Гомель на прэзентацыю другога тома Збору твораў Івана Навуменкі. Я не адмовіўся. Кампанія сабралася добрая — Павел і Валерыя Навуменкі, Аксана Спрынчан і я. За стырном быў асабісты кіроўца Паўла Іванавіча Уладзімір. Выехалі зацемна. Ішоў спорны снег. Здавалася, што ўсё пазамятае і ўвечары ці здолеем вярнуцца дахаты...

Дабіраліся да Гомеля праз Рэчыцу і праязджалі ў метрах трохстах ад Гарошкаўскіх могілак, дзе пахаваны Сыс. Аксана прасіла Паўла заехацца, а той пабаяўся загрузнуць з машынай у снезе, таму мы і не адведалі Анатоля...

*снежань*

Над заснежанымі могілкамі ўзвышаліся бярозы, як белыя вершы Сыса...

Па Гомелі да бібліятэкі імя Герцэна ехалі Савецкай вуліцай. Доўгая, як наш праспект Незалежнасці, але толькі доўгая...

На вуліцы нас сустрэў Іван Штэйнер. А ў бібліятэцы на трэцім паверсе чакала тэлебачанне і слухачы. Калі я праходзіў каля жанчын, якія нас сустракалі, пачуў шэпт: «Шніп прыехаў...»

У зале было шмат студэнтаў. У першых шэрагах сядзелі мясцовыя пісьменнікі. Пажылыя і пасівелыя і амаль усе са значкамі членаў СПБ, нібыта з зоркамі герояў...

Пасля прэзентацыі ўсе пісьменнікі ўсталі і дружна пакінулі залу. З намі засталіся студэнты, у якіх да кожнага былі свае пытанні. Іван Штэйнер пазнаёміў мяне з Вольгай Лідзянковай, якая пачала пісаць работу пра эвалюцыю і развіццё гістарычнага рамана ў Беларусі і Брытаніі, у тым ліку пра творчасць Людмілы Рублеўскай...

Вярталіся ў Мінск праз Бабруйск стомленыя і задаволеныя. У маёй душы засталося святло ад заснежаных прастораў, лясоў і рэчак, на якіх мне бачыліся тыя, каго ўжо няма з намі...

**х**

*12.12.2013.* Быў на радыё. Чытаў вершы пра Беларусь. Таццяна Грыневіч падаравала ажно пяць кружэлак з песнямі. Слухаю і душа баліць, і сэрца плача...

**х**

*14.12.2013.* У Егіпце ўпершыню за некалькі гадоў выпаў снег. Заснежаныя піраміды, нібыта ў Салігорску соль...

**х**

*снежань*

*14.12.2013.* Быў у майстэрні Алеся Квяткоўскага. Сёння ў «СБ» надрукавалі вялікае інтэрв'ю з ім, якое зрабіла Люда. Алесь купіў тры газеты і развесіў на сценах...

**х**

*14.12.2013.* Сніўся бацька. Малады, як я...

**х**

*15.12.2013.* Праз дзесяць дзён будзе год, як памёр бацька. У наступную суботу едзем у Ракаў на могілкі. Перабіраючы паперы, знайшоў запісы:

«Бацька слухаў радыё, а я слухаў ягонае дыханне...

Вёска пусцее, дарога пусцее, і ўсё навокал, нібы для музея...

У бацькі, памерлага ў Ракаўскай бальніцы, туга падвязаная бінтам сківіца. Так туга, нібыта каб раптам бацька нічога нікому не сказаў...

Там, дзе сканчаецца неба, там пачынаецца сон...»

**СЯРГЕЙ МАЦІН**

*17.12.2013.* Учора ўвечары паэт Алесь Емяльянаў паведаміў, што ў нядзелю, 15 снежня, загінуў сябра суполкі «Літаратурнае прадмесце» Сяргей Мацін. Ён выбягаў некуды з дома, паслізнуўся і, стукнуўшыся скроняй, адразу памёр. Хлопцу 26 лютага было б усяго 20. У суботу, 7 снежня, у газеце «Рэспубліка» ў нізцы вершаў сяброў «Літаратурнага прадмесця» быў надрукаваны верш Сяргея «Развітальнае», напісаны 6 чэрвеня 2012 года:

*Я сыду па-англійску: няветліва, незаўважна,*
*Назнарок пакідаючы ўсё, што калісьці займеў,*
*Без увагі. Імгненна. Дазвання. Хіба толькі спеў*
*У паветры зазначыць: «Ты маеш надзеі? Няважна!»*

*Я сыду назаўсёды, як двойчы рабіў у жыцці,*
*Толькі гэты мой выклік каханню — папраўдзе апошні.*
*Не зачэпіць больш сэрца яно. Сноп не зрушыцца з пожні.*
*Са згарэлага рысу ніколі не зварыш куцці.*

*Я сыду ў накірунку такім жа, нібыта нябёсы*
*Над краінаю нашай у цёплы і сонечны дзень.*
*Выбачай, калі ласка. Ты маеш цяпер толькі цень.*
*Пашкадуй і схавай у шуфляду — да іншых дзівосаў.*

*снежань*

Для друку Сяргей прапаноўваў яшчэ некалькі вершаў, але супрацоўнікамі газеты быў абраны гэты...

**x**

*19.12.2013.* Пасяджэнне суполкі «Літаратурнае прадмесце» прайшло ў нас дома. Яно было жалобным. Узгадвалі Сяргея Маціна, які загінуў 15 снежня. Чыталі ягоныя вершы, успаміналі якім ён быў. Вырас ён без бацькі. Крыўдзілі ў школе. Да ўсяго хлопец не чуў на адно вуха пасля таго, як яго пабілі. Аднак ён праз гэта не злаваўся на ўвесь свет, а пісаў лірычныя вершы. На пасяджэнні былі: Юрась Нераток, Адам Шостак, Таццяна Пратасевіч, Наталка Кучмель, Таццяна Бельская і Маргарыта (на жаль, прозвішча не ведаю, бо бачыў яе першы раз). Вырашылі дапамагчы Змітру Вішнёву падрыхтаваць кніжку Сяргея Маціна да выдання, а таксама зрабіць публікацыю яго твораў у часопісе...

**x**

*20.12.2013.* У сеціве з’явілася інфармацыя, што да чэмпіяната свету па хакеі з Мінска вывязуць усіх п’яніц, бамжоў і прастытутак. З гэтай нагоды ўзгадаўся 1980 год і Алімпійскія гульні ў Савецкім Саюзе. Я тады працаваў грузчыкам на лікёра-гарэлачным заводзе «Крышталь» і хадзіў у сябрах у алкаголікаў і былых зэкаў. Мяне на працы называлі Вожыкам. І вось аднойчы я быў запрошаны на сходку да аднаго мужыка, які жыў у раёне вуліцы

Няміга. Сабралася чалавек трыццаць. Ішло абмеркаванне, дзе хавацца ад міліцыі на час Алімпіяды. Некалькім зэкам вырашана было жыць на нейкай выспе на Мінскім моры, куды я павінен быў вазіць харчы. І тут падаў голас самы галоўны з кампаніі: «Вожыка не ўцягваць! Няхай піша свае вершы!»

**x**

*20.12.2013.* А восьмай гадзіне раніцы завітаў у царкву. У ёй было амаль цёмна. Тры свечкі гарэлі сярод дзясятка патухлых, нібыта памерлых. Некалькі чалавек хадзілі ў змроку, як прывіды. Памаліўшыся, замовіў на заўтра абедню па бацьку...

*снежань*

**x**

*21.12.2013.* Сніў родную хату. Вясна. Сонечна. У траве корпаюцца кураняты. З'яўляецца бацька. Яму гадоў семдзесят. Пытаюся: «Чаго ты прыехаў? Сядзеў бы ў горадзе!» — «Хачу дапамагчы табе!» — адказаў бацька. Пасля маіх слоў «Не трэба мне дапамагаць. Адпачывай!» бацька знікае, а я прачынаюся...

**x**

*21.12.2013.* З Людай, сястрой Валяй і братам Вовам ездзіў у Ракаў. Вазіў нас Валін сын Сярожа. Сёння адзначалі ўгодкі па бацьку...

На вуліцы змрочна. У царкве холадна, як у час пахавання бацькі...

Час ад часу мроіліся пасярод Храма то мама ў труне, то бацька...

Цётцы Валянціне, якая прадае свечкі, я прывёз кнігі (абяцаў падараваць на пахаванні бацькі) — сваю «Стралу кахання, любові крыж» і Людміліну «Ночы на Плябанскіх млынах». «А я ўжо даўно прачытала «Пугачоўскага цырульніка». Брала ў бібліятэцы»,— дзякуючы за падарунак, сказала былая настаўніца, у якой у свой час вучылася Валя...

Пасля царквы на вуліцы пасвятлела. Магчыма, толькі для нас...

Зайшлі ў майстэрню, дзе робяць помнікі. Якраз быў гаспадар. Аляксей. Малады. Гадоў 35. Замовілі помнік бацькам. У хлопца была абдзёртая правая рука. Кроў яшчэ не паспела засохнуць...

Выйшлі з майстэрні. Стала весялей — зрабілі важную справу. Помнік можна будзе паставіць у траўні...

На могілках змрочна. Магілы бацькоў зацярушаныя снегам. Паправілі вянкі. Паклалі свежыя кветкі. Запалілі свечкі. Люда пачытала малітву і раптам пасвятлела навокал — над намі з'явіўся лапік чыстага ад аблокаў неба...

**x**

*22.12.2013.* У Ракаве ў заснежаным двары майстэрні, дзе робяць помнікі, ляжаць купы чорных гранітных пліт. Адна з іх аб'яднае маміну і бацькаву магілы. Каторая?

*снежань*

**x**

*23.12.2013.* Сёння год, як апошні раз у жыцці размаўляў з бацькам. Ён быў у Ракаўскай бальніцы. Я прыехаў, каб адведаць. Ледзьве пасадзіў на ложку. Бацька сядзеў, як п'яны, а я карміў яго з лыжкі, як малое дзіця. На пытанне: «Як ты сябе адчуваеш?» адказаў: «Добра...» — «Можа, што баліць?» Прашаптаў: «Нічога не баліць...» — і лёг. Пасядзеўшы каля бацькі, я пацалаваў яго на развітанне і, выходзячы з бальніцы з болем у сэрцы, скрушна падумаў: «Відаць, што да наступных выходных не дажыве...» Бацька памёр 25 снежня...

**ЛЕАНІД ПРАКОПЧЫК**

*24.12.2013.* Выпадкова ўзяўшы «СБ» за 14 лістапада, на апошняй старонцы ў рубрыцы «Этот день в истории» прачытаў: «1933 г. В этот день родился Леонид Прокопчик, писатель, автор книг краеведческих очерков, сценариев фильмов «Напалеон Орда», «Беларускія ратушы». Умер в 1998 году». Да гэтых радкоў магу дадаць, што Леанід Пракопчык скончыў Маскоўскую сельскагаспадарчую акадэмію імя Ціміразева ў 1958 годзе. Працаваў брыгадзірам, аграномам, настаўнікам, карэспандэнтам у рэдакцыях газет «Калгасная праўда» і «Знамя юности», рэдактарам на Беларускім тэлебачанні, рэжысёрам на кінастудыі мультфільмаў. Даследаваў мясціны, звязаныя з жыццём і творчасцю Змітрака Бядулі, В. Дуніна-Марцінкевіча, Я. Чачота, С. Манюшкі, Ядвігіна Ш. У біяграфіі Янкі Купалы выявіў новыя звесткі. Сабраў і

літаратурна апрацаваў народныя легенды і паданні. Для мяне Леанід Цімафеевіч чалавек не чужы. Ён маёй мамы стрыечны брат. Пра гэта я даведаўся ў 1996 годзе. Я тады працаваў у «ЛіМе», і аднойчы ў рэдакцыю прыйшоў пажылы, невысокага росту незнаёмец і сказаў: «Ты мой стрыечны пляменнік. Давай знаёміцца!» Ён даўно хацеў гэта зрабіць, але ніяк не атрымлівалася. Пасля нашага знаёмства мой стрыечны дзядзька прыязджаў у Пугачы. Гэта было ўлетку. З маёй мамай Леанід Цімафеевіч не бачыўся гадоў пяцьдзясят. Яны амаль цэлы дзень успаміналі сваё маленства і сваякоў. Я, на жаль, нічога не запісаў. Цяпер шкадую. Потым зрэдку мы сустракаліся ў «ЛіМе» і ў Доме літаратара. Леанід Цімафеевіч усё клікаў паехаць разам з ім на лецішча, а я ўсё адкладаў на пазней, бо дзеці яшчэ былі малыя. Час ляцеў, і 7 снежня 1998 года Леанід Пракопчык памёр...

*снежань*

**х**

*25.12.2013.* Каля крамы, што паблізу дома, дзе кватараваў бацька, пабачыў старую, якую тут раней амаль штодня сустракаў. Яна не змянілася. На ёй тое ж доўгае рудое паліто, чорныя буркі, ружовая хустка, з-пад якой выбіваюцца сівыя прамыя валасы. Старая сядзела на ганку і ела батон, белыя крошкі ад якога сыпаліся на чорны асфальт, дзе іх тут жа падбіралі галубы. Сёння год, як памёр бацька...

**х**

*26.12.2013.* Днямі да мяне ў выдавецтва завітаў Віктар Корбут. Сталі размаўляць пра Шніпішкі ды Шніпоў — беларускіх і літоўскіх. Я сказаў свайму цёзку, што маё прозвішча з літоўскай перакладаецца як «шпіён». Віктар засумняваўся: «Прозвішча даўняе. А звычайна даўней давалі прозвішчы людзям паводле нейкай характэрнай прыкметы іх аблічча, паводзін. «Шпіён» — гэта надта гучна і небяспечна. З такім прозвішчам доўга не працягнеш...» І Корбут абяцаў пашукаць па сваіх кнігах дакладна, ці я шпіён, бо і сапраўды ў літаратурнай літоўскай мове ёсць слова šnipas, якое мае адмоўную канатацыю і перакладаецца як «шпіён». І сёння Віктар даслаў мне вось гэтую інфармацыю: «Ёсць у Вільні былое прадмесце, а цяпер староства (сянюнія) Шніпішкі (Сніпішкі, Śnipiszki,

Šnipiškės). У Вікіпедыі пішуць пра нейкага купца Шніпа, якому Вітаўт падараваў гэтыя землі. Не веру. Хай спасылку дадуць, адкуль узялі такую інфармацыю. Добра, што маю дома «Слоўнік літоўскіх прозвішчаў». Дык вось, там тлумачыцца, што Шніпас — «прозвішча, што паходзіць ад мянушкі, звязана з літ. šnipas 'свіная сківіца, пыса; рот', šnypuoti 'цяжка ў нос дыхаць'.

Вядомыя ў Літве таксама вытворныя або роднасныя са Шніпом прозвішчы: Шніпаўскас, Шніпка, Шніпкаўскас, Шніпкус, Шніпуціс.

А Шніпішкі — гэта той самы раён, дзе стаяць касцёл Святога Рафала з колішнім кляштарам езуітаў, а пасля піяраў (на рагу вуліц Шніпішкю і Упес), неагатычны палац Радушкевіча і лявей — розныя гмахі, якія тырчаць па-над панарамай Старога места, ды пад імі вялікія крамы на чале з CUP (ЦУМам). Для арыентацыі па мапе: перайшлі ад вуліцы Вільняўс (Віленскай) Зялёным мостам праз Нярыс (Вілію) і выйшлі на вуліцу Калварыю (Кальварыйскую) — вось і Шніпішкі».



**x**

*29.12.2013.* Ні снегу, ні марозу, ні сонца... Усё, як мёртвае. І людзі ў ранішнім тумане, як прывіды...

**x**

*29.12.2013.* Паставілі ялінку. Амаль што перад самым святам — так першы раз. Добрага настрою не дадалося, але адчуў, што Новы год недзе ўжо каля вокнаў...

**x**

*31.12.2013.* Прачнуўся ад званка ў дзверы. Думаю: «Суседу Дзіму загарэлася выпіць!» Адчыняю. Стаіць суседка, якая жыве над намі. Павітаўшыся, жанчына кажа: «Прабачце, што так рана. Я тут хачу, каб Людміла падпісала кнігу маёй маме»,— і дае: «Ночы на Плябанскіх млынах»...

# Сарцавіна

**х х х**

Ізноўку дождж... Ізноўку восень,
Як год назад, як сто назад.
Як карабель, пустая восець
Плыве спакойна ў лістапад,

Нібы ў агонь, што забушуе
І сцішыцца праз пару дзён.
Ізноўку дождж мяне ратуе
Ад нематы, бо любіць ён

Мае самотныя маленні
Да сонца, што ад нас сышло
За воблакі, каб дождж асенні
Напомніў нам, што так было

І год назад, і сто назад
І будзе так ізноў праз восень,
Як карабель, старая восець
Спакойна плыць праз лістапад. ***29.09.2009***

**х х х**

Сонца кветкай на ўсходзе праз снег прарастае,
І канчаецца ноч, пачынаецца дзень,
І вясны беларускай пчала залатая
Выглядае з вулля, нібы з хмары прамень
Адзінокага сонца, што ўжо зацвітае
І святлом напаўняе нам душы і свет,
Так, як белыя вершы свае ажыўляе
У пакойчыку змрочным самотны паэт... ***8.03.2010***

**х х х**

Нябачны хтось іграе на раялі,
Ці сам раяль іграе, як жывы,
Каб вы, вясновая, не сумавалі,
Як у нябёсах мёртвых жураві,
Надоўга пакідаючы Айчыну,
Трывожна плачуць, плачуць і лятуць,
Як лісце пачарнелае рабіны
Ляціць, нібы ў нябёсы, у ваду,
Дзе хтось нябачны грае на раялі,
Што створаны з аблокаў і дажджу,
І музыка плыве, нібыта хвалі,
І б'ецца, як аб бераг, аб душу... ***17.04.2010***

**х х х**

А ты выйшла з царквы, як багіня, якая,
Што багіня яна, і не знала й не знае.
І зрабілася светла, нібыта святло
За табой, як багіняй, няспешна ішло.
І ўсё знікла наўкола: і снег, і дамы,
І нікога, нікога, адны толькі мы
На ўвесь свет, у якім мы сустрэліся зноў,
Каб не знікла, як сонца за хмарай, Любоў
Да жыцця, да зямлі, на якой мы жывём,
Быццам бы матылі па-над Божым агнём,
Над якім нам, як лётаць, малітвы шаптаць,
Каб ніколі ўжо болей цябе не губляць
У краіне, якая Каханнем завецца,
Над якою не сонца, — разбітае сэрца... ***21.01.2011***

### х х х

Над Айчынаю дым, хоць пажару няма,
І каторы ўжо год не праходзіць зіма,
І не шкло ў нашых вокнах, а неба і лёд,
У які ўмерзла муха, нібы самалёт.
І глядзім мы на захад, глядзім і на ўсход,
Але сонца не бачна ні там і ні там.
Дом прад намі стаіць, як стары параход,
На якім па Нямізе ад нас белы Храм
Нехта ноччу хацеў перавезці й прадаць
Невядома каму, і каго запытаць,
Невядома, бо ўсе, як нямыя, маўчаць.
Ды ад нашых дыханняў рассыплецца лёд,
Прагудзіць, нібы муха, чужы самалёт,
На якім нам з табою адсюль не ўцякаць,
Бо тут нашае ўсё і тут нам паміраць.
І мінецца паўвека ці некалькі год,
Паплыве па Нямізе, як лёд, параход... ***31.01.2011***

***сарцавіна***

### х х х

Ты свайго дачакаешся сонца,
І, магчыма, аслепіць яно
І цябе, і ўсіх тых, хто бясконца
Піў, як вечнасць зямную, віно,
У якім нараджалася песня
І танула ў віне і ў слязах...
Дзень пачнецца, нібы сонца трэсне,
Зачапіўшыся ў нашых палях
За слупы межавыя з дратамі,
На якіх, нібы кроў, спіць іржа.
І заплачаш сляпымі вачамі,
І твая загалосіць душа,
Як сава, дачакаўшыся сонца
Веснавога, жывога, свайго
У дубраве, дзе цёмна і сонна,
Дзе баішся ваўкоў, як багоў.
І пачнецца твой дзень адзінокі,
Як і сонца, што вечна адно
І над намі высока й далёка,
Як у пекла вакно... ***4.02.2011***

### x x x

Ты прыйшла з дваццатага стагоддзя
Па жыцці, нібы па тонкім лёдзе,
Што між намі быў на рэчцы часу.
Ты прыйшла, і трэснуў лёд адразу
У маіх вачах, і праліліся слёзы,
Каляровым стаў і шматгалосым
Свет наш белы, нібы ў час тварэння.
Зоркі, нібы спелае насенне,
Падалі і птушкамі ўзляталі
Там, дзе мы з табою сумавалі
Па гадах, што ў далечы дзіцячай,
Дзе магло ўсё быць, чым ёсць, іначай.
І таму з дваццатага стагоддзя
Мы прыйшлі, нібы па тонкім лёдзе,
Па жыцці ў жыццё, якое з намі,
Светлае, як слёзы пад вачамі... ***15.02.2011***

### x x x

Забыцца пра цябе, нібы памерці,
Нібыта ў цемры з неба зорку сцерці
І цемрай стаць, якая забівае,
Дзе зорка, нібы куля залатая,
Ляціць і падае ў палын-траву,
Дзе я адзін, нібыта воўк, жыву
І помню пра цябе, як пра світанне,
Якое, як мінецца ноч, настане
У гэтым свеце, што стварылі мы,
Сустрэўшыся сярод зімы... ***3.03.2011***

### x x x

Адной рукой напішаш і закрэсліш,
І ў галаве закрэсленае змесціш,
Другой рукой нальеш сабе віна.

І вып’еш за народ і за Айчыну,
Як піў нядаўна толькі за жанчыну,
Што для цябе была, як смерць, адна.

І спаліш чарнавік, і попел чорны
Зашамаціць, нібы крыло вароны,
І ўміг рассыплецца, як верша цень,

***сарцавіна***

Які ты напісаў, пасля закрэсліў,
Нібы забіў, нібы дашчэнту збэсціў
Табой пражыты і апеты дзень... ***22.03.2011***

### x x x

Зноўку сонца няма, быццам бы яго скралі
Людзі тыя, што ўноч па-вар’яцку спявалі,
Ідучы невядома адкуль і куды.

І глядзіш ты ў туман, як у вечнасць нямую,
У якой нашы душы, як птушкі, начуюць
Перад тым, як ляцець у святыя сады.

І ты моўчкі ідзеш па дарозе, якая
У тумане, нібыта ў стагоддзях, знікае,
Каб з’явіцца тады, як не будзе тут нас.

І з’яўляецца сонца высока ў нябёсах,
Быццам ліст залаты на высокіх бярозах,
Дзе заўжды незалежна ад нас ідзе час... ***15.04.2011***

**x x x**

Я гляджу праз вакно на задымлены горад,
У якім я жыву і ў якім я памру
За старымі дамамі, дзе цені і холад,
Дзе на ўсходзе вятры раздзімаюць зару,
Быццам прысак, які там застаўся ад Храма,
Што ў мінулым стагоддзі, як свечка, згарэў,
У якім маладая малілася мама,
Каб я быў паслухмяным і каб не хварэў.

Я гляджу праз вакно, як праз лёд адзіноты,
І мне цяжка ўздыхаць, і мне хочацца жыць,
А над горадам чайкі, нібы самалёты,
Што з дзяцінства майго прыляцелі кружыць
Па-над горадам дымным і па-нада мною,
Каб тут я хоць цяпер, але ўсё ж зразумеў,
Што на свеце няма і не будзе спакою
З-за таго, што наш Храм сто гадоў, як згарэў...

***30.06.2011***

**x x x**

«Сыходзяць сябры у падполле,
Як мышы, што чуюць ката.
Мышам у падполлі раздолле,
Хоць цёмна, але ёсць яда...» —
Так верш пачынаю і крэслю,
Бо можна пакрыўдзіць сяброў,
Якія прывыклі чуць песню
Пра веру, надзею, любоў.

І сам я сыходжу ў падполле,
Як кот, што шукае мышэй,
Якія з саломы на полі
Стварылі сабе Калізей.
І сумна ўсё гэта, я знаю,
Бо сумна сыходзяць сябры,
Сыходзяць, нібы паміраюць
Здаровыя і без пары... ***17.07.2011***

**х х х**

Праліўнымі дажджамі размыты дарогі,
І па іх не праехаць, па іх не прайсці.
Ды дзяўчынкі маленькай маленькія ногі,
Як па жоўтых вуголлях, па жоўтым лісці
Асцярожна ідуць, бо баіцца згарэць,
Як анёлак, дзяўчынка малая мая.
Мы дахаты ідзём, і нам трэба паспець
Да пачатку начы, нас чакае сям'я.
І прыйду я дахаты з малою дачкой,
І, як сонца, яна ўвесь асвеціць наш дом.
І забудземся мы, што нам сумна з табой
І размыты дарогі самотным дажджом... ***20.07.2011***

***сарцавіна***

**х х х**

Адзін сяджу ў кватэры, як у клетцы,
І не хачу зусім з яе ўцякаць
За матыльком, які аб шыбу б'ецца,
Нібы аб неба, дзе ўначы сядзяць,
Як матылі, на Млечным Шляху зоры.
І я на зоры сумныя гляджу,
Якім самотна ў залатым прасторы,
Нібыта ў кроплі вечнага дажджу,
Які праліўся і застыў на кветцы,
Якая сонцам заўтра можа стаць,
Каб матылёк, які аб шыбу б'ецца,
Не захацеў да зорак адлятаць... ***12.08.2011***

**х х х**

Ты мог памерці сто разоў,
Калі пасвараны з сябрамі,
Як па-над прорваю, ішоў
Праз парк з пустымі ліхтарамі.
Але і сёння ты жывеш,
Як воўк, адзін у свеце-парку,
Дзе, нібы ў вечнасці, ідзеш,
Як зорку, несучы цыгарку
У цемры, дзе няма сяброў
І ўсе не могуць быць сябрамі,
Бо ты без іх у свет прыйшоў,
Бы ў парк з пустымі ліхтарамі... ***12.08.2011***

**х х х**

Зямля засыпана, як попелам, лістотай,
І жыць самотна тут, і нашае жыццё,
Нібы халодная вада пад тоўстым лёдам,
Цячэ, і час цячэ і зоркі, як лісцё,
Зрывае з неба, у якім няма анёлаў,
Што любяць нас і берагуць, як мы — дзяцей.
Зямля, як попел, па якой прайшлі манголы,
Што ў Залатой Ардзе не сталі залацей
Апалага лісця, што стане тлом і пылам,
Разветрыцца і зробіцца сырой зямлёй,
Дзе будзе кожнаму, хто тут жыве, магіла,
Самотная, як лісце пад маёй нагой... ***20.09.2011***

**х х х**

Уначы сёння восень настала.
І з жаўцюткай зямлі, як з вакзала,
Да нябёс павуцінай душа
Паляцела ад лета, якое
Для мяне не было залатое,
А самотнае, нібы шаша,
Што вядзе ў невядомыя далі...
Зоры ў небе лістотаю сталі,
Я пад імі, нібы пад бярозай,
Адзінокі, стаю і гляджу,
Як на травах туманяцца слёзы
Ці крупінкі начнога дажджу,
Без якога зямля сумавала...

Уначы сёння восень настала... ***3.10.2011***

**х х х**

Ты ідзеш па дарозе, якой больш няма,
І ў вачах тваіх шэрых сівая зіма,
Нібы дым ад кастроў, што ў нябёсы плыве.

Пад нагамі ў цябе ледзяное лісцё,
Для цябе — прыгажосць, а для іншых — смяццё,
Што валяецца ў шэрайваўчынай траве.

Ты ідзеш па дарозе, якой сёння быць,
Ты ідзеш па дарозе, і хочацца жыць,
І любіць гэты свет за траву і лісцё,

За вятры і дажджы, і за ўсё, і за ўсё,
Што завецца жыццём, для якога ўсе мы,
Як жывая трава сярод вечнай зімы... ***20.10.2011***

**х х х**

У вечнасці губляюцца дарогі,
Як павуцінне ў небе і ў агні,
Дзе нашы радасці і ўсе трывогі
***сарцавіна*** У Бога, нібы соль, на далані.

І ты стаіш ля вогнішча і марыш,
Што пройдзе восень, а пасля — зіма
І знікнуць з сэрца, як і з неба хмары,
Разваліцца самота, як турма.

І будзе добра і табе, і свету,
Дзе ты жывеш і ведаеш, што ты
У вечнасці, як дым ад цыгарэты,
А сёння, нібы стомлены святы... ***30.11.2011***

**х х х**

Гэты свет не для вольных паэтаў.
Гэты свет забірае душу
І дае для паэта за гэта
Чорны крыж і хаціну з дажджу,
У якой ёсць віно і жанчыны,
Для якіх ты — няшчасны паяц,
У якога святое — Айчына,
Гай бярозавы — белы палац...
Гэты свет не для сумных паэтаў.
А ты сумны, бо маеш душу
І штохвілі душою за гэта
Асвятляеш дарогу з дажджу... ***1.12.2011***

### х х х

Па туманнай расе, па сцюдзёнай вадзе
Пастушком басаногім твой ранак ідзе.
Ты глядзіш на яго і ў ім бачыш сябе,
І душа твая плача ў асенняй журбе,
Што ў апалым лісці пад нагамі ляжыць,
І так сумна табе, што не хочацца жыць,
А тым болей што хутка надыдзе зіма,
У якой для цябе анічога няма,
Бо зіму, як любіў, ты не любіш цяпер,
Бо зіма для цябе, як палюючы звер,
Што не спіць і ўначы і заснуць не дае...
Сёння восень, і вецер — сабака яе —
Па туманнай расе, па сцюдзёнай вадзе
За табою бяжыць, а твой ранак ідзе
Пастушком басаногім, што любіць жыццё
І збірае апалае з клёнаў лісцё,
І ў лісці ён не бачыць асенняй журбы... ***7.12.2011***

### БАЦЬКА Ў ГОРАДЗЕ

У чорнай гарбаце, бы ў чорнай начы,
Ты бачыш дарогу ў свае Пугачы.
Там хата пустая, і змрок там і тло,
І ўсё ўжо, здаецца, пражыта, сышло,
І ў горадзе ты, як у панскай турме,
Глядзіш праз вакно, дзе не бачна ў зіме
Нічога знаёмага сэрцу твайму.
І ты ўжо не любіш сябе і зіму
За тое, што ўжо ўсё пражыта, сышло.
І ў чорнай гарбаце, як цукар, святло
Знікае паціху, зусім растае,
І ты мне гаворыш пра думы свае,
І слухаю я тваю споведзь і сны,
І хочаш яшчэ ты дажыць да вясны,
Бо ў чорнай гарбаце, бы ў чорнай начы,
Ты бачыш дарогу ў свае Пугачы... ***26.12.2011***

**x x x**

У свеце і ў душы даўно зіма,
А снегу, як і радасці, няма,
І травы зелянеюць, як вясной,
І чорны воран ходзіць, як герой,
Па плоце, за якім чарнее сад,
Дзе шчэ нядаўна светла лістапад
Кідаў лісцё мядзянае ў траву,
Дзе вецер выў стамлёнае «Жыву!»,
Нібыта думкі паўтараў мае.
Для шчасця сёння снегу не стае.
І я іду па вуліцы, і мне
***сарцавіна*** Вялікі кактус кветкаю ў вакне,
Як сябар, усміхаецца, стары.
І кот руды мудруе па двары,
І можна мне зайсціся ў гэты дом,
Напоўнены спакоем і дабром.
Ды не зайду — гаспадароў няма,
І ў свеце, і ў душы, як крыж, зіма... ***28.12.2011***

**x x x**

Першы снег мы чакалі, як свята.
І стаў белым увесь белы свет,
Дзе, як вугаль, чарнюткая хата
Патанула ў снягах, як траве,
У бялюткай, як дым на пажары,
Дзе згарэлі былыя гады,
У якіх былі светлыя мары
І надзеі на час залаты,
Што вось прыйдзе, як сонца прыходзіць,
Пад якім растаюць снег і лёд.
Выпаў снег. І па снезе, па лёдзе,
Нібы снежны, спяшае народ,
У якога не многа тут святаў,
І таму, першы снег, як святло,
Што на крылах было ў лістапада
І што ў нашай самоце было... ***2.01.2012***

**х х х**

Вецер разбіваецца аб неба,
Як аб шкло ў захмараным вакне.
І ляціць з нябёсаў снег, як срэбра,
І знікае ў сонечным віне,
Што ў тваім бакале, як Байкале.
Сёння свята. Сёння ты прыйшла,
Ціхая, нібы віно ў бакале,
Поўнае анёльскага святла...

Вецер разбівае наша неба,
І ляціць з нябёсаў снег, як шкло,
Што ніколі нам не будзе срэбрам,
Як не вернеш тое, што прайшло... ***4.01.2012***

**х х х**

Першы снег, як стагодні туман,
Ападае з нябёс на траву.
Як манах, адзінокі груган
Заляцеў у старую царкву,
Каб схавацца ад снегу густога,
Як ад смерці, якая прыйшла
І схавала пад снегам дарогу
І нябёсы, дзе мора святла,
Што зрабілася снегам і ўпала,
Быццам бы на цвікі, на траву...
І царква белым воблакам стала,
І ніхто больш не бачыў царкву... ***13.01.2012***

**х х х**

Не патоне ў снягах стары лес,
Нібы востраў, дзе сонца жыло,
Што пакінула ў чорнай смале
У задымлівых соснах святло,
Да якога ідзеш па снягах,
Як па белай марознай вадзе,
І, як крыж, ты нясеш на плячах
Белы снег, што з цябе не спадзе,
Бо ён вечны, як Бога святло,
Як пражытыя дні і гады,
І, як тое, што ўчора было,
Знікла ў снезе, як лес малады... ***16.01.2012***

### х х х

Па забытых дарогах Айчыны
Ты няспешна, як прывід, ідзеш
Да цяпла, куды клін жураўліны
Паляцеў, нібы восеньскі верш,
Што напісаны Богам самотным
У дажджлівы і ветраны дзень,
Дзе было для цябе неба родным
І лісцё, што плыло па вадзе,
Як аскепкі разбітага шчасця,
Што было, як лісцё, залатым.
Шчасця не накупіць, не накрасці,
***сарцавіна*** Шчасце ёсць, але шчасце не ў тым,
Што ты шчасцем сваім называеш,
Па забытых дарогах ідзеш
Да цяпла і ў самоце знікаеш,
Бы ў душы ненапісаны верш... ***18.01.2012***

### х х х

Не кажы пра самоту нічога,
Бо самоту цяпер не люблю,
Як і пыл над вясковай дарогай,
Што ўзляцеў, каб ізноў на зямлю
Апусціцца, і з пылам змяшацца,
І абсыпаць кусты і траву.
Калі можна ад пылу схавацца,
Ад самоты сваю галаву
Не схаваць, бо самота заўсёды,
Як паветра, ля нас і ў душы,
Праз якую і пыл, і лістота
Пралятаюць, праходзяць дажджы,
Пакідаючы сумныя вершы,
У якіх ёсць і лёд, і цяпло.
Што прайшло, больш таго ўжо не вернеш,
І ці трэба вяртаць, што прайшло,
І таму не кажы пра самоту,
Бо самота, як пыл, як вуглі,
Як стаптаная ў парку лістота,
Як у небе начным жураўлі... ***20.01.2012***

**x x x**

*Сябру*

У снезе пратаптаныя сцяжыны
Самотныя, як нашае жыццё,
Якое мы з табой любіць павінны
І не павінны. Воўчае выццё
Далёка чуецца, яно пужае,
Ды не баімся мы з табой ваўкоў.
Сцяжыну нашу снегам замятае.
Не замяцецца нашая любоў
Да роднае зямлі, да роднай хаты,
Дзе ўжо ніхто сягоння не жыве.
Што сумна нам — ніхто не вінаваты,
І мы ў царкву ідзём, і мы ў царкве
Не збавімся адвечнае самоты,
Што ў нашых душах, нібы воўк, сядзіць.
І мы жывём пад небам, як пад лёдам,
Які нам можа толькі Бог разбіць,
І ў снезе пратаптаныя сцяжыны
Вадою стануць і ў нябыт сплывуць.
І нас палюбяць лепшыя жанчыны,
І лепшыя мужчыны нас заб'юць... ***21.01.2012***

**x x x**

Зноў трава не расце, зноў не пішуцца вершы,
Ды без вершаў, нібы без травы, не памрэш ты
І ніхто не памрэ, бо яны не вада,
Што ад смагі ратуе. Не ў тым і бяда,
Што ранейшыя вершы, як пыл на паперы,
А бяда мая ў тым, што зрабілася шэрым
Наша неба, дзе зоры былі, нібы вершы,
І дзе поўня, як верш мой закрэслены першы,
Што табе прысвяціў і прыклеіў да неба,
А табе, атрымалася, вершаў не трэба,
Бо яны не вада, бо яны не віно,
Бо яны, як разбітае ў Храме вакно,
Праз якое лятуць галубы і анёлы,
І агеньчык на свечцы трапечацца кволы,
Як душа ў сумных вершах, якія пішу
І якія ў сабе, як палын, я нашу,
Што з зямлі прарастуць, як не стане мяне
У самотным стагоддзі на самым на дне... ***14.02.2012***

## ПЧАЛЯР

Пчаліны мёд становіцца агнём
І ў слоіку, нібыта ў ліхтары,
Ён ноччу цёпла свеціцца і днём,
Нам асвятляючы твой дом стары,
Дзе ты жывеш, сумуючы, адзін,
І пчолам кветак не шкадуеш ты,
Нібы пчалінай маткі блудны сын,
Што чалавекам стаў і назаўжды
Згубіў сваю сям'ю і вулей свой.
І ў слоіках, нібыта ў ліхтарах,
Агонь мядовы раздаеш зімой,
*сарцавіна* Каб да вясны ён асвятляў нам шлях.
А да вясны далёка, як заўжды,
І мы прыходзім часта да цябе,
І ты глядзіш на нас, нібы святы,
Што знае сэнс у мёдзе і ў журбе... ***5.03.2012***

## Х Х Х

Вясновы вецер плача ля крыжоў
Па тых, каму ўжо не прыйсці дамоў
І не сказаць, што гэтае жыццё
Самотнае, як восенню лісцё
На дрэвах, што растуць сярод магіл,
Дзе ўсё святое і дзе ўсё, як пыл,
Якому тут з'яўляцца і знікаць,
І ціхаю травою парастаць,
Каб мы шукалі сцежкі да крыжоў,
Якія, быццам нашая любоў
Да тых, каго мы страцілі ў жыцці,
Якім да нас ніколі не прыйсці
І не сказаць, чаму вясной ізноў
Вясновы вецер плача ля крыжоў... ***20.03.2012***

## Х Х Х

У словах прыгожых не толькі святло,
У словах прыгожых хаваецца зло,
Нібы ў кабуры скураной пісталет.

І ты мне гаворыш, што любіш мяне,
Як сонца ў чырвоным і танным віне
Любіў адзінокі памерлы паэт.

Забудуцца словы, растануць снягі,
І, пэўна, зноў будзе ўжо нехта другі
З табою ісці і казаць пра любоў.

І ў словах прыгожых зноў будзе святло,
І ў словах прыгожых схаваецца зло,
І ўсё, што забыта, паўторыцца зноў,

І будзе праліта віно, нібы кроў... ***5.04.2012***

**х х х**

Блукаеш па полі, як вецер,
Якому не хочацца жыць
У гэтым задымленым свеце,
Дзе ў травах вякуюць глыжы,
Нібы чарапы нашых вояў,
Што нас баранілі ад зла,
Каб наша Айчына ў спакоі
Не толькі ў музеях жыла,
А ў кожнай хаціне і ў сэрцы
Людзей, што для роднай зямлі
Жывуць не ў далёкай Амерыцы,
А тут, дзе іх продкі жылі...
Блукаеш па полі, як вецер,
Ды ветрам не хочаш ты жыць
У гэтым задымленым свеце,
Дзе быў наш Хрыстос на крыжы... ***23.04.2012***

**х х х**

Мы баронім Радзіму ад смерці,
І Радзіма нас перажыве.
Без Радзімы, нібыта без сэрца,
Без Радзімы, як пыл на траве,
Кожны з нас, хто бароніць Радзіму
Ад чужынцаў, ад здрады, ад тла.
Без Радзімы нам жыць немагчыма,
Без Радзімы, нібы без святла.
Бараніць нам Радзіму заўсёды,
Як сям'ю, як агонь, як ваду,
Што зімою становіцца лёдам,
Каб вясной нарадзіцца з ільду... ***13.05.2012***

### х х х

Ізноў вясна жаданая прыйшла,
І ў кожнай нават незаўважнай кветцы,
Нібы анёлак, пабыла пчала,
Сваім лятаннем асвяціўшы сэрцы
Людзей, што цэлую зіму чакалі,
Калі зноў кветкі ў садзе зацвітуць
І залатой ад сонца стане далеч,
Нібыта рыбкі залатыя там жывуць —
У возеры нябёсным, што адтала
І ад снягоў пазбавілася ўжо.
Пчала ў тваю кватэру залятала,
*сарцавіна* Хавалася ад ветру і дажджоў,
І ты казаў пчале, што ты сумуеш
І з ёй гатоў да сонца паляцець.
А ў сонцы, быццам у дупле, вяснуе
Руды вялікі сонечны мядзведзь,
Якога бачыў ты, калі ляцела
Пчала з тваёй кватэры ў белы свет,
Дзе раніцай упаў, растаў збялела
Апошні снег у першае траве... ***16.05.2012***

### х х х

Апошняй квецені самота
Пад сонцам растае ў траве.
І пад асфальтам, як пад лёдам,
Дарога, як рака, плыве
Праз сад стары, як праз былое,
Што адцвіло і адышло,
Пакінуўшы святло жывое,
Але нябачнае святло,
Што ў кожнае травінцы сёння
Жыве і будзе доўга жыць,
Нібыта ў вечнасці палоне,
Нібыта холад у глыжы,
Які з дарогі ты прымаеш
І ў травы кідаеш, і сам
У сад ідзеш, і там знікаеш,
І нараджаешся зноў там... ***18.05.2012***

### х х х

У святле далёкіх зорак
Ёсць і нашае святло,
Што было шчэ намі ўчора
І што ўчора адышло
Незаўважна і самотна,
Як пражыты дзень і год.
Ты ідзеш па сцежцы роднай.
І каменне, нібы лёд,
У траве густой знікае,
Свецiцца расой з травы,
Што нас кожнага чакае,
Покуль кожны з нас жывы
У святле далёкіх зорак,
Што аднойчы ападуць,
Як лісцё апала ўчора
На сцюдзёную ваду,
Што ў калюгах, як у небах,
У якім сваё жыццё
І якое нам не трэба,
Як апалае лісцё...
Ты прыпынішся на сцежцы
І ў нябёсы паглядзіш,
І святло ў тваёй усмешцы
Будзе, як на Храме крыж... ***21.05.2012***

### А ТЫ ПАЛЮБІ...

...Табе падабаецца вечар,
Дзе поўня, як шчыт залаты,
Дзе ў дым разбіваецца вецер
Аб неба, дзе зорак сады
Цвітуць і жыццё асвятляюць,
Якім мы начыма жывём,
Дзе птушкі анёльскі лятаюць
Над горадам, як над агнём,
Дзе мы для Айчыны згараем
І любім Айчыну заўжды,
Як сонца часцінку і раю,
Як кроплю живое вады...

А ты палюбі сёння вечар,
Самотны, халодны, як лёд,
Дзе крыжам чарнее далеча
І спіць, нібы мёртвы, народ... ***29.05.2012***

## МАЯ ВОСЕНЬ

Па халоднай, як мёртвай, вадзе
Коткай рыжаю восень ідзе,
І ў яе залацістых вачах
Адзіноты люструецца шлях,
На якім пажаўцела трава,
На якім пачарнела царква,
І ў мяне ўжо няма тут сяброў, ***сарцавіна***
Апрача абляцелых лістоў
З прыдарожных бяроз і асін.
І, здаецца, застаўся адзін
Я на свеце, дзе сёння дажджы,
Дзе з пяску прарастаюць глыжы,
Нібы замка старога сцяна,
Што, як я, засталася адна
Пад халоднай, як мёртвай, вадой,
Па якой тут спяшае за мной
Котка рыжая — восень мая,
Ад якой не ўцяку заўтра я... ***29.05.2012***

## Х Х Х

Спакойнае неба Айчыны,
Як купал адвечнага Храма,
Які берагчы мы павінны,
Дзе сёння іконаю мама
Мне стала і будзе іконай
Маёю, пакуль я жыву,
Дый потым травою зялёнай
Не стане, бо сам я ў траву
Сыду, каб іконаю мама
Была нада мною заўжды,
Дзе помнікі сценамі Храма
Стаяць ля крынічнай вады
У Ракаве родным і мілым,
Дзе светла, дзе гойна, дзе я
Стаю каля кожнай магілы
І кожная з іх, як мая... ***31.05.2012***

**x x x**

Нада мной, як матуліны слёзы,
Беларускія нашы нябёсы,
І мне светла заўсёды пад імі,
І не стануць яны мне чужымі
Ні за што, аніколі, нідзе.
Ноччу зорка слязою ўпадзе
І бярозай вясной прарасце,
І сарока за дзень на хвасце
Ад бярозы святло разнясе
Па палях, па лугах, па расе,
Што нібыта матуліны слёзы,
Па якіх я іду паўз бярозы
Да крыжоў, пад якімі сябры,
Што пакінулі свет без пары,
І таму па-над намі, як слёзы,
Беларускія нашы бярозы... ***1.06.2012***

**x x x**

Ты ідзеш па дарозе, дзе неба,
Нібы ў зорках, у жоўтым лісці,
І табе больш нічога не трэба,
Як па гэтай дарозе ісці
Да Айчыны, якую не знаеш
І якую ты любіш даўно,
Называючы пеклам і раем,
І магілай сваёй заадно.
І ты прыйдзеш, самотны, дахаты,
І цябе не пазнае радня,
Бо ты будзеш стары і гарбаты,
І рассыплецца ў пыл цішыня
Ад твайго нечаканага крыку.
І ў аблоках, і ў жоўтым лісці,
Да цябе прыйдзе Дух найвялікі
І пакліча з сабою ісці,
Ды не пойдзеш ты больш анікуды,
Бо табе ўжо абрыдла хадзіць,
Піць віно, быццам лекі й атруту,
І жыццё за дарогу любіць,
Дзе табе больш нічога не трэба,
Як па пыльнай дарозе ісці,
Дзе ў аблоках дарога і неба,
Дзе Айчына ў апалым лісці... ***2.06.2012***

**х х х**

Дажджлівая халодная вясна
Табе прысніцца, і прачнешся ты,
І паглядзіш на белы свет з вакна,
Нібыта з-пад аціхлае вады,
Што ўчора бушавала і цякла
І праз тваю савецкую душу,
Якая тут адвыкла ад цяпла,
Прывыкшы да бясконцага дажджу.
Ды дождж прайшоў, і наступіла лета,
І, дзе была вада, цяпер трава
Буяе і па жоўтых хвалях кветак
*сарцавіна* Плыве да вёскі белая царква...
І ты прачнуўся, і глядзіш з усмешкай
Удалячынь, дзе сонца, як вакно,
Дзе лесу шнур, як у нябёсы сцежка,
І лён, нібы блакітнае віно,
Разлітае анёламі даўно... ***5.06.2012***

**х х х**

Ты глядзіш на дарогу, якая
У пяску, быццам бы залатая,
І па ёй ты ідзеш да царквы,
Шапку зняўшы з сівой галавы,
І здаецца табе, што ты вечны,
Як нябёсы, дзе Шлях ноччу Млечны,
Як дарога ў вадзе залатая,
Над якою анёлак лятае
Матыльком адзінокім, як ты,
І ў цябе быў твой час залаты,
Але ён, як лісцё, абляцеў
З тваіх дзён, нібы з восеньскіх дрэў,
І таго цяпер часу няма,
І наперадзе смерць і зіма,
Да якіх ты ідзеш праз царкву,
Шапку зняўшы, нібы галаву... ***6.06.2012***

### x x x

Зноў гляджу я ў прасторы начныя
І там конніцу бачу Батыя,
Што цячэ па палях, як вада...

Як агонь, Залатая Арда
Разбіваецца ў дым, і знікае
Залатая Арда, як гнілая,
І ляціць на зямлю мокры пыл
На людзей і на травы магіл,
У якіх нашы продкі і сны,
Што не будзе ніколі вайны
І не прыйдзе ніякі Батый,
Ні гліняны і ні залаты...

Ды гляджу я ў прасторы начныя
І там конніцу бачу Батыя... ***13.06.2012***

### x x x

Табе не патрэбна нічога,
І ты, як сабака, жывеш,
Ідзеш незнаёмай дарогай,
Нібыта праз вечнасць ідзеш,
Якая была і век будзе
У свеце, дзе сонца, як сон,
Які сёння сніцца ўсім людзям
Пад небам блакітным, як лён,
Які на палях у Айчыны
Амаль ужо і не цвіце.
Стаіць ля дарогі рабіна,
Нібыта абраз у куце
Той хаты, якую пакінуў,
І зараз па свеце ідзеш,
І ў сэрцы нясеш ты Айчыну,
З якой анідзе не памрэш... ***26.06.2012***

**х х х**

Патанаючы ў траве, каменне
Свеціцца з глыбокае травы,
Быццам скамянелы сум асенні,
Пра які крычалі журавы,
І я чуў той крык па-над сабою
І глядзеў у неба, бы ў ваду,
У якую я ў час лістабою
Лістам пабялелым упаду
І не спуджу жураваў самотных,
Што крычаць пра сум адвечны свой
Над зямлёй пясчанай і балотнай,
*сарцавіна* Над зямлёю нашай залатой... ***9.07.2012***

**х х х**

Хочаш крычы, ну а хочаш маўчы,
Сцежка звузела мая ў Пугачы,
Вёску маю, дзе няма ўжо бацькоў.

Хата пустая, баюся зайсці,
Нібы сябе там баюся знайсці
Мёртвага, і не заходжу ізноў,

А паглядаю ў вакно, бы ў той час,
Дзе і самотна, і весела ў нас,
І яшчэ дома і бацька, і маці.

Шкода, былое вярнуць не змагчы.
І ўсё ж мае ў мяне ёсць Пугачы.
Іх у мяне не купіць і не скрасці! ***13.07.2012***

**х х х**

У рыб праразаюцца крылы,
І рыбы лятуць над зямлёй
І пэцкаюць нам небасхілы
Сваёю халоднай крывёй,
Разбіўшыся, нібы аб шыбы,
Аб неба, дзе сон і зіма.

І падаюць мёртвыя рыбы,
Як зоркі, якіх больш няма
У свеце, дзе па-над зямлёю
Мы хочам таксама лятаць,
Як рыбы з халоднай крывёю,
Каб раптам з гарачаю стаць... ***17.07.2012***

**х х х**

Загусцее туман, і закончыцца лета,
З неба зорка зляціць, нібы смерць з пісталета,
І растане ў тумане, нібыта ў вадзе,
Па якой толькі Бог, як па сушы, ідзе,
І ты будзеш глядзець у згусцелы туман,
І, што ўбачыш, — усё будзе проста падман,
Пра які аніколі не будзеш ты знаць,
Бо не будзе каму пра яго тут сказаць,
Бо закончыцца лета, нібыта жыццё,
І, як плямы крыві, па дарогах лісцё
Будзе доўга чырвонае ў пыле ляжаць... ***25.07.2012***

**х х х**

«Калі не баішся нічога,
Дык хоць бы пабойся ты Бога!» —
Гавораць табе, ты не чуеш,
Бо ў лесе з ваўкамі начуеш,
Забыўшы дарогу дадому.
Як золата, вецер салому
Змятае з падворка пустога,
І ў полі, нібыта да Бога,
Дарога травой зарастае,
Матыль па-над ёю лятае,
Нібыта душа маладая,
Што тут не баіцца нічога
І толькі баіцца да Бога
Ляцець, пакідаючы лета
І поле самотнае гэта,
Дзе ў жыце стаяць васількі,
Нібыта былыя вякі,
Што кветкамі сталі жывымі,
Тутэйшымі і палявымі,

І я сярод іх, як у небе,
З адвечнаю думкай аб хлебе
Іду, адзінокі, да Бога,
І я не баюся нікога,
Бо мне не патрэбна чужога
Нічога, нічога, нічога... ***25.07.2012***

**х х х**

Тут анічога новага, нічога,
Ды ў кожнага заўжды свая дарога
У гэтым свеце, дзе снягі, дажджы,
*сарцавіна* Дзе быў Хрыстос распяты на крыжы
І дзе б яго распялі сёння зноў,
Гаворачы пра веру і любоў.
І ты, нібы вяртаешся з палону,
Ідзеш і, згледзеўшы ў кустах варону,
Гаворыш ёй, што любіш гэты свет,
Што ты самотны, як крыжы ў царкве,
Дзе з вераб'ямі Бог яшчэ жыве,
І ты не бачыш новага нічога,
І ты не адракаешся старога
У гэтым свеце, дзе снягі, дажджы,
Дзе быў Хрыстос распяты на крыжы,
Дзе ты, нібы вяртаешся з палону,
Ідзеш, трымаючы, нібы карону,
Свой саламяны капялюш... ***26.07.2012***

**х х х**

Яшчэ зусім далёка да зімы,
І ты глядзіш на свет і разумееш,
Што дом чужы падобны да турмы,
З якой да маразоў ты не паспееш
На волю выбрацца і ў родны дом
Прыйсці, як вестка добрая прыходзіць,
І, душы напаўняючы святлом,
Жыве, і не знікае ў новым годзе.
Але яшчэ далёка да зімы,
І ўсё далёкае зусім далёка,
І, як непрачытаныя тамы,
Гады шчэ непражытыя нялёгка

Лічыць і думаць: «Ці дазволіць Бог
Усё спазнаць, што ты спазнаць жадаеш?»
І ліст асенні падае да ног,
І ты яго, як зорку, падымаеш
І ў дом чужы нясеш, каб пасвятлеў,
Як родны дом, які цябе чакае
І дзе абрус бялюткі на стале,
Як даўні снег, ляжыць і не знікае... ***3.08.2012***

**х х х**

*Людміле*

Ты вучылася ў Літінстытуце
І любіла гуляць пад дажджом,
І ты ведала ўсё, што тут будзе,
Нават тое, калі мы памром.

І была ты прыгожай, як рыфма
У санеце, які я стварыў.
А санет быў пра мора, і рыфы,
І туман, праз які човен плыў

Да цябе, адзінокай, як востраў,
Пра які аніхто тут не знаў.
І самота мая была вострай,
Нібы шкло, што заўжды разбіваў

Я ў дамах, дзе смяяліся людзі
З тых, хто любіць гуляць пад дажджом
І ўсё ведае, нават, што будзе,
Калі мы з адзіноты памром...

Ты была, і ты ёсць, і ты будзеш,
Так, як будуць дажджы і снягі,
І маркоціцца ў Літінстытуце
Будзе нехта, самотны, другі... ***17.08.2012***

**x x x**

У апалым лісці спіць агонь веснавы,
Што, праспаўшы зіму, стане дымам травы,
Па якой я пайду, быццам бы паплыву,
У нязведаны свет, у старую царкву,
На якой, як мячы, іржавеюць крыжы,
Бо штодзённа то снег, то туман, то дажджы,
Без якіх гэты свет быў бы сумны, як тло,
І якога б без нас ні на міг не было
У апалым лісці, дзе агонь веснавы,
Што, праспаўшы зіму, стане дымам травы...

***18.08.2012***

***сарцавіна***

**x x x**

Агонь патухне, і ссівее неба,
Бы шэранню ахопіцца вада,
І стане непатрэбным, што нам трэба
Было нядаўна, і ўзрасце жуда
Між камянёў забытай брукаванкі,
Дзе шчэ нядаўна грукалі вазы
І скрыгаталі ўзімку сані й санкі
Па камянях, дзе з кроплямі расы
Перамяшаны кроў былі і слёзы,
Якімі быў затушаны агонь,
Які не грэў ні ў спёку, ні ў марозы,
А ўсё знішчаў, склікаючы варон
На свята смерці, дзе сівела неба,
Бо ў ім за зоркі зачапляўся дым,
Якому нашая зямля не трэба
Была ні ў гэтым свеце і не ў тым,
Куды вядуць амаль усе дарогі,
Бо гэты свет часовы, як вада,
Што сёння нашыя цалуе ногі,
А заўтра ўжо вады і не відаць
З пяску, як з вечнасці, што нас чакае
І будзе нас на могілках чакаць,
Дзе ўсё жывое, як вада, знікае,
Каб, знікшы раптам, болей не знікаць... ***31.08.2012***

**x x x**

Ты сядзіш у зялёнай кавярні,
І кавярня плыве караблём
Між высокіх бялюткіх ліхтарняў,
Як фужэраў з біблейскім вінам,
На Шлях Млечны, дзе пуста і зімна,
Дзе бясконцая ноч, як пясок,
Усё сыплецца, сыплецца дымна
На зямлю, дзе не ходзіць прарок,
Дзе сядзіш ты ў зялёнай кавярні,
Быццам бы ў незямным караблі,
Да цябе ўсё чапляюцца парні,
А ты хочаш, каб хлопцы былі,
Нашы хлопцы, хлапцы-беларусы,
Для якіх родны край — гэта рай,
Для якіх тут дзяўчаты ўсе — музы,
І найлепшых нідзе не шукай...
Ты сядзіш у зялёнай кавярні,
І кавярня плыве караблём,
І мільгаюць у вокнах ліхтарні,
Нібы птушкі з анёльскім агнём... ***1.09.2012***

**x x x**

Як парэзаныя вены, вершы
У цябе былі, ты імі жыў
І ты ў вечнасць адышоў з нас першы,
Разлюбіўшы восень і дажджы,
Што былі заўсёды вінаваты
У самоце і ў балоце тым,
У якім мы топімся і хаты
Шэрыя, як адзіноты дым,
Ад якога слёзы, нібы вершы,
Затапляюць сэрца і душу...
Ты даўно памёр, але жывеш ты
У тых вершах, дзе няма дажджу... ***2.09.2012***

**х х х**

Не патрэбна нікуды спяшацца,
Бо і так час ляціць, як страла
У прасторы, дзе ўсё, як са шкла
Разбіваецца і разбівацца
Будзе вечна, цяпер і заўсёды.
І глядзіш ты на свет, як на шкло,
Праз якое праходзіць святло
Адзіноты людской і самоты.
І ты шэпчаш малітву да Бога
І не просіш у Бога нічога,
Бо і так час ляціць, як страла
У прасторы, дзе ўсё, як са шкла... ***12.09.2012***

***сарцавіна***

**х х х**

Зоркі ў небе, а мы на зямлі,
І нам хочацца зоркамі быць
Не ў нябёсах, дзе мы не былі
І не будзем, пакуль будзем жыць
У граху, што душу забівае
І душа ледзь жывым матылём
Каля нас адзінока лятае
Над травой, як над вечным агнём... ***13.09.2012***

**х х х**

Нібы вада хаваецца ў пяску,
Агонь жыве ў халодным сушняку,
Што пад нагамі, як ідзеш, трашчыць,
Нібыта кажа, што шчэ хоча жыць
У гэтым свеце, дзе ў пяску вада
Жыве, але нікому не відаць,
Што там вада, якую мы шукаем,
Якую мы душою адчуваем,
Бо і яна, як нашая душа,
Нябачная, якой наш свет — мяжа
Паміж мінулым і наступным днём,
І ўсё жыццё мы на мяжы жывём,
Нібы вада, што ў сонечным пяску,
Нібы агонь, што ў чорным сушняку... ***18.09.2012***

**х х х**

Ты за сонца не можаш трымацца,
Бо яно спапяляе датла,
І табе сны самотныя сняцца
Без дарог, што вядуць да святла,
Што схавалася ў росах сцюдзёных
І, здаецца, памерла для ўсіх
Адзінокіх, галодных, шалёных
І прыгожых, як вечнасці міг,
Калі сонца ўзыходзіць над намі
І яго табе хочацца ўзяць,
Нібы яблык, які пад нагамі,
І прынесці дамоў і сказаць,
Што за сонца не можаш трымацца,
Бо яно спапяляе датла,
І туман — гэта травы дымяцца,
Па якіх твая панна прайшла... ***9.10.2012***

**х х х**

Пачнецца дзень, і апусцее неба
Без зорак, на якія ты глядзіш,
І возера пад лёдам, як пад срэбрам,
Засвеціцца, і запануе ціш
Пасля начы, дзе вецер уладарыў,
Нібы хацеў цябе дамоў прагнаць
Так, як прагнаў з начнога неба хмары,
Дзе зараз зоркі золка зіхацяць,
Пакуль яшчэ да дня зусім далёка,
Як да вясны, з якой пачнецца дзень,
Дзе рыбкі ў лёдзе — парушынкі ў воку
Зімы, якая пройдзе, бо ідзе
Па тых дарогах, па якіх сыходзяць
У небыццё і людзі, і гады.
Пачнецца дзень расколінай на лёдзе,
Чакана й нечакана, як заўжды... ***10.10.2012***

**x x x**

Штоміг мяняюцца зямля і неба
І ты мяняешся, як гэты свет,
Дзе не заўсёды быць героем трэба,
Як непатрэбны чорны пісталет
У гэты дзень, калі табе самотна,
Калі цябе пакінулі сябры
І лісце, як падраныя палотны,
Ляжыць пад дрэвамі ў тваім двары,
Палотны, на якіх пісаў кастрычнік
Партрэты нашы, дзе была любоў.
Цяпер, як у зямлю загнаны клічнік,
*сарцавіна* Стаіць наш клён сярод старых слупоў,
Дзе праўды, нібыта павуцінне,
Якім цябе не затрымаць вятрам,
Калі ты ўночы родны двор пакінеш,
Нібы турму, якую выбраў сам,
Каб тут сядзець, схаваўшыся ад свету,
Дзе кожны міг мяняецца жыццё,
Дзе ёсць у Бога нашы ўсе партрэты,
Якія не парве Ён, як лісцё,
Калі мы нават ад Яго адыдзем,
Сказаўшы, што Яго няма... ***16.10.2012***

**x x x**

Мог я нарадзіцца і ў Парыжы,
Толькі нарадзіўся ў Пугачах,
Дзе з лясоў асенні вецер рыжы
Рассыпае лісце па шляхах,
Па якіх вяртацца мне дахаты,
Дзе ёсць хата, толькі ў ёй няма
І не будзе болей мамы й таты,
І чакаць іх, і гукаць дарма.
І па лісці я іду асеннім,
Быццам па пражытых мной гадах,
І гатоў паўзці я на каленях,
Каб вярнуцца ў час, дзе ў Пугачах
Мы жывём усе і нам далёка,
Быццам да Парыжа, да кладоў,
Над якімі сонца і аблокі,
Як самота наша і любоў.

І калі бацькі ўжо не чакаюць,
Нас чакаюць восень і клады,
Дзе вятры лісцё перабіраюць,
Як памерлых райскія сляды... ***20.10.2012***

**х х х**

Восень. Аблезлая рыжая восень,
Нібы хварэе, сябе пахаваць
Болей ужо анікога не просіць,
Хоча пад небам да снегу ляжаць,
Каб мы глядзелі на мёртвыя далі
І не хацелі найгоршых пакут,
Як адзінота, якую шукалі,
Трацячы ў тлуме сябе й родны кут...

Восень. Прыгожая рыжая восень,
Нібы паненка, што хоча кахаць
І, заблудзіўшыся ў пошуме сосен,
Просіць яе найхутчэй адшукаць,
Бо ўжо зіма недалёка сівая,
Што ёй не дасць ні хвіліны пажыць...

Восень. Усякаю восень бывае,
І немагчыма любіць за дажджы
Восень, дзе ты ўжо сівы, адзінокі
Доўга, спакойна на восень глядзіш,
Па-над якой над царквою аблокі
Мыюць стары заіржаўлены крыж... ***23.10.2012***

**х х х**

Зноў бацька ў бальніцы, нібы на вакзале,
На лаўцы сядзіць, быццам бы на труне,
Што лаўкай для бацькі гаротнага стала,
Магчыма, на месяц, магчыма, і не.

І скардзіцца бацька, што кормяць тут дрэнна
І піць так даюць, бы шкадуюць вады,
І хочацца мне белай фарбай на сценах
Пісаць: «Не трапляйце ніколі сюды!»

І бацька ўсміхаецца, быццам бы знае
Усё, што патрэбна яму заўтра знаць.
Ізноўку мяне ён на лаўцы чакае,
Забыўшыся дзень свой апошні чакаць... ***24.10.2012***

**Х Х Х**

...Снегам усё замяцецца,
Нібы азораным тлом.
Мама ад ветру прачнецца,
Выйдзе на двор з ліхтаром
І не пабачыць нічога,
Толькі бязмежнасць снягоў
Белай дарогай да Бога
Будзе прад мамай ізноў
Так, як і ўчора, заўчора,
Цэлую вечнасць назад...

***сарцавіна*** Траваў зялёнае мора
З рыфамі дрэваў і хат
Бачыцца мне — гэта сніцца, —
І я спяшаю дамоў,
І мне ніяк не пазбыцца
Гэтага сну, дзе ізноў
Снегам усё замяцецца,
Нібы азораным тлом.
Мама ад ветру прачнецца,
Выйдзе ў бязмеж з ліхтаром... ***31.10.2012***

## РАНІШНЯЯ ЭЛЕГІЯ

Туман і снег, вада, як волава,
Бялеецца ў канаўных берагах.
Тут родны кут, і жыць тут здорава,
І тут памерці мне зусім не страх
Пад белым небам, дзе бярозы белыя,
Дзе белыя, бо ўснежаны, крыжы
На могілках, дзе, як згарэлыя,
Чарнеюць дрэвы і блішчаць глыжы
З-пад снегу несхаваныя за ноч,
Калі зіма прыйшла ў мой родны кут.
Гляджу на снег, і ноч знікае з воч,
І дзень мой нараджаецца зноў тут
З туману й снегу, дзе, як волава,
Вада бялее і не замярзае.
Тут родны кут, і жыць тут здорава,
Хоць часам вельмі сумна тут бывае... ***31.10.2012***

**х х х**

Мне зноўку хочацца пра ўсё і ўсіх забыцца,
Нібыта выйсці з хаты ў двор і заблудзіцца
Сярод дамоў старых і шэрых, нібы пыл.
Але нішто, ніхто не забываецца,
І ўсё ў душы, як сонца, разліваецца,
І так, як сонца затапляе небасхіл,
Мяне зноў успаміны ў белы свет вяртаюць,
Дзе людзі нараджаюцца і паміраюць,
Не маючы, каб жыць бясконца, сіл... ***1.11.2012***

**х х х**

Квадратнае сонца ўзышло і растала,
Ніхто не заўважыў, што сонца было
Квадратным, бо ўсё навакол сумавала
Яшчэ да таго, як квадратным святло
Зрабілася наша і мы ад самоты
Нічога не бачылі ў свеце, дзе мы,
І геніі ўсе, і ўсе мы ідыёты
Малюем квадраты, будуем дамы,
Дзе ў метрах квадратных жывём, паміраем
І, што прамінула, не вернем назад,
Але мы шчаслівыя, бо мы не знаем,
Што наша зямля растаптаны квадрат... ***3.11.2012***

**х х х**

Зялёны кот гуляе па балконе,
Чакаючы зялёную вясну,
І стогне кот, і мне ў ягоным стогне
Зноў чуецца аповед пра вайну
Кацінаю, якой ужо стагоддзі,
Якая можа скончыцца вясной,
І пройдзе ўсё ў ката, але не пройдзе
Усё, што называлася вайной
Кацінаю, дзе кот хадзіў зялёны,
Чакаючы зялёнае вясны,
І на чужыя паглядаў балконы,
Як на акопы вечнае вайны... ***4.11.2012***

### x x x

Гэты дзень у снягах дагарае,
Нібы ў квецені белай той сад,
Дзе лятала пчала залатая,
Залатая, нібы лістапад.

Ты па гурбах ідзеш, маладая,
І ў цябе ёсць у сэрцы святло,
Што дарогу табе асвятляе
У што будзе з таго, што было.

І ты прыйдзеш і скажаш мне светла,
Што ў снягах сумны дзень дагарэў, ***сарцавіна***
Залатою саломаю лета
Да суседа схавалася ў хлеў.

І табе я ў адказ усміхнуся,
Бо я добра ўжо знаю цябе.
Ты прыйшла, я таксама вярнуўся
У наш вечар, дзе зоры ў журбе

У нябёсах, як рой, залатыя,
Дзе жаўцюткая поўня, як мёд
У тым садзе, дзе мы маладыя,
Хоць з табою нам тысячы год... ***28.12.2012***

### x x x

Вось і ўсё... І я зрабіўся сіратою,
І цяпер мой кожны новы дзень — мой глыж,
Што ўзыходзіць чорным сонцам нада мною
І ўрастае ў неба, як у глебу крыж
На магіле бацькі, на магіле маці...

Вось і ўсё... І хата, як пусты каўчэг,
І, як хлапчуку, мне не сядзіцца ў хаце,
Хоць ніхто не кліча на бялюткі снег
І ўжо не пакліча, бо няма нікога,
Каб паклікаць. Сам іду я па двары
На дарогу, па якой пайшлі да Бога
І бацькі старыя, і мае сябры... ***10.01.2013***

**х х х**

На вясковых кладах і ў мяне дзве магілы,
І бацькоўская хата старая, пустая,
І на хаце страха, нібы шэрыя крылы
Шчэ жывога анёла, што больш не лятае... ***14.01.2013***

**х х х**

*Памяці бацькі*

Сорак дзён — сорак крокаў у неба
Ад зямлі, ад вады — гэтак трэба,
Каб да Бога прыйсці і прызнацца
У грахах, што, як пчолы, раяцца
Ля душы, як ля маткі пчалінай...
Цела стане травою і глінай,
У якую і нас закапаюць
Людзі тыя, што сёння не знаюць
Ні мяне, ні мой крыж, — знаюць Бога
І клады, дзе няхутка дарога
Утравее і згубіцца ў небе,
Нібы солі святло ў чорным хлебе... ***1.02.2013***

**х х х**

Заўтра будзе патоп, і затопіцца свет,
І ўсё знікне ў вадзе, толькі мамін партрэт,
Што цяпер на сцяне, адарвецца з цвікоў,
Каб мяне ўратаваць, каб вярнуўся дамоў,
Дзе нікога няма, дзе патопам трава
Захапіла наш двор, і наш дом ратаваць
Трэба мне, бо ўжо заўтра затопіцца свет
І ўсё знікне ў траве, нават мамін партрэт... ***10.03.2013***

**х х х**

...Я вярнуся дамоў, як з вайны,
І ніхто не сустрэне мяне.
Я гадзіннік здыму са сцяны,
Хай ікона вісіць на сцяне.
І лічыць я не буду гадзін,
Не змагу, як калісьці я мог,

Бо калі я застаўся адзін,
Мне патрэбен адзін толькі Бог,
У Якога нічога няма
І ўсё ёсць, як і ёсць у мяне
Толькі Бог, гэты дзень і зіма,
Як іконы на чорнай сцяне... ***11.03.2013***

**x x x**

Аднойчы я табе ўсё раскажу,
Чаму баюся, як агню, дажджу,
Які змывае ўсё, нібыта тло.

***сарцавіна***

Цяпер жа сам не ведаю, чаму
Цярплю бясконцую, як сон, зіму,
Дзе ў снезе спіць вясновае святло.

Я сёння выйду з хаты, як з турмы,
І пойдзе дождж, і змые ўсе дамы,
Якіх са снегу ўчора наляпіў.

І ты ўсміхнешся, сонечная, мне,
І дождж заціхне, і ўжо быць вясне,
Дзе я цябе спаткаў і палюбіў... ***5.04.2013***

**x x x**

Мы жывём на востраве ў сусвеце,
Пра які тут знае толькі Бог.
Млечны Шлях — замерзлы жоўты вецер,
Што ляцеў, і больш ляцець не змог,
І застаўся ў небе па-над намі,
Каб нам жыць спакойна не даваць
На зямлі, якая пад нагамі
Востравам ляжыць, і адшукаць
Гэткі востраў у сівым сусвеце
Хочацца сягоння многім нам...
Восень. Змрок. Халодны з поля вецер
І дарога, па якой у Храм
Ты ідзеш, каб там прызнацца Богу
У сваіх надзеях і грахах,
І табе не трэба больш нічога,

Апрача як быць у Госпада ў руках,
І не думаеш, што мы ў сусвеце
Тут, нібы на востраве, адны.
Ты жывеш і думаеш аб леце,
Што прайшло, як дзень пасля вясны... ***11.04.2013***

**х х х**

Ты ў сабе забіваеш самоту
Веснім сонцам, якога няма,
Бо яно, нібы кветка з-пад лёду,
Не прабілася — гэта зіма
Не здае свае права на холад,
Ад якога дубее душа.
Дрэва ў полі стаіць, нібы волат,
І лістота пад ім, як іржа,
Што ад зброі яго засталася,
Хоць і зброя была залатой
І патрэбнай, як коска ў тым сказе
Пра самоту, пра снег і спакой,
Ад якіх ты ратунку шукаеш,
П’еш, як чорнае сонца, віно
І самоту ў сабе забіваеш,
Быццам бы разбіваеш вакно,
За якім спіць вясна маладая,
І якой быццам бы і няма,
Хоць лятае пчала залатая
Кропкай сказа: «Мінула зіма». ***14.04.2013***

**х х х**

Сонца створана наша з пяску і крыві,
І яно пад нагамі ў цябе і ў мяне.
І яно ўсё нам шэпча: «Як хочаш — жыві,
А не хочаш — памры ці загінь у віне,
Ці загінь у прыдуманай новай вайне,
Для якой ты ў Еўропе народжаны быў,
Ды схаваўся ў пясок і вайну пераджыў».
І цяпер мы ідзём да забытых кладоў,
Дзе героі і здраднікі разам ляжаць
І ў зямлі іх змяшалася чорная кроў
І варонамі стала, што сёння сядзяць
На струхнелых крыжах, па якіх не пазнаць,
Хто герой, а хто здраднік, а хто працаўнік,

На якім і трымаецца гэты наш свет...
Ты спыніўся, да чорнага крыжа прынік
І растаў, як туман, у магільнай траве.
Я застаўся адзін, і пачуў я: «Жыві,
А не хочаш — памры ці загінь у віне
Дзеля сонца, якое з пяску і крыві,
Што заўжды пад нагамі ў цябе і ў мяне...» ***13.06.2013***

**х х х**

Я цябе намалюю на небе начным
Сярод Млечнага Шляху, што быццам бы дым
***сарцавіна*** Залаты, як і ты для мяне залатая.

Ты даўно ўжо, напэўна, забыла мяне
І таму, калі ўбачыш на небе ў вакне
Свой партрэт, то ўсміхніся яму, хай лунае

Над зямлёй, дзе ўжо больш не сустрэнемся мы,
Бо між намі гады і бясконцасць зімы,
Як між намі ад моста згарэлага дым.

І хай бачаць усе, што я помню цябе
І жыву, як палонны, у вечнай журбе...
Я цябе намалюю на небе начным... ***19.06.2013***

**х х х**

Нашы мамы даўно ўжо не з намі.
Нашы мамы ляжаць пад крыжамі,
Што паставілі мы, каб запомніць дарогу,
Па якой нашы мамы пайшлі, каб і Богу
Расказаць пра наш свет, у якім мы жывём,
Быццам бы матылі па-над вечным агнём.
Нашы мамы заўжды будуць з намі,
Нашы мамы ўсе сталі крыжамі,
На якіх мы даскону распяты
За жыццё, у якім ёсць і святы... ***21.06.2013***

**х х х**

Сёння змрокам затоплены вулкі мястэчка,
Ты па іх, нібы прывід, у белым ідзеш
І праходзіш праз вецер, нібыта праз рэчку,
Што не ведае стомы, не ведае меж.

Ты яшчэ маладая, яшчэ залатая
Для бацькоў і для ўсіх, хто знаёмы з табой,
Але ў вочы твае змрок ужо зацякае
І душу тваю поўніць адвечнай журбой

Па няздзейсненых марах бацькоўскага краю,
Па загубленых Храмах, і замках сівых,
І па песнях, якіх ужо больш не спяваюць,
Палюбіўшы мелодыі песень чужых.

І ляціць над табой матылёк, як анёлак,
Што маленькі яшчэ, але добры, як Бог,
І на крылцах яго вечаровы спіць золак,
Прыцярушаны пылам нябёсных дарог.

І ты верыш, што добра ўсё будзе ў Айчыне,
І яшчэ прыйдзе новы і мудры прарок,
І ніколі, ніколі ён нас не пакіне,
І там будзе ў нас сонца, дзе сёння ў нас змрок...

***18.06.2013***

## БАЛАДА ЎЦЁКАЎ З ЗІМЫ

Вароны белыя і белыя сабакі
Па полі бела-белым ходзяць уначы,
І вочы іх чырвоныя, нібыта макі,
Цвітуць у цемры, праз якую не ўцячы
Табе з прыдуманай краіны, дзе заўсёды
Зіма пануе і бясконца ноч паўзе
Па снезе, дзе пад гурбамі, як самалёты
Звуглелыя, ляжыць лісцё ў сваёй тузе
Па днях даўно мінулых, дзе яно ляцела,
Не помнячы, з якіх сарвалася галін.
Ты мерзнеш, і тваё чакаюць з'есці цела
Вароны і сабакі. Ты цяпер адзін
У гэтым свеце, дзе даўно зіма пануе

І ўжо табе нікому не дапамагчы.
І смерць цябе збялелага, як снег, цалуе,
У неба забіраючы з цябе ўначы
Душу, каб тут яе вароны і сабакі
Не апаганілі, як гэты белы свет.
І кроў на снезе застанецца, быццам макі,
Якія з верша выкінуў на снег паэт
Табе пад ногі... ***14.07.2013***

**х х х**

У пяску не схавацца ад сонца нікому,
*сарцавіна* У пяску можна проста дашчэнту звуглець
І хмурынкай маленькай вярнуцца дадому,
Ну а можна й вялікай, як белы мядзведзь.
І цябе аніхто не пазнае ніколі,
Бо цябе ўжо не будзе, як і не было.
Праплывеш ты і знікнеш самотна над полем,
Па якім ты хадзіў шчэ нядаўна й цяпло
Родных кветак збіраў і глядзеў у нябёсы,
У сінечу, нібыта ў марскую ваду,
Па якой ты хацеў, як Хрыстос, ісці босы
І сачыць, як уноч зоркі ў небе растуць.
Ды ў пяску не схавацца ад сонца нікому,
Ён гарачы, як сонца. Па сонцы ідзеш,
І табе тут цудоўна, цудоўна, як дома...
Толькі ўсё ж табе дома бывае і лепш...
І таму, хоць крыху, але ўсё ж ты самотны
Без Айчыны, якая далёка і тут
Над табой, дзе аблокі, нібыта палотны,
На якіх толькі ты бачыш родны свой кут... ***13.08.2013***

**х х х**

І колькі б сёння ні расці траве,
Ды ёй да неба не дастаць ніколі,
Дзе зорак россып і дзе Бог жыве,
Дзе час імчыць, нібы агонь па полі,
Па ўсім, што ёсць, што будзе, што было,
Што робіцца травой і ў ёй знікае.
У спелых яблыках жыве святло,
Жыве ў зярнятах чорных, прарастае
Святло святлом, сярод густой травы,

Якая хоча дарасці да неба,
Дзе толькі, пэўна, Бог адзін жывы,
Дзе ў сонцы золата, а ў поўні срэбра
Кіпяць і праліваюцца на свет,
Дзе мы жывём, змагаемся з травою,
Дзе вершы піша сумныя паэт
І неба падымае над зямлёю,
Каб да нябёс не дарасла трава... ***29.08.2013***

**ХХХ**

Зноўку чорны асфальт пасвятлеў ад лістоты,
Што зляцела з бярозы ў цябе пад вакном,
Праз якое глядзіш ты, прыйшоўшы з работы,
Закурыўшы няспешна і сказаўшы: «Дурдом...»
Ты стаміўся ад тлуму, ад песень пра шчасце,
Пра любоў і пра вернасць, якіх тут няма
І якіх не купіць і ні ў кога не скрасці.
Шчасце прыйдзе само, калі пройдзе зіма,
У якой ты жывеш і якую ты бачыш
Нават летам, дзе спёка кіпіць у траве
Мурашамі, цячэ па пяску па гарачым
І, як бомба, сядзіць у цябе ў галаве.
Ты стаміўся даўно, ты цярплівы, як мёртвы,
Што нічога не мае, ды мае труну
І падворак з асфальтам, які вечна чорны
І ляжыць у чаканні  адвечнага сну
Пад апалым лісцём і паўзучай травою...
Ты кідаеш цыгарку, бы ўсмешку, у двор,
І яна, нібы знічка, ляціць над зямлёю,
Аб асфальт разбіваецца ў кропелькі зор
І знікае ў лісці, што з бярозы зляцела,
Каб на чорным асфальце крыху пасвятлела...

***6.09.2013***

**ХХХ**

Не хочаш ты, каб зноў прыйшла зіма
І сцежку зноў засыпала дадому,
Дзе ўжо нікога дзве зімы няма
І хата не патрэбна ўжо нікому,
І вопратка бацькоўская, і ўсё,

Што засталося ад жыцця былога,
І не таму, што ўсё, нібы смяццё,
А проста так, бо ўжо няма нікога
У цэлай вёсцы, дзе цяпер лісты
І яблыкі, як зоры, залатыя.
Усё ў кватэру не зацягнеш ты,
Бо час не той і мы з табой не тыя.
І я таксама не хачу зімы,
Якая і ў мяне бацькоў забрала,
Каб снег я сніў, і белыя дамы,
І маму з бацькам, і душа крычала,
Што не хачу, каб зноў прыйшла зіма
І сцежку зноў засыпала дадому,
Дзе ўжо нікога дзве зімы няма
І хата не патрэбна ўжо нікому... ***8.09.2013***

***сарцавіна***

**x x x**

Кашу быльнёг, дзе шчэ нядаўна жыта,
Як бацька жыў, шумела і расло.
Быльнёг, як войска, што прыйшло з нябыту
Не проста так, а па мяне прыйшло,
Па хату і па ўсё, што засталося
Тут на зямлі ад бацькі і дзядоў.
Я на быльнёг іду і следам восень
Ідзе за мной і шэпча мне ізноў
Пра тое, што не трэба мне баяцца
Сваёй самоты, бо ў самоце ёсць
Любоў, з якой будуюцца палацы
Для нашых продкаў, у якіх не госць,
А гаспадар мой бацька, а з ім маці
Таксама гаспадыня, як была,
Калі жылі ў сваёй вясковай хаце,
Дзе ўжо страха за лета працякла
І дзверы пакрывіліся, падлога
Гарбатай стала, болей не рыпіць
І на старой іконе вочы ў Бога
Слязяцца, бо душа ў Яго баліць...

Кашу быльнёг, дзе шчэ нядаўна жыта,
Як бацька жыў, шумела і расло.
Быльнёг, як войска, што прыйшло з нябыту
Не проста так, з пагрозаю прыйшло... ***8.09.2013***

**х х х**

Ранкам на працу ідзеш (не ў царкву),
Там забіваеш лухтой галаву,
Быццам бы кошык смяццём і травой.

З працы дахаты ідзеш ля царквы,
Шапку не зняўшы з цяжкой галавы,
Бо ўжо не бачыш крыжоў над царквой.
Прыйдзеш дахаты і ўспомніш царкву,
Скажаш сабе: «Не па-людску жыву,
Заўтра ў царкву перад працай зайду...»

Ранкам праз дождж па асфальце брыдзеш,
Быццам па рэчцы чарнюткай плывеш
Лістам счарнелым, што ўпаў у ваду,
Міма царквы, ля якой я стаю,
Дома забыўшыся шапку сваю... ***11.09.2013***

**х х х**

Бацька вершаў зусім не чытаў,
Хоць і ведаў, што я іх складаю,
Як і ён копы сена складаў
І глядзеў на буслоў, што лятаюць,
Апускаюцца на сенажаць.
І жыцця ён не ведаў другога,
Як расціць, як касіць, як складаць,
І людзей не баяцца, а Бога.
І цяпер, калі бацька спачыў,
Там, напэўна, ён кніг не чытае,
Ён ад бед беражэ Пугачы,
Дзе стаіць наша хата пустая,
Як Каўчэг, на якім мы плылі
Праз дажджы, пра снягі, праз спякоту
І шукалі хоць лапік зямлі,
Каб там нашу пакінуць самоту,
Праз якую я вершы складаў
І глядзеў на буслоў, што лятаюць
Сёння з крыжам, што з Храма прапаў,
І, куды крыж паставіць, не знаюць.
Калі б жыў, бацька ім бы сказаў... ***11.09.2013***

## ЗАКАХАНЫ Ў СНЯГУРКУ

Гэта было ў мінулым стагоддзі. Мне было дванаццаць гадоў. Праз шыбы ў вокнах, на якіх мароз намаляваў свае фантастычныя карціны, у пакой да мяне працякала святло студзеньскай раніцы. Яно было белым, як снег, які раставаў на бацькавых валёнках, што стаялі каля адчыненай печкі, дзе гарэлі бярозавыя дровы, цяпло ад якіх няспешна напаўняла хату, астылую за доўгую марозную ноч. Мама на кухні пякла бліны і раз-пораз клікала снедаць, але я не ішоў, бо ў мяне былі вакацыі і я мог колькі жадаецца ляжаць у ложку і марыць пра тэлевізар. Гэтая мара ў мяне была самай вялікай, і яна мусіла хутка здзейсніцца, бо бацькі абяцалі, што, калі буду добра вучыцца, абавязкова налета купяць тэлевізар, а я вучыўся добра...

На час майго дзяцінства тэлевізараў у вёсцы было ўсяго толькі тры. Адзін у старшыні калгаса, другі ў дырэктара школы, а трэці ў нашай суседкі Валянціны Іванаўны або проста цёткі Валі, якая працавала галоўным бухгалтарам у дзіцячым садку. Зрэдку суседка пускала да сябе ў хату нас, дзяцей, паглядзець мультфільмы. Напачатку мы паводзілі сябе добра, але з цягам часу прызвычаіліся да чужой хаты і пачалі дурэць з катом, не зважаючы на гаспадарскія просьбы сядзець спакойна. І прыйшоў

дзень, калі цётка Валя не пусціла нас на кіно, кажучы, што тэлевізар сапсаваўся. Я цётцы не паверыў і да ўсяго пакрыўдзіўся, пачуўшы ў той самы дзень, як яна казала маёй маці: «Твой хлапец самы непаслухмяны!» І чым я не дагадзіў суседцы? Ну адзін раз выпадкова наступіў кату на хвост. Ну адарваў у фікуса ліст, каб прынесці дамоў і даведацца ў мамы, што гэта за вазон. Ну пабіў кубак, які стаяў на падваконні, куды я сеў, каб лепей было бачна, што паказваюць па тэлевізары. А так я ж быў такі, як усе. Лускаў семкі і гучна рагатаў, калі было нешта смешнае на экране...

***сарцавіна***

У тую памятную мне студзеньскую раніцу я не проста ляжаў у ложку і марыў пра тэлевізар, а ляжаў і радаваўся, ведаючы, што суседка Валянціна Іванаўна з мужам паехала ў Мінск у госці да дзяцей, а ключ ад хаты дзеля ўсяго дзеля пакінула маёй маці. Ён вісеў у вітальні на цвіку. Ключ быў вялікі, і мне, калі я ўпершыню яго пабачыў, ён падаўся залатым, як у казцы пра Бураціна.

Я доўга і цярпліва чакаў моманту, калі мама пойдзе на працу, і можна будзе ўзяць ключ і залезці да суседкі ў хату, каб у самоце паглядзець тэлевізар. І вось мама пайшла з дому, пакінуўшы на стале горку бліноў, на якой ляжаў ладны кавалак масла і раставаў, як залаты лёд пад сонцам, якое ўзышло. На хаду апранаючыся і абуваючыся, я схапіў ключ і, не зачыніўшы за сабой хату, пабег да суседкі. Сцяжына была слізкай, і я некалькі разоў паваліўся, выцінаючыся аб цвёрдыя груды снегу, што ляжалі абапал сцяжыны. Болю не адчуваў. Дрыжачымі рукамі, неаднойчы выпусціўшы на ганак ключ, адамкнуў суседчыну хату. У сенцах было цёмна. Наткнуўшыся на вядро з вадой, перакуліў яго, і вада расцяклася па сенцах, з якіх дзверы ў пакой, куды імкнуўся, былі замкнутыя. Давялося ў поцемках ісці праз кухню і спачывальню, каб патрапіць да тэлевізара.

Не ведаю, колькі часу прайшло, а мне здалося, што мінула цэлая вечнасць, пакуль засвяціўся экран і з’явіўся гук. Паказвалі казку пра Снягурку. Я раней гэтага фільма не бачыў і, стаўшы на калені перад тэлевізарам, пачаў сачыць за дзеяннем на экране. Снягурка была вельмі-вельмі прыгожая. Такіх прыгожых дзяўчат не толькі ў маім класе, але і ўва ўсёй школе я не бачыў. І калі скончыўся

фільм, у якім Снягурка, скокнуўшы праз вогнішча, растала, бо была створаная са снегу, я адразу ж вырашыў бегчы ў бліжэйшы лес і прапанаваць Снягурцы сваё сяброўства. Узімку яна ж павінна зноў быць жывой? Павінна! І, вымкнуўшы тэлевізар, я выбег ад суседкі, як падстрэлены.

Упаўшы некалькі разоў на слізкай сцяжыне, забег у сваю хату. Я ўжо ведаў, што, калі табе падабаецца дзяўчына і ты хочаш ёй спадабацца, то трэба дарыць букеты. Крамы, дзе прадаюцца кветкі, у нашай вёсцы не было, а вось дома ў нас было шмат вазонаў і адзін з іх ужо цэлы тыдзень красаваў. Праўда, гэта быў кактус, але з вельмі прыгожымі вялікімі чырвонымі кветкамі. Занясу Снягурцы і падарую! А калі мама запытаецца, дзе падзеўся вазон? Я ж не змагу прызнацца, што яго занёс Снягурцы!

Апрануўшы мамін кажух і абуўшыся ў бацькавы валёнкі, я вырашыў прыдумаць Снягурцы верш і падараваць ёй на памяць, няхай ведае, што з ёй хоча сябраваць не просты вясковы хлапчук, а паэт. І я, выдумляючы верш Снягурцы, пайшоў у лес. Абраўшы найпрыгажэйшую паляну, зняў шапку і сказаў: «Снягурачка! Я хачу з табой сябраваць! Пакажыся!»

Снягурка не з’явілася. Я паўтарыў яшчэ колькі разоў сваё жаданне, але дарма. «Відаць, баіцца...» — падумаў я і сказаў:

— Ты не бойся мяне! І не глядзі, што я такі яшчэ малы! Я хутка вырасту! Давай сябраваць!

І пасля гэтых слоў Снягурка не з’явілася.

— Я табе верш склаў! — пахваліўся я і, адламаўшы ад бярозы галінку, напісаў ёю на снезе свае чатыры радкі.

— Калі ты, Снягурка, згодная са мной сябраваць, то напішы адказ. Я заўтра раніцай прыйду! — сказаў я і пайшоў дамоў.

Уначы спаў дрэнна, бо ў галаве круціліся варыянты адказу ад Снягуркі: «Я згодная з табой сябраваць! Я ніколі сябраваць з табой не буду!» Што ж напіша мне Снягурка на снезе? І раніцай, як толькі пачало віднець, я, не сказаўшы бацькам, куды іду, пабег у лес на паляну.

На месцы, дзе я напісаў верш Снягурцы, нічога не было. Ні верша і ніякага адказу. «Відаць, і Снягурка, як і дзяўчаты ў школе, не адразу дае адказ...» — сумна

падумаў я і тут жа, склаўшы новы верш Снягурцы, напісаў яго на снезе і сказаў:

— Заўтра ў гэты самы час прыйду па адказ: будзеш са мной сябраваць ці не?

Зноў уначы дрэнна спаў. Думаў толькі пра Снягурку. Ранкам пабег у лес. На паляне на снезе быў мой верш, а адказу так і не было. Пэўна, мой верш Снягурцы не спадабаўся.

Дамоў вярнуўся сумны. Зноў амаль не спаў, сачыняў каханай новыя вершы. Ранкам пабег у лес на паляну. На снезе гэтым разам майго верша ўжо не было, але і не было ніякага адказу. «А можа, яна непісьменная?» — падумаў я і пачаў чытаць свае вершы ўголас, просячы, каб Снягурка хоць падала нейкі знак, што яна тут побач, але не хоча паказвацца.

***сарцавіна***

Снягурка не паказалася, і я, усё ж не губляючы надзеі на сяброўства з ёй, сумны пайшоў дамоў. І пасля яшчэ амаль цэлы месяц хадзіў у лес і на снезе пісаў Снягурцы свае вершы, якія то на другі дзень былі на снезе, то за ноч знікалі. Мне тады было дванаццаць гадоў і ў галаву не прыходзіла, што часам уначы ішоў снег, была завіруха і ад гэтага не заставалася маіх твораў.

Хутка прайшла зіма. Пачалася вясна, і я раптам пабачыў, што ў школе ёсць прыгожыя дзяўчаты. Прыгожыя, як Снягурка, а ў маім класе і наагул вучыцца дзяўчына прыгажэйшая за ўсіх, і яна, калі будзе скакаць праз вогнішча, нікуды не знікне, бо яна не са снегу...

Гэта было ў мінулым стагоддзі. Мне было дванаццаць гадоў. Сёння мне за пяцьдзясят, і я цяпер іду заснежаным гарадскім паркам і, углядаючыся ў сустрэчных дзяўчат, спадзяюся пабачыць сярод іх тую Снягурку, у якую быў закаханы.

**х х х**

Там, дзе бацькоўскія хаціны, там Радзіма,
Я іншае Радзімы не хачу зусім.
І ўжо са мной цяпер заўжды перад вачыма
Маленькі чорна-белы здымак, на якім
На лаўцы восенню ля хаты ўсёй сям'ёю,
На сотках бульбу выбраўшы, сядзім,
І павуцінка з павучком па-над зямлёю
Праз нашае жыццё, нябачная нікім,
Ляціць, як плача, ведаючы ўсё ад Бога,
Што ёсць, што будзе, што было і мне ў жыцці
Больш не паўторыцца, і зарасце дарога
Да адзінокай хаты, згубіцца ў лісці
З бяроз і клёна, што даўно растуць ля плота,
Што гаспадаркі ўжо не зберагае тут,
А толькі сцеражэ ў двары траву й самоту,
Ад ветру рыпучы, нібыта ад пакут.
Сяджу на лаўцы, нібы на падсуднай лаве,
І на сябе за ўсіх і ўсё бяру віну.
І хату нашую прадаць я маю права,
Ды не прадам, бо ведаю яе цану... ***12.09.2013***

**x x x**

Зноў яблыкаў нападала ў траву.
Над імі мухі з пчоламі гудуць.
Я ў роднай хаце болей не жыву,
Бо тут бацькі ўжо болей не жывуць.

Каса заіржавела пад страхой.
Іржа, як кроў сардэчная мая,
Якая стала без бацькоў іржой,
Хоць анікольkі не жалезны я.

Збіраю яблыкі. Яны — як лёд.
*сарцавіна* Не ведаю, што з імі мне рабіць.
Ляціць над вёскай белы самалёт,
А мне здаецца — гэта крыж ляціць.

І я малітву ўслед яму шапчу,
І для сябе нічога не прашу.
Я толькі для бацькоў святла хачу,
Я толькі не хачу цяпер дажджу
Для хаты, у якой я не жыву,
Бо тут бацькі ўжо болей не жывуць.
Вазьму касу, скашу быльнёг-траву,
Хай восеньскія кветкі зацвітуць... ***12.09.2013***

**x x x**

Мамін партрэт у мяне на сцяне.
Мама з партрэта глядзіць на мяне.
Мама нічога не кажа, ды я
Знаю, што думае мама мая.
Думае мама, таму і маўчыць,
Ведае мама, што позна вучыць
Сына сівога, што вершы складае,
Дома сядзіць, ад журбы прападае.
Толькі я не прападу, не засну.
Бацькаў партрэт пачаплю на сцяну,
Хай цяпер разам бацькі памаўчаць,
Хай на мяне — на свой твор паглядзяць... ***12.09.2013***

### x x x

Я сёння зноў хадзіў у госці да бацькоў,
І я ім гаварыў пра веру і любоў.
Бацькі маўчалі, бы не чулі, што кажу
У цёплым шуме траў высокіх і дажджу.
Бацькі глядзелі праз мяне, нібы праз шкло,
І праз мяне праходзіла ад іх святло.
І дождж ішоў і не мачыў мяне й бацькоў.
Сказаўшы ўсё бацькам, дахаты я пайшоў.
І ўбачыў я: яшчэ ёсць да бацькоў дарога,
Ды толькі ўжо з бацькоў няма нікога... ***13.09.2013***

### x x x

Праліваецца з неба вада,
Як з вядра, што нясе мая мама
Па аблоках, з якіх ёй відаць
Цэлы свет і ўся вёска таксама,
У якой наша хата стаіць
Ля дарогі — на беразе Леты —
І мяне ў ёй чакаць і любіць
Больш нікога няма. Тут край свету,
Пра які толькі ведаю я,
Пра які толькі ведае мама.
Дождж, нібыта самота мая,
Дзе маланка, нібы тэлеграма,
Што я стаў назаўжды сіратой,
І ніколі, ніколі, ніколі
Маё гора не стане вадой,
Што ў пяскі адыходзіць паволі,
Як цяпер гэта з неба вада,
Што з вядра праліваецца ў мамы.
Заўтра свята, і мама, відаць,
Мые ў вокнах і шыбы, і рамы,
Праз якія глядзець на ўвесь свет
Будзе з бацькам яна і сябрамі,
А я буду маліцца ў царкве
Прад іконамі, як прад бацькамі... ***14.09.2013***

### x x x

Бацькоў сваіх не помню маладымі,
Нібыта маладымі не былі яны.
Няма і фотаздымкаў з маладымі імі —
Віселі на сцяне і зніклі са сцяны,
Што доўга нашаю была сцяною плачу
І гонару за наш негультаёўскі род.
На хвілю зажмуруся і адразу бачу
Бацькоў старых у іх апошні сумны год.
І часта мне здаецца, што амаль нічога
Мы не зрабілі, каб яны перажылі
Сваю нямогласць і пайшлі сваёй дарогай
Не па нябёсах над зямлёй, а па зямлі,
Дзе працавалі на калгас, які таксама
У вечнасць адышоў, пакінуўшы людзям
Кароўнік, клуб вялікі, з белай цэглы краму
І мару патаемную пра белы Храм... ***17.09.2013***

### x x x

Мама сядзіць на прыпынку,
З Мінска чакае мяне.
Вецер старою пласцінкай
Вечную песню пяе
Пра адзіноту, якая
Кожнага з нас тут чакае,
Быццам бы маці старая,
Быццам жана маладая,
Быццам бы доня малая...

Сёння прыехаў дахаты,
Толькі ніхто мне не рады
Гэтак, як мама была.
Стрэўшы мяне на прыпынку,
Доўга дахаты вяла
Ціхай бязлюднай дарогай,
Той, што нядаўна да Бога
Наша суседка пайшла...

Мамы няма на прыпынку,
Толькі ўсё ж бачу яе.
Вецер старою пласцінкай
Вечную песню пяе
Пра маю маму, якая,
Нават памершы, чакае... ***23.09.2013***

## МАМІНЫ КВЕТКІ

Даўно пасаджаныя мамай кветкі
І сёння ў агародчыку цвітуць.
Яны цяпер маёй самоты сведкі,
Яны цяпер з маёй душы растуць.
Ніхто не рве, ніхто не даглядае,
І ўжо ніхто не будзе даглядаць.
Адна пчала над імі залатая
Лятае й заўтра будзе шчыраваць,
Нібыта мама, што пчалою стала.
Кім стала мама — знаю толькі я,
Бо мне пчала пра гэта расказала,
Як мама расказала б мне мая... ***29.09.2013***

## МАМІНЫ АКУЛЯРЫ

Ад мамы засталіся акуляры
На століку каля старых газет.
Гляджу праз іх і бачу толькі хмары,
А мама бачыла ўвесь белы свет
І вуліцу, якой я ў горад ехаў
На пару год, а выйшла — назаўжды.
Газеты, нібы з леташняга снегу,
Дзе літары, як з мёртвае вады,
Што супынілася і пачарнела,
Як і для мамы тут спыніўся час.
Праз акуляры мама не ўглядзела,
Калі яе жыццё прайшло праз нас,
Пакінуўшы ад мамы акуляры
На століку каля газет старых.
Гляджу праз іх і раптам бачу мары,
Якія мама бачыла праз іх... ***30.09.2013***

### x x x

Перад зімой замкнуты бацькам хлеў,
Які ўжо год ніхто не адмыкаў.
І ключ ягоны дзесь заіржавеў,
Бо не знайшоў я ключ, хоць і шукаў
У тых шуфлядах, на паліцах тых,
Дзе бацька вечна пакідаў ключы,
Сярод якіх хапала залатых,
Калі я быў малы, і я ўначы
Іх браў, і дзверы ў казку адмыкаў,
І верыў, што прыдуманае мной —
Сапраўднае, як сонца, як рака,
*сарцавіна* Як маці з бацькам, што пайшлі зімой
У свет, дзе не патрэбна замыкаць
Ні хлеў, ні хату, бо няма ключоў,
А ёсць Надзея, Вера і Любоў,
Якіх не трэба ад людзей хаваць... ***2.10.2013***

### x x x

У печы схаладалай павуціна, быццам белы дым,
Які, калі бацькі памерлі, стаў таксама нежывым.
І попел у чаканні ветру скамянеў за тры гады,
І ўжо не помніць ён, калі агонь рабіўся залаты
Душою печы і святлела ў хаце і ў маёй душы,
А за вакном то дробны снег ішоў,
то воўчыя дажджы,
І дома ўсе былі, глядзелі на агонь, які, як Бог,
Заўсёды гаварыў нам пра любоў,
ды ўсё сказаць не мог.
Цяпер адзін у печ, дзе павуціна, нібы дым, гляджу,
Не чуючы ні грому за вакном, ні весняга дажджу...

***2.10.2013***

## БАЦЬКОЎСКІЯ ВАЗОНЫ

Ужо няма болей вазонаў у хаце,
Нібыта забралі іх бацька і маці
З сабой у той свет, каб у хаце яны
Не ссохлі ў самоце і ў горы адны.
Здаецца, яшчэ яны ўчора былі
І нават зімой больш, чым летам, цвілі,
І ў хаце штодзённа святочна было,
І хто ні прыходзіў — казаў пра цяпло,
Якое ішло ад вазонаў зімой.
Няма больш вазонаў і ў хаце старой,
Нібыта ў скляпенні, сцюдзёна і змрок.
Гляджу, дзе вазоны былі, павучок
Прадзе павуціну, як белую кветку
Стварае, якая цвіла тут улетку,
Калі яшчэ ў хаце вазоны раслі,
Калі яшчэ бацька і маці жылі.
Жыві, павучок, ты цяпер мне — радня,
Бо гэткі ж малы без бацькоў сёння я... ***2.10.2013***

## ПАШТОВАЯ СКРЫНКА

Паштовая скрынка, як плачу сцяна,
Ужо другі год, як сумуе яна,
І я перад ёй, нібы грэшнік стаю,
Што раптам забыўся малітву сваю,
Якая цяпер у яго ўжо адна
За маці і бацьку, яшчэ, каб вясна
Прыйшла ў родны край найхутчэй назаўжды...
Паштовая скрынка чакае лісты,
Якіх больш не будзе. Каму тут пісаць?
Паштовыя скрынкі, як труны вісяць,
Ля хат апусцелых на рэштках платоў...
І я вось, як прывід, прыехаў дамоў.
Адзін у паштовую скрынку гляджу,
А там павуцінне і слёзы дажджу... ***4.10.2013***

### x x x

З зімы табурэткі стаяць ля вакна.
На іх не саджуся — мінулай зімой
Тут на табурэтках стаяла труна,
Стаяла труна, дзе ляжаў бацька мой.
Ён сам табурэткі на кухню купляў,
Каб дзеці сядзелі за поўным сталом.
Не проста купляў, а глядзеў-выбіраў,
Нібыта ён думаў не толькі пра дом,
Але й пра дарогу сваю на клады,
Дзе нашы вяскоўцы і родныя спяць.
Стаяць табурэткі ў чаканні бяды.
Бяда ўжо была. Табурэткі стаяць...   ***5.10.2013***

***сарцавіна***

### x x x

Насценны гадзіннік, як сэрца бацькоўскае хаты,
Прыехаўшы ў вёску дамоў, кожны раз запускаю,
І хата ізноў ажывае і дыхае святам,
Якое яна, як калісьці бацькі, тут стварае,
Пакуль б’ецца сэрца яе, што ў гадзінніку ў хаце
Жыве адзінока, і веру — яшчэ будзе біцца.
І ходзяць па хаце нябачныя бацька і маці,
Балюча рыпяць пад нагамі сухія масніцы.
І я не магу тут спакойна сядзець, нібы муха,
Што ў хату бацькоўскую следам за мной заляцела.
І буду з малітвай бацькоўскія крокі я слухаць,
Пакуль на двары і ў душы маёй не развіднела.
І вёску сваю, хоць у ёй не жыву, я не страціў,
Мне доўга таксама для вёскі маёй не згубіцца,
Бо ходзяць па хаце нябачныя бацька і маці,
Балюча рыпяць пад нагамі старыя масніцы...

***6.10.2013***

### x x x

Калаўрот на гарышчы — я чую — рыпіць,
Там нябачную воўну прадзе мая мама.
Каля мамы нябачнай мой бацька стаіць,
Ён ужо цэлы год, як нябачны таксама.
Але бачу я іх, мяне бачаць яны,
І на змрочным гарышчы мне добра і светла.
І бязбожнай самоты маёй груганы
Адляцелі цяпер ад мяне на край лета,
На якім сядзіць восень, фарбуе лісцё,
Каб засыпаць прыгожым у вёску дарогу,
У якой я жыццё адчуваю жыццём,
І бацькам я за гэтае ўдзячны і Богу.
І няхай калаўрот на гарышчы рыпіць,
Хай нябачную воўну прадзе мая мама,
І каго я люблю, буду вечна любіць,
А каго не любіў, палюблю тых таксама... ***7.10.2013***

### x x x

Другі ўжо год мінуў, як наша мама
Дадому не ідзе і больш не прыйдзе,
І бацька не вяртаецца таксама
З краіны той, якая не абрыдзе,
Бо там ёсць Бог, бо там жывуць дзяды
І там ніхто не кажа: «Я — святы!»,
Не хваліцца, што з Богам ён на «ты»,
І там намнога лепей, чымся тут.
Ды толькі тут заўжды наш родны кут
І хата родная, як мы, жывая.
Засланы ложкі, іх не рассцілае
Ніхто цяпер, бо іх заслала мама,
Якая ўжо не прыйдзе больш дамоў,
І бацька ўжо не вернецца таксама.
У хаце засталася іх любоў
Да гэтага жыцця, да роднай хаты,
Дзе шчэ ва ўсім святло і свята... ***15.10.2013***

**х х х**

Лістоў асенніх залатыя горы
З вяршынямі, з якіх віецца дым
У неба, дзе, як лісце ў скверы, зоры
Раскіданыя ветрам маладым,
Люблю, хоць сумна мне ад іх заўсёды,
Бо пройдзе дзень, і гор не будзе зноў,
І попел іх скуецца хрумсткім лёдам,
Дзе будзе дым аціхлы ад лістоў
Бялець, як малако, што ў Млечным Шляху
Бялее вечна — з вечнасці яно,
Куды аднойчы ўсе з лістотай лягуць,
*сарцавіна* Недалюбіўшы волю і віно,
Якіх заўсёды многім не хапае
І будзе не хапаць, бо гэты свет
Больш іншага жыцця даўно не знае,
Такога, што прыдумвае Паэт... ***20.10.2013***

**х х х**

У Вільні на могілках Роса палякі
Зграбаюць лістоту, прыгожаць крыжы,
І свечкі гараць, нібы жоўтыя макі,
Што тут зацвітаюць, каб кожнай душы
Зрабілася светла хаця б на гадзіну...
А мы да магіл беларусаў прыйшлі,
Каб нашы памерлыя нашу Айчыну
У сэрцах, што сталі зямлёю, змаглі
Ізноўку адчуць, як калісь адчувалі
У Вільні, якая ім роднай была,
І мы беларускія свечкі ім палім,
І дождж заціхае, знікае імгла...
І што нам літоўцы, і што нам палякі,
Тут родныя — дрэвы, пагоркі, крыжы,
І свечкі гараць — беларускія макі —
І мокрае лісце, як нашы глыжы... ***30.10.2013***

### х х х

Самотай мяне напаўняе зіма —
Ні мамы, ні таты, ні снегу няма.
Суседзяў таксама няма ўжо даўно,
Наўкол чорна-шэрае ўсё, як кіно,
Якое зрабілася явай маёй,
Дзе я не галоўны апошні герой,
Які ўсё ж да роднае хаты прыйшоў,
У сэрцы прынёсшы цяпло і Любоў
Да любае вёскі, якая пусцее,
Але не чужэе, зусім не чужэе,
І гэта зіма мне таксама зіма,
Хоць мамы, і таты, і снегу няма... ***4.12.2013***

### х х х

А заўтра была адліга,
Якой зачакаліся мы.
Нам сонца свяціла ціха
Ў расколінах соннай зімы.
І хтосьці смяяўся, плакаў
Ад шчасця, ад гора, і снег
Быў шэры, як той сабака,
Які з ланцуга ўзяў ды збег.
І быў небакрай прад намі,
І стаў прападаць небакрай
З зямлёю, што пад нагамі...
Не хочаш, дык не ўспамінай,
Што заўтра была адліга,
Якой дачакаліся мы.
Нам сонца свяціла ціха
Ў расколінах вечнай зімы... ***15.04.2014***

**x x x**

Па шкле разбітым, не па зорках,
Ты акрываўлены ідзеш
У змрочную сваю каморку,
Нібы ў акамянелы верш,
Дзе воск са свечак на талерцы
Ляжыць, як жоўты шакалад,
Які дарыў ты піянерцы
Пяцьсот гадоў таму назад.
Была яна, нібыта ружа,
Што толькі восенню цвіце,
Калі нам хочацца прад сцюжай
*сарцавіна* Яе агню, дзе сто чарцей
Танцуюць босымі па зорках,
Нібыта па разбітым шкле,
І ў вершах, быццам у каморках,
Сядзяць пры свечках пры святле
Дзяўчаты, за якіх ты б'ешся
І, перамогшы, зноў ідзеш
Па шкле, як па разбітых вершах,
Каб саграшыць свой лепшы верш
З жанчынай той, якой не знаеш,
Якую цэлы век шукаеш,
Як рыфмы новыя да слоў
«Надзея, Вера і Любоў...» ***22.09.2014***

**x x x**

...Як снегам зацярушацца двары,
Вазьмі рыдлёўку і зрабі сцяжыны
Да тых дамоў, дзе п'юць твае сябры,
Да тых дамоў, дзе спяць твае жанчыны.
І людзі заўсміхаюцца з вакон,
Забудуцца пра мяса і зацірку.
І будзеш ты шчаслівы, нібы слон,
Якога выгналі з дурнога цырку. ***19.10.2014***

**x x x**

Венецыі вада ў маёй далоні
Празрыстая, нібы апошні верш
Паэта старажытнага, што сёння
З вады мне прашаптаў: “І ты памрэш...”
Мы ўсе памром і зробімся вадою,
Якую нельга піць, бо ў той вадзе
Няма жыцця, як неба — пад зямлёю,
А неба тут над намі, як нідзе.
І чайка ап’янелая ад спёкі
Кідаецца ў ваду, нібы паэт,
Якому напляваць, што я здалёку
Сюды прыехаў, каб пабачыць свет
І палюбіць Венецыі каналы
І вузкія гарбатыя масты,
Дзе я з каханаю хаджу памалу,
Нібы з багіняю, з якой на “ты”.
Сцякла ў ваду вада з маёй далоні,
Пякучая, нібы агонь, сцякла,
Каб я прад смерцю гэты дзень успомніў
І прашаптаў: «Венецыя была...» ***30.10.2014***

**x x x**

Ля вострава плывём, дзе Бродскі пахаваны,
Нібы ля сказа з верша пра вялікі свет,
Дзе нельга доўга жыць, калі не закаханы,
Калі не закаханы — то і не паэт,
Якому ліст бярозавы, як ліст ад Бога,
Якому ён абрыдзеў, як тут нам дажджы,
Калі ракой адвечнай робіцца дарога
І мы плывём па ёй, як рымскія крыжы.
А там на востраве стаіць сівы мужчына
І нам услед глядзіць, нібы глядзіць Харон.
І паміраць цяпер у нас няма прычыны,
Як над Венецыяй няма цяпер варон.
І кажаш ціха ты: «Там Бродскі пахаваны...»
І я гляджу на востраў, як на райскі свет,
Дзе нельга доўга мёртвым быць, калі каханы,
Калі ты жыў, як можа толькі жыць Паэт... ***30.10.2014***

**x x x**

Я па Венецыі з Бродскім іду.
Мы маладыя, і мы тунеядцы.
Чорнае п’ём мы віно, як ваду,
Змейна дымяць цыгарэты між пальцаў.
Мы выпадкова сустрэліся тут,
Дзеці краіны, якая прапала,
Бо разваліласяя, быццам сасуд,
Дзе кроў людская вадой амаль стала.
Сёння Вялікдзень і многа людзей,
Быццам авечак, якім ад Цыклопа
Бог дапамог уцячы падалей.
Як лабірынт Мінатаўра — Еўропа.
Чорнаю скрыпкай гандола плыве,
Музыка хвалямі б’ецца аб сцены,
Дзе несвядомая вечнасць жыве.
З сонца святло, нібы кроў цячэ з вены,
І залівае каналы, дамы,
Каб не вярнуцца ўжо болей ніколі
Нам у краіну бясконцай зімы,
Дзе воўк чырвоны гуляе па полі,
Быццам агонь у вачах нежывых,
Што быў нядаўна ў разбітым сасудзе.
Людзі заўсёды не любяць чужых
І спадзяюцца, што іх любіць будзе
Кожны, каму яны спаць не далі
Ноччу мінулай, спраўляючы свята
Божае ласкі на гэтай зямлі,
Дзе зямлі мала, а мора — багата.
Я па Венецыі з Бродскім іду.
Мы маладыя, і мы тунеядцы.
І мы плюём на свой сум, не ў ваду,
Нам у Венецыю ў вершах вяртацца...

***сарцавіна***

***24.11.2014***

### x x x

Тваю Венецыю зацерушыла снегам
Мая зусім нееўрапейская зіма.
Твой двор запоўніўся глухім сабачым брэхам,
І для мяне Венецыі, як сну, няма,
А ёсць вялікі незнаёмы белы горад,
Дзе я, нібыта белай гвардыі салдат,
Які спазнаў разгром і несусветны голад,
Якому ўжо даўно не хочацца назад
У чорныя, як кроў, вашывыя акопы,
Дзе там зіма таксама, быццам санітар,
Бінтуе снегам раны Азіі й Еўропы,
Дзе сонца чырванее, быццам бы ліхтар
На вуліцы чырвоных ліхтароў і плачу
Па тым, што ўжо не вернецца ніколі час,
Дзе ўсе былі дабрэй, дзе ўсё было іначай.
Магчыма, недзе й добра, ды няма там нас,
Як снегу, што цяпер Венецыю засыпаў,
Каб я адзін цябе ад снегу ратаваў.
Мяне кахаеш, як белагвардзейца Шніпа,
Які тут жыў і без Радзімы паміраў... ***24.11.2014***

### x x x

У Ватыкан чарга, нібы чарга па неба,
Што прадаецца, як у нас віно і піва.
А мы ў чарзе стаім, нібы чакаем хлеба,
Так, як стаялі мамы, каб раслі шчасліва,
Не галадаючы, малыя дзеці ў хаце,
Дзе абразы, хоць нельга, на куце віселі.
Мы елі хлеб і нам хапала свята й шчасця,
Якога мы тады амаль не разумелі.
Над намі сонца ватыканскае і неба,
Дзе межы святасці ахоўваюць анёлы.
Гасцей сягоння процьма тут. Што тут ім трэба,
Дзе пчолы, быццам людзі, людзі, быццам пчолы?
Пытанняў шмат. На ўсе знаходзяцца адказы,
Бо гэта Ватыкан і ўсе сюды сцяжыны
Вядуць, як і вядуць у Рым, дзе нам адразу
Святой святая стала бачыцца Айчына,
Куды нам не стаяць, нібы ў чаканні хлеба,
Які даецца тым, каму ён трэба... ***25.11.2014***

### x x x

У Венскім лесе заблудзіўся Штраус
І сто гадоў блукае, як сляпы.
У нас яго даўно знайшоў бы РАУС,
Як дзеда, што пайшоў збіраць грыбы.

Іду сцяжынай, дзе, нібыта ноты,
Рассыпаныя шышкі, жалуды.
Стракозаў залатыя верталёты
Гартаюць ценяў нотныя лісты.

І музыка плыве над Венскім лесам,
*сарцавіна* І далятае да нябачных зор,
Дзе Пушкін абдымаецца з Дантэсам,
Крычыць: «Судьбы свершился приговор!»

Іду па лесе, Штрауса шукаю
І не знаходжу тут яго нідзе.
А ён у музыцы, бы ў цэнтры раю,
І ён у ёй, як рыба у вадзе... ***7.12.2014***

### x x x

Прыйдзе час, і Пізанская вежа ўпадзе,
І загіне паўсотні прыезджых людзей.
І патонуць у небе, нібыта ў вадзе,
І малітвы, і плач, і не стане святлей
На сцяжынах у Рым, куды ўсім не прыйсці,
Бо сцяжыны не ўсе будуць весці туды.
І траве на каменні вясной прарасці,
І засохнуць траве без жывое вады...

Я стаю ля Пізанскае вежы, і цень
Ужо ўпаў на мяне і мяне раздушыў.
І закончыўся ценем ад вежы мой дзень,
Я загінуў на міг і адразу ажыў,
Бо яшчэ не мой час і яшчэ не той міг,
Калі вежа ўпадзе і адвернецца Бог
І ад мёртвых людзей, і пакуль што жывых,
Што шукаюць да Бога кароткіх дарог...

Прыйдзе час, і Пізанская вежа ўпадзе,
А пакуль што трымаецца неба на ёй,
І люструюцца ў небе, нібыта ў вадзе,
Нашы слёзы і кроў, што не сталі вадой... ***8.12.2014***

**х х х**

Кожны верш, нібы спроба стварэння сусвету,
У якім ты, як Бог, адзінокі паэт.
І цябе зразумець можна толькі паэту,
Што стварае, як ты, з чорных літар сусвет,
У якім ёсць любоў, ёсць надзея і вера,
Як у душах людскіх ёсць ад Бога святло.
Не будзіце ў паэце ні плаксу, ні звера,
Каб пасля не казаць: «А што ж гэта было?!»
Хай самотны паэт сам жыве, як жадае,
У яго ёсць агонь, у яго ёсць віно,
І ля сэрца ў яго спіць змяя маладая,
Што паэту другім стала сэрцам даўно.
І таму кожны верш, як стварэнне сусвету,
У якім ты, як пыл, адзінокі паэт.
І цябе зразумець можна толькі паэту,
Што памрэ, як і ты, не стварыўшы сусвет... ***15.12.2014***

# Студзень – верасень, 2014

## СТУДЗЕНЬ

*1.01.2014.* Новы год з Людай і сябрамі сустрэлі на Кастрычніцкай плошчы каля ялінкі сярод моладзі, замежнікаў і міліцыянераў. У першыя хвіліны 2014, калі ўсе крычалі «З Новым годам!», высока над плошчай закружлялі вароны, як спалоханыя чорныя анёлы...

*х*

*1.01.2014.* З Новым годам павіншаваў амаль усіх сваякоў, чые тэлефоны маю. У Лягезах, дзе прамінула маё дзяцінства да школы, Новы год сустракалі мае дзядзька Віця з цёткай Стасяй, да якіх з Крапіўнікаў прыйшла мая стрыечная сястра Валя і адзінокая іхняя суседка Маціеўская. У іншых хатах было цёмна і холадна...

**х**

*3.01.2014.* Пасля святкавання Новага года з неба пасыпаўся снег, як пабелка са столі...

**ШЧАСЛІЎКА**

*3.01.2014.* Ранкам перад Новым, ідучы ў краму, жанчына знайшла 10 тысяч расійскіх рублёў. Ніколі раней ніякіх грошай яна не знаходзіла. А тут ажно 10 тысяч! Абрадавалася: «Цяпер на свята накупляю прысмакаў!»

Падняла. Пайшла ў абменнік. Дзяўчына, праверыўшы на фальшывасць валюту, пачала няспешна лічыць беларускія грошы. Паклаўшы на столік патрэбную суму, стала пералічваць. Шчасліўка занервавалася: «Хутчэй лічыце! Мне няма часу стаяць!» І тут раптам за спінай жанчыны ў абменнік гучна адчыніліся дзверы, прагучалі ўпэўненыя крокі. Жанчына азірнулася. Перад ёй стаялі два міліцыянеры з аўтаматамі. Знойдзеныя грошы былі фальшывыя...

**х**

*4.01.2014.* Несаснёныя сны маіх бацькоў захоўваюцца ў вёсцы ў падушках...

*студзень*

**х**

*5.01.2014.* Пастухі прыходзяць і сыходзяць. Авечкі размнажаюцца на радасць ваўкам...

**х**

*5.01.2014.* На чацвёртым паверсе ў доме, што насупраць майго, гаспадары перад Новым годам упрыгожылі вакно густой гірляндай, якая суткі навылет свеціцца, пераліваючыся, сінім святлом. І я гляджу на гэтае вакно, як на партал у іншы свет...

**х**

*6.01.2014.* Прачнуўся ад дажджу, які барабаніў па падваконні, нібыта друкаваў калядны верш на маёй старой друкарцы, якую некалькі гадоў таму я вынес з кватэры...

**х**

*6.01.2014.* Цяпер без бацькоў кожнае свята — не тое ўжо свята. Як сёння зіма без снегу...

**х**

*7.01.2014.* Быў у гасцях у сяброў. Да іх з Масквы прыехаў сваяк. На маё пытанне: «Як там Расія?» — госць адказаў: «Мы становімся на ногі! Ужо дзве новыя атамныя падводныя лодкі выйшлі на дзяжурства. Яшчэ рыхтуецца шэсць!»

*x*

*8.01.2014.* Ён не пазнае мяне ці проста не хоча вітацца. Вось і сёння ён прайшоў міма з разяўленым ротам, сярод якога ў верхняй сківіцы чарнее адзіны зуб. Магчыма, гэта той зуб, які мой знаёмы займеў трыццаць гадоў таму на мяне і ўсіх, каго ён ведаў, ходзячы на літаб'яднанні...

**x**

*9.01.2014.* Толькі прыйшоў на працу, як зазвінеў тэлефон. «Я хачу ў вас надрукавацца!» — заявіла жанчына. «Кніжку выдаць?» — пацікавіўся я. «Не! Мне трэба надрукаваць два вершы для дзяцей і адзін пра каханне!» — «Звярніцеся ў «Качели» і «Нёман». Мы па адным вершы не выдаем!» — «Як не выдаяце?» — «Мы кнігі выдаем! І ў нас вельмі-вельмі шмат рукапісаў!» — «Як шмат? Я з-пад Салігорска! У нашай вёсцы апрача мяне ніхто не піша вершаў! Паслухайце пра коціка!» — сказала жанчына і прачытала верш. «Падобных твораў пра коціка напісана сотні!» — «Сотні? А вы ведаеце, што я лепей пішу за Еўтушэнку!» — «Хто вам такое сказаў?» — «Мне не трэба, каб нехта мне нешта казаў! Я сама кажу! А колькі вы мне заплаціце за коціка?» — «За такі верш тысяч 15 будзе!» — «15 тысяч? Я дзесяць гадоў рыхтавалася, каб заняцца творчасцю!» — «З вершаў не пабагацееце!» — «Сястра мне казала не пісаць вершаў, а я не паслухалася!» — уздыхнула жанчына і паклала слухаўку.

*студзень*

**x**

*11.01.2014.* На сцяжыну, якой жыхары з нашага двара ходзяць да аўтобуснага прыпынку, уначы паваліліся ліпа. Стары, пакуль віднела, доўга глядзеў са свайго вакна на людзей, якія пераступаюць дрэва і ідуць далей. Развіднела. На тым месцы, дзе раней у цемры ляжала ліпа, стары пабачыў чалавека...

**КОТ**

*11.01.2014.* У пад'езд заляцела сініца. Дзесяцігадовы хлапчук, які даўно марыў займець птушку, яе злавіў і прынёс у кватэру. Пакуль ён рыхтаваў сініцы ежу, кот яе з'еў. Пабачыўшы гэта, хлапчук раззлаваўся і скінуў ката з балкона. Кватэра была на дзясятым паверсе...

Кот, упаўшы з дзясятага паверха, не забіўся. Ён узбег да кватэры, дзе жыў хлапчук, і напаскудзіў пад дзвярыма. Увечары вярнуўся з працы хлопчыкаў п'яны бацька. На лесвічнай пляцоўцы было цёмна. Ён наступіў на кацінае дабро, паслізнуўся і пабіў галаву. Суседка, пабачыўшы гэта, выклікала «хуткую дапамогу». Дактары, пад'язджаючы да пад'езда, дзе іх чакаў акрываўлены мужчына, збілі ката, з якога вылецела сініца...

Хлапчук, даведаўшыся, што ягоны бацька трапіў у бальніцу, а ката збіла «Хуткая дапамога», напісаў верш. Даслаў у газету. Верш надрукавалі, але ганарару не заплацілі. Вярнуўся з бальніцы бацька. Сын паскардзіўся, што за верш не заплацілі грошай. Мужчына раззлаваўся, пайшоў уначы да будынка, дзе была рэдакцыя газеты, і падпаліў яе...

Пажарнікі прыехалі тады, калі дом, у якім была рэдакцыя, што не заплаціла ганар хлапчуку, згарэў. Пабачыла гэта сініца, якая вылецела з падбітага ката, і паляцела следам за падпальнікам. Хацела птушка выдзяўбці вочы злыдню, але, пралятаючы над Свіслаччу, яна заўважыла цмока, які збіраўся скрасці на вячэру маладую мінчанку... Што далей было? Не ведаю! Прыйшла мая жонка і, сказаўшы: «Хопіць мучыць жывёлінак!», вымкнула камп'ютар.



**x**

*12.01.2014.* Аголеная жанчына больш падобная да манашкі, чым апранутая...

**x**

*13.01.2014.* Урэшце пайшоў снег, як лісты ад памерлых бацькоў і дзядоў...

**x**

*14.01.2014.* Матылькі не ведаюць пра існаванне снегу. Нечага і мы не ведаем...

**x**

*15.01.2014.* Нечакана прыканцы працоўнага дня да мяне ў кабінет зайшлі два высачэзныя хлопцы гадоў пад трыццаць. Адзін — тоўсты, а другі — худы. «Мы браты Ягоравы! — сказаў маладзейшы і, паказваючы на

таўстуна, дадаў: — Мой брат піша фэнтэзі! Хочам выдацца!» — «А вы што пішаце?» — «Нічога! Я хаджу з братам!» Паразмаўляўшы з хлопцамі, я зразумеў, што яны мараць «па-лёгкаму нарэзаць капусты». На развітанне браты Ягоравы пастрашылі мяне тым, што міне час і пра іх свет будзе ведаць, як ведае пра братоў Грым...

**Х**

*15.01.2014.* Усё ў снезе, усё белае, нібыта ўва ўсім увамкнулася халоднае святло...

**Х**

*студзень*

*16.01.2014.* Выдавецтва «Чатыры чвэрці» выдала маю кнігу «Тутэйшая туга». Некаторым будзе чым заняцца — падлікам маіх кніг...

**ЧАКАННЕ**

*16.01.2014.* Чалавеку 85 гадоў. Ён лічыць сябе паэтам. Пра гэта амаль ніхто не ведае. Ён жыве адзін. Колькі ўжо разоў ён прыходзіў у рэдакцыю і запрашаў рэдактара аддзела паэзіі ў госці! А рэдактар то зусім не рэагуе на запрашэнні, то кажа, што няма часу. Стары не злуецца. Ён чакае рэдактара ў госці. А рэдактар чакае, калі стары памрэ...

**Х**

*18.01.2014.* На творчых вечарынах, як на пахаваннях, выступоўцы кажуць пра віноўніка збору людзей толькі добрае ці маўчаць...

**Х**

*18.01.2014.* Кніга прыснілася ў чорнай флэшцы...

**ПЁТР ВЕГІН**

*18.01.2014.* У сеціве вычытаў: «Объявлен международный поэтический конкурс «Лёт лебединый» имени Петра Вегина. Организаторы: Русскоязычная община Лос-Анджелеса и литературно-музыкальный салон «Дом Берлиных» (США) и другие. Международный поэтический конкурс «Лёт лебединый» посвящен талантливому

поэту, прозаику и художнику Петру Вегину, долгие годы жившему и работавшему в Лос-Анджелесе». З Пятром Віктаравічам я, калі вучыўся ў Літінстытуце, быў добра знаёмы. Светла запомніўся адзін маскоўскі вечар, калі мы, пакінуўшы кавярню ЦДЛ, амаль гадзіну пад дробным вясновым дажджом ішлі па горадзе. Паэт быў з маладой жанчынай. І я хацеў іх пакінуць удваіх, як гэта зрабілі нашыя сябры адразу ж пасля застолля, але Пётр Віктаравіч папрасіў мяне пабыць разам. Ён усю дарогу чытаў свае вершы. Прыгожыя і сапраўдныя. На развітанне падараваў мне кніжку з аўтографам. Я думаў, што Пётр Вегін яшчэ жыве, а ён памёр у 2007, на 68 годзе жыцця...

*студзень*

**x**

*18.01.2014.* За горадам снег, як Белая Арда...

**x**

*19.01.2014.* Неба чыстае, як манітор камп'ютарны...

**x**

*19.01.2014.* Навокал снег і сонца ў небе, як кропля залатой восені, далёка-далёка за днямі пражытымі...

**x**

*20.01.2014.* Мароз. Чым далей ад дому, тым халадней...

**x**

*22.01.2014.* Нярэдка мы сябе паводзім так, нібыта неўміручыя і няма над намі Бога...

**x**

*23.01.2014.* Каля крамы да мяне падышоў мужык гадоў сарака і запытаўся: «Вы тутэйшы?» — «Тутэйшы. А што?» — спыніўся я. «Дайце паесці. Я быў на заробках у Маскве. Ледзьве ўцёк. Цяпер вось жыву ў сутарэннях, як бомж. Не магу паехаць дамоў...» — апавёў пра сябе мужык. Я даў яму дзесяць тысяч, што былі ў мяне ў партманеце...

**х**

*25.01.2014.* Прыснілася вёска. Родная хата. Зазіраю ў хлеў і бачу на гарышчы моладзь. «Хто вы такія і што тут робіце?» — пытаюся. «Мы паэты! Пішам вершы!» — пачулася ў адказ. Адна дзяўчына дастала запалкі і пачала паліць сена. Я раззлаваўся і выгнаў з хлява паэтаў. Заходжу ў хату. Пры стале сядзяць тыя ж маладзёны з міскамі і лыжкамі і крычаць: «Дай есці!»

**х**

*студзень*

*26.01.2014.* У маразы, седзячы дома, мама прала воўну, вязала шкарпэткі і швэдры, а бацька плёў кашы. Цяпер у мароз Люда піша прозу, а я вершы...

**х**

*26.01.2014.* Знайшоў у чарнавіку:

*Здасца доўгім кароткае лета,*
*Калі сонца не грэе, пячэ,*
*І яго мы палюбім за гэта,*
*І сто раз яго ўспомнім яшчэ,*
*Калі дождж будзе восеньскі ліцца*
*На мяне, на цябе і на шлях,*
*Па якім нам ісці, каб згубіцца*
*У лугах, у лясах, у палях,*
*Каб забыць пра кароткае лета,*
*Калі сонца не грэла, пякло,*
*Мы яго не любілі за гэта,*
*А іначай і быць не магло...*

**ДОКТАР І МУЗЫКА**

*29.01.2014.* Прыходзіла пенсіянерка. Прыносіла кілаграмаў дзесяць вершаў. Пачытаў сёе-тое. Паразмаўлялі. Запомнілася: «Гадоў пяць таму я была ў доктара, і доктар мне нешта зрабіў такое, што цяпер у маёй галаве бясконца гучыць музыка, на якую я пішу вершы...»

**х**

*30.01.2014.* Сёння дзень народзінаў вялікага рускага паэта Мікалая Глазкова (30.01.1919—1.10.1979). З яго творчасцю я пазнаёміўся ў Літінстытуце ў 1985 годзе. Тады ж і палюбіў. Як цвік, ува мне па сённяшні дзень сядзяць ягоныя радкі:

*Говорят, что окна ТАСС*
*Моих стихов полезнее.*
*Полезен также унитаз,*
*Но это не поэзия.*

**х**



*30.01.2014.* Зацемна выйшаў на працу. Марозна! Узгадалася, як такімі маразамі мама вярталася з кароўніка, паліла ў печы і пякла бліны. Бацька ў гэты час даваў есці карове і свінням. Потым браў вядро і, напоўніўшы яго жарам, нёс у варыўню, каб бульба не памерзла...

**х**

*30.01.2014.* Гмах, нядаўна збудаваны, цалкам зашклілі. Цяпер ён, яшчэ незаселены, як абледзянелы...

**х**

*30.01.2014.* Мароз і сонца. Сабака і Граждан...

**х**

*30.01.2014.* У пакоі змрочна і холадна. Папера на стале, як леташні снег...

**х**

*31.01.2014.* Такім марозам мяне б у школу мама не пусціла. На працу іду, як герой...

**х**

*31.01.2014.* Халадэча — гэта не галадэча...

**х**

*31.01.2014.* Выступаў у Музеі Максіма Багдановіча на адкрыцці мастацка-дакументальнай выставы «Праглядзіце гэты томік...», прысвечанай 100-годдзю выхаду ў свет кнігі «Вянок». Дзелячыся ўражаннем ад экспанатаў, я сказаў: «Спыніўшыся каля дзвярэй з шыльдай «Беларуская газета “НАША НІВА”», мне захацелася іх адчыніць, бо раптам уявілася, што за імі сапраўды рэдакцыя газеты, за імі пачатак дваццатага стагоддзя, за імі нашая Вільня і Максім Багдановіч». Адразу ж музейны фатограф кінуў рэпліку: «За гэтымі дзвярыма нашая бухгалтэрыя!»

*студзень — люты*

## ЛЮТЫ

**х**

*1.02.2014.* Прыехаў у Пугачы. Дома бацька з маім братам. Пытаюся: «Хто цяпер жыве ў хаце Гені Балотніка?» — «Ідзі і паглядзі!» — адказаў бацька. Я выйшаў на вуліцу і пабачыў, што ў суседа ў агародзе нейкія людзі. Пастаяўшы каля плота, вырашыў пазнаёміцца з імі. Зайшоў у агарод. Мяне адразу запрасілі да разасланага на траве абруса, на якім ляжала закуска. Вакол сядзелі знаёмыя памерлыя вяскоўцы, а дзядзька Геня чэрпаў з вялікага вядра чаркамі самагонку і раздаваў гасцям. Я паклікаў бацьку і брата далучыцца да кампаніі, але яны не пайшлі, і я прачнуўся...

**х**

*2.02.2014.* Нашыя памерлыя дзяды і бацькі жывуць у нас, і наша памяць — гэта іхні рай на зямлі...

**х**

*3.02.2014.* Сніліся самалёты. Недзе сотня. Усе срэбныя. Высока ў небе, за падранымі аблокамі. Ляцелі з Еўропы. Следам за імі з’явіўся вялікі-вялікі самалёт, і я, пабачыўшы яго, адразу зразумеў — іншапланетнікі, і прачнуўся. Мінуў дзень, а мне і цяпер жудасна...

х

*4.02.2014.* Сёння мой тлумны працоўны дзень скончыўся на пачатку а шостай гадзіны. Я ўвайшоў у ліфт. У ім тры жанчыны. Самая маладая, гадоў трыццаць, адразу ж звярнулася, усміхаючыся, да мяне: «Малады мужчына, вы з намі?» — «Паглядзім...» — буркнуў я. З дзявятага на першы паверх ехаць секунд пятнаццаць. Ліфт адчыніўся. Я жанчын прапусціў, і маладзейшая, выходзячы, сказала: «Элегантны!» — «А што вы думалі!» — услед адказаў я і, у думках дадаўшы: «Элегантны, як раяль... Белы, як раяль... Бедны, як раяль...», няспешна пайшоў з працы...

*люты*

х

*5.02.2014.* Прыснілася труна, а ў ёй Васіль Быкаў. На развітанні з пісьменнікам людзей няшмат. Змрочна. Падыходжу да труны і бачу, што ў ёй не Быкаў, а Рыгор Барадулін. Нейкі незнаёмы мужчына налівае ўсім па чарцы, дае закусіць. Усе выпіваюць. І тут раптам Барадулін сядае ў труне і кажа: «Што вы там смачнае ясцё? Дайце і мне!»

х

*5.02.2014.* Анатоль Кудласевіч паведаміў мне праз Фэйсбук: «Прыснілася твая жонка Людміла, быццам бы яна піша нейкі артыкул крытычны, дакладней, гаворыць і адразу ж з'яўляюцца жывыя малюнкі, як у кіно. Вось хата наша, гаворыць яна — і паўстае хата. А хто гэта ідзе? Гэта Віктар Шніп на працу збіраецца. З'яўляецца Шніп, у нечым сінім, нават капялюш сіні, быццам бы джынсавы, сядае на воз і паехаў коньмі на працу. Рана паехаў, а пятай гадзіне...»

х

*5.02.2014.* Ірына Ляшкевіч у Фэйсбуку напісала: «Успомнілася, як у дзяцінстве бабуля строга пыталася ў мяне, калі я нешта шукала ў хаце (мо нейкую цацку, а мо шкоду збіралася якую рабіць?): "Ну, шо ты там ШНІПорыш?"»

**x**

*5.02.2014.* А шостай гадзіне вечара зазвінелі званы Кафедральнага сабора. Толькі заціхла на царкве, як паблізу зазвінелі на касцёле.

У Кафедральным саборы пачалася служба. Вырашыў зайсці хоць бы на хвіліну. Іду і бачу: сярод людзей ля царквы прыгожая парачка качак. Адразу ўзгадаліся мама і тата, па якіх у саборы некалькі разоў замаўляў абедню...

Праз дзве гадзіны, калі вяртаўся з Палаца Рэспублікі, каля Кафедральнага сабора качак ужо не было. Не было і людзей. І толькі адышоўся крыху ад Храма, як прыляцела качка з рыбінай у дзюбе і села на снег каля сцяжыны...



**x**

*6.02.2014.* Некаторыя на кніжнай выставе, як у Чырвонай кнізе...

**x**

*6.02.2014.* На кніжнай выставе каля стэнда «Мастацкай літаратуры» хвілін дзесяць Віктар Лупасін агітаваў Ціхана Чарнякевіча далучыцца да напісання твора пра Шэрлака Холмса, які будзе алкаголікам. Ціхан, усміхаючыся, адмовіўся...

## СЭКАНД-ХЭНД І АЛЕКСІЕВІЧ

*8.02.2014.* Сёння на міжнароднай кніжнай выставе, якая ўжо чацвёрты дзень праходзіць у Мінску, каля стэнда «Белкнігі» а 12 гадзіне пачалася прэзентацыя кнігі Святланы Алексіевіч «Час сэканд-хэнд»...

Стэнд «Мастацкай літаратуры» мяжуе з «Белкнігай» і хвост чаргі да Алексіевіч увесь час віхляўся каля нас. Мы з Аксанай Спрынчан вырашылі скарыстаць магчымасць, пакуль людзі стаяць за «сэканд-хэндам», прапанаваць кнігі нашага выдавецтва: Васіля Быкава, Рыгора Барадуліна, Ніла Гілевіча, Уладзіміра Караткевіча, Віктара Казько, Васіля Зуёнка, Раісы Баравіковай, Янкі Купалы, Якуба Коласа, Вацлава Ластоўскага, а таксама зборнікі з вершамі Рыгора Барадуліна, Ніла Гілевіча, Генадзя Бураўкіна, Леаніда Дранько-Майсюка і іншых. Чуючы гэтыя імёны, адны проста ўсміхаліся, другія адварочваліся, трэція былі як каменныя. Адна толькі дзяўчына, якая

прыехала з Оршы, набыла пяты том Караткевіча, але праз хвілін дзесяць памяняла яго на іншую беларускамоўную кнігу, бо ў гэтым томе якраз палова тэкстаў на рускай мове, а ёй захацелася цалкам беларускую...

Аксане Спрынчан пажылы мужчына з чаргі патлумачыў, чаму яны не цікавяцца нашымі выданнямі: «Вашыя кнігі ж на беларускай мове, мы не можам».— «Чаму не можаце, яны ж на роднай мове?» Мужчына сказаў: «Такія мы» — і пастукаў сябе кулаком па галаве...

У чарзе стаялі пенсіянеры і пажылыя людзі. Моладзі амаль не было. Адна жанчына прызналася, што ў яе пенсія мільён шэсцьсот тысяч і яна паўгода збірала грошы, каб купіць «сэканд-хэнд»...

Малады чалавек, праходзячы паўз чаргу, сказаў: «Пахне савецкім сэканд-хэндам!»

З другога паверха кніжнай выставы некаторыя глядзелі на стэнд, дзе падпісвала кнігі Алексіевіч, нібыта ніколі не бачылі жывога пісьменніка...

Людзі, якія куплялі ў нас кнігі, у чаргу да Алексіевіч не станавіліся...

Па «сэканд-хэнд» стаялі, як у Маўзалей...

### Х

*8.02.2014.* Вясна. Я ў вёсцы. Бацька прыехаў дапамагчы пасадзіць грады. Пасадзілі. У куце хаты, дзе абраз, пад крэслам, на якім стаіць вялікае радыё, купа пяску. Я выграбаю яго, а ён праз шчыліны прасыпаецца пад падлогу. Гляджу на гадзіннік, а на ім сёмая гадзіна вечара. Аўтобус пайшоў у горад. Я, хоць і баюся начаваць дома пасля смерці бацькоў, думаю пераначаваць разам з бацькам. Прыходзіць сусед і кажа, што побач з вёскай ходзяць электрычкі. Іду з бацькам на чыгунку. Дапамагаю яму сесці на грузавы цягнік, кажучы: «Ты едзь, там цябе чакаюць!» Прачынаюся. Сёмая гадзіна раніцы.

### ЯШЧЭ СЁЕ-ТОЕ З ВЫСТАВЫ

*9.02.2014.* Учора заўважыў (не мог не заўважыць!) красуню гадоў дваццаці пяці на высокіх абцасах, у кароткай спаднічцы, з шыкоўнай прычоскай. Яна хадзіла сюды-туды па выставе і не звяртала ўвагі на кнігі. Глядзелі на яе. Вельмі часта праходзіла каля стэнда Ірана. Сёння

яна зноў з’явілася. Зноў прагульвалася. Сэкс-бомба. Недзе а другой гадзіне з’явіўся каля яе такога ж узросту хлопец, з якім яна ўжо хадзіла сюды-туды. Ён яе трымаў за талію. На кнігі не глядзелі...

Падышла да нас бабулька гадоў 80-ці. Пацікавілася Багдановічам. Я паразмаўляў з ёй. З размовы даведаўся, што яна ў Мінск прыехала ў 1946 годзе з Грузіі. Пайшла ў школу. «Тады ўсё было па-беларуску! А што цяпер? Што нарабілі! Я была выдатніцай, але па-беларуску мела чацвёрку. Мне было сорамна, што я не змагла атрымаць пяцёрку. І я, бачыце, дажылася, што не гавару. Хачу знайсці «Вянок» Максімовіч Багдановіча! Я люблю яго яшчэ з дзяцінства!»

*люты*

**x**

*10.02.2014.* Мінуў першы дзень пасля кніжнай выставы, а ў вушах яшчэ стаіць шум натоўпу і гучаць галасы выступоўцаў, а ў вачах кнігі і людзі, людзі і кнігі, і ўсе ветлыя і лепшыя...

**x**

*11.02.2014.* У кожным творы, калі яго пішуць, як у ракавінцы, ёсць малюск, у якім можа стварыцца перліна. А можа і не стварыцца...

**x**

*12.02.2014.* Прыходзіў на працу Адам Глобус. Набываючы кнігу Леаніда Маракова «Галоўная вуліца Мінска. 1880—1940 гг.», ён сказаў: «Галоўная вуліца Мінска — Свіслач, а не Сталінскі праспект і не Ленінскі...» — «Так. Нават калі горада не стане, Свіслач застанецца!» — падтрымаў Глобусаву думку я.

**x**

*12.02.2014.* «Як тут у вас справы ў выдавецтве?» — пацікавіўся паэт. «Кіпяць! Бачыш за вакном у горадзе туман? Гэта не туман, а пара, якая распаўзлася з нашага будынка...» — адказаў я.

**х**

*12.02.2014.* У адным са СМІ сёння вычытаў, што ўдзельнікам Алімпійскіх гульняў у Сочы выдадзена на шаснаццаць дзён па 35 прэзерватываў. На мінулых гульнях перад пачаткам спаборніцтваў было раздадзена 70 тысяч прэзерватываў. І ўсё ж спартоўцам і іх трэнерам не хапіла! За некалькі дзён да закрыцця Алімпіяды прывезлі яшчэ 20 тысяч...

**х**

*12.02.2014.* Рэкі знікаюць, як народы знікаюць...

*люты*

**х**

*14.02.2014.* Да Дня Святога Валянціна ў нас на працы рыхтаваліся цэлы тыдзень. У прыёмнай была паштовая скрыня, куды кожны мог укінуць віншавальны ліст з пазнакай адрасата. Лістоў і паштовак сабралася шмат, і сёння са Святым Валянцінам (яго ролю выконваў мастак Валянцін Макаранка) Аксана Спрынчан, Паліна Грынчанка і я разносілі пошту па кабінетах. Да свята ранкам я нарыфмаваў пажаданняў мужчынам:

*У Дзень Святога Валянціна,*
*Мужчына, не будзь як скаціна.*
*Халасты ці нат жанаты*
*Правядзі ЯЕ дахаты.*
*Падары ЁЙ кветкі,*
*Каб зайздросцілі суседкі!*
*Падары французскія духі,*
*Каб не дарыў другі!*
*Падары ЁЙ завушніцы,*
*Каб была прынцэсай у сталіцы!*
*Падары ЁЙ свае вершы,*
*Каб казала ўсім, што ты найлепшы!*
*Падары ЁЙ мільён,*
*Каб былі катлеты і булён!*
*Падары ЁЙ кніжку,*
*Каб сядзела ў зацішку!*
*Падары ЁЙ апельсін,*
*Каб не прыставаў грузін!*
*Падары ЁЙ запальнічку,*
*Каб насіла кароткую спаднічку!*

*Падары ЁЙ шакаладу,*
*Каб усё было да ладу!*
*Падары ЁЙ машыну,*
*Каб бачыла ў табе Мужчыну!*
*Падары ЁЙ гузік,*
*Каб жывот стаў, як гарбузік!*
*Падары ЁЙ кватэру,*
*Каб у сэксе знала меру!*
*Ну а лепей падары сябе самога,*
*Бо і так у ЯЕ ўсяго многа,*
*І ў Дзень Святога Валянціна*
*Ты не будзеш як скаціна!*

*люты*

## МІХАСЬ СТРАЛЬЦОЎ

*14.02.2014.* Прыходзіла Раіса Баравікова. Успомнілі Міхася Стральцова, якому сёння было б 77 гадоў. Пражыў усяго толькі 50. Раіса Андрэеўна памятае яго маладым, здаровым і прыгожым. Я да Міхася Лявонавіча па парадзе Рыгора Барадуліна прыйшоў у «Нёман» у 1984 годзе, калі рыхтаваў да друку кнігу «Пошук радасці», якая выйшла ў 1987 годзе ўжо, на жаль, пасля смерці майго настаўніка і няштатнага рэдактара. На час нашага знаёмства я нідзе не працаваў і таму да Стральцова хадзіў часта. Ён глядзеў мае новыя вершы, уносіў праўкі, даваў парады што чытаць, а чаго і ў рукі не браць. Часам па ягонай просьбе я хадзіў па цыгарэты. Потым, стоячы на ганку рэдакцыі, Міхась Лявонавіч нярэдка казаў мне, каб не курыў так шмат, як ён, а з выпіўкай своечасова, як Барадулін, завязаў назаўсёды. Стральцоў называў мяне «старым». Бывала прасіў разам прайсціся вуліцаю да аўтобуснага прыпынку. Даведаўшыся, што я еду вучыцца ў Літаратурны інстытут, казаў, каб там не загуляў і не ўздумаў ажаніцца з масквічкаю. Нашыя дзяўчаты лепшыя. У час апошняй сустрэчы, калі я перад ад’ездам у Маскву, прыйшоў развітацца, Міхась Лявонавіч папрасіў пісаць яму лісты. І я паехаў, не ведаючы, што развітаўся з паэтам назаўсёды. Па маладосці думаў: «Хто я такі, каб пісаць Паэту?» — і не пісаў. Потым мне казалі, што Стральцоў крыўдаваў, што я, ягоны вучань, забыўся на яго. Не, Міхась Лявонавіч, я на Вас не забыўся! І ніколі не забудуся!

**№ 13**

*14.02.2014.* Біятланістка Дар'я Домрачава і лыжная акрабатка Ала Цупер — алімпійскія чэмпіёнкі! Яны спаборнічалі пад нумарам 13...

**X**

*14.02.2014.* На 86-м годзе жыцця памёр народны мастак Беларусі Гаўрыла Вашчанка. Я пазнаёміўся з Гаўрылам Харытонавічам у 1988 годзе, калі наведаў ягоную майстэрню, каб напісаць у часопіс «Беларусь» пра новыя палотны, прысвечаныя чарнобыльскай трагедыі. І сёння ў памяці карціна, на якой гарацць свечкі. Некалькі гадоў таму ў нас (у «Мастацкай літаратуры») выйшаў дыхтоўны фаліянт пра Гаўрылу Вашчанку. У працу над выданнем, у адрозненне ад некаторых, мастак не ўлазіў. Стваралася ўражанне, нібыта герой кнігі не ведае, што пра яго напісаны цэлы том і ён выдаецца. Апошні раз бачыў Гаўрылу Харытонавіча ў Нацыянальным мастацкім музеі 8 жніўня на святкаванні 60-годдзя Уладзіміра Пракапцова. Да самага канца імпрэзы мастак не быў. У той вечар я з ім развітаўся двойчы — першы раз, калі ён пакідаў музей, і потым на вуліцы, дзе мастак затрымаўся са знаёмымі, а я з Людай ішоў дадому...

*люты*

**X**

*15.02.2014.* Я з Людай, сястра Валя, пляменніца Надзя і яе хлопец Саша ездзілі на Ракаўскія могілкі. Сёння два гады як мы засталіся без мамы. Прыехалі амаль а другой гадзіне. Брамка да бацькоўскіх магіл была адчыненая, нібыта ўжо бацькі нас зачакаліся...

На слупку пабачылі шыльду з абвесткай, з якой даведаліся, што ўжо больш нельга нікога хаваць (за нашымі бацькамі за два гады вырас цэлы шэраг магіл), бо далей кусты, але гэта не проста кусты, а «старыя Ракаўскія могілкі XIX стагоддзя, якія з'яўляюцца гісторыка-культурнай каштоўнасцю»...

Як на вяршынях чалавечага гора, на магільных грудах ужо няма снегу...

У царкве служба скончылася, і Храм на замку...

Сёння Грамніцы. Паводле народных прыкметаў будзе ранняя вясна...

**x**

*15.02.2014.* Вярнуўшыся з Ракаўскіх могілак і памянуўшы бацькоў, мы з Людай паехалі на 3-ці міжнародны паэтычны фестываль «Вершы на асфальце» памяці Міхася Стральцова. Літоўцы і палякі (не ўсе) чыталі, а, дакладней, бубнелі сабе пад нос вершы, як дзеці. На фоне рускіх паэтаў і літоўца Альвідаса Шляпікаса, якія выступалі, як артысты, было нават сорамна за іх, бо вершы ў перакладах гучалі добра. З маладых запомніўся Антон Рудак...

**x**

*люты*

*16.02.2014.* У краме ў касу стаяў сярод шумлівых мужыкоў. Маладзейшы з іх, гадоў сарака, хвалячы біятланістку Дар'ю Домрачаву, сказаў: «Калі Дар'я возьме трэці залаты алімпійскі медаль, трэба, каб праспект Дзяржынскага перайменавалі ў праспект Дар'і Домрачавай! Хто такі Дзяржынскі? Не ведаеце? І я не ведаю! А Дар'я — гэта наш герой!»

**x**

*19.02.2014.* З Людай паглядзелі фільм «Філосаф» Джона Хадлса. Жанр — фантастыка. Джакарцкая міжнародная школа. Немалады выкладнік філасофіі прапануе сваім дваццаці студэнтам развязаць складаную псіхалагічную задачу. Лагічна думаючы, яны мусяць з дваццаці абраць дзесяць чалавек, якія змогуць выратавацца ад атамнага апакаліпсісу ў бункеры. Астатніх чакае немінучая смерць. Кожнаму са студэнтаў прапанавана абраць прафесію, якой паводле правілаў эксперымента ён нібыта валодае. Будаўнік, мэр горада, спявачка, хімік, акушэр, паэт і г. д. У гульні ўдзельнічае і сам выкладнік, у якога ёсць пісталет. «Будаўнік нам будзе патрэбны, як мы выйдзем з бункера?» — задаецца пытанне, і ўсе адказваюць: «Так!» — «Мэр горада патрэбны?» — «Не!» — «Спявачка?» — «Не!» — «Хімік?» — «Так!» — «Акушэр?» — «Так!» — «Паэт?» Пачуўшы слова «паэт», выкладнік адразу страляе ў лоб хлопцу. Пасля першай задачы філосаф прапануе новую падобную задачу. Ізноў, пачуўшы слова «паэт», выкладнік забівае хлопца. Усё гэта не рэальна, але нас «забіла» тое, што пры слове «паэт» гучыць стрэл...

**x**

*20.02.2014.* З вёскі на працу патэлефанавала Эла (жонка майго траюраднага брата Антона Янушкевіча) і сказала, што людзі паведамілі ёй, што з нашай хаты цячэ вада. Відаць, вадаправодную трубу прарвала. 15 лютага, калі ездзілі да бацькоў на Ракаўскія могілкі, хацелі і ў Пугачы зазірнуць, але не атрымалася. І цяпер падумалася, што наша родная хата застаўшыся ў самоце, вырашыла скончыць жыццё самагубствам, «парэзаўшы сабе вены»...

**x**

*21.02.2014.* З Максімам ездзіў у вёску ратаваць хату. Вазіў швагра Віця. Ехалі як на пахаванне... *люты*

На палях не вясна, не зіма. Гледзячы наўкола, швагра сказаў: «Як пасля вайны...»

Уязджаючы ў вёску, я ўглядаўся: «Ці стаіць наша хата?»

Ад хаты цячэ ручай. Сажалка каля нашага плота поўная...

Адчыняю дзверы ў хату, баючыся, нібыта пабачу канец свету...

З цяжкасцю адчынілі дзверы ў кухню. Усё затоплена. Фантан б'е ў печ. Яшчэ б пару дзён і печ пачала б развальвацца...

Ваду спынілі, забіўшы кол у трубу, нібы ў горла вадзянога змея...

Дзядзька Шура, які жыве па суседстве, у сваёй майстэрні дапамог Віцю зрабіць пракладкі на новы кран. Потым і кран паставілі новы. Адразу на душы палягчэла, пасвятлела. Я пайшоў у залу і запусціў насценны гадзіннік. І хата ажыла...

**x**

*22.02.2014.* Паведамленне з Кіева: «Інтэлігенцыя заняла Мінкульт...»

**x**

*22.02.2014.* Узгадалася маміна слова «піткай». Яна так казала, даючы мне папіць, калі я хварэў...

х

*24.02.2014.* Мазгі чыстыя, як шклянка...

х

*25.02.2014.* Удзельнічаў у прэзентацыі кнігі Валянціны Куляшовай «Аркадзь Куляшоў. Лясному рэху праўду раскажу...», якая прайшла ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі. Кніга выдадзена ў серыі «ЖЗЛБ». Сямнаццатая па ліку. У зале прысутнічалі дачка паэта Валянціна Аркадзьеўна, унук Уладзімір Бярбераў, унучка Вольга і праўнучка Алеся. Кажучы пра кнігу, я ўзгадаў, што ў пятнаццаць гадоў палюбіў твор Аркадзя Куляшова «Мая Бесядзь», у якім ёсць страфа:



*Я, ўпарты, не кіну пачатае справы,*
*Каменне крышу,*
*Разграбаю пяскі,*
*Пад кпіны аматараў лёгкае славы*
*Капаю рэчышча ўласнай ракі.*

Гэтыя радкі шмат гадоў у мяне на пачатку кожнага новага сшытка, у якім я пісаў вершы, былі эпіграфам. Пасля вечарыны да мяне падышла жонка Івана Чыгрынава і запыталася: «А чаму вы не ўзгадалі Алеся Пісьмянкова і Івана Чыгрынава? Яны ж таксама выраслі на Бесядзі...»

х

*26.02.2014.* Здалёку гляджу на Свіслач. Там, дзе растаў лёд, чайкі, як белыя гарлачыкі...

х

*27.02.2014.* У Музеі Якуба Коласа прэзентавалі «Новую зямлю» з ілюстрацыямі народнага мастака Беларусі Васіля Шаранговіча, якая выйшла ў «Мастацкай літаратуры» на мінулым тыдні. Ілюстрацыі, хоць і не новыя, але ўжо добра прызабытыя. Яны ў свой час былі зробленыя для трохмоўнага выдання «Новай зямлі» (на беларускай, рускай і польскай мовах). Ад Уладзіміра Гілепа даведаліся, што з ідэяй такога выдання да яго ў Фонд культуры звярнуўся Янка Брыль. Цягам года Васілём Пятровічам былі зробленыя ілюстрацыі. Іх на сённяшні дзень 93. Апавядаючы пра сябе, мастак расказаў гісторыю

пра сваё імя. Бацькі, адпраўляючы хрысціць сына ў царкву, папрасілі хросных назваць малога Генадзем. Такога імя на той час ні ў вёсцы, ні ў суседніх не сустракалася. Пакуль хросныя бацькі дабіраліся да царквы, то забыліся рэдкае імя. І бацюшка назваў малога паводле царкоўнага календара Васілём. Вярнуўшыся ў вёску, дзе ўжо быў накрыты стол, за якім сабраліся вяскоўцы, хросныя сказалі маці будучага мастака, што бацюшка назваў малога Васілём. Пры стале сядзеў сусед Васіль, якога ўсе абзывалі бараном, і маці, пачуўшы, як назвалі сына, забедавала: «Цяпер у вёсцы будзе яшчэ адзін баран!» Сусед пакрыўдзіўся і з жонкай пакінуў застолле. Пасля гэтага амаль дваццаць гадоў Васіль-баран і бацькі Васіля Шаранговіча не размаўлялі. І вось неяк прыехаў малады мастак у вёску. Зайшоў у родную хату і пабачыў бацьку з суседам, якія выпівалі. Сусед, вітаючыся, з усмешкай сказаў: «Не ўсе Васілі бараны!» *люты*

**х**

*28.02.2014.* Вяртаючыся з працы, у нашым двары пад дрэвам заўважыў на асфальце мокрую пляму. Падышоў бліжэй і пабачыў, што на дрэве са зламанай галінкі крапае сок...

**СХАВАЎСЯ Ў БУЛЬБУ**

*28.02.2014.* Я прыехаў у вёску. Бацькі каля хаты выбіраюць бульбу. Белыя мяхі ляжаць на свежых баразнах. Адзін поўны. Мама кліча, каб я забраў яго. Падыходжу і, пабачыўшы, што ў мяху сядзіць Януковіч, прачынаюся...

# САКАВІК

**х**

*1.03.2014.* Прыснілася, што хаджу па старой Вільні. Усё навокал роднае-роднае. Людзей амаль няма. І раптам сустракаю Анатоля Сыса. Пытаюся: «Што ты тут робіш?» І чую ў адказ: «Я цяпер тут жыву...»

**х**

*2.03.2014.* Калі вяртаўся з крамы, мяне ў двары каля дома, дзе жыву, аклікнуў з машыны незнаёмец. Я спыніўся, падышоў. Хлопец гадоў трыццаці, не рускі, паказаў пашпарт: «Я расіянін. Са Стаўрапольскага краю. Мне трэба тэрмінова дамоў праз Украіну ехаць, а там вайна. У мяне грошай няма. Купіце бензапілу, зварачны апарат і набор дрылёў. На мяжы ў мяне ўсё гэта забяруць». Скончылася ўсё тым, што я за два мільёны ўзяў бензапілу. Прынёсшы ў хату, сказаў сам сабе: «У дзяцінстве, пілуючы з бацькам штолета дровы, марыў пра бензапілу. Сёння мая мара збылася!»

*сакавік*

**х**

*2.03.2014.* Памёр народны паэт Беларусі Рыгор Барадулін... Памёр у даравальную нядзелю... Дараваў усім і адышоў у іншы свет...

**х**

*5.03.2014.* Апошнімі днямі праз перажыванні хаджу нявыспаны. Сёння вярнуўся з працы раней, чым заўсёды. Дома нікога няма. Вырашыў паспаць. Лёг. Прыснілася вёска. Я Люду і дзяцей прывёў у старую школу, якой насамрэч ужо даўно няма. Бачу накрытыя сталы. Відаць, да нейкага свята рыхтуюцца. Падышоў да мужчыны, пра якога падумаў, што ён тут самы галоўны. Дырэктар школы мяне пазнаў. Павітаўся. Мне захацелася паўдзельнічаць з аднавяскоўцамі ў застоллі, і я сказаў, што, калі трэба, магу пачытаць свае вершы. Не трэба! Кажу, што Люда мая вельмі цікавы празаік. Ну і што! Хвалюся сынам: «Наш Максім — герой Расіі! Ён лётаў у космас і хутка зноў паляціць!» — «Няхай ляціць!» — «Наша дачка Вераніка — мастачка! «Вершаваная энцыклапедыя

жывёльнага свету» выйшла ў яе афармленні!» — «Пакажыце!» Паказваю. Мужчына, пагартаўшы кніжку, кажа: «Яна можа гасцяваць у нас, а вы ідзіце дахаты!» І я прачнуўся. У кватэры цёмна і ціха. Лежачы, пабачыў, што насупраць у суседнім доме святло ў вакне. Яно свеціцца штораніцу, калі іду на працу. Праспаў! Увамкнуў святло. Зірнуў на гадзіннік. Без дзесяці восьмая. Пачаў, бегаючы, збірацца на працу. Узяў мабільны, а на ім 19:58...

**Х**

*5.03.2014.* Снілася старая беларуская Вільня. Я хадзіў сутарэннямі ў пошуках Рыгора Барадуліна. Жанчына, якая прадала мне квіток у сутарэнні, сказала, калі я вярнуўся на дзённае святло: «Барадуліна яшчэ рана тут шукаць...»

*сакавік*

**Х**

*6.03.2014.* Учора ў сваім ЖЧ і ў Фэйсбуку даў абвестку: «У Тузіне гітоў — кампазіцыя цудоўнага музыкі і кампазітара Юрыя Несцярэнкі «Мора зімы». Падтрымайце яго, калі ласка!» Як і думаў — ніхто не падтрымаў... І я выйграў спрэчку...

**Х**

*7.03.2014.* Гэты верш быў напісаны 3 лютага, але ён для мяне і сёння актуальны:

*Настрой такі, што ўсё няміла,*
*І гэты свет, нібы магіла,*
*Дзе мы, прыгожыя, жывём.*

*Гляджу ў вакно, а там — цямрэча,*
*І людзі, як тапельцы з рэчак,*
*Ідуць і вечарам, і днём.*

*Куды ідуць? Відаць, дамоў ідуць,*
*Свой сум, нібы труну, нясуць,*
*І ўсё маўчаць, і ўсе маўчаць.*

*І пройдзе ноч, і дзень мінецца.*
*І хтось засне, а хтось прачнецца,*
*І нават Бог не будзе знаць...*

**x**

*8.03.2014.* Учора на працы віншавалі нашых прыгажунь. Я для іх прыдумаў верш:

*Дзяўчаткі... Дзяўчаты... Жанчыны... Кабеты...*
*Прад Вамі стаяць на каленях Паэты.*
*Прыносяць Вам рыцары Сонца і ружы*
*Праз вецер і дождж, праз туман і праз сцюжы*
*Не толькі таму, што Вы нашы багіні*
*І ходзіце часта, спакусы, у міні,*
*А проста таму, што без Вас мы знікаем*
*І шчасця зямнога без Вас не ўяўляем.*
*Дык будзьце такімі, як хочаце быць,*
*Вы нашая вольнасць, нам век Вас любіць,*
*Заўжды ганарыцца, што побач і з Вамі*
*Ідзём па жыцці мы аднымі шляхамі,*
*Дзе Вера, Каханне, Любоў і Надзея*
*Не толькі ў час свята, дзе добрая дзея,*
*А вечна, як Вы, нашы любыя Панны.*
*Той мёртвы, хто ў Вас яшчэ не закаханы.*
*Дзяўчаткі... Дзяўчаты... Жанчыны... Кабеты...*
*Мы рыцары Вашы, мы Вашы Паэты!*

*сакавік*

**x**

*8.03.2014.* Увечары ў бок Украіны высока над Мінскам праляцеў клін гусей... Без апазнавальных знакаў...

**x**

*9.03.2014.* З Людай хадзілі ў Купалаўскі тэатр на трагікамедыю па аповесці Паўла Санаева «Пахавайце мяне за плінтусам». Спектакль у Мінск з Віцебска прывёз тэатр Якуба Коласа, якім цяпер кіруе Валерый Анісенка. Ад яго некалькі дзён таму я атрымаў запрашэнне на іх аднадзённую гастроль. Быў аншлаг, і нас пасадзілі на прыстаўныя крэслы. Часцей за ўсё ў тэатры сяджу з думкай: «Калі ўсё гэта скончыцца?», а тут толькі раз-пораз успамінаў, што ў майго крэсла няма спінкі і я магу з яго зваліцца, калі перастану трымацца. Словам, спектакль спадабаўся і асабліва ігра Тамары Скварцовай, якая выконвала ролю бабулі васьмігадовага Сашы Савельева. Хлопчыка іграў малады артыст тэатра Раман Салаўёў. Пасля спектакля Валерый Анісенка запрасіў на фуршэт, дзе прыемна было

пабыць у кампаніі артыстаў, якія «прыехалі ў сталіцу з правінцыі». Сам Купалаўскі тэатр пасля рамонту здаўся мне гняздзечкам, якое заціснулі ў вялікім бетонным кулаку і выціснулі з яго дух ягонага мінулага…

**x**

*11.03.2014.* Кажуць, што буслы прыляцелі… А я ў горадзе, як у каменнай клетцы…

**x**

*11.03.2014.* Цяпер некаторыя сядзяць перад камп'ютарам, як перад кулямётам…

*сакавік*

**x**

*11.03.2014.* Хачу ў родную вёску, як на волю…

**x**

*12.03.2014.* Хадзіў да Быкавай. Сустрэла мяне Ірына Міхайлаўна з адчыненымі дзвярыма як даўняга добрага знаёмага. Прапаноўвала пачастунак. Я адмовіўся, каб не загружаць гаспадыню клопатамі пра мяне. Кніжка «Пакахай мяне, салдацік» ёй спадабалася. Папрасіла, каб я напісаў на адным з асобнікаў сённяшнюю дату і распісаўся. Узгадалі Рыгора Барадуліна. Цяпер яна часта ўлучае песню Булата Акуджавы, у якой ёсць радкі пра тое, што жыццё кароткае. Так, жыццё кароткае, а некаторыя паводзяць сябе, нібыта яны вечныя…

**x**

*12.03.2014.* Чытаю «Ксты» Рыгора Барадуліна. Чытаю і чую ягоны голас…

У 1979 годзе мне сябры-паэты параілі занесці свае вершы Рыгору Іванавічу. Я перапісаў лепшыя (на маю думку) творы ў вучнёўскі сшытак за дзве капейкі і пайшоў у «Мастацкую літаратуру». Якраз Барадулін быў на працы. Распытаўшыся хто я і што (мне было 19, а яму 44 гады), паэт забраў вершы і сказаў, каб, калі што новае напішу, прыносіў толькі яму, бо ён хоча мяне ўключыць у калектыўны зборнік паэзіі «Сцяжыны». І я пачаў хадзіць да Барадуліна амаль штотыдзень. Калі сшыткаў назбіралася з дзясятак, дзядзька Рыгор запрасіў мяне дахаты. Дома была Валянціна Міхайлаўна. Перад тым,

як пачаць разбірацца з творамі, мяне добра пакармілі. Прапаноўвалі выпіць. Я адмовіўся. Рыгор Іванавіч мяне за гэта пахваліў. І потым гадзіны тры мы сядзелі і чыталі вершы. Раз-пораз настаўнік клікаў Валянціну Міхайлаўну і зачытваў з сшытка радкі, якія яму вельмі спадабаліся. Прачытаўшы чатырохрадкоўе:

*Цыбулю мама у вянкі пляце,*
*Нібыта дочкам заплятае косы.*
*Ёй чуецца ў задумнай немаце*
*Гадоў забытых гоман шматгалосы.*

Рыгор Іванавіч расказаў пра сваю маці. Наступным

*сакавік* разам я прыйшоў да Барадуліна з вершам, прысвечаным яму:

*Вечалле прасвечана,*
*Як сляза матулі.*
*Выбухамі сечана,*
*Хвалі не заснулі.*

*Гай задумліва стаіць.*
*Ля вады дрыготка.*
*Човен у тумане спіць*
*Бацькавай пілоткай.*
*З раніцаю радзіцца*
*Бусел над зямлёю.*
*І сяброўства ладзіцца*
*З полем і сяўнёю.*

*Сцежка ў белы свет бяжыць,*
*Думкі — да хатулі.*
*Плешча Вечалле душы*
*Песняй пра матулю.*

Па нейкім часе Рыгор Іванавіч паведаміў, што мяне ў «калектыўную магілу» ён не будзе даваць, бо вершы добрыя і я варты быць надрукаваным асобнай кнігай. У 1983 годзе выйшла мая «Гронка святла», у якой ёсць і святло дзядзькі Рыгора...

**x**

*15.03.2014.* З Людай хадзілі ў беларускамоўны бар «Тутэйшыя» (вул. Карла Маркса, 21), які нядаўна стаў працаваць. Ва ўтульным памяшканні было прыемна папіць гарбату. Сярод абвестак на чорнай дошцы прыгожа выглядваў, напісаны крэйдай, верш Рыгора Барадуліна: «Не тухне ён Жыцця сьвяты агмень. Жывеш датуль, Пакуль жыве твой дзень». Чэк для разліку нам падалі ў томіку вершаў Максіма Багдановіча. Развітваючыся, Люда пацікавілася, ці можна будзе ў іх замовіць загадзя столікі на чалавек пятнаццаць, і афіцыянтка адказала: «Мы працуем апошнія дні».

*сакавік*

**x**

*16.03.2014.* Зноў сыпецца снег і адразу растае, як мае нязбытныя светлыя мары, якія раптам я паспрабаваў ажыццявіць...

**x**

*19.03.2014.* Усе думкі вядуць у Крым...

**x**

*20.03.2014.* Не было яшчэ дня, каб не думаў пра памерлых бацькоў. З працы дахаты прыйшоў з радкамі:

*Мама і тата жывуць ува мне,*
*Быццам бы ў свеце, што створаны імі,*
*Дзе я таксама жыву, але ў сне,*
*З мамай і татам са мною жывымі...*

**x**

*21.03.2014.* Мужчына. Яму 85 гадоў. Піша вершы. Выдаў пару кніжачак. Хоча яшчэ. Новы рукапіс слабенькі, але стары пра гэта не хоча слухаць, а ўсё тэлефануе і патрабуе яго выдаць. Сёння ізноў напомніў пра сябе і, даведаўшыся, што яму няма чаго чакаць ад нас, заявіў: «Я хутка памру, і вы будзеце вінаватыя ў маёй смерці! Я буду да вас штоноч прыходзіць і мучыць вас, калі вы не выдадзіце мае вершы!» — «Не трэба мяне шантажаваць і страшыць!» — адказаў я на пагрозу. «Я вас не страшу! Я буду прыходзіць штоноч і пытацца, чаму вы мяне не выдалі?» — «Вы паэт ці злыдзень?» — «Выдайце маю кнігу,

і я аддзячу вам!» Словам, стары будзе прыходзіць да мяне. Пра гэта я апавёў адзінокай супрацоўніцы выдавецтва, якая, засмяяўшыся, суцешыла мяне: «Калі ён яшчэ раз патэлефануе, дык скажыце: “Няхай да мяне па начах прыходзіць, я з ім хутка разбяруся!”»

**х**

*21.03.2014.* У сеціве з’явілася інфармацыя: «Сёння стала вядома, што на 101-м годзе жыцця памерла Феадосія Ягораўна Бураўкіна, маці вядомага паэта і грамадскага дзеяча Генадзя Бураўкіна».

*сакавік*

**х**

*22.03.2014.* Учора ўдзельнічаў у вечарыне паэтычнага тэатра «Арт. С», прысвечанай вёсцы. Выступалі Мікола Кандратаў, Сяржук Сыс, Ірына і Максім Клімковічы, Юлія Літвінава, Вадзім Клімовіч, Зміцер Арцюх. Гаспадарылі — Аксана Спрынчан і Яраш Малішэўскі. Калі Зміцер Арцюх апавядаў пра сваю вёску, у яго пацікавіліся, ці ён саджае бульбу. «Не! У нас трактар садзіць!» — «У нас нядаўна быў буран, які зламаў стагадовую ігрушу. Я думаў, што будзе працы на цэлы дзень. Не. Прыехаў трактар і ўсё за гадзіну зрабіў»,— працягнуў свой аповед пра вёску Арцюх. У зале прысутнічаў Сяргей Вераціла, які тут жа пажартаваў: «Табе, можа, і вершы трактар піша?» Пасля імпрэзы Вераціла расказаў пра сваю вёску: «У нас жыве адстаўны вайсковы лётчык, палкоўнік. Яшчэ нядаўна ён забіваў людзей, а цяпер гадуе коз. Іх у яго цэлая сотня. Прадае і не дазваляе рэзаць. Калі хто зарэжа, ён болей таму не прадасць. Неяк іду каля яго сялібы і чую: «Сярожа! Сярожа! Сярожа!» Заходжу ў двор да палкоўніка, які, пабачыўшы мяне, пытаецца: «Чаго ты прыйшоў?» — «Ты ж мяне клікаў!» — “Не! Я клікаў казла. Ён у мяне павадыр, і завуць яго Сярожа”».

**х**

*22.03.2014.* Увечары на запрашэнне Змітра Юркевіча (сакратар суполкі імя Тадэвуша Рэйтана) з Людай хадзілі ў Палац мастацтваў на фестываль эксперыментальнага мастацтва «ДАХ-XXIII» — «Забытым Героям», у праграме якога быў і мой выступ. У зале сустрэў сваіх

даўніх знаёмых Міхася Шушкевіча (аўтар песні «Ты мне вясною прыснілася») і Здзіслава Сіцько (працавалі разам у «Нашым слове»). Дзядзькі пастарэлі, але трымаюцца. Здзіслаў перажывае, што ягоная дачка выходзіць замуж у Славаччыну. Слухачоў было не шмат і збольшага моладзь. Свой выступ я скончыў баладай пра Дуніна-Марцінкевіча з радкамі:

*За вокнамі мроі і людзі,*
*Надзеі, бяда, спадзяванні*
*І белая, сумная пані,*
*Якая сустрэчы чакае,*
*Якая адна і святая*
*І ёй не патрэбна чужога*
*Ні сына, ні мовы, ні Бога,*
*Нічога чужога, нічога!*

*сакавік*

**Х**

*23.03.2014.* З Алесем Квяткоўскім, Вікторыяй Іллінскай і старшынёй Беларускага добраахвотнага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры Антонам Астаповічам ездзіў у Ваўкавыск. У ваенна-гістарычным музеі імя Баграціёна ўдзельнічаў у адкрыцці выставы Квяткоўскага «Песні дрыгвы»...

Нёман вяртаецца ў берагі. Белы лебедзь, як першая кветка на вадзе...

Каля дарогі на ўзлессях пралескі і кураслепы. Ад іх светла і радасна. Сумна ад прыдарожных крыжоў з вянкамі са штучных, ужо аблезлых, кветак...

Буслы ходзяць па лугах, нібы шукаюць нешта імі схаванае мінулай восенню, калі збіраліся ў вырай...

Слонім. Дарога на Жыровічы. Там, у манастыры, жыве паэт Алег Бембель. Падумалася, што паэтам толькі і жыць у манастырах...

Рэчка Шчара. Цячэ, як наша тлумнае жыццё, у адным кірунку...

Заехалі ў вёску Сынкавічы. Пабылі каля царквы Святога Арханёла Міхаіла (Міхайлаўская царква), якая з’яўляецца адным з самых ранніх гатычных праваслаўных храмаў Беларусі. Было шмат людзей. На машынах, роварах, пешшу. Гледзячы на Храм, у маёй душы прагучалі словы: «Наш гонар. Жывём у Еўропе...»

Зэльва. Могілкі. Ларыса Геніюш. Каля яе спакойна і відаць далёка...

Ваўкавыск. Нас у музеі зачакаліся. Алесь застаўся развешваць свае карціны, а Антон Астаповіч павёў мяне паглядзець касцёл Святога Вацлава і старыя могілкі, дзе пахаваныя невядомыя польскія салдаты і два савецкія, якія загінулі ў вайне 1918—1920 гадоў. Тут жа помнік паўстанцам 1863 года. На могілках чыста. Адчуваецца, што гэта святое месца для многіх жывых...

У Музеі імя Баграціёна мне прапанавалі паглядзець экспазіцыю, прысвечаную вайне 1812 года. У свой час я быў у Барадзіно. Наш музей, па-мойму, не горшы...

*сакавік*

Экспазіцыя войнаў 1914—1918 і 1939—1945 гадоў уражвае. Некаторыя кулямёты як новыя. Здаецца, калі спатрэбіцца, то бяры да іх патроны і страляй...

«Песні дрыгвы» Алеся Кваткоўскага да 14 красавіка будуць асвятляць і ўпрыгожваць музей. Зброя, якая несла смерць ворагам і нашым прадзедам, цяпер тут будзе тры тыдні не самай галоўнай...

Вікторыя спявала, нібы вінам частавала...

Пасля адкрыцця выставы Антон Астаповіч звадзіў нас на Шведскую гару. Гэты курган, згодна з легендай, насыпаны на брацкай магіле шведаў, што загінулі пры штурме Ваўкавыска ў 1656 годзе. Насамрэч — гэта старажытнае гарадзішча. Высокае. Я ледзьве ўзышоў. З гары ўсю Беларусь не пабачыў, але бачна далёка-далёка. Сямтам гарэла сухая трава і дым поўз зямлёю, нібыта на нас наступалі ворагі...

На ўсёй Шведскай гары выпаленая сухая трава, і гару можна цяпер называць Чорнай гарой...

Дамоў ехалі, як пшаніцу прадаўшы, але не спалі...

**X**

*24.03.2014.* Прыходзіў малады чалавек гадоў трыццаці. Прынёс вершы для дзяцей. Развітваючыся, палез да сябе ў торбу, з якой дастаў ганаровую грамату ў драўлянай рамцы: «Калі будзеце чытаць, памятайце, што я чалавек ужо ўзнагароджаны!»

**х**

*25.03.2014.* За апошнія дзесяць дзён сёння трэці раз каля мяне спынілася легкавушка: «Мы з Расіі. Мы тут працавалі на будоўлі. З намі разлічыліся тэхнікай. Купіце зварачны апарат і бензапілу...»

**х**

*26.03.2014.* Сонечна. 15 градусаў цяпла. Дрэвы пачынаюць зелянець. Кветкі красуюць. Птушкі спяваюць. Па-мойму, упершыню такое надвор'е ў мой дзень народзінаў. Памятаецца, што раней заўжды ляжаў снег. Калі быў школьнікам, то якраз заўсёды на мой дзень народзінаў былі вакацыі і самае разводдзе. Паводкай змывала масты. Я ж з сябрамі катаўся на крыгах і проста бадзяўся па вадзе. Дамоў вяртаўся мокры, як чапля. Амаль ніхто мяне з днём народзінаў не віншаваў, бо не было такой моды. А цяпер ужо не тое. Першай павіншавала стрыечная сястра Аня, бо пачула па БТ, што я сёння нарадзіўся...

*сакавік*

**х**

*27.03.2014.* Еду тралейбусам. Мужык гадоў сарака ўсю дарогу размаўляе сам з сабою. З дынаміка прагучала: «Прыпынак Цімашэнкі». Балбатун усклікнуў: «Во! Прыпынак Юлькі Цімашэнкі!» І амаль усе, хто быў побач з мужыком, хорам паправілі: «Маршала Цімашэнкі!»

**х**

*27.03.2014.* На 78-м годзе жыцця ў Германіі памёр Навум Цыпіс. Я з ім пазнаёміўся на самым пачатку 80-х, калі па бюро прапаганды Саюза пісьменнікаў ездзіў у Гомель. Да нас на некаторыя імпрэзы (іх было 20) далучаўся Анатоль Грачанікаў, які працаваў галоўным рэдактарам часопіса «Маладосць». За тыдзень мы добра навыступаліся, нагаварыліся, нажартаваліся. Мяне нават хацелі ажаніць з піянерважатай. Найбольш памятаецца аповед Навума пра тое, як у яго выйшла ў Мінску першая кніжка. Атрымаўшы сігнальны экзэмпляр, празаік паехаў ва Украіну ў Вінніцу, дзе прайшло ягонае дзяцінства. На чыгуначным вакзале, дачакаўшыся, пакуль нікога не будзе на пероне, Навум пакінуў з аўтографам сваю кнігу. Ён вельмі моцна любіў Вінніцу і яе жыхароў. Штолета, калі прыязджаў з Германіі ў Мінск, Навум прыходзіў да мяне на працу. Апавядаў, як там яму жывецца...

x

*27.03.2014.* У СМІ з'явілася інфармацыя, што ў Кіеве на Майдане актывісты барацьбы за еўрапейскую Украіну пасадзілі радыску, салату, цыбулю, кроп і пятрушку. Гэтым тыднем плануюць прывезці на Майдан курэй, а пазней і не меней за дзве свінкі...

x

*28.03.2014.* На працы на ўваходзе ў мужчынскую прыбіральню праз кожныя паўгадзіны стаяць жанчыны і кураць. І гэта назіраю ўжо не першы год. Мужыкоў няма. Ці гэта мужыкі, пераапранутыя ў жанчын?

*сакавік*

x

*29.03.2014.* Патэлефанавалі з майстэрні, дзе робяць помнікі і паведамілі, што ўжо гатовыя на гранітнай пліце партрэты бацькоў. Трэба ехаць у Ракаў...

x

*30.03.2014.* Прыснілася школа. Урок рускай літаратуры. Празвінеў званок, а настаўніцы няма. Аднакласнікі папрасілі мяне, каб схадзіў і паглядзеў, ці ёсць наша настаўніца. Я пайшоў. Адчыніў дзверы настаўніцкай, а там бераг мора, а на вадзе, седзячы на чорнай школьнай дошцы, плыве далей ад зямлі настаўніца рускай літаратуры...

Пачаў успамінаць як жа звалі маю настаўніцу. Памятаю прозвішча — Скамарошчанка, па-бацьку — Сяргееўна. А як імя — не магу ўспомніць. Патэлефанаваў Анатолю Блашчыцыну і ад яго даведаўся, што маю настаўніцу рускай літаратуры звалі Ефрасіння Сяргееўна Скамарошчанка. Яна памерла прыканцы сакавіка і таму, відаць, мне і прыснілася...

Анатоль патэлефанаваў мужу Ефрасінні Сяргееўны Георгію Іванавічу і даведаўся, што яна памерла 22 сакавіка 1999 года. Словам, душа маёй настаўніцы была ў родных мясцінах...

x

*30.03.2014.* Сяджу дома. Слухаю музыку, а музыка слухае мяне...

**x**

*31.03.2014.* Некаторыя існуючы, думаюць, што жывуць...

**x**

*31.03.2014.* Прыходзіў Адам Глобус. Калі я падпісваў яму кнігу «Тутэйшая туга», Валодзя сказаў: «Слова «тутэйшыя» я лёгка чытаю і ў перавернутым выглядзе...» Адразу ж узгадаўшы Анатоля Сыса, я прамовіў: «Гэта наша слова. Мы ж “Тутэйшыя”...»

## КРАСАВІК

*сакавік — красавік*

**x**

*1.04.2014.* Сёння можна было б з некага пажартаваць, але не буду, бо апошнім часам амаль усе знаёмыя перасталі разумець жарты, ды і не да жартаў цяпер...

**x**

*1.04.2014.* Тэлефануе Міхась Казлоўскі: «Тут працуе Базыль Шпрыц?» — «Тут!» — падтрымліваю сяброўскі жарт і чую: «Базыль Шпрыц — нядрэнны псеўданім для паэта!»

**x**

*1.04.2014.* Дзень стаў доўгім, як дарога дадому, дзе няма бацькоў...

**x**

*2.04.2014.* У кожнага крытыка ёсць свае мёртвыя...

**x**

*2.04.2014.* Абед. Раптам ціхенька адчыняюцца дзверы і ў мой кабінет зазірае высокі, худы, як слуп, малады чалавек. Ён да мяне прыходзіў тыдзень таму і пакінуў вершы. Павітаўшыся і паказаўшы на шафы, у якіх і на якіх стосы рукапісаў, я паведаміў: «Яшчэ вашых твораў не чытаў. Не дайшла чарга...» — «А я прыйшоў, каб дапамагчы вам чытаць! Вы не думайце, што я не ўмею. Я ўмею не толькі пісаць...» — заявіў мой наведвальнік.

**х**

*3.04.2014.* Ездзіў у Малінаўку ў бібліятэку № 21, у якой была прэзентацыя маіх кніг «Тутэйшая туга» і «Пугачоўскі цырульнік». Паслухаць мяне прыйшлі дзесяцікласнікі з дзвюх школ, што побач. Пытанні дзеці задавалі па-беларуску і наагул паводзілі сябе прыстойна. Вяла прэзентацыю Лідзія Шагойка з Музея гісторыі беларускай літаратуры. Яна ўзгадала майго сябра Пісьмянкова. 23 красавіка будзе 10 гадоў, як Алесь спачывае на Кальварыйскіх могілках. Загадніца бібліятэкі таксама добра ведала Алеся. І пакуль мы памятаем сваіх сяброў і калег па пяры — яны жывыя...

*красавік*

**х**

*4.04.2014.* У двары на дрэве, якое пачало веснавець, матляецца вялікая белая ануча, як капітулянцкі сцяг зімы, якая на пачатку сакавіка хацела здацца ў палон, але...

**х**

*4.04.2014.* Вясна. Праблем, як вады ў дзіравых ботах...

**х**

*5.04.2014.* З сястрой Валяй і яе мужам Віцем (з намі была іх дачка Надзя і ўнук Цімур) ездзілі ў Ракаў у майстэрню, дзе робяць помнікі...

Абапал дарогі няма пралесак. Ці ўжо адкрасавалі, ці яшчэ збіраюцца...

У Ракаве пуставата, нібыта «ўсе пайшлі на фронт»...

Зайшлі ў майстэрню. І я адразу пабачыў гранітную пліту з партрэтамі мамы і бацькі. Як жывыя...

Бацькаў партрэт мастак выбіваў цэлы дзень, а мамін ажно тры дні. Казаў, што больш уручную партрэты рабіць не будуць, бо вельмі цяжка і многія потым выказваюць сваё незадавальненне (то ўсмешка не такая, то прычоска, то яшчэ нешта не так). Пяройдуць на камп'ютар. Тут ужо які дасі здымак, такі і пойдзе на помнік...

Мастак аказаўся гаваркім чалавекам. Ад яго даведаліся, што ў Санкт-Пецярбургу партрэты мастакі выбіваюць стоячы, а ён робіць, паклаўшы пліту. Стамляецца

за дзень. Вочы і рукі баляць, а яшчэ і душа, бо вельмі шмат памерлых ва ўзросце ад сарака да пяцідзесяці...

З’ездзілі з майстрам на могілкі. Побач новых пахаванняў няма. Каля бацькоўскіх магіл пачала прабівацца трава, а кусты зелянець. Жыццё працягваецца...

Пабыўшы з бацькамі, паехалі ў Пугачы. У Бузунах на буслянцы стаяў бусел. Белы як бярозавы...

У вокнах роднай хаты цёмная самота...

У двары ціха і пуста, як на не заселенай выспе...

Накруціў насценны гадзіннік, і хата зноў ажыла...

Многія рэчы так і ляжаць на тым месцы, як тры гады таму былі пакладзеныя бацькам...

Завіталі на хвіліну да дзядзькі Шуры. Ён з сынам Дзімам і ўнукам Жэнем правілі плот. Нядаўна дзядзька збіраўся прадаць хату і паехаць да сыноў у Маладзечна. Перадумаў. І добра, бо ў Пугачах і так ужо мала нашай радні засталося...

*красавік*

**х**

*6.04.2014.* Учора ў бацькоўскім садзе пад яблыняй знайшоў мёртвую варону. Думаў, што вярнуўшыся ў горад, забудуся на яе. Ды не, не забыўся, бо варона была мёртвая...

**х**

*6.04.2014.* Чаму ты сумны? А таму, што вы вясёлыя!

**х**

*6.04.2014.* Сёння, 6 красавіка — дзень народзінаў Барыса Кіта. Спадар Барыс святкуе 104 гады з дня народзінаў. Сёння маёй дачцэ Вераніцы — 25, а майму брату Валодзю — 46... Няхай у іх усё будзе добра!

**х**

*6.04.2014.* Няма сонца. Няма дажджу. Няма на дрэвах лістоты. Няма птушак. Толькі людзі ў двары швэндаюцца сюды-туды, як у нямым кіно. І ў мяне няма настрою весялей глядзець праз вакно ў свет, дзе няма сонца...

**х**

*6.04.2014.* У раёне плошчы Свабоды ў памяць пра магдэбургскае права з'явілася кампазіцыя «Гарадскія шалі», якую стварыў скульптар Аляксандр Прохараў. На ёй месцічы ўзважваюць тавар. Паблізу Мінскай ратушы пару дзён таму паставілі яшчэ адну скульптуру — войта, які трымае дакумент — магдэбургскае права. Верхні горад усё прыгажэе і прыгажэе. З Людай і Веранікай адмыслова ездзіў, каб падзівіцца. Апрача нас было нямала замежнікаў і сярод іх амаль усе кітайцы...

**х**

*красавік*

*6.04.2014.* З Людай вадзілі Вераніку ў страўню «Талака», дзе адзначылі яе дзень народзінаў. Сядзелі пры століку на траіх. Маё месца было тварам да сценкі, на якой вісеў плакат «Долбанём!» (мужык з молатам замахнуўся на пляшку алкаголю) з вершам: «Так нечего с пьянкой шутить, Её надо колотить, Культурно, Бурно, Пламенно, гневно, Долбить ежедневно, На каждом шагу, Не давать передышки врагу». Побач з намі на століку стаяў патэфон з пласцінкай, на якой песня «Текстильный городок» (Я. Френкэль — М. Таніч) у выкананні Раісы Неменавай. Наагул страўня вельмі стылёвая, беларуская паводле свайго мэблевага напаўнення. У прыбіральні гучаць песні (гучала «А я лягу-прылягу»), сцены аблепленыя газетамі, а на дзвярах і дзе толькі можна ўсялякія надпісы (у большасці расейцаў, якія тут балявалі). Каля нас па суседстве выпівалі тры мужыкі (два беларусы і расіянін), якія размаўлялі пра тое, як добра жылося раней. Апошні іх тост быў: «За Гагарына!» Скончыўшы гулянку, расеец паклікаў афіцыянтку: «Дайце нам прыгавор!» Атрымаўшы прыгавор, мужык папрасіў кнігу скаргаў, у якую напісаў падзяку «беларускаму народу» і пішучы «беларускаму», пытаўся ў сваіх сяброў: «Колькі трэба «с» у слове «беларускаму»?» Словам, у страўні «Талака» было добра не толькі мне з Людай і Веранікай...

**х**

*6.04.2014.* Еду тралейбусам. Стаю каля жанчыны кілаграмаў на сто пяцьдзясят. Яна з тоўсценькай бяззубай дачкой гадоў шасці. Дзяўчынка кажа: «Я хачу быць

паліцэйскім!» — «І што ты будзеш рабіць?» — цікавіцца маці. «Буду бандытаў лавіць. Паганюся за цэлай бандай. Даганю самага бандзюгу і... закахаюся!» — задаволена мружачыся, кажа малая.

**x**

*6.04.2014.* Сяргей Чыгрын напісаў пад здымкам, на якім я з дзядзькам Шурам і ягонымі сынам і ўнукам: «Не сатруцца ў колаў шыпы, Не парвуцца падэшвы... Будуць жыць на зямлі Шніпы, Як вершы».

**x**

*7.04.2014.* Прыходзіла бабулька на выгляд гадоў пад восемдзесят. Хоча выдаць кнігу пра фларыстыку. Не нашая тэматыка, але я павёў госцю да мастакоў. Там разгаварыліся і бабулька сказала: «Я рукапіс кнігі падрыхтую, але прынясу яго толькі ўвосень, бо неўзабаве з'язджаю на лецішча, а там у мяне спраў непачаты край. Я ўжо хутка не магу ўсё рабіць. Мне 91 год...» *красавік*

**x**

*8.04.2014.* У паветры пах вайны. Значыць, сёння вецер з поўдня...

**x**

*8.04.2014.* На могілках вада, бо людзі ўсе з вады...

**x**

*9.04.2014.* «Праз дурную галаву і нагам неспакой!» — быў і ў мяне такі перыяд у жыцці...

**x**

*10.04.2014.* Нечакана атрымаў у падарунак кнігу Рыгора Барадуліна «У неба пехатою. Апошнія вершы». На вокладцы здымак Рыгора Іванавіча. Гляджу на яго і ўспамінаю бацьку, які незадоўга да сыходу ў лепшы свет гэтак жа выглядаў, калі я часам па тыдні яго не галіў. Гэткі ж маршчыністы лоб, гэткія ж барада і вусы, гэткія ж бровы, гэткія ж вочы, гэткі ж позірк...

x

*11.04.2014.* Прыходзіў у выдавецтва Уладзімір Ягоўдзік. З ім і Анатолем Зэкавым больш за гадзіну ўспаміналі памерлых і жывых пісьменнікаў. Пачалі з Алеся Пісьмянкова — 23 красавіка будзе 10 гадоў з дня яго смерці. Успамінаючы Алеся, узгадалі былы «ЛіМ» і ягоных супрацоўнікаў і аўтараў. Мала хто (а можа, і зусім ніхто) з маладых літаратараў цяпер ведае, што быў такі пісьменнік Алесь Асіпенка і ён быў галоўным рэдактарам штотыднёвіка. Хто з маладых чытаў вершы Юрася Свіркі? Петруся Макаля? Анатоля Вялюгіна? Аляксея Русецкага? Прозу Адольфа Варановіча? Яўгена Міклашэўскага? Раманы Івана Чыгрынава? А колькі сярод нас жывых пісьменнікаў, якія нібыта памерлі...



x

*12.04.2014.* Дзень касманаўтыкі. Ніколі не марыў быць касманаўтам. І ўсё ж у кожнага паэта ёсць свой космас...

x

*12.04.2014.* Паслухаў новы канцэрт «Ляпісаў». Таленавіта! І ўсё ж гэта «пэтэвэшнікі для пэтэвэшнікаў». Кажу без знявагі, бо ў нашым свеце ўсе мы (хто больш, а хто менш) пэтэвэшнікі...

x

*13.04.2014.* Узгадалася, як два гады таму хадзіў да бацькі на кватэру і прынёс яму свянцоныя вербныя галінкі, пабачыўшы якія, бацька сказаў: «Праз тыдзень Вялікдзень...»

x

*13.04.2014.* Вербная. Сонца няма, і няма таго светлага настрою, якога хочацца. Успамінаю бацькоў. А пра маму нават чатыры радкі прыдумаліся:

*Маміна неба цяпер нада мной.*
*Больш чужых зорак няма ні адной*
*Там, дзе цяпер мая мама жыве.*
*Мама са мной, як малітва ў царкве...*

## АЎТОГРАФЫ РЫГОРА БАРАДУЛІНА

*14.04.2014.* Пяты вечар баўлю з кнігай Рыгора Барадуліна «У неба пехатою. Апошнія вершы». Чытаю па некалькі твораў. Няма куды спяшацца. Чытаю, думаю, успамінаю. Прыканцы сакавіка 1985 года, даведаўшыся, што ўжо дакладна еду ў Маскву вучыцца ў Літінстытут, я зайшоў у госці да Барадуліна, каб пахваліцца сваёй навіной. Як заўсёды, Валянціна Міхайлаўна мяне накарміла, а Рыгор Іванавіч пахваліў, што не п'ю. Размаўлялі доўга пра жыццё, пра літаратуру. Рыгор Іванавіч казаў, каб не ўздумаў жаніцца ў Маскве. Я абяцаў. У той дзень, развітваючыся, атрымаў у падарунак вялікі канверт, у якім ляжалі два тамы выбраных твораў паэта, што выйшлі ў 1984 годзе. У першым томе Рыгор Іванавіч напісаў:

*красавік*

*Няхай уяўны класік*
*шэжыць хіб,*
*Набыткі белакроўныя*
*сумуе,*
*Араты крэўных гоняў,*
*знаўца скіб,*
*Мой маладзейшы сябра*
*Віктар Шніп*
*Няхай арэ глыбей*
*І не сумуе!*

***Рыгор Барадулін***
***31.III.85, Мінск***

У другім томе напісана: «Дарагому майму маладзейшаму брату Віктару Шніпу — на спор, на поспех! Рыгор Барадулін. 30.III.85, Мінск».

## БАРАДУЛІН І ІНТЭРВ'Ю

*15.04.2014.* Сем гадоў да вучобы ў Літінстытуце я амаль нідзе не працаваў. Пісаў вершы, хадзіў па рэдакцыях. Жыў за атрыманыя ганарары. Часта карміўся ў сяброў і недзе пару разоў у месяц у Рыгора Барадуліна. У маі 1983 года я прыйшоў у рэдакцыю газеты «Звязда» да Сяргея Законнікава, каб пакінуць яму новыя вершы для друку. Сяргея Іванавіча не было. Яго забралі на працу ў ЦК, а на ягоным месцы сядзеў мой сябра Уладзімір Марук. Валодзя, ведаючы, што я перабіваюся з капейкі на капейку,

прапанаваў мне зрабіць для газеты з кім-небудзь інтэрв'ю, бо вершы яны не могуць часта друкаваць. «А можна я з Рыгорам Барадуліным паразмаўляю?» — нясмела запытаўся я. «Пагавары, калі Рыгор Іванавіч пагодзіцца!» — адказаў Марук. У той самы дзень я паведаміў свайму Настаўніку, што хачу зрабіць з ім гутарку для «Звязды». Я раней інтэрв'ю ні з кім не рабіў, пра што пры сустрэчы прызнаўся Барадуліну. Валянціна Міхайлаўна, пакарміўшы мяне, пакінула нас на кухні. Рыгор Іванавіч прынёс мне паперу і аўтаручку. Пасадзіў бліжэй да святла і пачаў дыктаваць пытанні да сябе і свае адказы. Гаварылі гадзіны дзве. І як вынік — 11 чэрвеня 1983 года ў «Звяздзе» з'явілася маё інтэрв'ю з Барадуліным «Сваё слова — ад маці». Праз месяц мне выдалі ганарар, і я адразу паехаў да Рыгора Іванавіча, каб палову грошай аддаць яму. Даведаўшыся, чаго я прыйшоў, Барадулін рассмяяўся і, не ўзяўшы грошай, сказаў: «Ты іх сумленна зарабіў!»

*красавік*

## ПАМІЖ БАРАДУЛІНЫМ І МАКАЛЁМ

*16.04.2014.* Рыгор Барадулін і Пятрусь Макаль жылі ў некалькіх хвілінах хады адзін ад аднаго. Пятрусь Міхайлавіч на пачатку 80-х гадоў працаваў у часопісе «Маладосць» і рыхтаваў да друку вершы. Чалавек ён быў кампанейскі і гасцінны. Неяк, чытаючы мае новыя творы, Макаль прапанаваў прыйсці да яго да хаты ў выхадны дзень і паразмаўляць пра паэзію. Я не адмовіўся. У той час сын Макаля (амаль мой аднагодак) пісаў вершы і ваяваў у Афганістане. Нам было пра што пагаварыць. Пасля першай хатняй сустрэчы з Петрусём Міхайлавічам я стаў частым госцем у ягонай кватэры. Нашыя размовы не абмяжоўваліся гарбатай. І вось неяк я, вясёлы, іду ад Макаля і сустракаю Барадуліна. Рыгор Іванавіч, холадна павітаўшыся, адразу сказаў: «Тут мне нядаўна Макаль хваліўся, што ў яго з'явіўся надта таленавіты вучань. І хто, ты думаеш, гэты вучань? Віктар Шніп!» Пасля той сустрэчы з Барадуліным я перастаў хадзіць да Макаля...

## Х

*17.04.2014.* У Мексіцы ва ўзросце 87 гадоў памёр лаўрэат Нобелеўскай прэміі па літаратуры Габрыэль Гарсія Маркес. Скончыліся ягоныя сто гадоў адзіноты...

**х**

*18.04.2014.* Патэлефанавалі з Ракава і паведамілі, што паставілі помнік маім бацькам. У мамы заўтра дзень народзінаў. Пастаўлены помнік, як падарунак да яе 84 гадоў...

**х**

*18.04.2014.* Колькі не фатаграфуйся каля помніка Янку Купалу, Купалам не станеш...

**х**

*20.04.2014.* Вялікдзень. Успамінаецца, як мама да свята пякла булкі ў печы. Яны былі вялікія-вялікія і смачныя-смачныя. Такіх булак, як у мамы, я ніколі не еў ні тады, ні цяпер. Фарбавалася дзясяткаў пяць (а то і болей) яек, каб усім хапіла, хто прыйдзе ў жачкі. Да свята бацькам у дзеда былі навэнджаныя каўбасы, паляндвіцы і сала. Для валачобнікаў заўсёды было нагнана літраў дваццаць самагонкі, а таксама падрыхтаваная велізарная бочка квасу з бярозавікам. Словам, з бацькамі Вялікдзень быў сапраўдным Вялікаднем... *красавік*

**х**

*20.04.2014.* Праз тэлефон павіншаваў з Вялікаднем сваякоў, якія жывуць у вёсках. Даведаўшыся, што па бацьках мы паставілі помнік, цётка Стася сказала: «А мы з мужам ужо гадоў дзесяць як зрабілі сабе помнік. Стаіць у пуні...»

**х**

*20.04.2014.* У кватэру праз расчынены балкон заляцела пчала. Пагудзела над нашым велікодным сталом і паляцела назад на вуліцу. Узгадаліся бацькі...

**х**

*20.04.2014.* Сум мой светлы, як першыя веснія кветкі каля бацькоўскіх магіл...

**x**

*21.04.2014.* Чытаў кнігу туркменскага паэта Махтумкулі «З кубка вечнасці мёд» у перакладзе Рыгора Барадуліна, Алега Лойкі, Алеся Звонака, Артура Вольскага, Анатоля Клышкі, Казіміра Камейшы і іншых паэтаў. Ёсць у выданні і мае пераклады. Рабіў па замове з падрадкоўніка. Адолеў 17 вершаў. Палічыў у змесце — 15. Астатнія не надрукавалі? Надрукавалі, але пад вершамі «Не адракайся» і «Сэрца» паставілі подпіс: «Пераклаў Мікола Мятліцкі».

**x**

*красавік*

*22.04.2014.* Сёння ў «Пасланні беларускаму народу і нацыянальнаму сходу» Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка сказаў: «Вялікая руская мова будзе развівацца ў Беларусі таксама як і наша родная беларуская мова. Калі мы перастанем гаварыць па-руску, мы страцім розум. Калі мы развучымся гаварыць на беларускай мове, мы перастанем быць нацыяй».

**x**

*22.04.2014.* З Вячаславам Рагойшам, Ганнай Запартыкай і Уладзімірам Марозам (нас вазіў Валодзя) ездзілі ў Маладзечна ў Цэнтральную раённую бібліятэку імя М. Багдановіча, дзе ўдзельнічалі ў навукова-краязнаўчай канферэнцыі «Асветнік з Карпілаўкі», прысвечанай 145-годдзю Ядвігіна Ш. Апрача нас выступалі Марыя Барткова, Валеры Бурэнь, Тамара Бярэзіна, Людміла Сільнова і Андрэй Унучак. На жаль, не змаглі прыехаць Таццяна Кабржыцкая і Ціхан Чарнякевіч. Вёў рэй Міхась Казлоўскі, дзякуючы якому гэтая канферэнцыя і была арганізаваная. Пасля ўсяго мы фатаграфаваліся. Прыехаўшы дадому, я захацеў паглядзець здымкі. А іх няма. Такое не ўпершыню. Не ўсе ўмеюць карыстацца чужымі фотаапаратамі...

**x**

*22.04.2014.* І сёння для некаторых Ядвігін Ш. гэта Ядвігін Трэці. Для мяне Ядвігін Ш. да гадоў сямнаццаці быў “Ядвігін Шніп”. У той час я хацеў узяць сабе псеўданім Вітаўт Ш.

## ФЕДЗЮКОВІЧ І ВАЛІЗА

*24.04.2014.* Раніца. Іду скверам на аўтобусны прыпынак і бачу, што мне насустрач ідзе паэт Мікола Федзюковіч. На ім доўгі брудны пакамечаны плашч. Ён нясе вялікую абшарпаную чырвоную валізу. Вітаемся. Я даведваюся, што Мікола жыве паблізу са мной. Ён даўно нідзе не працуе, і ў яго вельмі кепскі настрой. На маё пытанне: «Куды вы ідзяце» — паэт адказаў: «Нясу пляшкі здаваць...» Развітаўшыся, Мікола далей панёс сваю цяжкую валізу, а я некалькі хвілін стаяў на месцы і глядзеў услед паэту. Праз паўгода на 54-м годзе жыцця 8 студзеня 1997 года Мікола Федзюковіч памёр...



## БАЛЁНІК І ПОСІК

*25.04.2014.* Чуючы, як паветраны шарык называюць балёнікам, амаль заўсёды ўспамінаю дзяцінства і час, калі бацька калоў кабанчыка. Той дзень быў сапраўдным святам для ўсёй сям'і. Калі ўся свежаніна была спарадкаваная, бацька надзімаў свіны мачавы пухір, які для нас, дзяцей, рабіўся новым мячыкам. Праўда, ненадоўга. Той надзьмуты мачавы пузыр называўся посікам. Словам, калі чую «балёнік», я адразу ўзгадваю «посік»...

## МЯСТЭЧКА

*25.04.2014.* Паэтычны тэатр «Арт. С» у бібліятэцы Цёткі прадставіў працяг паэтычна-міфалагічнага праекта «Сакральная Беларусь». Гэта была трынаццатая сустрэча. Яна прысвячалася мястэчкам. Выступілі Міхась Скобла, Максім і Ірына Клімковічы, Рэгіна Багамолава, Зміцер Сідаровіч, Юрась Пацюпа. Рэй вялі Альжбэта, Аксана і Яраш Малішэўскія-Спрынчан. Я выступаў апошнім. Давялося падкараціцца, бо імпрэза зацягнулася. Усе выступалі з натхненнем, забываючыся на рэгламент...

У 1959 годзе ў маіх бацькоў, якія тады толькі пабраліся шлюбам, узнікла пытанне: «Дзе будавацца?» Старэйшы мамін брат Павел жыў і працаваў брыгадзірам у Ракаве. Мама хацела жыць побач з братам. Бацька, прызвычаіўшыся жыць з бацькамі, катэгарычна не захацеў з'язджаць з Пугачоў. І я нарадзіўся непадалёк ад вёскі на хутары дзеда Юзі і бабулі Парaскі...

У Ракаве мог нарадзіцца Янка Купала, калі б ягоныя бацькі незадоўга да яго нараджэння не пераехалі ў Вязынку. Здаецца, у японцаў днём народзінаў лічыцца не той дзень, калі чалавек нарадзіўся, а той, калі ён быў зачаты. Купала быў зачаты ў Ракаве...

У Ракаве нарадзілася, жыло і жыве шмат вядомых людзей. Сярод іх — Вячаслаў Рагойша і браты Янушкевічы. Тыдзень таму, едучы ў Маладзечна, Вячаслаў Пятровіч апавядаў: «З дзяцінства люблю вясновае разводдзе. Стаўшы студэнтам, я спецыяльна прыязджаў у Ракаў, каб паглядзець, як выходзіць з берагоў наша рэчка. Чарговы раз прыехаўшы дамоў, я пайшоў да вады. На другім беразе далекавата ад мяне былі два хлопчыкі. Аднаму

*красавік*

гады тры, а другому гадоў восем. Яны то падыдуць да лёду, то адыдуцца. Відаць, хочуць перайсці на мой бераг, каб вярнуцца дамоў. І вось урэшце малыя адважыліся і пабеглі па крыгах. На сярэдзіне ракі дзеці праваліліся ў ваду. Я іх ледзьве павыцягваў. Чыіх я выратаваў дзяцей, я не ведаў, бо тады малых у Ракаве было шмат. Увечары да нас прыйшла маці маіх выратаванцаў і ў падзяку прынесла мне розных пачастункаў. Гэта была маці будучага мастака Фэліка Янушкевіча і літаратуразнаўцы Язэпа Янушкевіча...»

Скончыўшы Пугачоўскую васьмігодку, многія мае аднавяскоўцы працягвалі вучобу ў Ракаўскай школе. У Ракаве па два гады жылі і вучыліся мае сястра і брат. Вова кватараваў у старых. Дзед быў інвалідам, а пад час вайны служыў у паліцыі. І вось неяк Вова палез да гаспадароў на гарышча, каб сёе-тое ім адтуль зняць. Шукаючы, што трэба старым, знайшоў кулямёт...

Цётка Ніна апавядала, што пасля вайны ў Ракаве доўгі час на агародах людзі знаходзілі зброю. Цётка на градах знайшла снарад. Куды яго падзець? Паблізу сялібы біла крыніца, і яна знойдзены снарад кінула ў крыніцу. Потым доўга баялася, што той снарад заплыве, куды не трэба, і выбухне ўся зямля пад Ракавам...

Налета Ракаў будзе святкаваць сваё 550-годдзе...

**X**

*26.04.2014.* З сястрой Валяй і яе дзецьмі Надзяй і Сяргеем (вазіў на машыне) былі на Ракаўскіх могілках. Помнік зроблены нашым бацькам нам спадабаўся. Схадзілі ў майстэрню і аплацілі за работу. Крыху пастаялі ў чарзе.

Шмат хто замаўляе помнікі ў Ракаве. Потым пабылі на каталіцкіх могілках. Я паказаў, дзе пахаваныя бацькі Фэліка і Язэпа Янушкевічаў. На могілках шмат людзей — усе рыхтуюцца да Радаўніцы. Пахадзілі з паўгадзіны. За гэты час я знайшоў толькі адзін помнік з беларускім надпісам: «Сяргей Кузьміных (21.05.1983 — 7.02.2012)».

**Х**

*27.04.2014.* Пісьменнікаў можна падзяліць на тых, хто з відэльцамі, і тых, хто з віламі...

**Х**



*27.04.2014.* На вуліцы ціха-ціха, нібыта Бог вымкнуў гук...

**Х**

*28.04.2014.* Перажылі час, калі трэба выкідаць з балкона на вуліцу ўсё непатрэбнае, што назбіралася за зіму. Сем гадоў таму паўдня сын мыў пляшкі з-пад гарэлкі, віна і піва і паўдня здаваў. Цяпер аніводнай пляшкі з-пад моцных напояў, а ўсё слоікі з-пад варэнняў і гарошку...

**Х**

*29.04.2014.* Радаўніца. Мой сябра Лёня Шчарбінскі, едучы з жонкай адведаць родных, падвёз мяне да Ракаўскіх могілак. Была палова на дванаццатую. Спыніліся ў метрах трохстах, бо бліжэй не пад'ехаць. Вельмі шмат машын і людзей. Дзве гадзіны прабыў з бацькамі...

Паблізу мяне да магілы сваёй маці прыйшоў мужчына з кошыкам, з якога дастаў цукеркі, апельсіны і паклаў пад крыж. Пагаласіўшы, узяў пляшку піва і стаў піць. П'ючы, апавёў суседзям пра тое, што яму 55 гадоў і што ён вельмі-вельмі любіў маці, якая перад смерцю доўга пакутвала, хварэючы на рак...

Побач да магілы жанчыны, якая пражыла 59 гадоў, хлопец з дзяўчынай прывялі пад рукі бабулю...

Пасля таго як айцец Максім пасвянціў помнік маіх бацькоў, я пайшоў да магілы мамінага брата Пашкі. Ідучы сярод помнікаў і людзей, думаў пра тое, што іду сярод мёртвых і жывых, якіх я не ведаў і ведаць не буду, але цяпер яны мне як родныя...

Каля магілы дзядзькі Пашкі былі мае стрыечныя браты Сяргей, Ігар і Мішка Лемяшонкі са сваёй маці і сваякамі. Цётка Марыя пахваліла помнік, які мы паставілі бацькам...

Сяргей з жонкай запрасілі мяне ў госці. Не адмовіўся, бо я і ехаў у Ракаў, каб не толькі пабыць з бацькамі, але і наведаць сваіх родных, з якімі, на жаль, апошнім часам, бачымся толькі на пахаваннях...

*красавік — травень*

У Сяргея дома быў сын з жонкай і дачка з малой, а да іх далучыліся цешча і маці. Успаміналі памерлых, размаўлялі пра дзяцей. Сяргеева цешча ўзгадала, што чытала ў газеце мае творы. Дарэчы, дачка майго брата Вольга Лемяшонак, ходзячы ў школу, пісала вершы. Друкавалася ў раёнцы і ў зборніку «Валожыншчына літаратурная». На маё пытанне: «Ці пішаш цяпер?» — адказала: «Не да вершаў...»

Вяртаючыся ў Мінск, палічыў сваіх стрыечных братоў і сясцёр. Іх у мяне 24 і больш за 50 стрыечных пляменнікаў. З сёстрамі і братамі зрэдку бачымся, а вось пляменнікаў некаторых і не ведаю...

**x**

*30.04.2014.* Учора, ходзячы па Ракаўскіх могілках, болей чуў размоў пра Украіну, чым пра памерлых...

## ТРАВЕНЬ

**x**

*1.05.2014.* Восем гадзін былі за горадам. Усё зелянее і квітнее. Увесь гэты час высока-высока ў небе з усходу на захад, а потым з захаду на ўсход амаль без перапынку лёталі парамі самалёты. І я больш глядзеў у неба, чым сабе пад ногі...

**x**

*4.05.2014.* Паслухаў гутарку Вячаслава Ракіцкага з Вольгай Іпатавай, якая апошнія пяць гадоў жыве ў Канадзе і ў Беларусі бывае вельмі рэдка. За гэты час на Вольгу Міхайлаўну некаторыя пісьменнікі і крытыкі забыліся, і яна для іх наагул, нібыта памерла. З перадачы можна

было даведацца толькі адно, што пісьменніца даўно не піша, а займаецца ўнукамі і збіраецца напісаць мемуары. Налета Вользе Іпатавай будзе 70...

**х**

*5.05.2014.* На вуліцы змрочна, на душы самотна. Успамінаючы бацькоў, прыдумаў верш:

*Мама і тата любілі мяне,*
*Мама і тата, як сонца ў вакне*
*Хаты старой, дзе ніхто не жыве,*
*Хаты, якая, як крыж на царкве,*
*Стаіць адзінока, чакаючы нас...*

*травень*

**УЛАДЗІМІР ДАМАШЭВІЧ**

5.05.2014. У мінскай лякарні, куды яго забрала «хуткая», 30 красавіка памёр пісьменнік Уладзімір Дамашэвіч. Кажуць, што ён памёр уначы, у сне. Яму ішоў 87 год. Адразу ж узгадалася рэдакцыя часопіса «Маладосць», куды я да Міколы Аўрамчыка ў 1978 годзе ўпершыню прынёс вершы. Мікола Якаўлевіч размаўляў са мной, а Уладзімір Максімавіч, стол якога стаяў побач, слухаў і раз-пораз задаваў пытанні пра вёску і цікавіўся, як у нас людзі называюць тую ці іншую рэч, прыладу, страву. Прыканцы запытаўся, ці спрабую пісаць прозу. Я не спрабаваў, бо мне было ўсяго 18 гадоў і ў мяне ў галаве самі па сабе рыфмаваліся радкі. І потым нярэдка, калі я прыходзіў у «Маладосць» і чакаў загадніка аддзела паэзіі, Уладзімір Максімавіч раіў мне паспрабаваць свае сілы ў прозе. І ўрэшце я напісаў некалькі апавяданняў, але праляцела дзесяць гадоў і Уладзімір Дамашэвіч пайшоў на пенсію, і я не адважыўся паказваць свае апавяданні новаму загадніку аддзела прозы... Апошні раз я сустракаўся з Уладзімірам Дамашэвічам 30 сакавіка 2011 года, калі ён прыходзіў у выдавецтва і пытаўся, ці можна прынесці рукапіс для друку. «Прыносьце!» — сказаў я. Уладзімір Максімавіч таксама абяцаў прынесці, але не прынёс і ўжо ніколі не прынясе...

**х**

*6.05.2014.* Тэлефанаваў у Лягезы, каб павіншаваць з днём народзінаў дзядзьку Віцю. Першай да тэлефона падышла цётка Стася. Ад яе даведаўся, што яна нарадзілася 7 мая 1945 года. Праз пару хвілін падышоў дзядзька. Яму

81 год. Дарэчы, мяне назвалі ў ягоны гонар. Бацька хацеў, каб я быў Славікам, як ягоны малодшы брат, але мама «перамагла», і я стаў Віцем, як мамін малодшы брат...

**х**

*7.05.2014.* Сніў, што я з Ракава ішоў у Пугачы. Дарогаю за Ракавам на месцы лесу пабачыў драўляную хату. Зайшоў і трапіў у драўляны горад, дзе нават ходнікі драўляныя. Навокал светла-светла. Іду горадам і раптам бачу бацьку гадоў шасцідзесяці. Пытаюся: «Што ты тут робіш?» — і чую: «Я тут цяпер жыву!» — «А дзе мама?» — «Пайшла ў госці да сясцёр!» — «І як табе тут жывецца?» — «Добра! Толькі вось нешта шчака баліць...» — адказаў бацька, і я пабачыў у яго на левай шчацэ ладную рудаватую пляму. Мой сон мне патлумачыла Людміла: «Бацьку помнік спадабаўся, але ён не вельмі задаволены сваім партрэтам...»

*травень*

**х**

*9.05.2014.* З Максімам наведалі Пугачы. 50 кіламетраў ехалі дзве з паловай гадзіны. За Ракавам да нас далучыўся Анатоль Блашчыцын, які, спазніўшыся на вакзал, дагнаў перапоўнены аўтобус валожынскай маршруткаю. У Бузунах палова людзей выйшла. Ад Анатоля даведаўся, што ў гэтай вёсцы збудавана 600 лецішчаў...

У Пугачы даехала каля дзесяці чалавек. Схадзілі ў краму. Купілі хлеба і папіць. Звярнуў увагу на тры мяхі бульбы, але не паглядзеў, за колькі яе прадаюць...

Дзядзька Толя з канём ужо чакаў каля хаты. Пакуль мы аралі, Максім расклаў агонь у мангале. Калі б зямлю запусцілі сёлета, то ў агародзе б выраслі сотні дзве клёнікаў...

Праз дзядзьку Толю перадаў Святлане Шніп (жонка майго стрыечнага брата Сяргея) «Пугачоўскага цырульніка». За паўгадзіны на машыне да нас прыехала Святлана, каб падзякаваць за кніжку. Прыехала з меншымі дзецьмі. Вітаючыся з малымі, я запытаўся, як іх завуць. Хлопчык гадоў пяці сказаў: «Ілля Шніп», а дзяўчынка гадоў трох дадала: «А я — Яна!» Іх старэйшы Максім, які цяпер вучыцца ў сёмым класе, доўгі час хацеў стаць хакеістам, але нядаўна перадумаў. Святлана пра-

цуе ў Пугачоўскай школе і разам з вучнямі займаецца краязнаўствам. На сённяшні дзень іх цікавіць гісторыя вёсак Татары і Татарскія, што знаходзяцца паблізу з Пугачамі...

З Максімам насадзілі цыбулі, часныку, буракоў, морквы, рэпы, бобу, гароху. Агуркі пасадзім наступным разам. Не ведаю, што ў нас вырасце, але вяскоўцы, якія праходзілі міма, глядзелі на нас, як на вопытных гаспадароў...

На слупку нашай агароджы ўжо няма паштовай скрынкі...

Каб скасіць траву, не хапіла ні сіл, ні часу. У агародчыку, дзе мама даглядала кветкі, цяпер трава. І ўсё ж сярод травы і дзьмухаўцоў вырас самотны чырвоны цюльпан, як свечка, якая мне асвяціла ўсё, што тут было яшчэ некалькі гадоў таму...

*травень*

**х**

10.05.2014. Увечары 8 траўня не стала празаіка Анатоля Кудраўца. 9 траўня ў Віцебску пасля цяжкай хваробы памёр паэт Давід Сімановіч. З гэткай самай хваробай, як і памерлыя, змагаецца Генадзь Бураўкін. Кажуць, што і яшчэ некалькі вядомых пісьменнікаў невылечна хворыя...

**х**

10.05.2014. Апошнім часам Ліда Шніп піша ў Фэйсбуку пра сваіх сваякоў. І так ужо атрымалася, што яе стрыечныя брат Саша і сёстры Люда і Света (дзеці Івана Іосіфавіча і Валянціны Іосіфаўны Шніп) мае траюрадныя, таму ўсё, пра што піша Ліда, мне вельмі блізкае і дарагое. І я не магу ўстрымацца, каб сёе-тое не працытаваць з яе запісаў: «Дарэчы, цётка Валя — заслужаная настаўніца Беларусі. Дзядзька Іван нарадзіўся ў 1917 годзе ў вёсцы Пугачы ў хаце насупраць Гаіка, у якім раслі 600-гадовыя дубы (гэты лясок быў уласнасцю майго прадзеда). Ішла Першая сусветная вайна. Праз Пугачы праходзіла лінія фронту. У вясковых хатах жылі афіцэры з дзеншчыкамі, і ў хаце майго дзеда таксама жыў рускі афіцэр. Бабуля Марыя ў гэты нялёгкі час нарадзіла трэцяе дзіця (другой была дачка Валя 1915 года нараджэння). Афіцэр узяў на рукі нованароджанага і назваў яго Іванам, пасля і ахрысціў

Іванам. Калі фронт зрушыўся з месца, развітваючыся, афіцэр сказаў: «Калі скончыцца вайна, абавязкова прыеду, дзе б я ні быў, і свайго хрэсніка наведаю!» Ён не прыехаў, значыць...»

Прачытаўшы гэты запіс, я ўзгадаў, як мне дзед Юзя (1911—5.10.1982) апавядаў, што пад час Першай сусветнай вайны лінія фронту праходзіла праз Пугачы і там, дзе цяпер кароўнікі, тады былі акопы. Фронт адышоў, і дзед з братам Янкам і сябрамі нацягаў у пуню снарадаў і рознай зброі. Дзедаў бацька, мой прадзед Іван Кандратавіч Шніп (1866—1916) быў уланам у царскім войску і загінуў каля Крэва. Пад час нямецкага нападу яму шабляй была адсечаная галава. Пра гэта вестка прыйшла ў Пугачы ад аднавяскоўцаў, якія таксама ваявалі з немцамі. Янка недзе ў Смаргонскім раёне пахаваны ў брацкай магіле. Мая прабабуля Крыстына Андрэеўна Шніп (у дзявоцтве Федаровіч, 1885—20.03.1947), натрапіўшы на зброю ў пуні, папрасіла суседзяў, каб яны ўсё гэта дабро прыбралі. Суседзі, доўга не думаючы, куды зносіць зброю, выкінулі яе ў вялікую ямістую сажалку, што была паблізу. У той сажалцы, якая цяпер каля крамы, я з сябрамі ў дзяцінстве лавіў рыбу. На сённяшні дзень там балацiна, зарослая высокай травой...

*травень*

У 1967 годзе бацькі забралі мяне з Лягез, і я памятаю, як каля нашых сотак былі велізарныя пні, што засталіся ад дубоў. Бацька некалькі гадоў гэтыя пні карчаваў, каб расцерабіць месца на соткі. Адзін дубок, якому гадоў за сто, яшчэ расце каля нашай сялібы. На яго я любіў залазіць і гуляць у лётчыка, а часам і пісаў, седзячы на ім, вершы...

З запісаў Ліды Шніп: «...Беласток — быў захоплены немцамі 15 верасня 1939 года. Праз тыдзень, згодна з пактам Молатава—Рыбентропа, немцы перадалі горад Савецкаму Саюзу, і ён стаў часткай Савецкай Беларусі. У 1941 годзе ў Беластоку служыў дзядзька Іван у сапёрных войсках, будаваў каля горада аэрадром. У ноч 22 чэрвеня 1941 года ў вайсковай часці не было ніводнага камандзіра, ніводнага афіцэра. Усе былі выкліканыя на нейкае свята. І тут нечакана ўначы пачуўся гул матораў, усе выскачылі з казармаў і пахаваліся ў траншэях. Ніякай зброі не было, апрача сапёрных рыдлёвак. Скінуўшы некалькі

бомб, самалёты паляцелі далей. Ішоў час, а камандзіры так і не з'явіліся. Дзядзька Іван вырашыў ісці дамоў на хутар (тады ўжо сям'я жыла там). Пайшоў. Удзень ляжаў у лесе і бачыў, як рухаюцца ўзброеныя да зубоў механізаваныя калоны немцаў. Уначы ішоў. Голад і холад даймаў так, што даводзілася прасіць у людзей міласціну. Адна полька дала дзядзьку Івану харчы, пераапранула яго ў цывільную вопратку, пачапіла на шыю крыжык і дабраславіла: «Дайдзі да роднай хаты!» І ён зноў пайшоў. Ішоў па начах, удзень аслаблы ўпадаў у забыццё. Уначы праз сілу падымаўся і зноў ішоў на ўсход, на хутар, у свой родны лес, марачы абняць родных, бярозкі, дубы і родную зямлю. Праз сон ён пачуў сабачы брэх і праз туман на вачах пабачыў халёныя твары немцаў. Вокрык прымусіў дзядзьку Івана падскочыць. На яго была наведзеная чорная руля аўтамата. «Бывайце, родныя!» — мільганула думка, але тут адзін немец ірвануў за кашулю і пабачыў крыжык... Крыжык выратаваў яму жыццё. «Не камуніст...» — зразумеў дзядзька Іван з нямецкай размовы пра сябе. Немец махнуў рукой, і ўсе ваякі з сабакамі сышлі, а дзядзька Іван пайшоў далей. Праз тры месяцы на лясную паляну хутара прыйшоў страшэнна худы, знямоглы, з акрываўленымі збітымі нагамі, але са шчасцем у вачах, і паваліўся перад парогам роднай хаты мой дзядзька Іван. Прыйшлі адна скура ды косткі. Калі ў 1944 годзе яго зноў прызвалі ў армію, то знайшлі ў яго шмат інфекцый. Дзядзька быў страшэнна худы, і на фронт яго не ўзялі, адправілі дамоў. Затое ўзялі яго брата Лёню, майго бацьку, і адразу накіравалі на фронт на перадавую лінію наступлення...»

*травень*

Мой дзед Юзя быў у Войску Польскім у артылерыі. У 1939 годзе абараняў Варшаву. Абарона была ніякая. Пасля таго як немцы скінулі пару бомбаў, салдаты з Заходняй Беларусі кінулі зброю і калонай пайшлі дамоў, раз-пораз сыходзячы на ўзбочыну, даючы немцам праехаць машынамі і матацыкламі. Пасля таго як Заходняя Беларусь была далучаная да Савецкай, дзеда і ўсіх, хто быў з ім, рускія ўзялі ў палон. Усіх афіцэраў расстралялі. Расстралялі б і майго дзеда Юзю, але ён даўно сарваў з сябе пагоны і быў у шынелі шарагоўца. Потым дзед трапіў у савецкі лагер палонных ва Украіне. Адтуль уцёк увесну 1941 года і да позняй восені дабіраўся ў Пугачы да сябе

на хутар. Прыйшоў худы, як смерць, і ўвесь у вошах. У 1944 годзе, калі прыйшло рускае войска, быў прызваны ў армію і адразу ж трапіў на фронт, на перадавую на штурм Кёнігсберга, дзе быў кантужаны. Пасля шпіталя зноў ваяваў. Вызваляў Польшчу. У траўні 1945 года быў адпраўлены ваяваць з японцамі, але не даехаў, бо Японія капітулявала...

З запісаў Ліды Шніп: «Мой тата самы малодшы ў сям'і. Нарадзіўся ў 1921 годзе. Дзядзьку Івана па здароўі на фронт не ўзялі. Дзядзьку Антона — праз дрэнны зрок. Тату ж адразу забралі на вайну на перадавую лінію фронту. Ён бег за танкамі са стрэльбай у атаку гэтаксама, як паказваюць у фільмах. Я забылася, як звалі яго ўзводнага камандзіра. Ён быў родам з Сярэдняй Азіі. Вельмі разумны стратэг. Вучыў, як і дзе бегчы за танкам, каб не скасілі кулі, застацца жыць там, дзе здавалася б немагчыма. Бывала, што ў суседніх узводах усе салдаты гінулі, а ў татавым усе заставаліся жывымі, дзякуючы ўзводнаму камандзіру. Наступ нашых войскаў ва Усходняй Прусіі перайшоў у зацяжную стадыю. Немцы моцна супраціўляліся. На перадавой штодзень было шмат забітых. У татавым узводзе быў паранены толькі адзін салдат, а потым і тату параніла аскепкам у сцягно. Яму пашанцавала зноў — падпоўз санітар, спыніў кроў і паказаў, куды паўзці, дзе яму дапамогуць. Тата поўз на руках сярод забітых, сярод выбухаў, сярод незразумела чыіх танкаў. Ён нічога не бачыў, але ўсё ж змог дапаўзці да палявога шпіталя. Шпіталь бамбілі, абстрэльвалі. Тату вывезлі ў Смаленск. Дасталі аскепак, падлекавалі. Цяпер бегчы, як трэба, тата не мог і яго адправілі на той самы фронт, але ў артылерыю. Удзельнічаў у штурме Кёнігсберга. Прайшоў усю Усходнюю Прусію. І ніколі не забываўся на свайго першага камандзіра. Тата прынёс з вайны медаль «За адвагу», даражыў медалём «За перамогу над Германіяй», але ніколі іх не насіў. Нярэдка медаль «За адвагу» ў яго пазычалі сябры, каб пахваліцца ў Дзень Перамогі. У мірны час тата яшчэ атрымліваў медалі і ордэны, але ён найбольш цаніў тыя, якія атрымаў на фронце...»

У майго дзеда Юзі таксама былі медалі. Памятаю «За ўзяцце Кёнігсберга», «За адвагу», «За перамогу над Германіяй», «За перамогу над Японіяй» і яшчэ нейкія.

У гадоў дванаццаць адзін медаль, на якім быў Сталін, я скраў у дзеда. Схаваў і забыўся дзе...

З запісаў Ліды Шніп: «Шніп Макар, сын роднага брата дзеда Шніпа Іосіфа Адамавіча — Юрыя, які жыў у вёсцы Сцяцкі, на радзіме мамы. Пад час вайны Макар быў на фронце. Трапіў у нямецкі палон. Выжыўшы, пасля вайны вярнуўся дамоў, цудам пазбег Сібіры. Ажаніўся. Нарадзілася двое сыноў. У Сцяцках па суседстве з маёй бабуляй Домнай збудаваў прыгожую светлую хату. Сыны Макара былі вельмі добрыя, разумныя, увесь час прыходзілі да маёй бабулі Домны. Палон дарэмна не мінуў, і Макар рана памёр. Жонка пакінула хату ў Сцяцках калгасу (цяпер у ім жыве сям'я Казлоўскіх з Пугачоў), а сама з сынамі паехала ў Маладзечна, дзе атрымала невялічкую кватэру. Макар — родны брат Шніпа Івана Юр'евіча, які жыў у вёсцы Аляхновічы. Калі было трэба, усе жыхары Сцяцкоў спыняліся ў яго нанач. Вельмі добрай была і ягоная жонка Паліна. Пад час вайны ў Аляхновічах стаялі немцы. Калі каму трэба было што выменяць або дастаць у немцаў, схавацца ад партызанаў, ішлі да Івана. Усім жыхарам Сцяцкоў Іван здабываў соль. «Толькі гультаі сядзелі без солі»,— кажа мая мама. Мая бабуля Домна брала каромысел з вёдрамі і ішла ў вёску Уша, што за Дубровамі, да стрыечнай сястры. Налівала малака ад сваёй каровы, якая была там схаваная, біла масла са смятаны і несла яго ў Аляхновічы да Івана. Іван мяняў у немцаў бабуліны харчы на соль. Бабуля вярталася ў Сцяцкі з малочнымі прадуктамі і соллю. Бераглі гэтую соль як зрэнку вока. Бабуля за дзень з грузам праходзіла кіламетраў трыццаць! Ды яшчэ лясамі! Калі ў Сцяцках нехта з жанчын знікаў на некалькі дзён, а потым з'яўляўся, пыталіся: «Дзе была?» — «У Полькі!» — чуўся адказ. (Мелася на ўвазе, што ў Паліны і Івана.) Хадзілі жанчыны, бо мужчын немцы адразу б расстралялі...»

*травень*

Сыноў Шніпа Макара я ведаю. Асабліва Алеся Шніпа. На самым пачатку 80-х гадоў мінулага стагоддзя Алесь, пабачыўшы ў друку мае вершы, сам знайшоў мяне, каб пазнаёміцца. Калі я вучыўся ў Маскве і прыязджаў у Мінск, то некалькі разоў начаваў у Алеся. У яго сям'і два сыны. Адзін з іх Шніп Макар Аляксандравіч выпускнік гістарычнага класа ліцэя БДУ 1998 года: «Навучанне

ў ліцэі ўспамінаю як казку, дзіўную прыгоду, якая змяніла мяне назаўсёды. Дзякуючы працы ліцэйскіх настаўнікаў, мне пашчасціла атрымаць дыплом трэцяй ступені на рэспубліканскай алімпіядзе па гісторыі і паступіць на гістарычны факультэт БДУ без экзаменаў. У 2003 годзе вярнуўся ў ліцэй ужо ў якасці настаўніка, і казка займела свой працяг». Цяпер Макар Шніп працуе намеснікам дырэктара па выхаваўчай працы і выкладае гісторыю ў ліцэі БДУ. Дарэчы, калі Вераніка пасля школы рыхтавалася да тэставання па гісторыі, Макар ёй даваў спецыяльныя ўрокі, дзякуючы якім мая дачка атрымала нядрэнны бал і потым паступіла ў Акадэмію мастацтваў. Макар Шніп напісаў і выдаў некалькі кніг па гісторыі Беларусі...

*травень*

Добрым словам заўсёды ўспамінаў Паліну і Івана Шніп мой бацька, называючы Паліну Полькай. На жаль, нічога з бацькавых успамінаў я пра яе не запісаў...

З запісаў Ліды Шніп: «Дзядзька Антон найстарэйшы з дзяцей маёй бабулі Марыі Станіславаўны Багіна і дзядулі Іосіфа Адамавіча Шніпа. Ён праведнік свету. І калі вы будзеце ў Іерусаліме, то абавязкова наведайце гару Памяці, на якой ёсць сад праведнікаў свету. У гэтым садзе на мемарыяльнай сцяне сярод іншых імёнаў выбіта імя «Шніп Антон». (...) Аднойчы ўначы на дзядзькаў хутар партызаны прынеслі камандзіра, прафесійнага рускага вайскоўца Кіпкеева. У яго была адарваная нага, і яму пагражала смерць. Тады дзядзька Антон, рызыкуючы жыццём, узяў падводу, паставіў на яе вялікую бочку і паехаў у бок Маладзечна на пошукі доктара. Знаёмыя падказалі, дзе хаваецца хірург Бабкес, яўрэй, які ўцёк ад вайны з Заходняй Еўропы з двума малымі дзецьмі. Ягоная жонка да таго часу ўжо была схопленая і забітая немцамі. І па нейкім часе ў бочцы праз нямецкія пасты дзядзька Антон прывёз на хутар хірурга і ягоных дзяцей. Бабкес выратаваў Кіпкеева, а потым ён лекаваў усіх, каму патрэбная была дапамога. Летнімі днямі доктар спаў у лесе. Аднойчы непадалёк ад хутара яго схапілі спячым польскія легіянеры, якія служылі ў немцаў. Прывялі Бабкеса на хутар: «Вы ведаеце гэтага чалавека?» — «Не! Першы раз бачым!» — пачулася ў адказ. «А ты знаёмы з гэтымі людзьмі?» — запыталіся ў доктара. «Не! Нікога не ведаю і не бачыў ніколі!» — адказаў доктар. Яго немцы расстраляюць, а дзяцей дзядзька Антон выратуе. Але

пасля вайны прыедзе на хутар машына з нкусаўцамі і забярэ дзяцей у Маскву. Праз шмат гадоў, калі майго таты не будзе ў жывых, ужо сама ва ўзросце былая маленькая дзяўчынка Ада Бабкес, жыхарка ЗША, адшукае цётку Надзю і дзядзьку Антона, каб аддзячыць ім за выратаванне...»

**х**

*11.05.2014.* Сёння пахавалі празаіка Анатоля Кудраўца і паэта Давіда Сімановіча, які ў свой час пісаў:

*Скажите мне все добрые слова,*
*которые потом произнесете,*
*когда сомкнется надо мной трава*
*и пчелы остановятся в полете.*
*Их реквием во сне иль наяву*
*Мне не слыхать, уйдя в иные дали...*
*Скажите мне сейчас, пока живу,*
*Все те слова, что после бы сказали...*



**х**

*12.05.2014.* Дождж. Праспектам Пераможцаў, абгарнуўшыся сваімі нацыянальнымі сцягамі, як плашчамі, ходзяць вясёлыя замежнікі, што прыехалі паглядзець чэмпіянат свету па хакеі. А я іду пад чорным парасонам і мне таксама добра...

## ФОТАМАЙСТАР З ПУГАЧОЎ

*13.05.2014.* Пазнаёміўся з калекцыянерам Дзмітрыем Сярэбранікавым і фотамайстрам Уладзімірам Суцягіным. Яны знайшлі мяне праз нашых агульных знаёмых. А рэч у тым, што Дзмітрый у свой час набыў старыя (шкляныя) негатывы фотаздымкаў, зробленыя ў маіх Пугачах. Тое, што здымкі рабіліся ў маёй роднай вёсцы, стала вядома па фотаздымку 1952 года, на якім сядзяць вучні другога класа Пугачоўскай пачатковай школы. Гэтае багацце, добра павандраваўшы з рук у рукі, было набыта Дзмітрыем у Шчучыне. Дзякуючы Уладзіміру і яго любові да фотамастацтва, амаль усе негатывы прыведзеныя ў нармальны выгляд. Цяпер Дзмітрый і Уладзімір рыхтуюцца да выставы, на якой хочуць паказаць фотаздымкі, зробленыя ў 50-я гады мінулага стагоддзя фотамайстрам з Пугачоў...

Сёння, прыехаўшы з Сярэбранікавым у майстэрню Суцягіна, я доўга разглядаў пугачоўскія фотаздымкі, але, на жаль, нікога не пазнаў. Праўда, на здымку вучняў другога класа, здаецца, стаіць (крайні злева, ёмкі хлопец) мой родны дзядзька Славік, які нарадзіўся ў 1944 годзе...

травень

Непадалёку з майстэрняй жыве Ліда Шніп, якая па маім званку, на хвілін пятнаццаць перад працай забеглася, каб паспрабаваць каго-небудзь з вяскоўцаў пазнаць. На жаль, і Ліда дакладна і ўпэўнена не змагла нікога назваць. Нічога дзіўнага, бо мы з Лідай нарадзіліся пазней за той час, калі рабіліся гэтыя здымкі. Тут жа з майстэрні я патэлефанаваў Анатолю Блашчыцыну, ад якога мы даведаліся, што фатографам у Пугачах быў Ціманаў Пётр Ціханавіч, які нарадзіўся на Палтаўшчыне. У нас ён з'явіўся пасля вайны, прыехаўшы з Германіі з будучай жонкай з Пугачоў, якую ён вызваліў ад немцаў. У Ціманава ва Украіне засталася першая жонка і дачка. Дзяцей у новай сям'і не было. У хаце Пятра Ціханавіча нейкі час мясцілася крама, дзе гаспадар быў прадаўцом. Жонка ягоная працавала лістаношай. Да ўсяго Ціманаў займаў пасаду загадніка клуба і бібліятэкі. Дзякуючы яму, савецкіх салдат, якія былі забітыя немцамі на самым пачатку вайны і пахаваныя каля лесу, перазахавалі каля клуба. Там усталявалі помнік, каля якога штораз на Дзень Перамогі адбываліся ўрачыстыя мерапрыемствы. Я памятаю, як той помнік адкрывалі. У той дзень у Пугачах было вялікае свята, і каля клуба сабралася вельмі шмат людзей, і не толькі з нашай вёскі. Да нас прыязджалі салдаты і давалі салют. Цяпер у доме, дзе быў клуб, жывуць людзі, а пахаваных салдат перазахавалі каля новага Дома культуры...

З Дзмітрыем і Уладзімірам вырашылі ў бліжэйшы час працягнуць росшук новых звестак пра фотамайстра з Пугачоў. Паедзем і ў Пугачы (спадзяемся, што старажылы пазнаюць на здымках сваіх аднавяскоўцаў), дзе паспрабуем знайсці фотаздымак самога фотамайстра, паедзем і ў Дубровы, дзе пахаваны Пётр Ціханавіч Ціманаў, каб даведацца гады ягонага жыцця...

**x**

*15.05.2014.* Удзельнічаў у прэзентацыі кнігі Міхася Казлоўскага «Бацькаўшчыны светлае крыло», якая выйшла прыканцы мінулага года ў «Кнігазборы»...

Едучы на вакзал, думаў дарогаю ў Маладзечна падрыхтавацца да выступу, але... Праз некалькі хвілін насупраць мяне прысела жанчына. І не проста жанчына, а паэтка Людка Сільнова. Яна ехала да маці. І мы ўсю дарогу размаўлялі пра жыццё і літаратуру...

На вакзале ўжо чакаў Міхась Казлоўскі. Прыбраны, як на вяселле. Да нас праз хвілін пяць далучыўся колішні галоўны рэдактар «Маладзечанскай газеты» Аляксандр Хазянін. Машына, якой мы мусілі ехаць у Палачаны, што ў кіламетрах пятнаццаці ад Маладзечна, затрымлівалася, і я, каб не сумаваць, вырашыў пажартаваць: «Слухайце! Пакуль няма машыны, я вазьму пару пляшак чарніла і мы пойдзем у прыбіральню і пагрэемся!» Міхась падтрымаў мой жарт, бо ведае, што я ўжо сёмы год не п'ю. Аляксандр Аляксандравіч разгубіўся, а я, сказаўшы, каб мяне чакалі, пайшоў у краму. Праз хвілін пяць вярнуўся з пляшкай мінералкі... *травень*

У Палачанскі дом культуры нас завёз Віктар Сыракваша, які ўсю дарогу чытаў байкі Кандрата Крапівы і свае. Раней ён працаваў дырэктарам Дома культуры...

На прэзентацыю кнігі Міхася Казлоўскага сабралася чалавек пяцьдзясят. Болей не магло і быць, бо зала ў бібліятэцы зусім невялікая. Міхась зачытваў з кнігі апаведы пра сваіх бацькоў і многія, слухаючы, плакалі...

Мы выступалі. Прысутныя слухалі. За спінамі людзей на высокай шафе стаяў невялікі бронзавы Ленін. Потым я даведаўся, што ў гэтым памяшканні пры Савецкім Саюзе быў парткам...

Вяртаючыся ў Маладзечна, большую частку дарогі маўчалі. Усё было сказана...

**x**

*16.05.2014.* На 68-м годзе жыцця памерла тэлевядоўца, музыказнаўца Элеанора Язерская. Яна была адной з самых экстравагантных асоб беларускага свецкага бамонду. Памерла Элеанора Аркадзьеўна яшчэ два тыдні таму ў сваёй кватэры. Яе цела знайшоў пляменнік, дзве-

ры кватэры давялося ўзломваць. Нейкі час Язерская вяла рубрыку ў «СБ», і мая Людміла часта з ёй сустракалася. Гадоў пяць таму Элеанора Аркадзьеўна прыносіла да мяне на працу вершы сваёй сяброўкі, якая жыве ў Францыі. Паэтка хацела выдаць кнігу за свой кошт. На жаль, праект не ажыццявіўся і мы з Людмілай і Элеанорай не з'ездзілі ў Парыж...

## СМЕТНІЦА

*травень*

*17.05.2014.* З галавы ўсё ніяк не могуць выветрыцца дзве гісторыі, звязаныя са сметніцай...

На прыпынку, чакаючы аўтобус, разглядаю людзей. З падземнага перахода няспешна, з прыгожымі кветкамі, загорнутымі ў цэлафан, выйшла святочна прыбраная жанчына гадоў пад шэсцьдзясят. Нервова пахадзіўшы па прыпынку і спыніўшыся каля сметніцы, жанчына кінула букет і хуткімі крокамі ўвайшла ў тралейбус, які толькі што спыніўся...

Каля вакзальнага будынка стары, апрануты як бомж, сціскаючы ў пачарнелай ад загару руцэ штук дзесяць рознакаляровых асадак, настойліва прапануе мінакам іх купіць. Хлопец гадоў дваццаці, які праходзіў каля гандляра, спыніўшыся, набыў чырвоную асадку. У кроках дваццаці ад старога малады чалавек, прыцішыўшы хаду каля сметніцы, выкінуў свой набытак...

## Х

*17.05.2014.* У Пугачах, скончыўшы касьбу, падышоў да Ліды Шніп, якая прыехала да маці і працавала ў агародзе. Ад Ліды даведаўся, што яна мне электроннай поштай даслала новую інфармацыю пра нашую вёску і яе жыхароў: «У Пугачах, у школе, працавала з Польшчы Браніслава. Яе прозвішча мама забылася. Яшчэ ў вёсцы працаваў пісар са Сцяцкоў — Ліхтаровіч. У 1950 годзе ў Пугачах з мясцовых былі толькі мая мама, але яна 12 гадоў працавала ў Карнютках. Цётка Валя таксама працавала ў Карнютках, але ў Пугачы яна перайшла раней за маю маму. І яшчэ была Ніна, маміна сяброўка, але яна пачынала працаваць у Пярэжарах, потым у Ракаве. Прозвішча Харук, у шлюбе Рудая. Іншыя настаўніцы ў Пугачах былі ўсе прыезджыя. Мама іх не памятае. На здымках, што я

паспела сфатаграфаваць у Сярэбранікава і Суцягіна, мама нікога не пазнала, бо гэта, мабыць, не пугачоўскія людзі. Ціманаў Пётр Ціханавіч з’явіўся ў Пугачах нашмат пазней за 1952 год. Прыстаў у прымы да Стасі Харук, нашай крэўнай. Ён школьныя класы не фатаграфаваў...

Гледзячы на фотаздымкі, мама кажа, што ніхто нікога на іх не пазнае, бо са старажылаў у Пугачах засталося ўсяго чалавек пяць-шэсць. Яна не апазнала нікога!!! У Карнюткі прыязджалі фатографы ўвесь час. Здымкаў у мамы шмат. Ужо з тых, з кім мама пачынала працаваць у 1950 годзе, засталіся толькі чатыры чалавекі, астатнія памерлі даўно...»

*травень*

## X

*18.05.2014.* «Знайшлі нежывым барда Змітра Сідаровіча» — пад такім загалоўкам у сеціве з’явілася інфармацыя. «Ён двое сутак не адказваў на тэлефанаванні. У яго быў канцэрт, але ён не з’явіўся на яго,— апавядае сябра памерлага прадпрымальнік Алесь Суша.— Тады бацькі і былая жонка неяк змаглі трапіць у кватэру ў Зялёным Лузе. Нібыта гэта забойства, ён ляжаў у лужыне крыві. Цяпер там аператыўнікі спрабуюць высветліць, што здарылася».

Зміцер Сідаровіч нарадзіўся ў 1965 годзе ў Мінску. Музыка, бард, дудар. У 1991 годзе стварыў гурт «Камелот». Выдаў кнігу вершаў «Тры жалуды». Аўтар-укладальнік даведніка «Вялікія музыкі XX стагоддзя». Апрача бардаўскай песні актыўна займаўся фальклорам. Адраджаў дуду. У 2000 годзе ўдзельнічаў у альбоме «Bip» гурта «Стары Ольса».

25 красавіка я разам са Змітром Сідаровічам выступаў у паэтычным тэатры «Арт. С» у бібліятэцы Цёткі, дзе прадстаўляўся працяг паэтычна-міфалагічнага праекта «Сакральная Беларусь». Гэта была трынаццатая сустрэча. Яна прысвячалася мястэчкам. Зміцер граў і спяваў...

20 красавіка ў Фэйсбуку ў каментарах да майго запісу пра Вялікдзень і памерлых бацькоў Зміцер напісаў: «Віктар, просьба застаецца ранейшай, паспрабуй нешта вясёлае... У цябе атрымаецца... Без агляднікі неяк...» І гэта просьба да мяне быць весялейшым у Змітра была не першай...

**х**

*19.05.2014.* Сто гадоў не быў на хакеі, і тут раптам тэлефануе Людміла і паведамляе, што ў яе ёсць два квіткі на матч «Данія — Францыя», які пройдзе на «Чыжоўка-арэне». Паехалі. Дабраліся вельмі хутка. З вакзала за хвілін дваццаць. Пакуль трапілі на свае месцы, двойчы былі сур'ёзна абшуканыя. У мяне знайшлі таблеткі, пра якія я і сам не ведаў, што яны ў мяне ёсць. Стадыён запоўніўся на адсоткаў восемдзесят. Пераважна моладзь. Замежнікаў мала. Увесь першы перыяд гледачы ўсё ішлі і ішлі на свае месцы. Некаторыя, пайшоўшы на перапынак, заставаліся сядзець у піўбарах амаль да канца гульні. Лёд быў белы і халодны, шайба круглая і чорная. Данія прайграла з лікам 2:6...

*травень*

**х**

*19.05.2014.* Я першы раз на хакеі быў недзе ў 1978 годзе. Хадзіў са сваім земляком і будучым літаратуразнаўцам Яўгенам Гарадніцкім і з мастакамі Міколам Селешчуком і Уладзімірам Тоўсцікам. Яўген тады працаваў у адным выдавецтве з Міколам, у якога я, дзякуючы сябру, узяў афармляць кніжку. Я ж вучыўся ў Мінскім архітэктурна-будаўнічым тэхнікуме, і ў мяне па малюнку была пяцёрка. Кніжку не аформіў, бо праз месяцы тры, якія я думаў над вокладкай кнігі, сказаў сабе: «Я не мастак! Гэта не маё!» Тады гулялі мінчане і рыжане. Нашы выйгралі. Пасля хакея на беразе Свіслачы мы пілі чырвонае віно. Я з Яўгенам чытаў вершы, а Мікола і Уладзімір слухалі нас і, як і мы, радаваліся жыццю...

**х**

*20.05.2014.* «Проза стала лянотнай (кароткай паводле формы), бо чытачы зусім абленаваліся...» — кажа празаік, і мы лянуемся размаўляць пра гэта далей...

**х**

*21.05.2014.* Быў у Свята-Петра-Паўлаўскім саборы на адпяванні Змітра Сідаровіча. Раз-пораз пазіраў на вітражы, праз якія ў Храм праточвалася святло. Каля іх я спадзяваўся пабачыць прыгожага вялікага матылька. Мне нечага карцела пабачыць у царкве матылька! Матылька

не было. Было шмат людзей і амаль палова знаёмых. Выходзячы з Храма, пачуў за спінай: «Нашае пакаленне нейкае слабое. Колькі ўжо адышло без пары...» І, калі з Храма вынеслі Змітра, над смуткуючымі закружляла некалькі матылёў і сярод іх быў вялікі і прыгожы, якога мне хацелася пабачыць...

**х**

*21.05.2014.* Усе дажджы — гэта нам напамін пра патоп, які быў і які яшчэ будзе...

**х**

*22.05.2014.* На замову «Белпошты» мастак Уладзімір Васюк стварыў канверт, прысвечаны 100-годдзю Язэпа Семяжона. Каб ён пайшоў у друк, трэба некалькі экспертаў, якія б сказалі, ці падобны партрэт да таго, каго ўшаноўваюць. Сёння адным з экспертаў быў я, бо нядрэнна ведаў Язэпа Іванавіча. А пазнаёміліся мы з ім у 1984 годзе ў дзень, калі мяне прымалі ў Саюз пісьменнікаў. Пасля таго як была зачытаная мая асабістая справа і рэкамендацыі, Максім Танк запытаўся: «У каго ёсць што сказаць пра Віктара Анатольевіча?» І нечакана для мяне першым добрае слова пра маю творчасць сказаў Язэп Семяжон...



**х**

*22.05.2014.* На падваконні заквітнеў кактус. З вуліцы ў шыбу б’ецца пчала. А я праз вакно гляджу на дзяўчыну, якая сядзіць каля пад’езда на лаўцы...

**х**

*22.05.2014.* У далечы зялёныя дрэвы, як намаляваныя п’яным мастаком...

**х**

*23.05.2014.* Ездзіў у Дубровы. У вагоне электрычкі паблізу са мной села жанчына гадоў сарака. З пяццю дзецьмі. Дзве дзяўчынкі і тры хлопцы. Усе дагледжаныя, добра апранутыя. Старэйшаму, які ўсю дарогу маўчаў і глядзеў у вакно, трымаючы вуду, гадоў чатырнаццаць. Малодшаму хлопчыку гадоў пяць. Ён то з аднаго месца

ўстане і пяройдзе на другое, то назад вернецца. Непаседа. Старэйшая дзяўчынка гадоў трынаццаці слухала музыку. Малы захацеў піць і праз хвіліну пляшка была парожняй, бо раптам усіх засмажыла. У кожнага дзіцяці і ў маці срэбныя крыжыкі на срэбных ланцужках. Жанчына ўсю дарогу ўсміхалася. Я глядзеў на шчаслівую маці і яе малых і ўспамінаў сваю бабулю Ганну, у якой было восем дзяцей. У бабулі Параскі чацвёра. У маёй маці трое. А ў нас з Людай двое...

На станцыі Дубровы мяне ўжо чакаў з машынай мой сваяк Леанід Жыткевіч і сябра Міхась Казлоўскі. Адразу паехалі ў школу. Будынак вялікі, трохпавярховы. Гадоў дваццаць пяць таму ў школе вучылася 680 дзяцей. У 2010 годзе было 66 вучняў, а цяпер — 54. Праз хвілін дзесяць у актавай зале сабралі школьнікаў. Я выступіў. На развітанне развучыў з дзецьмі двухрадковы верш Алеся Пісьмянкова: «Без марожанага гіну, а з марожаным — ангіна!» На маё пытанне: «Хто з вас піша вершы?» — рукі паднялі дзве дзяўчынкі...

*травень*

Паехалі паглядзець хату, дзе доўгі час жыў паэт Вячаслаў Міхасёнак. Нарадзіўся ён 9 студзеня 1941 года на Пастаўшчыне. Скончыў музычна-педагагічнае вучылішча і Мінскі педагагічны інстытут імя М. Горкага. Настаўнічаў у Дуброўскай школе. З 1988 года жыў у Слуцку, працаваў у Прошчыцкай школе, а затым у СШ № 8 настаўнікам беларускай мовы і літаратуры. Арганізаваў і кіраваў працай грамадскага аб'яднання «Таварыства беларускай мовы» ў Слуцку. Друкаваўся ў часопісах «Маладосць», «Родная прырода», газетах «Літаратура і мастацтва», «Чырвоная змена». Памёр Вячаслаў Васільевіч 13 лістапада 2002 года.

У госці да Вячаслава Міхасёнка нярэдка прыязджаў Уладзімір Караткевіч. Яны сябравалі. Караткевіч нават хацеў купіць каля Дуброў лецішча. І купіў бы, калі б жыў. Хата Міхасёнка пустая. Нехта пэўны час у ёй жыў, а цяпер прыкмет жыцця няма. Усё зарастае травой і бальнягом. Побач з хатай на вуліцы калодзеж. З яго Караткевіч піў ваду. У суседнім доме жыла жанчына, з якой Міхасёнак сябраваў і якая, калі прыязджаў Уладзімір Сямёнавіч, прыходзіла ў госці. Гаворачы пра гэта, Міхась сказаў: «Відаць, недзе ў хаце, якая пустуе, ці на гарышчы ляжаць кніжкі Караткевіча з аўтографамі. Вось бы паглядзець!» Тут жа Леанід Жыткевіч прапанаваў: «Давайце, калі пачне цямнець, злазім і пашукаем».

Дзве гадзіны хадзілі па могілках. Я адведаў сваіх бабулю Параску і дзеда Юзю, прабабулю Магдалену і прадзеда Андрэя, а таксама іншых сваякоў, многіх аднавяскоўцаў і аднакласнікаў...

**х**

*25.05.2014.* У мінулую пятніцу, ходзячы па Дуброўскіх могілках, знайшоў магілу фотамайстра з Пугачоў Ціманава Пятра Ціханавіча і даведаўся, што ён нарадзіўся 1 студзеня 1923 года, а памёр 12 студзеня 1986. Побач пахаваная ягоная жонка Станіслава Данілаўна Ціманава (у дзявоцтве Харук; 6.04.1926—22.11.1995) Шкада, што на помніку няма фотаздымка Пятра Ціханавіча...

*травень*

**х**

*25.05.2014.* З Людай і сябрамі былі ў Дзягільна, дзе пахаваны чынны ўдзельнік паўстання 1830—1831 гадоў, пісьменнік Адольф Янушкевіч (9 чэрвеня 1803—18 чэрвеня 1857). Старыя панскія могілкі мы знайшлі не адразу, бо ніхто з тых жыхароў, у якіх мы пыталіся, пра іх нічога не ведае. Мясціна і помнікі прыгожыя. На жаль, здаецца, пра іх цяпер ніхто не клапоціцца, бо трава і быльнёг добра ўзбуялі і папсаваліся шыльдачкі з надпісамі каля дрэўцаў, што былі летась пасаджаныя вядомымі людзьмі нашай краіны. Пад адным з дубкоў напісана: «Дерево посажено художником Республики Беларусь Ф. И. Янушкевичем».

**х**

*26.05.2014.* Учора ў Мінску скончыўся чэмпіянат свету па хакеі. Пераможцы і іх заўзятары да раніцы святкавалі. Сёння на пачатку другой паловы дня на Мінск лінула залева з градам. Усё смецце і пыл, якія засталіся пасля гасцей з далёкіх замежных краін, былі змытыя. Я ў час гэтага ачышчэння быў на прыпынку на вуліцы Няміга. Град, як кавалачкі лёду, на якім нядаўна гулялі ў хакей, барабаніў больш за паўгадзіны. Вада ўсё падбіралася і падбіралася да маёй схованкі, і хутка я ўжо стаяў у той Нямізе, якая некалі тут вольна цякла і без навальніцы...

x

*27.05.2014.* З дырэктарам выдавецтва «Чатыры чвэрці» Ліліянай Анцух ездзіў у Валожын на прэзентацыю кнігі Марыі Шакун «Жыццёвае поле». З пісьменнікаў былі Генадзь Пашкоў, Уладзімір Навумовіч, Іван Саверчанка, Рагнед Малахоўскі, а таксама літаратурны крытык, карэспандэнтка «ЛіМа» Таццяна Студзенка. За намі ўсю дарогу спяшалася навальніца. Добра, што паехалі раней, бо, як толькі ўвайшлі ў Дом культуры, лінуў такі дождж, што белага свету не стала бачна. Марыя Антонаўна і Валянціна Гіруць-Русакевіч вельмі хваляваліся, што праз дождж не папрыходзяць людзі. І ўсё ж людзей прыйшло шмат і многія віншавалі на сцэне сваю зямлячку з новай кнігай і прыняццем у СПБ. Цяпер у Валожыне жыве чатыры сябры пісьменніцкага саюзу. Марыя Антонаўна атрымала білет пад нумарам 651. Вечарына доўжылася амаль тры гадзіны. За гэты час на вуліцы супыніўся дождж, засвяціла сонейка, нібыта і не было залевы. Марыя Антонаўна са сваёй пляменніцай Ларысай, дзякуючы якой і выйшла кніжка, зрабіла багаты фуршэт, на якім госці і гаспадары змаглі бліжэй пазнаёміцца. І ўсё ж, калі б не Валянціна Гіруць-Русакевіч, якая ўжо амаль трыццаць гадоў апякуе літаб’яднанне «Рунь», якое больш за пятнаццаць гадоў мае званне народнага, не было б ні кнігі ў Марыі Шакун, ні гэтай вечарыны, дзе амаль усе размаўлялі па-беларуску...

*травень*

x

*28.05.2014.* З Уладзіславам Мачульскім і Анатолем Зэкавым ездзіў у Віцебскую абласную бібліятэку на сустрэчу з бібліятэкарамі. Упершыню пабачыў помнік Еўдакіі Лось. Прыгожы. Некаторыя кажуць, што паэтка была не такая. Магчыма, але ўсё ж галоўнае, што помнік стаіць і кожны, хто будзе праходзіць побач, зможа прачытаць радок Еўдакіі: «Я з табой, несмяротны народзе!..» і задацца пытаннем: «Хто такая?»

x

*29.05.2014.* І сёння дажджыла, як увосень. Пасля невялікага адпачынку і вандровак, выйшаў на працу. Тыя ж аўтары і тыя ж праблемы, і я нібы не адпачываў. І толькі калюгі на чорным асфальце, як мокрыя вершы на чорнай паперы, мне душу асвятлялі...

**х**

*30.05.2014.* У сеціве з’явілася інфармацыя: «Сёння раніцай, а 7:30, памёр паэт Генадзь Бураўкін. Апошнія месяцы ён змагаўся з анкалагічным захворваннем. Генадзю Мікалаевічу было 77 гадоў. Ён памёр у сваёй кватэры...»

**х**

*31.05.2014.* Сцены, якія раздзяляюць нас, высокія, але неба вышэй за сцены...

**х**

*31.05.2014.* На пахаваннях сустракаеш людзей, пра якіх думалася, што яны даўно памерлі...



**х**

*31.05.2014.* У голасе кампазітара музыкі не было...

## ЧЭРВЕНЬ

**х**

*1.06.2014.* У парку Горкага ўдзельнічаў у акцыі «Лета з добрай кнігай». Было шмат дзяцей, пісьменнікаў і кніг. Гучала музыка, вершы, шчаслівы дзіцячы смех. Раз-пораз ішоў дождж, ад якога ніхто нікуды не ўцякаў, а наадварот, усе набліжаліся адзін да аднаго, як вершы да музыкі і як музыка да вершаў...

**х**

*1.06.2014.* Сёння празаіку Алесю Асташонку (1.06.1954—6.09.2004) было б 60. Ягоны попел, прывезены з Украіны, ляжыць у сцяне Кальварыйскіх могілак. У другой палове 90-х гадоў перад уцёкамі ад рэкету Алесь па некалькі разоў на тыдзень заходзіў у «ЛіМ» да Барыса Пятровіча і мяне. З пляшкай і без пляшкі размаўлялі пра літаратуру. Алеся хвалявала ягонае месца ў белліце. Штораз ён складаў тройкі, пяцёркі, дзясяткі лепшых сучасных пісьменнікаў. І ва ўсіх сваіх рэйтынгах прысутнічаў сам Асташонак. Мы не пярэчылі, бо сапраўды на той час Алесь быў у ліку тых, чыё імя было на слыху. І вось

прайшлі гады. Няма ні Алеся, ні троек, ні пяцёрак, ні дзясятак лепшых празаікаў, дзе б называўся Асташонак. А на вуліцы ідзе дождж і пад вялікім чорным парасонам на аўтобусным прыпынку стаіць мужчына. І, магчыма, гэта Алесь Асташонак, які вярнуўся з замежжа ў Мінск, каб заўтра ўвечары пайсці на ўрачыстую цырымонію ўручэння прэміі імя Гедройца і ўсім прысутным напомніць, што 1 чэрвеня яму было 60...

**x**

*чэрвень*

*2.06.2014.* З Людай хадзілі на ўручэнне прэміі імя Гедройца. Ішлі без асаблівай ахвоты, бо даўно адчувалі, што кніжкам, якія выйшлі ў дзяржаўных выдавецтвах, нічога не свеціць. Праўда, дзякуючы апытанцы ў «НН», невялічкая надзея на трэцяе месца была. Аднак надзея доўга не жыла. На банкет не пайшлі, каб пераможцы і сябры журы маглі спакойна павячэраць. Але спакою там не было, бо прысутнічаў Вераціла, якога са сцэны Акудовіч назваў бамжом, а Бабкоў вар'ятам. Сяргей іх прымусіў прасіць прабачэння, і яны папрасілі. Вераціла хацеў, каб яны гэта зрабілі публічна, але адэкватнай публікі ўжо не было. Павал Абрамовіч у Фэйсбуку напісаў: «Прэмія Гедройца: выбары без выбару і выбаршчыкаў. Поўная страта чытацкага даверу ўсяго за некалькі гадоў існавання. Выдатныя імёны і кнігі апынуліся ў палоне кампанейшчыны, густаўшчыны, цень ахінуў і іх. Першае месца далі за кнігу, скончаную спехам, па-мастацку моцная толькі першая яе частка, напісаная 13 гадоў таму. Але ў дзень народзінаў здараюцца цуды, сапраўды, і брыдка не прымаць падарункі ад сяброў. Да таго ж абсалютная няздольнасць ладзіць шырокія мерапрыемствы. Можа, чытачам хопіць сумесна чытаць кнігі, можа, пісьменнікам хопіць разам бавіць час? Байкот прэміям, свабоду — літаратуры...»

**x**

*3.06.2014.* Хадзіў дадому да Ірыны Міхайлаўны Быкавай. Пра сустрэчу мы дамовіліся на пахаванні Генадзя Бураўкіна. Занёс кнігу Васіля Быкава «Салдацкі лёс», якая нядаўна выйшла ў «Мастацкай літаратуры». Зайшоў на пару хвілін, а прагаварылі амаль гадзіну. Ірына

Міхайлаўна, трымаючы новае выданне перад партрэтам мужа, некалькі разоў казала: «Васілька, у цябе пры жыцці такіх кніг не выдавалася...»

**Х**

*3.06.2014.* Ірына Міхайлаўна Быкава, узгадваючы пахаванне Генадзя Бураўкіна, сказала: «А я ў царкву не заходзіла. Увесь час прастаяла на вуліцы. Я ж не верніца, каб быць у царкве. А як вы думаеце, гэтыя хлопцы і дзяўчаты, якія баскетбольнага росту, шчырыя вернікі ці не?» — «Яны, відаць, такія ж вернікі, як і я. Сустрэўшы знаёмага чалавека, я з ім вітаюся. Гэтаксама зайшоўшы ў царкву, я хрышчуся. І гэтая моладзь так робіць. У нашым хрышчэнні павага да традыцый, але і ў гэтым ёсць вера. Шчырая, непаказушная вера»,— адказаў я. Выслухаўшы мяне, Ірына Міхайлаўна працягнула свае разважанні: «Адпяваў Генадзя Юрась Залоска. Яшчэ нядаўна ён у Васіля інтэрв'ю браў. А цяпер ён бацюшка. Неяк нязвыкла. На могілках мне не спадабалася. Неяк усё не так было. Нядаўна прыходзіў Міхась Скобла з сынам. Гляджу, а ён на планшэце гуляе ў шашкі. Дык я яму кажу, каб ішоў у другі пакой, там ёсць сапраўдныя шашкі. Хлопчык пайшоў і хутка вярнуўся: «У вас там не ўсе шашкі!» Я паглядзела. Шашкі ўсе. Ён іх няправільна расставіў. Вось у камп'ютары, дзе ўсё віртуальна, ён арыентуецца, а ў рэальным жыцці дзеці не да канца разумеюць, што з імі побач». Гаворачы пра Барадуліна і Бураўкіна, Ірына Міхайлаўна сказала: «Адзін нарадзіўся паэтам, а другі паэтам стаў...» *чэрвень*

На адным са столікаў у пакоі Быкава стаіць партрэт Барадуліна ў жалобным антуражы. Паказваючы на яго, Ірына Міхайлаўна запыталася: «Думала на дзевяць дзён прыбраць. Не прыбрала. Думала на сорак дзён. Не прыбрала. Вось ужо тры месяцы стаіць. Што рабіць падкажыце, Віктар?» — «А няхай стаіць! Ён жа Вам не перашкаджае? Не. Няхай стаіць!» — адказаў я. Ірына Міхайлаўна пагадзілася.

**x**

*4.06.2014.* Прыходзіў паэт-пачатковец. Яму ўжо за трыццаць. Нежанаты. Прапанаваныя вершы я толкам не пачытаў, бо ад абутку хлопца ішоў такі смурод, што хоць ты ў процівагаз хавайся. Я чытаў вершы, а паміж радкамі бачыў адзін з даўніх лістоў, адрасаваны мне, студэнту Літінстытута, ад выпускніка гэтай навучальнай установы Леаніда Дранько-Майсюка. У лісце былі сяброўскія парады, як абувацца, як апранацца, як паводзіць сябе з дзяўчатамі ў Маскве і г. д. Адну з парад я і сёння памятаю: «Трэба штовечар мыць шкарпэткі і ногі, каб не было смуроду!» Хацеў я гэта параіць пачаткоўцу, але сказаў, што ягоныя вершы яшчэ не набылі паэтычнага водару і над імі трэба добра папрацаваць.

*чэрвень*

**x**

*4.06.2014.* Сакавік. Раніца. Праспект Пераможцаў. Усе спяшаліся на працу. А Ён ішоў няспешна, бо ў яго быў дзень народзінаў. Каля аўтобуснага прыпынку «Замчышча» спынілася шыкоўная машына, з якой выйшла прыгожая жанчына гадоў трыццаці. Ён паглядзеў на Яе, а Яна на яго, і яны пайшлі далей кожны сваім шляхам. На другі дзень зноў на тым самым месцы і ў той самы час спынілася машына і яны зноў абмяняліся позіркамі. Бывала, што Ён прыходзіў да прыпынку раней, чым спынялася чаканая машына, і тады Ён чакаў Яе, каб пабачыць, як Яна выходзіць на праспект. Штораз, спыняючы машыну, мужчына, які сядзеў за стырном, цалаваў жанчыну. Яна выходзіла на волю з высока ўзнятай галавой і з задаволенай усмешкай. Часам машына прывозіла жанчыну раней, чым прыходзіў Ён, і тады Ён ішоў на працу сумны, шкадуючы, што не пабачыў Яе. Штораз, сустракаючы Яе, Ён хацеў загаварыць з Ёй, але не асмельваўся. Так праляцелі тры месяцы. Сёння Ён вырашыў, калі пабачыць Яе, то загаворыць. І сёння, як заўсёды, каля прыпынку «Замчышча» спынілася шыкоўная машына. Мужчына, які сядзеў за стырном, пацалаваў жанчыну. Яна выйшла на праспект без паліто (раней штораз Яна была цёпла апранутая), і Ён пабачыў, што Яна цяжарная...

x

*5.06.2014.* У сеціве паглядзеў вечар Канстанціна Кедрава, які праходзіў 29 траўня ў Доме-музеі Андрэя Белага. Паэт у 80-я гады ў мяне быў выкладнікам у Літінстытуце. Гаварыў пра космас, філасофстваваў, і мы, студэнты, якія прыехалі з усяго Савецкага Саюза, а таксама тры чалавекі з Польшчы і два з Манголіі, глядзелі на яго, як на бога. Памятаю неяк увечары да мяне ў інтэрнаце зазірнуў сябра Генадзь Суздалеў, паэт з Чалябінска, і паведаміў, што да яго прыйшоў Канстанцін Кедраў і хоча з намі выпіць. Я гэтай прапанове не абрадваўся, бо адразу падумаў: «Як гэта можна выпіваць са сваім выкладнікам! Мы ж не роўня!» Павагаўшыся, пайшоў да Генадзя, дзе ўжо сядзеў Канстанцін. На стале стаяла батарэя пляшак з віном. Пілі да раніцы, чыталі вершы, філасофствавалі. Ранкам не пайшлі на заняткі. А потым на экзамене Кедраў мне паставіў пяцёрку.

*чэрвень*

x

*6.06.2014.* Пасля таго як стала вядома, хто атрымаў прэмію Гедройца і хто ўвайшоў у тройку, а таксама пайшла інфармацыя пра абразы, якія гучалі са сцэны ў адрас Сяргея Верацілы, у сеціве некаторыя пісьменнікі сталі заклікаць да байкоту гэтай прэміі. Многія падтрымалі. У Фэйсбуку Ігар Бабкоў напісаў: «Мы з Акудовічам — два ідыёты. Хацелі на Гедройцы зрабіць кампліменты Вераціле, да якога ставімся з павагай і любоўю. Замест гэтага з-за няправільна выбраных слоў пакрыўдзілі. Я замест «паэтычнага шаленца» сказаў «вар'ят». Акудовіч хацеў сказаць беспрытульны бадзяга дхармы, а выбраў «бомж». Вераціла запатрабаваў публічных прабачэнняў — абсалютна справядліва. Выбачай, Сяргей...»

x

*6.06.2014.* Міністэрства культуры звярнулася ў выдавецтва з просьбай разгледзець пытанне аб выданні кнігі народнага мастака Беларусі Віктара Грамыкі, якому летась споўнілася 90 гадоў. Не адкладваючы справу ў бяздонную скрыню, я патэлефанаваў Віктару Аляксандравічу. Пасля майго тлумачэння чаго хачу, мастак пацікавіўся, чым займаюся апрача рэдактарства. Пачуўшы, што я паэт,

Грамыка сказаў: «Я ўсё жыццё сябраваў з паэтамі. Яны паўміралі, а я вось яшчэ ўсё жыву. Прыходзьце да мяне ў панядзелак у майстэрню на Сурганава. Паразмаўляем. Я вам пакажу рукапіс кнігі».— «Добра. Прыйду. Я ў вашым доме бываў у майстэрнях Вашчанкі, Альшэўскага...» — «Мая майстэрня з Вашчанкавай была побач. Цяпер я сам хутка буду побач з Вашчанкам...»

**x**

*чэрвень*

*6.06.2014.* Хадзіў у Палац мастацтваў на выставу Дзмітрыя Сарокі. Ён мой зямляк, родам з Крапіўнікаў, што ў кіламетры ад Лягез, дзе я амаль сем гадоў гадаваўся ў бабулі Ганны. Дзмітрый мне аднаму апавёў пра ўсе свае карціны, а іх прадстаўлена каля пяцідзесяці. Тут жа я пазнаёміўся з мастаком Віктарам Нямцовым, які сказаў: «Паводле карцін Дзмітрыя можна вершы пісаць! Яны светлыя, як пагоднае неба...» Ён хваліў работы свайго аднакласніка, але выказаў думку, што, калі б іх было напалову меней, усё б глядзелася нашмат эфектней. Пад час размовы да нас далучыўся скульптар, якога ў свой час вучыў Нямцоў. Пачалі размаўляць пра Міхаіла Савіцкага. Віктар Нямцоў узгадаў: «Незадоўга да смерці Міхаіла Андрэевіча я наведаў яго ў майстэрні. Ён сядзеў на зэдліку і маляваў. Стары, нямоглы. Пасля размовы ён мог бы і сядзець далей, але, калі я сабраўся сыходзіць, Савіцкі ўстаў і, абапіраючыся на кульбачку, правёў мяне да дзвярэй. Неяк раней я запрасіў яго выступіць перад студэнтамі. Сказаў, што прыеду машынаю і забяру. Савіцкі адмовіўся: «Не трэба машыну ганяць сюды-туды. Я трамвайчыкам сам да вас прыеду!» І прыехаў. Ён быў чалавекам, які ведаў сабе цану, але і нікога не напружваў у адносінах да самога сябе». На выхадзе з выставы сустрэліся з мастаком Ягорам Баталёнкам, які, даведаўшыся, хто я, адразу заявіў: «Чытаю! Люблю вашыя вершы і балады!» З добрым настроем мы з Дзмітрыем яшчэ з паўгадзіны пахадзілі праспектам. Дамовіліся, што як будзе час і транспарт, абавязкова з’ездзім у Крапіўнікі і Лягезы, дзе прайшло нашае дзяцінства...

**X**

*6.06.2014.* Хадзіў на выпускную вечарыну Школы маладога пісьменніка «Казкі твайго горада», якая адбывалася ў галерэі «Цэх». Каб не Люда, я не знайшоў бы яе. Галерэя і месца (будынак нейкага прадпрыемства), дзе яна знаходзіцца, мне спадабаліся. Вельмі паэтычна. Было адчуванне, што гэта іншы свет, які жыве сам па сабе і ў яго не кожны трапіць. Нягледзячы на заблытанасць дарогі да «Цэха», сабралася шмат людзей. У час майго дваццацігоддзя такіх школ не было. Былі літаб'яднанні, якімі кіравалі не самыя лепшыя пісьменнікі і якія больш вучылі як піць, а не пісаць. Праўда, і тады можна было нечага карыснага ў літаратуры навучыцца. Аднак многія навучыліся толькі аднаму — напівацца. Цяпер не той час, не тая эпоха і моладзь нашая іншая, лепшая і не такая наіўная, як многія мае аднагодкі трыццаць гадоў таму... *чэрвень*

**X**

*8.06.2014.* Нядзеля. Ездзіў у вёску. Адзін. Увесь дзень думаў: «Хоць бы не было дажджу!» З дзяцінства баюся вясковай навальніцы. І сёння памятаю, як у Лягезах (мне было гадоў пяць) пад час навальніцы ветрам адчынілася вакно і ў хату ўварваліся холад і дождж, а за імі слепкае святло маланак і грукат моцных перуноў. Цётка Аля доўга не магла зачыніць вакно, і мне здавалася, што яна змагаецца з некім нябачным, што захацеў залезці да нас у хату...

Палоў грады. Даўно гэтай справай не займаўся, таму ўяўляў побач з сабой маму, якая некалі вучыла мяне, як гэта рабіць. Потым крыху пакасіў каля хаты.

Трэба плот рамантаваць. Каля яго расце крапіва, нібы дапамагае вартаваць нашую сялібу...

У садзе вецер зламаў старую сліву. І яна, яшчэ жывая, цяпер ляжыць на траве з такім выглядам, быццам кажа: «Не вінаватая я!»

Каля ганка, дзе раней ніколі травы не было, нарасло лопухаў. Прыгожыя, але гэта не тая прыгажосць, якая цешыць вока...

За гадзіну да майго ад'езду захмурэлася і пачало грымець. Пакрапаў дождж і заціх. Хата напоўнілася цемрай. Праз паўгадзіны развіднела, і я пайшоў на аўтобусны прыпынак. Пабачыўшы суседку Ліду Шніп, гукнуў яе,

і яна, кінуўшы свае справы ў агародзе, правяла мяне да аўтобуснага прыпынку. Паўспаміналі ранейшую вёску, дзе мы былі малымі, а Пугачы былі вялікімі. У дарогу Ліда дала вялікую трускалку, якая першай паспела, і я павёз яе ў Мінск, як кропельку пугачоўскага сонца...

**х**

*9.06.2014.* Прыходзіў Адам Глобус. Падараваў свае «Партрэты», што нядаўна выйшлі ў выдавецтве «Галіяфы». Прынёс на перавыданне «Голас крыві брата твайго» Вячаслава Адамчыка і на атрыманне аўтографа маю першую кнігу «Гронка святла», што пабачыла свет у 1983 годзе. Валодзя яе купіў у букіністычнай кнігарні за 45 тысяч. Сказаў, што вельмі любіць першыя кнігі нашага пакалення, бо яны ў многіх з нас, як у Максіма Багдановіча «Вянок»...

*чэрвень*

**ШНІП, ШНАП, ШНАЛІ...**

*9.06.2014.* Патэлефанавала Алена Папова. У яе ў «Мастацкай літаратуры» рыхтуецца да друку кніга, у якой змешчаны раман, дзе ёсць два героі: адзін Шніп-маленькі, а другі Шніп-вялікі. Гэты твор гадоў дваццаць пяць таму друкаваўся ў «Нёмане», і я тады не вельмі быў рады, што Алена Георгіеўна сваім героям дала маё прозвішча. Мінуў час, і гэты раман зноў трапіў да мяне. Я цяпер спакойна ўспрыняў ейных Шніпоў. Сёння ж Алена Георгіеўна папрасіла памяняць «Шніпа» на «Шрупа». «Я супраць! У нас ёсць паэт Павел Шруб. А Шруб і Шруп вельмі сугучныя»,— запярэчыў я. Маё «Няхай будзе, як ёсць!» Папова не прыняла. Памеркаваўшы як і што, сышліся на тым, што «Шніп» заменіцца на «Шнап»...

**х**

*9.06.2014.* А палове на трэцюю я адчыніў дзверы ў пад’езд дома на Сурганава, дзе размяшчаюцца майстэрні мастакоў, і пабачыў перад сабой спіну невысокага старога, які, відаць, толькі што ўвайшоў. Вахцёр, які стаяў пры сваім стале, пацікавіўся: «Вы да каго?» — «Я да Віктара Аляксандравіча Грамыкі!» — адказаў я. Стары, які паціхеньку рухаўся да ліфта, павярнуўся да мяне і, усміхаючыся, сказаў: «Гэта да мяне...» Мы павіталіся і

пайшлі далей. Ліфтам падняліся на шосты паверх. Віктар Аляксандравіч стаў адмыкаць майстэрню, але ў яго не атрымалася гэта зрабіць, і ён даў мне ключы. Зайшоўшы ў памяшканне, я адразу пабачыў стол, а на ім пляшку каньяку і кніжку. Амаль следам за намі прыйшлі жонка мастака і, відаць, іх дачка і прынеслі дзве торбы з ежай. Пакуль мы размаўлялі пра будучую кнігу Віктара Грамыкі, жанчыны накрывалі стол, хоць я і адмовіўся ад пачастунку. На маё «Я ўжо амаль сем гадоў нічога з градусамі не п’ю», жонка мастака запыталася: «А чаму?» — «А таму што большасць, з кім я піў, паўміралі! Я не захацеў паміраць!» — адказаў я. Неўзабаве мы засталіся ўтраіх. П’ючы гарбату, Віктар Аляксандравіч паведаміў, што зусім нядаўна аддаў 40 карцін у Оршу. Майстэрня крыху пабяднела. Даведаўшыся, што я з Валожынскага раёна і маё дзяцінства прайшло ў Лягезах, што паблізу Яршэвіч, мастак радасна заўсміхаўся: «Я добра ведаю гэтыя мясціны. Я там часта бываў на практыцы са студэнтамі!» Разгарнуўшы каталог і паказаўшы рэпрадукцыю карціны «Беларусы» (1954), Віктар Аляксандравіч сказаў: «А гэта жыхары Яршэвіч! Магчыма, гэта вашыя сваякі...» Узгадалі рачулку Яршоўку, на якой у свой час было каля сарака млыноў. Разглядаючы карціны на сценах, я заўважыў у куце абраз. Хацеў запытацца пра яго гісторыю, але тут жа ў куце каля карцін на падлозе пабачыў аўтамат. «Гэта муляж! Мне яго зрабілі, каб, малюючы, я памеры зброі не парушыў...» — сказаў Віктар Аляксандравіч. «Цяпер вы малюеце?» — пацікавіўся я. «Малюю. Але ўжо не шмат. Вочы дрэнна бачаць».— «Вы хораша намалявалі партрэты Патрыяршага экзарха Беларусі Паўла!» — я ўстаў з-за стала і падышоў да мальбертаў. «Гэта не мае работы. Гэта Эмы!» — пачуўшы адказ мастака, я папрасіў Эму Мікалаеўну паказаць яшчэ нешта са сваіх карцін. Яна прынесла нацюрморты. Вельмі выразныя і паэтычныя. Гаворачы пра будучую кнігу Віктара Грамыкі, якому пайшоў 92-і год, мне ўвесь час хацелася сфатаграфавацца з ім на памяць, але я гэтага не зрабіў, бо не захацеў быць падобным да тых, хто хадзіў і да Быкава, і да Барадуліна, і да Бураўкіна, каб з імі, нямоглымі, сфатаграфавацца. Кніга народнага мастака Беларусі Віктара Грамыкі, якая, вельмі спадзяюся, выйдзе ў наступным годзе і яе пабачыць аўтар, будзе называцца «Свет и тени ушедшего века»...

*чэрвень*

## ДОМА Ў БАРАДУЛІНА

*10.06.2014.* Апошні раз дома ў Рыгора Барадуліна быў у 1985 годзе, калі прыходзіў развітацца са сваім Настаўнікам, сабраўшыся на вучобу ў Маскву. Пра гэта ўзгадаў сёння, ідучы да дому Рыгора Іванавіча з Ганадам Чарказянам. У маім партфелі была кніга Барадуліна «Каўчэг», якую я ўклаў і якая толькі што выйшла ў серыі «Паэзія XX стагоддзя». На вуліцы каля дома нас чакала Валянціна Міхайлаўна. Прывітаўшыся, мы абняліся, і 1985 год і 2014 злучыліся дарогай, якой я ішоў да дома Барадуліна. З Рыгорам Іванавічам пасля Масквы мы нярэдка сустракаліся ў выдавецтве, дзе паэт працаваў, на калідорах рэдакцый і ў Доме літаратара. Шмат разоў мой Настаўнік запрашаў мяне з Людай у госці, але, на жаль, мы так і не схадзілі да яго, адкладаючы сустрэчу на лепшыя часы. Аднак лепшых часоў не прыйшло. І вось сёння, увайшоўшы ў барадулінскі пад'езд, я адчуў сябе тым белабрысым сарамлівым хлапчуком з вучнёўскім сшыткам вершаў. Гэтым разам у мяне быў не мой сшытак, а кніга Настаўніка. Што скажа Валянціна Міхайлаўна? А яна, узяўшы барадулінскі «Каўчэг», пацалавала і, прыціснуўшы яго да грудзей, сказала: «Мой Грышка...» Увайшоўшы ў кватэру, Валянціна Міхайлаўна адразу завяла нас у барадулінскі кабінет і пасадзіла мяне ў крэсла Барадуліна. Памянуўшы Рыгора Іванавіча, мы сталі ўспамінаць тыя часы, калі на ўваходных дзвярах паэта вісела падкова. «Падковы той даўно няма, нехта скраў...» — сумна паведаміла Валянціна Міхайлаўна і стала распытваць пра дзяцей, працу, бацькоў. Нашу ідылію парушыў званок у дзверы. Прыйшоў Сяргей Шапран, які прынёс кніжку Васіля Быкава «Мёртвым не баліць», што выдалі без купюр. Ён, відаць, не чакаў, што ў Валянціны Міхайлаўны будуць такія госці. Далучыцца да нас Сяргей адмовіўся і хутка пакінуў кватэру. Да мяне падсеў барадулінскі кот. Гаспадыня сказала, што ён, відаць, чакае ад мяне таблетку валяр'янкі, якую часта атрымліваў ад Рыгора Іванавіча, калі той так сядзеў, як я цяпер сяджу пры пісьмовым стале. Узгадваючы Бураўкіна, Валянціна Міхайлаўна паведаміла: «Даведаўшыся, што Барадулін памёр, жонка Бураўкіна ўсклікнула: "Ён і тут апярэдзіў Генадзя". У кабінеце майго Настаўніка, як і трыццаць

гадоў таму, на сценцы партрэт маці, партрэты Купалы і Караткевіча. З'явіўся партрэт Быкава. У кніжнай шафе шмат знаёмых кніг. Усё, здаецца, як і было даўным-даўно, але і не ўсё, няма самога Гаспадара...

**x**

*14.06.2014.* Быў запрошаны ў Маладзечна на XIV Нацыянальны фестываль беларускай песні і паэзіі, але не паехаў. З сястрой Валяй, яе мужам Віцем і іх дачкой Надзяй працаваў у Пугачах. Кожнаму з нас было што рабіць. Я касіў. Бачыў сябра свайго дзяцінства Тоніка Руткевіча. Ён, відаць, хацеў падысці да мяне і папрасіць грошай на выпіўку (доўга стаяў на вуліцы і глядзеў, як я кашу), але не падышоў. Сашка Балотнік падышоў бы, але ён ужо сем гадоў як памёр... *чэрвень*

Абкашваючы кусты агрэсту, узгадаў радок са свайго юнацкага верша: «Пікі вострыя ў агрэсту дзеля самаабароны...»

У траве чорныя жабы, нібыта злепленыя з пачарнелай мокрай лістоты, што апала мінулай восенню...

На плоце нашай паштовай скрынкі даўно няма. А мне яна нярэдка сніцца напоўненая газетамі (выпісвалі «Звязду» і раёнку «Працоўную славу»), а таксама лістамі ад сяброў і паведамленнямі пра грашовыя пераводы з рэдакцый...

Шпакоўні апусцелі, і шпачкі некуды паляцелі...

У наш двор увайшла суседчына курыца. Раней бы прагналі, а цяпер яна, прыгожая, як родная...

Пад вокнамі, пасаджаныя мамай, кветкі красуюцца і сваімі вочкамі глядзяць самотна на мяне, спадзеючыся, што не скашу іх...

Вяртаючыся ў Мінск, заехалі на Ракаўскія могілкі да бацькоў. Пастаялі, памаўчалі. Дрэвы зялёныя, помнікі чорныя, трава мокрая...

**x**

*15.06.2014.* Алесь Квяткоўскі прачытаў маю «Тутэйшую тугу». Пытаюся, што спадабалася. «Усё!» — чую шаблонны адказ і просьбу, каб даў яшчэ што пачытаць. З новых кніжак нічога няма. Назбіраў стос газет. Алесь апавёў пра адкрыццё выставы ў Гомелі і заезд у Гарошкаў, дзе начаваў у хаце Анатоля Сыса. На маё пытанне:

«Ці не зараслі там могілкі?» — сябра адказаў: «Не! Тамара даглядае. Усё чысценька, як на апусцелым пісьмовым стале...»

**х**

*16.06.2014.* Уладзіміру Федасеенку 88 гадоў. Думаю, што мала хто ведае такога празаіка, але ён ёсць. За сваё жыццё ён выдаў пяць кніг. На днях выйшла шостая, куды ўвайшлі ранейшыя тры раманы пра вайну. Сёння Уладзімір Канстанцінавіч патэлефанаваў: «Віктар, вялікі табе дзякуй за кнігу. Я скора сыходжу. Ты мне такі цудоўны помнік зрабіў! Дзякую!» — «Гэта не я! Гэта выдавецтва!» — запярэчыў я і хацеў яшчэ сёе-тое сказаць нашаму аўтару, але ён паклаў слухаўку.

*чэрвень*

**х**

*17.06.2014.* Мы столькі часу абувалі сябе і адзін аднаго ў лапці, што цяпер у добрым абутку ходзім, як у лапцях...

**Х**

*17.06.2014.* Хадзіў у Нацыянальны мастацкі музей на выставу аднаго фотаздымка Юрыя Іванова «Лятучка». Не пайшоў бы (не магу ніяк ачуняць ад працы ў вёсцы), калі б не быў асабіста запрошаны. А знаёмыя мы яшчэ з 1987 года, калі я ўладкаваўся на працу ў часопіс «Беларусь» у аддзел культуры. У той самы год і быў зроблены здымак «Лятучка», і тады ж ён друкаваўся на вокладцы часопіса. На 75-годдзе Юрыя Сяргеевіча народу назбіралася паўнюткая зала. Многія стаялі. Эдуарду Ханку не сядзелася. Ён сюды-туды швэндаўся, быццам хацеў, каб усе яго пабачылі і прашапталі: «Гэта Ханок...» Адных народных артыстаў было каля дзясятка. У ліку першых выступіў Анатоль Кашапараў, які спецыяльна прыехаў з Масквы. Праспяваў дзве песні з рэпертуара мулявінскіх «Песняроў». Я сядзеў з мастаком Алегам Карповічам, а перад намі быў Ігар Лучанок, які раз-пораз паварочваўся да нас і каментаваў, што прамаўлялася ў мікрафон. Імпрэзу вёў рэжысёр Барыс Луцэнка, і ўсё, што адбывалася, было як спектакль, дзе ўсе прысутныя былі артыстамі ягонага тэатра...

**ВАЛОЖЫНСКІЯ МЫ!**

*18.06.2014.* Мне было дваццаць гадоў, калі ў выдавецтве «Мастацкая літаратура», прыходзячы да Рыгора Барадуліна, пазнаёміўся са сваім земляком Хведарам Чэрнем (10 чэрвеня 1939 — 16 сакавіка 1983). Сёлета Хведару было б 75. На жаль, здаецца, ніхто пра ягоны юбілей не ўспомніў. Раней Хведарава жонка збірала кампанію і мы ездзілі ў Вішнева ў Дом культуры, дзе праводзілі вечарыну, прысвечаную паэту. Сёлета ўсё ціха. Відаць, і жонка Хведара Мікалаевіча ўжо не мае сіл і здароўя, каб адзначаць юбілей мужа. І сёння, успамінаючы свайго земляка, не магу не працытаваць свой верш, прысвечаны яму, што быў напісаны 12 траўня 1982 года:

*чэрвень*

*Радзімая ваколіца,*
*Зялёная гара.*
*А сонца торбай коціцца,*
*Паўнюткаю дабра.*
*І нам у шчасце верыцца,*
*Як верыць нам сяло.*
*Сарока побач верціцца:*
*— Вам падзялю дабро.*
*Вачамі вокан квецяцца*
*У вішняках дамы:*
*— Святло у нас не дзеліцца,*
*Valожынскія мы!*

**х**

*18.06.2014.* Схаладала. У шуме вечаровага дажджу мне пачуўся шум Балтыйскага мора...

**х**

*19.06.2014.* Быў на адкрыцці філіяла Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры — Музей-дача Васіля Быкава. Ён знаходзіцца ў пасёлку Ждановічы-6 па адрасе: вуліца Вінаградная, 62.

Калі б я дабіраўся сам па сабе, то наўрад ці знайшоў бы музей. І хоць ён блізка ад шашы і каля яго шмат лецішчаў, але там навокал лес. Прыгожы паэтычны лес, у якім можна заблукаць і дарога дамоў будзе доўгай...

Да лецішча Быкава, што на Вінаграднай, ішлі напачатку вуліцай Бярозавай, потым Садовай...

На адкрыццё Музея Васіля Быкава прыйшло каля ста чалавек. Ірыны Міхайлаўны Быкавай не было. Яна перад нашым прыездам паехала на Маскоўскія могілкі, дзе а 15 гадзіне ля магілы Быкава збіраліся тыя, хто ўдзельнічаў у пахаванні Васіля Уладзіміравіча...

Калі я ўвайшоў у Музей-дачу Васіля Быкава, мне адразу ўспомніўся Музей Томаса Мана, дзе мінулым летам мы былі з Людай. Такія ж невялічкія пакойчыкі, некаторыя вельмі падобныя да пакойчыкаў Томаса Мана...

На лецішчы Быкава растуць высокія бярозы, на якіх трымаецца неба не толькі над лецішчамі, што побач...

*чэрвень*

На тэрыторыі лецішча падалей ад будынка стаіць мангал. За яго пачарнелага, ужо ўзялася ржа. Гледзячы на яго, падумалася: «Гэта тое, што за семдзесят гадоў засталося ад падбітага нямецкага танка...»

На лецішчы Васіля Быкава было добра, як у Васіля Быкава. Здавалася, што гаспадар запрасіў гасцей і, пасля таго як пабачыў, што з'явілася людзей нашмат болей, чым планавалася, сам паехаў у бліжэйшую краму, і ён вось-вось вернецца, і святкаванне ягонага дня народзінаў працягнецца ўжо разам з ім...

Ад'язджаючы ад Музея-дачы Васіля Быкава, праз вакно аўтобуса пабачыў, што на соснах чорныя шышкі, а пад дрэвамі ўтравелы жоўты пясочак...

**x**

*20.06.2014.* У чорных лебедзяў белыя птушаняты...

**x**

*21.06.2014.* З сястрой Валяй і яе дзецьмі Сяргеем (вазіў на машыне) і Надзяй ездзілі ў Валожын рэгістраваць зямлю, якая нам засталася ад бацькоў. Ужо год займаемся спадчынай, а заканчэння спраў яшчэ не бачна. І ўсюды чэргі, і ўсюды трэба аплаціць. Заехалі ў Пугачы. Траву праз тыдзень трэба будзе зноў касіць...

Ідучы з Людмілай праспектам, сустрэлі скульптара Івана Міско. У яго толькі што быў касманаўт Пётр Клімук, а цяпер ён спяшаўся на цягнік, каб паехаць на лецішча. Запрашаў у майстэрню. Дамовіліся на наступны тыдзень. А мы з Людмілай пайшлі ў кавярню, адзначылі публікацыю. Вяртаючыся дадому Нямігай, Людміле

раптам загарэлася зайсці ў краму, дзе прадаецца вопратка. Я застаўся на вуліцы. Пакуль стаяў, прыдумаў радкі:

*Жонка пайшла ў краму*
*пакінуўшы мяне на вуліцы*
*каб не перашкаджаў нікому*
*і я прастаяў цэлую гадзіну*
*на вуліцы*
*як сабака*
*але не прывязаны да сметніцы.*

На прыпынку «Гарадскі Вал» раптам сярод людзей з'явілася чорнавалосая жанчына гадоў пяцідзесяці. Уся ў чорным. На нагах чорныя боты на высокіх падэшвах і з вялікімі металёвымі заклёпкамі на абцасах. На плячы жанчыны сядзеў крумкач, які ўвесь час спрабаваў узлезці ёй на галаву. Праз хвіліну пасля таго, як з'явілася жанчына, над нашым прыпынкам закружлялі, каркаючы, вароны. Людміла, гледзячы на жанчыну з крумкачом, сказала: «Гэта ведзьма...»

*чэрвень*

**x**

*22.06.2014.* Тое, што маё прозвішча Шніп і мяне завуць Віктар, я даведаўся толькі ў першым класе Пугачоўскай васьмігодкі. Раней я быў проста Віця Нінін, Віця Толеў...

**x**

*22.06.2014.* Прыснілася кнігарня. Вялікая, вялікая. Светлая. Я прыйшоў на прэзентацыю сваіх «Сабачых гісторый». Зала паўнюткая Гражданаў, а Сабакі стаяць на вуліцы. Усе п'юць каву. Прашу, каб мне далі. Кавы няма, скончылася. Я сядаю, каб падпісваць кнігі. Да мяне прысаджваюцца Ніколь Кідман і Брэд Піт. Я падпісваю ім «Сабачыя гісторыі», і чую ад іх прапанову зняць фільм у Галівудзе паводле гісторыяў. І толькі я хацеў сказаць, што не згодны, як падбег да нас нейкі Граждан і стаў цалаваць Ніколь. Брэд раззлаваўся і, зняўшы чаравік, стрэліў з яго ў Граждана. Злажыўся ў мяне і я... прачнуўся. На вуліцы было светла. Шостая гадзіна раніцы. Я вызірнуў з балкона ў двор. Ад нашага пад'езда ад'язджала чорная машына, у якой сядзела ўся ў белым Ніколь Кідман.

**х**

*23.06.2014.* Сяргей Вераціла ў інтэрв'ю адной газеце сказаў: «Можа быць, калі б не літаратура, то павесіўся б». Адразу ж узгадаліся чатыры пісьменнікі, якія павесіліся і якіх я добра ведаў, а таксама бацькавы словы: «Вешаюцца толькі дурні!»

**х**

*24.06.2014.* Рассыпаныя каля пад'езда чарніцы як ведзьміны слёзы...

**х**

*чэрвень*

*25.06.2014.* Разбурылі стары дом. Цэлым застаўся толькі ўнітаз...

**х**

*25.06.2014.* У нас дома ў Пугачах вечна былі кватаранты. Амаль ніхто ў вёсцы не пускаў да сябе жыць чужых людзей, а да мамы прыязджаў старшыня калгаса з просьбай, і яна згаджалася. Хто толькі не жыў у нас! І студэнты, і будаўнікі, і кіроўцы, і камандзіровачныя начальнікі, і мастакі. І вось цяпер у нашую апусцелую хату напрасіліся два будаўнікі. Мы з сястрой іх пусцілі: «Няхай жывуць! Толькі каб хату не спалілі!»

**х**

*26.06.2014.* З друкарні прынеслі сігнал шостага тома Уладзіміра Караткевіча. У ім змешчаны раман «Леаніды не вернуцца да Зямлі», які раней выдаваўся пад назвай «Нельга забыць». У томе ёсць фотаздымкі часоў вучобы Караткевіча на Вышэйшых літаратурных курсах Літінстытута ў Маскве (1958—1960). Здымак, на якім Уладзімір Караткевіч з Германам Стулпанам стаяць на ганку інтэрната, прынёс мне ўспаміны пра маю вучобу на ВЛК (1985 — 1987). Тады пры ўладзе быў Міхаіл Гарбачоў. Былі перабудова, галоснасць. Раз на тыдзень у завозны дзень мы хадзілі ў кнігарню, што на Кузнецкім мосце, і куплялі кнігі, якія яшчэ нядаўна былі забароненыя. І цяпер пры слове «вучоба» мне заўсёды ўспамінаецца 8 верасня 1986 года, калі да мяне прыйшла Людміла, у якой сярод твораў, якія яна мне ўпершыню чытала, быў верш «Леаніды», прысвечаны Уладзіміру Караткевічу...

**х**

*26.06.2014.* Зранку заходзіў Ігар Пракаповіч з Пастаў. Паразмаўлялі пра школы. Бяда. Дзяцей усё меней і меней. Пазней прыходзіў Франц Сіўко з Віцебска. У яго свае праблемы. Адзін і другі прыехалі на святкаванне 25-годдзя ТБМ. Чатыры гады з 1991 па 1995 год я працаваў адказным сакратаром у газеце «Наша слова». Тады ТБМ узначальваў Ніл Гілевіч. Наклад «Нашага слова» дасягаў 10 тысяч, а Ніл Сымонавіч патрабаваў дваццаць і страшыў: «Усіх пазвальняю, калі не будзе росту падпіскі!»

**х** *чэрвень*

*27.06.2014.* На Вайсковых могілках з нагоды 72-й гадавіны смерці Янкі Купалы ў рамках правядзення Купалаўскіх дзён адбыліся «Жальбіны». Я прыйшоў на паўгадзіны раней. Наведаў Кузьму Чорнага, Паўлюка Труса, Валянціна Таўлая, Міхася Клімковіча, Веру Лютаву, Алеся Гурло, Уладзіміра Агіевіча, Алеся Ліпнёвага. Шкада, да Эдуарда Самуйлёнка не дайшоў — не хапіла часу. Каля Янкі Купалы сабралася даволі шмат людзей. Праўда, амаль усе знаёмыя. Ксёндз Віталь Драздоўскі, вікарый архікатэдральнага касцёла Найсвяцейшай Панны Марыі, правёў набажэнства за супакой душы Яна Луцэвіча. Актрыса і кіраўнік тэатра аднаго акцёра «Зніч» Галіна Дзягелева прачытала некалькі твораў Купалы. Потым выступілі М. Пазнякоў, Н. Гальпяровіч, М. Шабовіч, М. Башлакоў, А. Бутэвіч і У. Скарынкін. Перад чытаннем верша я сказаў: «Дзе цэнтр Беларусі? Адныя кажуць, што ён у Пухавіцкім раёне. Іншыя кажуць, што ў іншым месцы. А цэнтр Беларусі тут, дзе пахаваныя Янка Купала і Якуб Колас, і іншых цэнтраў для беларусаў няма і не можа быць!..» Мае словы спадабаліся Міхасю Шавыркіну і, калі б ён мне пра гэта не сказаў, я цяпер бы іх не ўспомніў. Калі мерапрыемства скончылася, да Анатоля Бутэвіча падышоў мужчына гадоў сарака, у шортах, які, відаць, не чуў, як выступалі іншыя, і сказаў: «Вы вельмі добра гаварылі па-беларуску! Спасіба!»

**X**

*28.06.2014.* З Людай і ейнай маці ездзілі на Чыжоўскія могілкі. Прыбралі магілу Людзінай бабулі Чэслаўскай Пелагеі Максімаўны (4.10.1903—27.01.1986). Могілкі зараслі высокай травой, але бачна, што на Радаўніцу людзі наведвалі сваіх родных. І цяпер шмат наведвальнікаў. Сярод магіл, а іх тут тысяч трыста, сябе адчуваеш спакойным і ўсё, што адбываецца па-за могілкамі гэта, як на іншай планеце, дзе існуе сваё жыццё. Тут сваё жыццё. І людзі каля магіл, як мерцвякі, якія ажылі і прыбіраюць вечнае жытло. Вяртаючыся ад бабулі, пайшлі іншым шляхам, а не тым, што заўсёды хадзілі. Прайшлі каля магіл, дзе пахаваныя цыганы. У іх помнікі, як у цароў. Праўда, сярод цыганоў шмат баронаў. Штораз, прыязджаючы на Чыжоўскія могілкі, думаю, каб знайсці хоць адну магілу, дзе пахаваны пісьменнік. І сёння маё жаданне споўнілася. Знайшоў Сымона Блатуна (10.05.1937 — 2.04.1970). На помніку два радкі паэта: «Бывайце гоні, рэкі, паплавы. Я адлятаю ў свой далёкі вырай...»

*чэрвень*

## ЧЫЁ «ДЗІРАВАЕ НЕБА»?

*29.06.2014.* Напісаўшы верш «Тут, відаць, панад намі дзіравае неба...» і змясціўшы яго ў Фэйсбуку, я атрымаў ад Ніны Аксёнчык паведамленне: «Пан Шніп — сталы, выдатны паэт. Ён проста павінен быў, як патрабуе этыка, паставіць 1 над «дзіравае неба» ў сваім вершы і даць унізе спасылку — мой невялічкі, але глыбока філасафічны верш (ужо класіка) «Гляне ў неба адзін». Наш вялікі маральны аўтарытэт Мікалай Матукоўскі цалаваў мяне за гэты і іншыя вершы з першай кнігі «Споведзь арабіны» ў 1995 г. са слязьмі радасці на вачах: «Ніна, гэта ж наша класіка. Наш Пушкін» і да таго падобныя добрыя словы». Словам, я скраў у Ніны Аксёнчык выраз «дзіравае неба». Але ж яшчэ ў 1945 годзе сапраўдны класік беларускай літаратуры Пімен Панчанка пісаў у «Іранскім дзённіку»: «Ад ярасці гром разрываўся, /Нібыта на нейкай вайне быў. / Цярпеў я, цярпеў — раззлаваўся:/ «Заткніце дзіравае неба!» Выразам «дзіравае неба» карысталіся мае бацькі, дзядулі і бабулі. Для мяне выраз «дзіравае неба» такі ж хадавы, як «хмарнае неба», «зорнае неба»...

**х**

*30.06.2014.* Сніліся Пугачы. Напачатку я зайшоў у хату, каб паглядзець, як жывуць два кватаранты, якіх мы (наяве, а не ў сне) з сястрой пусцілі пажыць. Увайшоў і бачу, што ў хаце жыве не два чалавекі, а дзесяць. Кругом на падлозе разасланыя коўдры і пакладзеныя падушкі. Праўда, нікога дома не было. Потым я ішоў вёскаю да нашай хаты. У садзе пабачыў бацьку. Не першы раз ён мне сніцца ў садзе. Бацька нешта казаў, але я не пачуў. Зразумеў, што запрашае дадому. Падышоў бліжэй да плота. У агародзе расце бульба. Бульбоўнік паедзены каларадскімі жукамі. Узгадаліся радкі Барадуліна: «Трэба дома бываць часцей». Увайшоў у двор і... прачнуўся.



ЛІПЕНЬ

**х**

*1.07.2014.* Ізноў дождж, як увосень. У двары бязлюдна. Машыны пад дажджом стаяць, як сабакі, якіх выгналі з кватэр...

**х**

*2.07.2014.* Ён ішоў, як крот у тумане...

**х**

*3.07.2014.* Снілася, што я прыехаў у Пугачы. Хата падрамантаваная. Чыста і светла. І нікога дома...

**СВЯТА**

*3.07.2014.* Пасля абеду, а чатырнаццатай гадзіне, мы з Людай сустрэліся з сябрамі, каб разам схадзіць у Батанічны сад і палюбавацца ружамі. І тут маеш! — праспектам Незалежнасці пайшла вайсковая калона, якая рыхтавалася да ўдзелу ў святочным парадзе. Глядзелі амаль гадзіну. Я так зблізку бачыў танкі і іншую вайсковую тэхніку толькі ў маленстве, калі мае Пугачы ўваходзілі ў зону, дзе праходзілі манеўры. Удзень тады не было страшна, а вось уначы, калі танкі вёскаю ездзілі сюды-

туды, было страшнавата. Бацька суцяшаў: «Праз пару дзён да Варшавы дойдуць, а там і вайне канец!» Паглядзеўшы на вайсковае ўзбраенне, пайшлі ў Батанічны сад любавацца ружамі. Нахадзіліся, наглядзеліся. Вяртаючыся дахаты, мы з Людай выйшлі з метро на вакзале. Ідзём да тралейбуснага прыпынку, паблізу якога бачым хлопцаў, якія прадаюць кветкі, і тут раптам да Люды падыходзіць адзін з хлопцаў і, дорачы ёй ружу, кажа: «Віншую са святам!»

**x**

*4.07.2014.* З сябрамі ездзілі ў вёску. Грады травой не зараслі. На вуліцы толькі дзеці і куры. Зрэдку праедзе

*ліпень*

машына, а так ціха, як перад буранам, а дакладней — перад жнівом. Вяртаючыся ў Мінск, заехалі на Ракаўскія могілкі да бацькоў. Некаторыя магілы схаваліся ў траве і цяпер крыжы стаяць, як у зялёным полымі інквізіцыі...

**x**

*6.07.2014.* За папярэднія тры выхадныя дні добра стаміўся ад актыўнага адпачынку і сёння ехаў у Вязынку без асаблівага энтузіязму. Ехаў, бо абяцаў, што паеду, а таксама даўно дамовіўся сустрэцца на свяце паэзіі з Міхасём Казлоўскім і яшчэ некалькімі землякамі, якія, на жаль, не прыехалі. А можа, і яны былі, а мы проста не сустрэліся сярод людзей, якіх сёлета было вельмі шмат. Каля тысячы, а мо і болей. Юра Сянкевіч з Аляхновіч быў з кніжкай Рублеўскай «Авантуры студыёзуса Вырвіча». Спадзяваўся атрымаць аўтограф ад Людмілы. Пасля майго выступу да мяне падышоў малады мужчына, які прыехаў у Вязынку, каб пазнаёміцца са мной. Цяпер я ведаю мастака Юрыя Каралевіча, якога ў сваю чаргу я пазнаёміў з Міхасём Казлоўскім. Паслухаўшы выступы некалькіх паэтаў і фальклорных гуртоў і паклікаўшы з сабой у дарогу Навума Гальпяровіча, мы машынай Юрыя вярнуліся ў Мінск...

У Вязынку ад музея Купалы прыехалі на пачатку адзінаццатай гадзіны. Сустрэлі нас маладзечанцы, як заўсёды, хлебам і соллю, і народнымі песнямі...

Пад час выступаў каля помніка Купалу чыгункаю праходзілі таварнякі, але, што трэба было пачуць, усе пачулі. Галоўнае — трапляць выступоўцу ў рытм перастуку колаў...

Увайшоў у купалаўскую хату, як у паэзію самога Янкі Купалы...

Можна было набыць карціны, народныя вырабы, цацкі, паесці і папіць. Прадаваліся і кніжкі. Кніжак дваццаць...

Усе былі маладыя і прыгожыя, як вяночкі купальскія і песні беларускія...

Алесь Камоцкі хадзіў з вялікім чорным футаралам, у якім ён да пары да часу трымаў музыку...

Шмат было людзей у вышыванках. Прыгожа, святочна. Некаторыя дзяўчаты ў вышыванках былі падобнымі да Паўлінкі, а хлопцы — да Максіма Багдановіча...

Гэтым разам не было Уладзіміра Содаля, які раней сядзеў каля студні і прадаваў свае кніжкі. Хварэе...

*ліпень*

У канале каля Вязынкі купалася моладзь. Узгадалася, як мы з Людай даўным-даўно ў адзін з сонечных дзён прыехалі з нашай двухгадовай дачкой у Вязынку. Хацелі, каб Вераніка з намі паплавала ў канале, а яна, пабачыўшы, што хочам яе занесці ў ваду, падняла такі гвалт, нібыта мы сабраліся яе тапіць. Тады Вераніка не пакупалася...

У Мінск паехаў у разгар свята паэзіі. Вярнуўся дамоў, а душа яшчэ там, у Вязынцы, ад якой да маіх Пугачоў дзесяць кіламетраў...

**x**

*7.07.2014.* Прайшоў дождж і пад ліпамі з’явіўся россып жоўтага лісця. Іду праз сквер, як праз восень, якая яшчэ будзе...

**x**

*8.07.2014.* На 87-м годзе жыцця памёр былы прэзідэнт Грузіі Эдуард Шэварднадзэ. Са СМІ даведаўся, што ў яго ёсць дачка Манана. Адразу ж узгадалася лета 1987 года. Мне Саветам Міністраў Грузінскай ССР была прысуджаная Усесаюзная прэмія імя Уладзіміра Маякоўскага. Пасля таго як я прыляцеў у Тбілісі на ўручэнне гэтай узнагароды, на другі дзень да мяне, як лаўрэата, зранку была прыстаўленая камсамолка Манана, з якой я пасля абеду ўскладаў вянок да помніка Леніну. Хто яна была такая? Я не ведаў. Адно ведаў, што яна лепшая камсамолка Грузіі. Цяпер падумалася, што тая Манана, магчыма, была Мананай Шэварнадзэ...

x

*9.07.2014.* З зялёнай руды, што на дрэвах, падаюць, выплаўленыя сонцам, залатыя кроплі восеньскай лістоты...

x

*10.07.2014.* Месяц таму сваяк Леанід Жыткевіч з Навасёлак прывёз мне на працу мёду. Цяпер штодзень са слоіка бяру лыжачку пачастунку і выпіваю з вадой, і адразу ўспамінаецца Леанід Станіслававіч, а разам з ім ягоная жонка Глафіра, потым мае бацькі, родныя Пугачы, аднавяскоўцы, дзяцінства, кветкі ў лузе, пчолы... І так адбываецца штодзень, і мне здаецца, што ўсё, што ўспамінаецца, жыве ў мёдзе з маіх родных мясцін...

*ліпень*

x

*11.07.2014.* У сярэдзіне васьмідзясятых гадоў у адным раённым цэнтры завёўся злодзей, які абкрадаў заможных людзей. Гады тры бандыта не маглі злавіць. Трапіўшы ў рукі міліцыі, рабаўнік паказаў свой склад, куды хаваў усё нарабаванае. Гэта быў танк, які стаяў на пастаменце ў цэнтры горада...

x

*12.07.2014.* Сніўся інтэрнат Літінстытута. Я ў Маскву прыехаў з летніх вакацый. Гляджу, а ўсе мае аднакурснікі маладыя і незнаёмыя. Праўда, усе ведаюць мяне і цікавяцца, дзе я столькі гадоў адсутнічаў. Я не ведаю, што адказаць і, успомніўшы, што трэба ісці станавіцца на вайсковы ўлік, ад страху прачынаюся...

x

*12.07.2014.* Нарадзіўшыся ТУТ, мы НЕДЗЕ ТАМ памерлі...

x

*13.07.2014.* У вялікай краме жаночага адзення, пакуль ягоная жонка бегала па буціках, ён сядзеў на лавачцы і глядзеў на дзяўчат і маладзіцаў, што шнуравалі сюды-туды, як на подыуме. Калі іх не было, ён глядзеў на манекенаў...

**х**

*14.07.2014.* У майго бацькі быў малодшы брат Славік 1944 года нараджэння. У 60-я гады, правучыўшыся два курсы ў тэатральна-мастацкім інстытуце на акцёра, ён паехаў ва Украіну працаваць шахцёрам на Данбасе. Там пазнаёміўся з украінкай Жэняй. Ажаніўся. Завочна скончыўшы Горацкую акадэмію і стаўшы аграномам, мой дзядзька завербаваўся ў Амурскую вобласць на мяжу з Кітаем. Там сям'я вырасла да сямі чалавек. Старэйшы сын дзядзькі ажаніўся і застаўся жыць на Амуры, а дзядзька з сям'ёй вярнуўся ва Украіну. На пачатку 80-х, атрымаўшы пенсію па інваліднасці (нешта было кепска з сэрцам), ён некалькі разоў прыязджаў у Пугачы да майго бацькі і да іншых сваякоў. Я тады вучыўся ў Маскве і з дзядзькам не мог сустрэцца. У 1992 годзе дзядзька Славік быў у Мінску і прыходзіў да мяне ў госці. Быў з цяжарнай дачкой. Неяк атрымалася, што мы больш не сустракаліся і не ліставаліся. У 2000 годзе, а можа, пазней, дзядзька памёр. На сённяшні дзень у мяне ва Украіне жывуць стрыечныя сёстры, браты і пляменнікі. Некалькі тыдняў таму, будучы ў Пугачах, я перабіраў маміны нататнікі. У адным знайшоў адрас дзядзькі Славіка: «Ворошиловоградская обл., Лутугинский р-н, пос. Белое...» Варашылаваградская вобласць цяпер Луганская. Сёння ў сеціве прачытаў, «што ўкраінскія войскі вызвалілі ад тэрарыстаў пасёлак Белае...»

*ліпень*

**х**

*17.07.2014.* На асфальтаванай сцяжыне праз сквер з'явіліся намеценыя купкі апалай лістоты, як залатое кратавінне...

**х**

*19.07.2014.* З сястрой Валяй і яе дзецьмі Сяргеем і Надзяй ездзілі ў Валожын. Урэшце афармілі бацькоўскую зямлю ў Пугачах...

Жыта ў нашым раёне яшчэ не жнуць. Яно на палях як жоўтыя марскія затокі, дзе васількі як блакітны бурштын...

Буслы стаяць на буслянках, нібыта з іх вышыні спрабуюць пабачыць ці далёка яшчэ восень...

У Пугачах да кароўнікаў навазілі кацёлак сена ў белых загортках. Гледзячы на іх велізарную гару, я сам сабе сказаў: «Пік камунізму!»

За два тыдні грады зараслі, нібыта век ніхто іх не палоў. Я пакасіў каля хаты траву, а сястра з дачкой прапалолі грады. Прыбралі ў хаце. Праз адчыненае вакно заляцеў матыль, патрапятаў каля абразоў і паляцеў на вуліцу...

У агародзе нехта амаль цалкам абабраў чырвоныя і чорныя парэчкі. Ну і на здароўе!

Вяртаючыся ў Мінск, заехалі да бацькоў на Ракаўскія могілкі. Паблізу з'явіліся дзве свежыя магілы. У адной пахаваны саракавасьмігадовы мужчына. Памёр чатыры дні таму...

*ліпень*

**x**

*20.07.2014.* Снілася родная хата. Я ў садзе. Над вёскай у вечаровым небе лятуць белыя гусі. Мне хочацца, каб яны апусціліся каля мяне. Двое падлятаюць. Гусі белыя-белыя, прыгожыя. Я паспрабаваў пра нешта запытацца ў іх, а яны замахалі крылламі і паляцелі назад у неба. І мне так стала сумна-сумна, што я ажно прачнуўся...

**x**

*21.07.2014.* Стаміўся, як вавёрка ў коле...

**x**

*22.07.2014.* Раніцай да мяне ў кабінет завітала худзенькая жанчына пенсійнага ўзросту. На галаве белая панама. Павіталася і пачала з успамінаў, што ў гэтым доме раней было выдавецтва «Юнацтва», якое друкавала прыгожыя кнігі для дзяцей. Выслухаўшы жанчыну, я запытаўся, што яна хоча ад нас, і расказаў нашыя патрабаванні да аўтараў. Праз хвілін дзесяць я заўважыў, што мая госця слухае мяне, і, па-мойму, не разумее, што я кажу. «Адкуль вы?» — запытаўся я. Жанчына нічога не адказала і толькі спалохана заміргала. «Вы з Мінска?» — перапытаў я. «Не! Я прыехала з Масквы!» — прамовіла жанчына, нервова перабіраючы на каленях лёгкую квяцістую сукенку. І я перайшоў на рускую мову. Мая госця заўсміхалася і хутка пагадзілася са мной, што ёй не варта было ехаць у Мінск,

каб тут даведацца, што і мы не адразу друкуем аўтараў, якія, кінуўшы журналістыку, вырашылі стаць дзіцячымі пісьменнікамі...

**х**

*25.07.2014.* Тыдзень таму памёр Павел Саковіч. Вельмі харошы быў чалавек. 73 гады. Шчыры, светлы, удзячны. Я з ім блізка пазнаёміўся ў «ЛіМе», куды ён прынёс свае вершы. Гэта былі апошнія гады мінулага стагоддзя. Тады рэдактарам працаваў Алесь Пісьмянкоў. Пал Палыч прыйшоў да нас сумны. Ён вярнуўся з пахавання роднага брата, якога вельмі любіў. Пасля таго мы часта сустракаліся. Пал Палыч нярэдка прыходзіў да нас прыканцы працоўнага дня. Адчыняў свой чорны дыпламат, у якім для жанчын былі шакаладкі і цукеркі, а для мужчын пляшка гарэлкі і бляшанка кількі або шпротаў, і казаў: «Давайце адпачнём!» З Пал Палычам было добра. І ў свята, і ў будзень, і ў працы, і ў дарозе, і на выступе. Некалькі тыдняў таму, скардзячыся на здароўе і дактароў, якія паўгода ніяк не маглі вызначыць, што за хвароба прычапілася да яго, Саковіч аддаў у выдавецтва рукапіс кнігі: «Вось упершыню сабраў усё, што напісаў прозай. Можа, надрукуеце...»

*ліпень*

**х**

*25.07.2014.* У суседа грае музыка. Пакуль што не пахавальная...

**х**

*25.07.2014.* Поўня як кансерва...

**х**

*26.07.2014.* Максім з Жэняй паехалі ў Феадосію. У Крым...

**СВЯТА**

*27.07.2014.* З Людай удзельнічалі ў свяце паэзіі «Ракуцёўскае лета»...

Ад Музея Багдановіча да Ракуцёўшчыны ехалі аўтобусам. Чалавек сорак. Люда, агледзеўшы пасажыраў, сказала: «Гэтым разам толькі тры сівыя галавы...» Адна была мая...

Па традыцыі спыніліся каля помнага знака, на якім пазначана, што ўлетку 1911 года ў Ракуцёўшчыне жыў Максім Багдановіч. Побач у жыце раслі васількі. Мы іх набралі і паклалі да валуна...

Гадоў дзесяць таму згарэла некалькі музейных пабудоў. Застаўся падмурак, на якім можна адбудаваць страчанае. Гледзячы на яго, падумалася: калі пачнуць аднаўляцца будынкі, то можна будзе сказаць, што ў нас справы зрушыліся ў лепшы бок...

Відаць, праз гарачыню гэтым разам на свяце паэзіі людзей было меней, чым у мінулыя разы. І ўсё ж было каму выступаць і было каму слухаць...

*ліпень* У Ракуцёўшчыну з лецішча, што паблізу Краснага, прыехаў мой зямляк — дацэнт кафедры агульнага землязнаўства і гідраметэаралогіі БДУ Павел Каўрыга са сваім калегам па працы Уладзімірам Малашэнкавым (наш зямляк, з Вішнева). На пачатку 1980-х гадоў Уладзімір хадзіў у раёнку на літаб'яднанне «Рунь», якім я ў той час кіраваў.

Прыехаўшы электрычкаю, праз паўгадзіны да нас далучыўся яшчэ адзін наш зямляк Анатоль Блашчыцын. Пасля таго як мы з Людай выступілі, паслухаўшы яшчэ крыху вершаў і песень, мы паехалі ў госці да Паўла Антонавіча, каб паглядзець ягоны музей.

Ля ганка — жорны, якім каля 100 гадоў. На першым паверсе дома — кошыкі, усялякія драўляныя дзежачкі, лубкі. На другім паверсе розныя прасы. Тут жа і вупраж, хамут, шархуны, рубанкі, габэлькі, розныя варштаты: і ткацкі, і прадзільны, і такарны. Многія экспанаты дасталіся Паўлу Антонавічу ад дзеда, Аляксандра Вікенцьевіча Ермалковіча, майстра на ўсе рукі. Дзед Саша, як ласкава называе яго Павел Каўрыга, будаваў дамы, клаў печы, шыў боты, рабіў брычкі. Пражыў 102 гады.

Шмат у музеі прылад на апрацоўку лёну. Тут і пранік, якім адбівалі зярняткі ад снапа, і мяліца, на якой мялі льнотрасту, і часалка, і калаўроты. Самы старажытны экспанат музея — сячкарня — стаіць у садзе. Яна была зробленая ў Лондане ў 1675 годзе. Побач з сячкарняй — прыгожая брычка, таксама работа дзеда Сашы.

Жонка Паўла Антонавіча Людміла Васільеўна з добрым густам і ўмелымі рукамі. Усе пакоі дома ўпрыгожаныя ейнымі пано з саломкі, вышытымі краявідамі, дарожкамі і сурвэткамі.

На лецішчы Паўла Антонавіча і Людмілы Васільеўны была іхная ўнучка Ева. Дзяўчынцы яшчэ няма трох гадоў. Маю Люду малая адразу палюбіла і стала зваць цёцяй, а мяне доўгі час баялася (бо з вусамі і ў акулярах) і называла мяне дзедам. Потым, калі ў садзе ўсе гулялі з мячыкам, Ева прызнала і мяне. Праўда, раз-пораз адбягалася і казала: «Вой, баюся-баюся-баюся...»

Дзякуючы Паўлу Антонавічу ў Мінску мы былі а пятай гадзіне. Усю дарогу ў машыне ён апавядаў пра ўлюбёную працу і пра дзяцей, многія з якіх, трапіўшы ў студэнты да Паўла Антонавіча, пачынаюць пісаць вершы...

**x**

*ліпень*

*29.07.2014.* Прысніўся пусты невялікі пакой. Я з ломам. Каля сцяны ўзарваў некалькі шырокіх дошак і пабачыў пад падлогай рудую лакіраваную труну, а на ёй вялікі вянок. Узарваў падлогу ў другім месцы і там пабачыў труну, але ўжо прасцейшую і з меншым вянком. Пасля ўзарваў дошкі ў трэцім месцы, а там гумовы надзіманы кракадзіл. Я дастаў яго і кінуў на падлогу, і адразу прачнуўся. Было а трэцяй гадзіне ночы...

**x**

*30.07.2014.* Купляю лекі і паводжу сябе так, каб маладая сімпатычная аптэкарка не падумала, што я купляю ўсё гэта сабе...

**x**

*30.07.2014.* Без акуляраў сказ «Советское образование было лучшим в мире» я прачытаў, як «Советское образание было лучшим в мире»...

**КУПАЛА І НОВЫ ДВОР**

*31.07.2014.* На сайце часопіса «Маладосць» з'явіліся матэрыялы краязнаўчага даведніка «Літаратурныя мясціны Беларусі», што былі сабраныя і апрацаваныя Адамам Мальдзісам і Дзмітрыем Крывашэевым. Мяне найбольш зацікавілі родныя мясціны — Валожыншчына. Прыемна было прачытаць інфармацыю, што ў трох кіламетрах ад маіх Пугачоў у Новым Двары: «Тут бываў Купала Янка ў Рыгора Грычана — каваля панскага

бровара («Каваль Грэгуж»). Тут дзеці Грычана ўпершыню чыталі «Жалейку» Купалы, якую напачатку прыносіла ў дом гувернантка панскіх дзяцей, а пазней гэтую ж кнігу з гонарам вазіў з сабою дзядзька Антоні, бо яна была з аўтарскім надпісам.

Янка Купала паспрабаваў уладкавацца памочнікам вінакура на бровар да навадворскага пана Валатковіча. Падцягнуты, інтэлігентнага выгляду малады чалавек (а пасада памочніка вінакура зводзілася да фізічнай працы) не даспадобы прыйшоўся пану, і ён адмовіў словамі: “Ды пан больш да полькі, чым да зацiркі”». Магчыма, Янка Купала бываў і ў Пугачах...

*ліпень — жнівень*

**х**

*31.07.2014.* Кнігі, як і дрэвы, паміраюць стоячы...

**х**

*31.07.2014.* Патэлефанаваў Алесь Квяткоўскі: «Прыйдзі да мяне ў майстэрню. Паглядзі, якую я царэўну-жабу намаляваў!» — «Жаба голая?» — запытаўся я. «Голая!» — адказаў Алесь. Праз гадзіну быў у майстэрні. Сапраўды, царэўна-жаба голая...

## ЖНІВЕНЬ

**х**

*1.08.2014.* Ужо амаль дзесяць дзён гарачыня за 30 градусаў. У гэтыя дні да мяне са сваімі творамі не прыйшоў ніводзін аўтар...

**х**

*1.08.2014.* Сто гадоў як пачалася Першая сусветная вайна. У той час яна называлася Еўрапейскай вайной. У 1916 годзе ў раёне Крэва загінуў мой прадзед Янка Шніп (улан царскай арміі). Там і пахаваны ў брацкай магіле...

**х**

*2.08.2014.* Ад спёкі з Людай уцяклі ў Лошыцу. Апошні раз там разам шпацыравалі гадоў пятнаццаць

таму. Дзеці нашыя былі яшчэ малыя. Ездзілі паглядзець на рыцарскі турнір. Недзе ў нас ёсць фотка, дзе наш малы Максім стаіць каля рыцара і трымаецца за меч. Тады ён сказаў: «Буду рыцарам!»

На ўваходзе ў парк прадаюцца марозіва, квас і вада. Чаргі аніякай. З яблынь абсыпаюцца яблыкі, з дрэў пажаўцелае лісце. Хочацца разуцца. Чым глыбей у парк, тым болей людзей. Хто на лаўцы, хто пад дрэвамі, хто проста прагульваецца. Старых няма...

Сустрэлі некалькі пар маладых. Нявесты ў белых, як са снегу, сукенках. Жаніхі ў чорных гарнітурах, як маладыя чычыкавы. Пазіруюць для фатографаў. То абдымаюцца, то цалуюцца. Пацалаваўшыся, адзін жаніх доўга вусны выціраў. Ад памады, а можа, дзяўчына яго ўкусіла? Словам, не парк, а фотасалон... *жнівень*

Завіталі ў музей. Сані, брычкі, вазы, прасы, самавары, гаршкі, патэльні, рондалі, талеркі, адзенне. Манекены, якія, відаць, яшчэ нядаўна сядзелі ў крамах, цяпер тут апранутыя, як паны і паненкі ў даўнія часы. Ёсць на што паглядзець. За намі хадзіла музейшчыца. Апавядала, што тут ёсць і чаму яно тут ёсць. А мо баялася, каб чаго не скралі...

Пасля музея пайшлі да вады. А там паўсюль моладзь, якая тут, проста ў парку, гуляе вяселлі. Шашлыкі, памідоры, агуркі, шампанскае, віно, гарэлка. І не трэба ніякіх рэстарацыяў...

Вада ў рацэ, як вылітая вон гарбата...

Схадзілі да рэштак млына, пабудаванага ў 1901 годзе паводле праекта І. Каселя. На цэгле свежыя надпісы кшталту: «Здесь были...» Сцены агароджаныя слупкамі з ланцугом. З боку ракі ланцуг ужо нехта скраў.

Увайшлі ў рэшткі млына. Над намі высокае неба, як вада, якая чакае свайго часу, каб зноў круціць жорны...

Раней у парку столькі валуноў не было, як цяпер. Яны так раскладзеныя сярод дрэў і яблынь, што здаецца, гэта камяні муроў вялікага-вялікага замка, якія прараслі з зямлі...

X

*3.08.2014.* Ганарар вялікі, як фіга...

## ЧАРНАСЛІЎ

*3.08.2014.* У нашым садзе чарнасліву не было, і я да школы не ведаў, што ёсць такія слівы. Ідучы ў першы клас дарогаю паўз чужы сад, я заўважыў каля плота маладое дрэўца з незвычайнымі пладамі. Некалькі дзён я спыняўся каля саду, але не насмельваўся сарваць сліву, каб пакаштаваць. І калі сарваў сліву, адразу каля мяне з'явіўся гаспадар, які так адчытаў, што я пасля некалькі гадоў баяўся блізка хадзіць каля ягонага саду. З таго часу ў мяне з'явілася мара, каб у нашым садзе рос чарнасліў. На жаль, мая мара так і засталася марай. І сёння, купіўшы кілаграм чарнасліву, я ўзгадаў сад, у якім рос чарнасліў, і дзядзьку, які яго вартаваў ад вясковых дзяцей. І сёння няма ні таго дзядзькі, ні таго саду...

*жнівень*

## Х

*4.08.2014.* Еду аўтобусам з працы. Стаю. Непадалёку сядзіць п'яны пачарнелы ад штодзённай спёкі мужык гадоў сарака з пакрыўленым носам і падбітым вокам. Паблізу яго стаіць маладая прывабная жанчына ў кароткай спадніччы. П'яны глядзіць на красуню так, нібыта ён малады Ален Дэлон, а я на іх, як на карціну «Няроўны шлюб»...

## ГАРБУЗОК

*4.08.2014.* Пачатак лета. Я перайшоў у другі клас. Вакацыі. З сябрамі Тонікам Руткевічам, Сашкам і Віцькам Балотнікамі каля плота сялібы дзядзькі Бурага гуляем у карты. У Пугачах пасля вяртання ад бабулі Ганны я жыву другі год. Тут шмат для мяне новага і цікавага. Гуляючы ў карты, я заўважыў, што за плотам, толькі працягні руку, у траве ляжыць маленькі, сантыметраў дзесяць, зялёны гарбузок. Ён мне так спадабаўся, што я вырашыў, калі скончым гуляць і я застануся адзін, то абавязкова яго сарву і прынясу маме. Нагуляўшыся ў карты, я, каб ніхто не бачыў, сарваў гарбузок і прынёс дамоў. «Дзе ўзяў?» — адразу ж запыталася мама. Я прызнаўся. Мама, насварылася на мяне і загадала аднесці гарбузок туды, дзе ён рос. Паплакаўшы, я паклаў гарбузок на месца і доўгі час прасіў Бога, каб ён дапамог яму прырасці да сцяблінкі, на якой ён нарадзіўся...

## ГАРАЧЫНЯ І ВАДА

*5.08.2014.* Такая гарачыня, як сёлета, бывала і ў маім маленстве. Я тады з сябрамі цэлымі днямі хадзіў у адных майтках ад сажалкі да сажалкі. З цягам часу многія вадаёмы перасыхалі, і мы лезлі ў брудную ваду каля дарогі, дзе часта, уцёкшы з пашы, стаялі каровы. Цяпер у тую сажалку мяне ніхто калом не загнаў бы, а тады ж мы разам з каровамі сядзелі ў вадзе, як жабы...

## Х

*5.08.2014.* Холадна там, дзе нас няма...



## ГАРАЧЫНЯ

*5.08.2014.* Узгадаўся ліпень 1987 года. Я ў Тбілісі на свяце паэзіі Уладзіміра Маякоўскага. Гарачыня! Пад сорак. Увечары нас прывезлі з гор, дзе мы жылі на турбазе імя Барыса Дэніладзэ, на чыгуначны вакзал, каб ехаць у Кутаісі. Пачало цямнець. Запалілі святло, і праз некалькі хвілін на вакзал апусцілася зялёная хмара саранчы. Ідзеш, а пад нагамі, як снег зялёны, хрум-хрум-хрум. Падышоў цягнік. Увесь залеплены саранчой. Ды і на нас саранчы, як на бяздомных сабаках блох. У вагонах — як у печы. Усё гарачае, не даткнуцца. Мы параспраналіся да майткоў. Сядзім, як у лазні. Хлопцы ў адным вагоне, дзяўчаты ў другім. Ехаць кіламетраў 150, а сунуліся амаль восем гадзін. Спрабавалі заснуць, ды не змаглі. Прыехалі раніцай. Толькі выйшлі з цягніка, як зайграла музыка і да нас з кветкамі кінуліся піянеры. Мяне, як новага лаўрэата прэміі імя Уладзіміра Маякоўскага, пад рукі падхапіла начальства і павяло даваць інтэрв'ю рэспубліканскаму тэлебачанню. Не памятаю, што я тады казаў, але памятаю, што была гарачыня...

## Х

*6.08.2014.* Урэшце парадаваў дождж. Невялікі, але з грымотамі. У дзяцінстве ў вёсцы, калі падоўгу стаяла сухмень, я чуў ад людзей, што трэба забіць жабу, тады і дождж пральецца. Мне вельмі хацелася дажджу, але я жаб не забіваў...

**x**

*6.08.2014.* Пасля дажджу вяртаюся з працы. Каля крамы «Алеся» ідзе народны артыст Расціслаў Янкоўскі. Ён з мыліцай, а ў другой руцэ кавенька. Артыст спыніўся, прысеў на лаўку, як у тэатры ў ложу, і стаў глядзець на вуліцу перад сабой, як на вялікую тэатральную сцэну, якой і я прайшоў, як масоўка...

**x**

*7.08.2014.* Штораніцу, едучы на працу, выходжу на прыпынку, што насупраць Кафедральнага сабора. Спыняюся каля прыступак, што вядуць да Храма, і дзякую Богу за тое, што Ён ёсць. Амаль штораз побач спыняюцца мужчыны і жанчыны, якія, гледзячы на Храм, прыпальваюць цыгарэты...

*жнівень*

**x**

*7.08.2014.* Часам хочацца жыць, як у рамантычных фільмах, дзе ўсё добра сканчаецца...

**x**

*8.08.2014.* Маладзік як палавінка залатога пярсцёнка...

**x**

*9.08.2014.* Дзякуючы Пятровічам, з Людай з'ездзілі ў Пугачы. За тры тыдні, што не быў у вёсцы, травой сяліба не зарасла і грады не засохлі...

У хаце цёпла, як было пры маме...

Кветкі каля хаты, пасаджаныя мамай, усё красуюць і красуюць, нібыта вечныя...

Не ўсе яблыкі, апаўшы на зямлю, схаваліся ў траве. Над імі восы як залатыя анёлы...

Каля плота сумуе крапіва. Толькі адна яна, калі гаспадароў няма дома, абараняе і абараняецца...

На павуцінцы вісіць вішнёвы лісток, як маятнік гадзінніка, які спыніўся...

Спалохаў жабу ў траве, і сам спалохаўся...

Агуркі на градзе вялікія і пажаўцелыя, як напоўненыя спёкай і сонцам...

На плоце гаршчок, як шалом Дон Кіхота, які тут без нас начаваў...

Суседзяў на вуліцы не відаць, нібыта ўсе пайшлі на фронт (на жніво)...

Каларадскі жук паўзе ганкам, нібыта цяпер ён тут гаспадар...

Ірвём цыбулю. Яна не супраціўляецца. А морква і буракі яшчэ добра трымаюцца за родную зямлю...

На комін села незнаёмая птушка, нібыта на цэнтр зямлі...

Шкельца ў траве як ільдзінка, што не растала з зімы, калі памерлі мама і тата...

Заехалі на Ракаўскія могілкі. Дзякуй Богу, новых магіл няма...

У метрах дзесяці ад бацькоўскіх магіл у траве каменны помнік шаснаццацігадоваму хлопцу, які памёр у сакавіку 1908 года. Далей таксама старыя пахаванні, але яны зараслі травой і асіннікам... *жнівень*

Жытняе поле. Буслы, як брыгадзіры з закладзенымі за спіну рукамі, ходзяць за камбайнамі...

Прыехалі дамоў, як з неба спусціліся...

**х**

*10.08.2014.* Прачнуўся ад крыку чаек за вакном. Вызірнуў на вуліцу. Мінск...

**х**

*11.08.2014.* Калі п’янку нельга адмяніць, то яе трэба ўзначаліць...

**х**

*12.08.2014.* Вяртаючыся праз дождж дахаты, пачуў радкі:

*Пасля спякоты дождж прыйшоў,*
*Як за вайной прыйшла вайна,*
*З якой не прыйдзе хтось дамоў,*
*Бо не апошняя яна,*
*Як гэты дождж, які ідзе,*
*Змываючы твае сляды.*
*Нам кепска, як усё ў вадзе,*
*Нам кепска ж гэтак без вады.*
*І мокры прыйдзеш ты дамоў,*

*Прашэпчаш, гледзячы з вакна:*
*«Пасля спякоты дождж прыйшоў,*
*Як за вайной прыйшла вайна...»*

**Х**

*13.08.2014.* Прыходзіла сястра Анатоля Сыса Валянціна. Атрымала даўні ганарар за кнігу брата: «Цяпер не трэба будзе з сястрой складацца на юбілей Анатоля». Раней яна ўсё ніяк не магла прыехаць з Берасця. Цяпер у Мінску ў дачкі, глядзіць унучку, якая пойдзе ў другі клас. Я падпісаў Валянціне свайго «Пугачоўскага цырульніка». Яна прачытала прысвячэнне і заплакала...

*жнівень*

**Х**

*13.08.2014.* Хадзіў на Вайсковыя могілкі. Сёння Дзень памяці Якуба Коласа. Было шмат людзей. Некаторыя прыйшлі дзякуючы абвестцы, што прагучала па радыё...

Усе, хто прыйшоў, паклалі кветкі да помніка Якубу Коласу, а сын Якуба Коласа Міхась Канстанцінавіч да Янкі Купалы...

Увесь час, пакуль людзі збіраліся, на могілках гудзелі газонакасілкі. Праз пару хвілін, як пачаліся выступы, газонакасілкі заціхлі. Тры касцы ў метрах пяцідзесяці прыселі і сталі назіраць, што адбываецца каля помніка...

Было тэлебачанне. Было некалькі фотакарэспандэнтаў і журналістаў. Было светла, і ўсе мы, прысутныя, былі ў цэнтры Беларусі...

У метрах дзесяці ад людзей, якія слухалі выступоўцаў, стаяў заслужаны артыст Беларусі, залаты голас легендарных «Песняроў» (так напісана ў сеціве) Анатоль Кашапараў. Ён чакаў пакуль зробіць сваю справу фотамайстар Юрый Іваноў...

Быў Уладзімір Содаль. Ён, па-мойму, цяпер зусім кепска бачыць. Як ён дабраўся — не ведаю. Збіраў у прысутных пісьменнікаў аўтографы ў факсімільнае выданне «Дудкі беларускай» Багушэвіча. Калі ўсе разыходзіліся, да Уладзіміра Ільіча падышоў хлопец і прапанаваў давесці яго дахаты...

Яшчэ доўга чалавек дзесяць стаялі з сынам і ўнукамі Якуба Коласа і размаўлялі пра жыццё-быццё. І толькі тады, як мы крыху адышліся ад помніка, зноў загулі газонакасілкі...

**x**

*14.08.2014.* Прыдворныя паэты і прытворныя...

**x**

*14.08.2014.* Раніца. Дождж як пачатак патопу. Стаю на прыпынку на Нямізе. Вуліца павольна ператвараецца ў раку. Спыняецца патрэбны мне аўтобус, і я еду ў ім, як у чоўне дзеда Мазая мокры заяц...

**x**

*14.08.2014.* Пасля сустрэчы з сястрой Анатоля Сыса Валянцінай захацелася пачытаць вершы паэта. Узяў «Лён», што выйшаў у «Кнігазборы» ў 2006 годзе. Начытаўшыся паэзіі, стаў праглядаць артыкулы і інтэрв'ю. Адказваючы на пытанне Міхася Скоблы: «На вокладцы тваёй кнігі змешчаны фотакалаж — Сыс углядаецца ў Сыса. Што ты бачыш, паглядзеўшы на сябе збоку?» Анатоль сказаў: «Што я бачу... Сыс — гэта нарцыс. Так мяне заўсёды рыфмуюць. Але я не нарцыс. Прайшоў той час, калі я быў маладым і вельмі раўнівым у паэзіі. А цяпер прачытаю чые-небудзь вершы, прыкладам, Віцькі Шніпа, ён сто вершаў за год піша, прачытаю й калі знайду хоць адзін радок прыгожы, дык бегаю, усіх сяброў сваіх клічу й хвалюся: во, як Віцька напісаў! Быццам бы сам напісаў, я крэпка рады. Раўнівасць у мяне прайшла ў паэзіі. Ужо не той узрост. Во, мне 26 кастрычніка споўнілася 44 гады». Сёлета Анатолю Сысу было б толькі 55 і ўжо амаль дзевяць з паловай гадоў як ён адпачывае ад нас...

*жнівень*

**x**

*16.08.2014.* Сёння ў сястры Валі дзень народзінаў. Перабіраючы старыя паштоўкі, знайшоў віншаванне з 35-годдзем Людмілы ад М. С.:

*Святло засвяціла біблейскае,*
*нібыта з батлейкі-райка...*
*Паэтка Людміла Рублеўская*
*на свет вызірае з яйка.*
*Ўсе геніі выйшлі ab ovo —*
*хто з смехам, а хто і праз ўсхліп...*
*А Люда спытала сурова:*
*— А дзе пугачоўскі мой Шніп?*

*Сказаў — не абмовіцца б горай.*
*Ты, Люда, ўсім нам — як радня.*
*Штоноч табе зычу Вікторый,*
*другіх перамог жа — штодня!*

**5 ліпеня 2000 г.**

**х**

*16.08.2014.* Рэдакціраваны попел...

**х**

*16.08.2014.* Глядзеў серыял пра Уладзіміра Маякоўскага. Добра, што гучала шмат вершаў. Дрэнна, што застрэліўся. Не люблю, калі фільм, як і жыццё, сканчаецца смерцю...

*жнівень*

**х**

*19.08.2014.* Вечар. Збіраемся ў вандроўку па Еўропе, якая пачнецца заўтра. Зазвінеў мабільнік. Гляджу — тэлефануе дзядзька Шура з Пугачоў. Адразу ж у сэрцы і галаве трывога: «Што там здарылася?» Побач з нашай хатай каля плота на вуліцы прарвала калонку, і вада цячэ ў наш сад і да фундамента хаты. Дзядзька патурбаваў і сястру Валю, каб мы тэрмінова тэлефанавалі ў Валожын у аварыйку. Праўда, калонка калгасная, а не нашая, але, адным словам, зноў вада і зноў нам бяда. Адчуванне такое, што сама хата, застаўшыся без гаспадароў, прыцягвае да сябе няшчасце...

## ДЗЕНЬ ПЕРШЫ. МІНСК. ВАРШАВА. АЛАМОЎЦ (ЧЭХІЯ)

*20.08.2014.* Перад вандроўкай спаў вельмі кепска. Прачнуўся пабуджаны буднікам а чацвёртай гадзіне. Узгадаўся сон. Я на працы ў сваім кабінеце. Сяджу пры стале, на якім пуста. Зайшлі дзве жанчыны. Адна паклала перада мной невялічкі аркуш паперы з вершам і запыталася: «Як вы маглі гэта не надрукаваць?» Я пачаў тлумачыць сваю пазіцыю. Зазвінеў тэлефон (насамрэч — мойараў буднік), і я прачнуўся...

Люду пабудзіў а палове на пятую. Хуценька сабраліся. Выклікалі таксоўку. На месца збору прыехалі амаль першыя. Аўтобус польскі і кіроўца паляк. Наша куратарка

з ім размаўляе па-польску. Пайшоў дробны дождж, які не змыў з мяне сонны настрой. Выехалі па графіку. Праз хвілін дваццаць многія ў аўтобусе заўважылі, што едзем па Мінску ў бок Гародні, а нам трэба Берасце...

За горадам то дождж, то сонца. Каля дарогі на 143 кіламетры да Брэста пабачыў на полі некалькі сотняў буслоў...

Да Берасця спаў двойчы. Адзін раз кіламетраў дваццаць, а другі каля трыццаці. Люда праспала кіламетраў сто пяцьдзясят...

Аб адзінаццатай гадзіне прыехалі на мяжу. Нашая куратарка Святлана папрасіла, што, калі памежнікі будуць пытацца, куды едзеце, каб мы адказвалі: «Едзем у Варшаву!» — «І нашым так казаць?» — «І нашым!» *жнівень*

Некалькі разоў прасіў кіроўцу адключыць вентылятар, бо вельмі зімна. Не паслухаўся, Граждан...

Першым чалавекам-еўрапейцам, якога я пабачыў (раней ніколі не быў далей за Берасце), для мяне стала жанчына гадоў сарака на ровары...

Вароны і ў Польшчы чорныя...

Да гатэля яшчэ ехаць 10 гадзін...

Чапля ў балоце каля дарогі нібыта акамянелая...

Бульба на палях выбраная, збожжа зжатае. Гаспадары...

Сям-там каля дарогі быльнёг. Ён такі ж, як і ў нас...

Узгадаліся чатыры танкісты і сабака...

Каля дарогі велізарная купа аўтамабільных колаў. Сабраныя, як на Майдан...

Два кіроўцы — Станіслаў і Лешак. Усю дарогу гучна гавораць, як польскае радыё...

Невысока праляцелі два ваенныя самалёты. Узгадалася Украіна...

На палях шмат кукурузы. Яна як малады зялёны лес...

Да Варшавы 100 кіламетраў...

У кожным мястэчку касцёлы. Самыя высокія і самыя прыгожыя пабудовы...

Па Польшчы еду больш за дзве гадзіны, а буслоў нябачна...

Ля дарогі вятрак. Узгадаліся Нарач і Літва...

Кіроўцы ўсю дарогу гучна размаўляюць пра свае справы, нібыта ніхто іх не разумее...

Кукурузы болей, чым яблынь...

Варшава. Прадмесце Мінска цікавейшае. З вакна бачу цэнтр горада, дзе стаіць шматпавярховік (падарунак Сталіна), як у Маскве МДУ...

Вісла. Вада жоўтая. Паблізу стадыён...

Праязджаем каля аэрапорта «Шапэн». Як ноты, узлятаюць самалёты...

Мы едзем польскім аўтобусам і, відаць, усе, хто бачыць нас, думаюць, што мы палякі...

Нечага падумалася, што Польшча — краіна кукурузы...

*жнівень*

На сажалках за Варшавай ні гусей, ні качак. Спадзяюся, што жабы вядуцца...

Стары зграбае сена каля ляску. Вельмі падобны да майго памерлага бацькі...

Урэшце сады. Іх шмат, як кукурузы...

На небакраі ветракі, як прывіды кукурузныя...

Ветракі ў кукурузе і сонца над імі, як медны тазік Дон Кіхота польскага...

На полі спакаваная салома, як саламянае польскае даміно...

Амаль 500 кіламетраў праехалі і аніводнай прыгожай палячкі не пабачыў...

Едзем дарогаю на Катавіцы. На гары 15 ветракоў, як 15 крыжоў, што клічуць да сябе...

У мястэчках некаторыя паляць у печах і дым з комінаў распаўзаецца па палях, як будучая павуціна бабінага лета...

Польшча зарастае канадскім залаталіснікам...

А палове на 11-ю прыехалі на мяжу з Чэхіяй. Усе будынкі асветленыя. Прыгожа і таямніча. Пастаялі хвілін дзесяць і паехалі далей у гатэль...

Стаміўся. Апошнія гадзіны чатыры ў галаве гучала пытанне: «І чаго мяне паперла халера за тысячу кіламетраў?»

## ДЗЕНЬ ДРУГІ. ЧЭХІЯ. АЎСТРЫЯ

*21.08.2014.* Начавалі ў чэшскім гарадку Аламоўц. Прачнуліся а сёмай гадзіне. Сонца няма. Вызірнуў у вакно, а там дзве вежы касцёлаў, палац і далёка-далёка ў тумане горы...

Уначы ішоў дождж. Цяпер усё вільготнае і сумнае...

Паснедалі. Някепска. Праз дзве з паловай гадзіны едзем у Аўстрыю...

Каля дарогі сонечныя батарэі, як разгорнутыя кнігі...

Велізарнае поле спелага маку...

Чэхія прыгожая, як Беларусь...

Поле сланечнікаў. Усе з чорнымі шапкамі...

Чэшскія вінаграднікі...

На мяжы Чэхіі і Аўстрыі на прыдарожнай сцяне напісана: «БАТЭ. Барысаў»...

Аўстрыя. Поле жоўтых гарбузоў. Поле сланечнікаў. Поле яблынь. Поле вінаграднікаў...

На ўзгорку ветракі. Узгадаўся мастак Язэп Драздовіч і яго касмічныя матывы... *жнівень*

Кіроўцы-палякі ўключылі расійскую папсу...

Абагналі фуру з беларускім нумарам...

Гледзячы з аўтобуса на аўстрыйскія дамы, узгадаў родную хату. І стала сумнавата ад параўнання...

Едзем Венаю...

Прыехалі ў Бадэн. Курортны гарадок паблізу Вены. Крыху паблукалі. Вуліцы вузкія і застаўленыя машынамі. Праз паўгадзіны знайшлі, дзе трэба нам стаяць. Толькі адчыніліся дзверы аўтобуса, як усе кінуліся ў прыбіральню, якую пабачылі побач. Каля дзвярэй на зямлі ляжаў паднос, куды трэба было пакласці грошы, але ніхто нічога не паклаў. Мужык, які пільнаваў паднос, гледзячы на нас, вытарашчыў вочы, але нічога не сказаў...

Прыйшла нашая гідэса і павяла мясцінамі звязанымі з творчасцю Моцарта і Бетховена. Увайшлі ў Венскі лес. (Лясы каля маіх Пугачоў нягоршыя!)

На лавачцы ў Венскім лесе паблізу помніка Шапэну сядзеў мужчына гадоў сарака з пляшкай віна і слухаў музыку ветру ў соснах. «Відаць, нейкі графаман...» — падумаў я і сфоткаў чалавека...

У Бадэне жыве 27 тысяч жыхароў. Тут тры тэатры і ніводнага палаца спорту...

На адной невялічкай вуліцы тры кнігарні...

Пасля экскурсіі з Людай вырашылі перакусіць. Завіталі ў кавярню. Я захацеў пакаштаваць аўстрыйскіх сасісак. Прынеслі на велізарнай талерцы дзве сасіскі і да іх па грамаў сто гарчыцы і хрэну...

Альпы... Я тут жыў бы...

## ДЗЕНЬ ТРЭЦІ. ІТАЛІЯ. ВЕНЕЦЫЯ. ПРАВІНЦЫЯ ТАСКАНА

*22.08.2014.* Начавалі ў італьянскім гатэлі. Сярод гор. Было крыху сцюдзёна ў нумары. Сценкі тонкія, і чуваць, як храпуць суседзі.

А другой гадзіне прачнуўся ад рэзкага болю ў правым баку. Адразу ж спалохаўся: «Апендыцыт!» — і далей не змог заснуць...

Працягнулі вандроўку пасля сёмай гадзіны. Доўга ехалі сярод гор. Паралельна дарозе цякла рэчка, у якой адлюстроўвалася вечнасць...

Боль у баку прамінуў, і я павесялеў: «Не дадамся да

*жнівень* Міколы Селешчука, якога прывезлі з Італіі...»

Выехалі з гор. На палях кукуруза...

Неба і над Італіяй беларускае — чыстае, як шклянка, што чакае віна — узыходу сонца...

У Італіі горы, а ў нас Курган Славы...

Ні бульбы, ні буслоў. Усё кукуруза і кукуруза...

Едзем усё і едзем, а мора ўсё няма і няма...

Вада ў рацэ зялёная, як трава, якая бяжыць у мора...

Палякі нас прывезлі не да таго месца, адкуль мы паплывём у Венецыю. Усе сорак тры вандроўнікі занылі-завылі. Нашая куратарка Святлана хутка разабралася, і па нас прыплыў невялікі параходзік. Паўгадзіны плылі да Венецыі. Выйшлі на бераг. Гарачыня! І мора народу!

На адной з выспаў на могілках Сан-Мікеле ў Венецыі 21 чэрвеня 1997 года быў пахаваны Іосіф Бродскі.

*Хотя бесчувственному телу*
*равно повсюду истлевать,*
*лишенное родимой глины,*
*оно в аллювии долины*
*ломбардской гнить не прочь. Понеже*
*свой континент и черви те же.*
*Стравинский спит на Сан-Микеле...*

Гандолы падобныя да музычных інструментаў. Да вадзяных скрыпак і віяланчэляў...

Вуліцы вузкія. Дамы высокія. Масткі гарбатыя. Вада няспешная, як вечнасць...

З Людай добра вандраваць. Яна гаворыць па-англійску, і я за ёй хаджу, як насільшчык, які толькі слухае і маўчыць...

Мурын прапануе купіць торбы. Ад яго амаль усе шарахаюцца...

Пэндзлік для галення за 175 еўра. Бацька мой такімі не карыстаўся...

Гадзіны чатыры жылі ў Венецыі. Жылі, як масоўка ў мастацкім творы...

Стаміліся. Чакалі наш параходзік, седзячы на каменным беразе, звесіўшы ногі над хвалямі. Каб яшчэ раз прыехаць у Венецыю, кожны кінуў у ваду па капейцы...

Мора і мора кітайцаў...

Пасля экскурсіі з Венецыі паехалі ў правінцыю Таскана...

*жнівень*

## ДЗЕНЬ ЧАЦВЁРТЫ. ПРАВІНЦЫЯ ТАСКАНА. РЫМ. ВАТЫКАН

*23.08.2014.* Начавалі ў адным з гатэляў правінцыі Таскана. За сценкамі ўсё было чуваць. Усталі а шостай гадзіне. Сняданак а сёмай. Слаба. «Лёгкае сняданне, яно пераходзіць у бурнае выццё...»

Едзем. Абмяркоўваем пабачанае ў Венецыі. Праехалі каля дома, дзе ў двары гарыць вогнішча. Дым трапіў у салон аўтобуса. Дым чужыны напомніў дым Радзімы...

Усе сланечнікі павернутыя да сонца, як да Ван Гога...

Сонечныя батарэі, як партытуры для аркестра...

Кукуруза на палях, як рымскія легіёны...

Сланечнікі з апушчанымі галовамі, як палонныя...

Вада ў рэчцы зялёная, як пазелянелая бронза часоў Рымскай імперыі...

Далёка-далёка авечкі, як залатыя вошы...

І нашая дарога вядзе ў Рым...

Полем ідзе негр, як апостал...

Сланечнік, як Магдаліна, якая раскайваецца...

Рымскае метро. На станцыі ходзяць карабінеры. Пазіраюць на нас. Мы іх не баімся. Мы баімся згубіцца...

Едзем у метро. Людзей няшмат. Зайшла жанчына з двума хлопцамі. Аднаму гадоў сем, другі крыху старэйшы. Жанчына ў доўгай сукенцы. Я падумаў, што яна славянка і жонка нейкага італьянца. І адразу пачуў крык: «Перестаньте баловаться! Отойдите от дверей!»

У рымскім метро чытаюць кнігі...

Італьянец гадоў трыццаці, што сядзеў насупраць мяне і Люды, усю дарогу раз-пораз кулаком стукаў у далонь другой рукі. Побач з ім сядзела спакойная жанчына.

Пэўна, ягоная маці. Гледзячы на іх, я думаў: «Хутчэй бы яны выйшлі з вагона!»

У вагоне шмат кітайцаў і арабаў. Праўда, у гэтым цягніку і беларусаў шмат...

У Ватыкан чарга, як за Савецкім Саюзам у Маўзалей...

Нас правялі без чаргі. Прапусцілі праз мінашукальнік, і мы ўжо на тэрыторыі Ватыкана...

Турыстаў, як кітайцаў у Кітаі...

Шмат прыгожых італьянак. З іх толькі карціны маляваць...

На брукаванцы ляжаў лісток нейкага незнаёмага мне дрэва, і я ўзяў яго на памяць...

*жнівень*

Па Ватыкане хадзілі больш за дзве гадзіны. Некаторыя разінуўшыся...

Сіксцінская капэла... Мікеланджэла. Роспіс столі. Фрэска «Стварэнне свету». Працы вялікіх мастакоў. Нельга гучна размаўляць і фатаграфаваць. Паблізу мяне кітаец дастаў фотаапарат і сфатаграфаваў «Стварэнне свету»...

Былі на пляцы і ў Храме Святога Пятра, нібыта на небе, дзе жывуць святыя...

Дакрануўся да правай ступні Святога Пятра. Спадзяюся, што ён паспрыяе, каб маё жаданне здзейснілася...

Абраз Святой Веранікі. І яшчэ абразы, абразы, абразы...

Бачыў некалькі прыгажунь з мужамі-арабамі. Відаць, нафтавыя шэйхі...

З Ватыкана завялі ў краму, дзе красуні крамніцы гавораць па-руску. Можна было даслаць сабе ў Мінск паштоўку...

Праехаўшы паўгадзіны аўтобусам № 40, мы трапілі ў стары Рым. Навокал турысты, турысты і турысты. Мясцовых нібыта і няма...

Рака Тыбр. Нешырокая, у каменных берагах. Не верыцца, што яна разлівалася і затаплівала на некалькі метраў Рым...

Да Калізея ішлі з гадзіну. Сярод турыстаў і рымлян, якія жылі тут тысячы гадоў таму...

Калізей, як велізарны каменны паламаны гадзіннік...

Калі нас пакінула нашая гідэса, я з Людай і сябрамі абышлі Калізей, нібы абышлі ўвесь Старажытны Рым...

Каля Калізея я лёг на адну са старажытных пліт і адчуў сябе гладыятарам, які толькі што перамог і ў якога наперадзе бітва на чале са Спартаком...

Раз-пораз уздымаўся вецер, і нам у твар ляцеў пыл. Гэты вецер быў з часоў будаўніцтва Калізея...

Вакол Калізея ходзяць турысты, а за імі гандляры, якіх Хрыстос выгнаў з Храма...

Закрапаў дождж, і адразу каля нас з'явіліся гандляры з парасонамі: «Давай! Давай! Купі!»

Ад Калізея да свайго аўтобуса ехалі ў метро. Пасля шасці гадзін вандроўкі па Ватыкане і Старажытным Рыме ў метро адчуваў сябе крышачку-крышачку рымлянінам...

Нанач паехалі ў гатэль, што ў 37 кіламетрах ад Рыма. Праехалі гадзіну. Гатэля няма. Туман. Лес. Горы... «А ўсцяж дарогі мёртвыя рымскія легіянеры з какосамі стаяць, і цішыня...» Праехалі яшчэ гадзіну. Кіроўца спыніў аўтобус і пайшоў распытваць дарогу да гатэля. Гаварыў хвілін дзесяць. Вярнуўся. Перазагрузіў навігатар, і мы паехалі назад. Калі ехалі, то бачылі ўказальнікі: «Да Рыма — 32 км, да Рыма — 35 км, да Рыма — 34 км, да Рыма — 37 км, да Рыма — 30 км». На паўдарозе нас сустрэў супрацоўнік гатэля, дзе мы меліся начаваць, і з ім хвілін за дваццаць паспяхова даехалі да сваіх ложкаў... *жнівень*

З Людай жылі ў № 33. Самы шыкоўны нумар з усіх, дзе мы ўжо начавалі. Праўда, у прыбіральні ўнітаз у два разы большы, чым звычайна, нібыта для цыклопаў...

## ДЗЕНЬ ПЯТЫ. ПРАВІНЦЫЯ ТАСКАНА. ПАРТОВЫ ГОРАД ЧЫВІТАВЕК'Я. ТЭРМЫ САТУРНІЯ. ТАСКАНСКАЯ РЫЙЕРА

*24.08.2014.* Прачнуліся а шостай гадзіне. Навокал туман. Сняданак слабы. Чорная гарбата, 10 грамаў масла, луста батона і джэм. Па страўні хадзілі каты. Худыя, як вінаградныя лозы...

Цэгла як акамянелыя булкі...

Каровы колеру выгаралай травы...

Едзем у партовы горад Чывітавек'я. Мора як чорнае бясхмарнае неба...

На моры белы ветразь, як пёрка з крыла рымскага анёла...

У час вайны амерыканцы моцна бамбілі Чывітавек’я, і цяпер тут мала што можна паглядзець, і таму турыстаў мала, як і смецця ад іх...

Пад асфальтам брукаванка трэцяга стагоддзя...

У Італіі жыве 61 мільён чалавек. Тэрыторыя амаль роўная нашай Беларусі...

Далёка ад нашай дарогі ляжаць авечкі каля дома, як цыгарэтныя недапалкі...

Могілак нідзе не бачна, нібыта тут людзі жывуць вечна...

Поле засаджанае сонечнымі панэлямі...

Поле памідораў...

*жнівень* Усё вышэй і вышэй едзем у горы. Здаецца, што яшчэ крыху і заедзем на аблокі, што плывуць нам насустрач...

Вакол дарогі аліўкавыя дрэвы. Ім недзе з тысячу гадоў. Плады чорныя, зялёныя, чорныя, зялёныя...

Прыехалі да тэрмаў Сатурнія. Аўтобус пакінулі за паўкіламетра і пайшлі пехатою. У гэтых тэрмах Сатурнія лекаваліся рымскія імператары. Сёння мы будзем мыць ногі...

Вада лекавая, цячэ з гары. Яе тэмпература 37 градусаў. Распранаемся і далучаемся да людзей, якія ўжо тут балдзеюць. Балдзелі дзве гадзіны...

Стомленыя і падлекаваныя вадой тэрмаў Сатурнія, едзем з гары. Побач дарогі пасвяцца авечкі маркіза Карабаса...

Узаранае поле. Зямля рудая, як печаная кроў...

Сланечнікі жоўтыя, як кітайцы...

Дрэвы на гары як велізарныя зялёныя апенькі...

Сланечнікаў тысячы і мільёны, а Ван Гог адзін і не італьянец...

Камбайн памідоры збірае...

Высока-высока праляцеў самалёт. Магчыма, у Беларусь...

Ці аўтобуснае сядзенне прызвычаілася да мяне, ці я да яго?

Зноў узгадаўся Мікола Селяшчук, які загінуў у Італіі на моры...

Дарога на могілкі, абсаджаная платанамі, як зялёны ўваход у іншы свет...

Кіроўцы-палякі ўлучылі польскамоўны фільм. Словам, пачалася паланізацыя аўтобуса...

Чорныя аліўкі як кроплі смалы...

Адзінокія сланечнікі каля дарогі, як вандроўнікі, якіх ніхто не ўзяўся падвезці да мора...

Кацёлкі саломы, як ліверка нарэзаная...

Наведалі горад Грасэта. Зайшлі ў храм, дзе вянчаўся Адрыяна Чэлентана. Нічога асаблівага...

Спыніліся каля турмы. Потым каля помніка часоў Мусаліні. На помніку чырвоная зорка...

Былі на абарончай сцяне горада. Мур таўшчынёй метраў пятнаццаць. На ім стаяць дзве каменныя ванны Рымскай імперыі. Адна цэлая, другую гадоў дваццаць таму нехта перакуліў і адбіў кавалак. Яна так і ляжыць пашкоджаная...

*жнівень*

Непадалёку за дарогаю аэрадром. На ім каля дзясятка вайскова-транспартных самалётаў...

Праехалі праз Пізу. Па-мойму, вежа не падае, а падымаецца, каб роўна стаяць...

Урэшце прыехалі да мора і ў гатэль, дзе будзем начаваць пяць дзён. Пасялілі нас апошнімі. Пайшлі снедаць а палове на дзявятую. На сталах пуста. Каля сценкі стаяць вялікія місы з пакроенымі памідорамі, салата і побач тоненькія, як папера на вершы, скрылікі сала. Нас 43 чалавекі. Усе галодныя. І мы, пабачыўшы памідоры, як бычок чырвоную анучу, накінуліся на іх. Я з'еў паўкілаграма памідораў, бо сала не паспеў схапіць. За пяць хвілін талеркі былі пустыя. Некалькі чалавек сышлі са страўні, бо вырашылі, што больш нічога нам не дадуць. І тут раптам афіцыянты нам вынеслі кожнаму па велізарнай талерцы з макаронаю, у якой, як у валасах смецце, было мяса. З'елі. Сядзім задаволеныя. Думаем сыходзіць, а тут нам прыносяць яшчэ па велізарнай талерцы з бульбай і мясам. Мы і гэта (з цяжкасцю) з'елі. Ні вады, ні гарбаты не даюць. Калі хочаш, купляй. Віно — 10 еўра, піва — 5, вада — 2. Ніхто нічога не ўзяў. Праз пару хвілін нам прынеслі па вялікім кавалку торта. Праз сілу ўсе і гэта з'елі, і адразу пару чалавек заявілі: «Нас падманулі!!! Мы аддалі на вячэры па пяць еўра, а тут нас накармілі на 30!»

Расклаўшы рэчы ў нумары, пайшлі ў горад пагуляць. Да мора ўначы нельга падыходзіць. Штраф — 1000 еўра. З гадзіну пагулялі па горадзе...

## ДЗЕНЬ ШОСТЫ. ТАСКАНСКАЯ РЫЎЕРА. ЛІДО ДЗІ КАМАЁРЭ. МОРА

*25.08.2014.* Напачатку прыснілася праца. Нейкія клопаты. Потым вёска. Родная хата. Дома сястра, брат, бацька і я. Бацька збіраецца ў дарогу. Ідзе соткамі каля хаты ў бок Ракава. «Куды ты?» — пытаюся. Ён нічога не адказвае, але я адчуваю, што бацька пакрыўджаны, бо ён быў у нас, а мы яго не пакармілі. (Думаю, што бацька ў Ракаўскай бальніцы галадаў. Я ж да бальніцы яго карміў з лыжкі, а там...) Потым прыснілася мама каля хаты. У інвалідным вазку, і мы, яе дзеці, каля яе...

Прачнуўся а палове на сёмую. Ціха-ціха, нібыта дома...

*жнівень*

Чайка пракрычала за вакном, як жанчына...

Перад ад'ездам у адпачынак у канфіскаце набыў электрабрытву расійскай вытворчасці. Танную. Галюся і злуюся на сябе: «Такой брытвай толькі Грамадзяну галіцца!»

Паснедалі і пайшлі да мора. Ніхто не купаецца. «Мора злое...» — гледзячы на штармавыя хвалі, сказаў я і адышоўся ад вады.

Пляж амаль увесь прыватны. Праз хвілін пятнаццаць да нас падышлі адпачывальнікі з нашага аўтобуса, і мы, незагарэлыя, як белыя гусі, палезлі купацца...

Праз хвілін пяць каля нашага купання сабраліся з усяго берага італьянскія выратавальнікі. Свішчуць, махаюць рукамі, а мы на іх не звяртаем увагі, купаемся, як дома...

Праз гадзіну на пляжы з'явіліся мясцовыя. Следам за імі арабы і негры з таварамі. Кітайка прапаноўвала масаж...

Ляжым, загараем і раптам да Люды чапляецца араб: «Мадэль! Мадэль!» — і пачынае на яе апранаць пляжную сукенку. Набылі...

Вада ў моры салёная, як селядзец...

Накупаўшыся, пайшлі ў краму, каб купіць паабедаць. У нас Люда за перакладніка, а мы з сябрамі, як сапраўдныя замежнікі, нічога не разумеем...

Шосты дзень вандроўкі, а здаецца, што тыдні два мінула...

## ДЗЕНЬ СЁМЫ.
## ТАСКАНСКАЯ РЫЎЕРА. МОРА

*26.08.2014.* На вуліцы дождж, нібыта ў Мінску...

Лёгкае снеданне. Сярод нас восем чалавек з Санкт-Пецярбурга. Расіяне штораз сядаюць не за той столік, дзе елі раней, нібыта шукаюць месца, на якім будзе ўсяго болей і смачней...

Кіроўцы-палякі паводзяць сябе так, нібыта яны вялікія паны...

Перад тым як ісці да мора, схадзілі ў Храм, які паблізу. Маліліся два пажылыя італьянцы і жанчына. У Храме над малітоўнікам вісяць вагі, на якіх стаяць глобус, снапок і чаша... *жнівень*

Ідзём да мора сярод складзеных вялікіх парасонаў. Яны, як кветкі, якія распусцяцца, як з'явіцца сонца...

Пясок сцюдзёны, як фруктовае марозіва...

Пакуль ішлі да вады, з'явілася сонца, і за паўгадзіны стала горача і навокал усё ажыло...

Да нас падышла жанчына з нашай кампаніі і сказала, што ўчора тут былі незнаёмыя хлопцы з нашымі нацыянальнымі сцягамі. Яна хацела да іх падысці, але пабаялася...

Падышоў негр і прапанаваў купіць посцілку са скарынінскім сонцам за 20 еўра. Купілі дзве за 22. На другой посцілцы знакі задыяка...

Перад намі прабегла італьянская яшчарка. Худзенькая...

Купілі піцу. Яе пры нас за пяць хвілін спяклі...

Побач з нашым гатэлем ёсць яшчэ адзін Храм. Вырашылі схадзіць і ў яго. Не трапілі, бо ён знаходзіцца на тэрыторыі, дзе жывуць старыя, якіх няма каму са сваякоў даглядаць...

Каля горада высокія горы. Захацелі схадзіць да іх. Ішлі гадзіну, стаміліся і вярнуліся назад вячэраць....

Увечары нікуды не пайшлі. Размаўлялі праз скайп з дзецьмі...

## ДЗЕНЬ ВОСЬМЫ. ФЛАРЭНЦЫЯ

*27.08.2014.* Прызвычаіліся да гатэля і рытму ягонага жыцця. Абслуга пры сустрэчы нам кажа: «Грацыя» — і ўсміхаецца...

А дзясятай гадзіне выехалі ў Фларэнцыю. Чалавек дзесяць з нашай кампаніі не паехалі...

Каля дома сланечнік стаіць, як блудны сын...

У Фларэнцыі жыве 366 тысяч чалавек. Горад быў заснаваны ў 59 годзе да нашай эры...

Высадзіліся з аўтобуса на плошчы, дзе стаіць помнік Дантэ Аліг'еры (1265—1321). Калі мы фатаграфаваліся, пад крысом у паэта сядзеў голуб...

*жнівень*

Наведалі царкву Святога Крыжа, будаўніцтва якой пачалося ў 1294 годзе. Унутры Храма, упрыгожанага геніяльнымі фрэскамі знакамітых італьянскіх майстроў, знаходзіцца больш за 300 грабніц вялікіх фларэнційцаў, сярод якіх Мікеланджэла, Макіавелі, Ларэнца Барталіні, Галілеа Галілей, Расіні, Дантэ Аліг'еры...

Плошча Сіньярыі — сапраўдны музей пад адкрытым небам. Тут «Персей з галавой Мядузы» Бенвенута Чэліні, «Геркулес і Кентаўр» Джамбалоны, а таксама чатырохметровая статуя Давіда работы Мікеланджэла, створаная ў 1504 годзе...

На плошчы ёсць круглая пліта, якой пазначана месца, дзе ў 1498 годзе быў спалены манах-рэфарматар Джыралама Саванарола...

У многіх скульптур паадбіваныя не толькі пальцы на руках...

Былі ў Храме, дзе пахавана Беатрычэ. Побач з ёй стаіць кошык, паўнюткі цыдулак, на якіх просьбы закаханых. Ніхто з нашых не папоўніў кошык...

З Людай схадзілі ў Палацца Піці, які быў збудаваны ў XV стагоддзі для купца Лукі Піці. Наведалі галерэю Палаціна, у якой любаваліся палотнамі Тыцыяна, Рафаэля, Цінтарэта, Караваджа, Батычэлі, Філіпа Ліпі, Веласкеса, Ван Дэйка, Рубенса, а таксама дзясяткамі карцін менш вядомых, але не менш геніяльных мастакоў...

У калідоры, што вядзе да прыбіральняў, вісяць карціны сучасных мастакоў...

Пасля галерэі Палаціна я выйшаў з палаца і лёг на італьянскую зямлю. Нада мной было італьянскае неба,

чыстае, як беларускае. Пакуль я ляжаў, да мяне падышоў голуб. Відаць, падумаў, што я памёр, і ён вырашыў мне выдзяўбці вочы, але я аказаўся жывым...

На прыпынку, дзе нас чакаў аўтобус, стаялі негры з торбамі. Адзін прычапіўся да нас. Хацеў, каб мы купілі торбу на рэчы за 35 еўра. Торба якраз была патрэбная, і мы далі ёй цану: «10 еўра!» Скончылася тым, што набылі за 12...

Наўсцяж дарогі негры з торбамі стаяць, і цішыня...

Вярталіся з Фларэнцыі, як з неба...

### ДЗЕНЬ ДЗЯВЯТЫ. ПІЗА

*жнівень*

28.08.2014. Прыснілася, што я пад час адпачынку прыйшоў на працу, каб паглядзець, што ў нас робіцца. На месцы была толькі Аксана Спрынчан, якая паведаміла, што ў мяне выйшла новая кніга, якую адразу паказала. Потым я пайшоў праспектам, дзе сустрэў Леаніда Дранько-Майсюка. Лёня абрадаваўся сустрэчы са мной і прачытаў мне свой новы верш з дванаццаці радкоў...

Выспаўся добра, як дома. На сняданне з'елі тое, што італьянцы далі. Слабавата зранку даюць. Адразу пайшлі да мора купацца. Да адной з нашых жанчын на пляжы другі ўжо дзень як чапляецца пажылы італьянец Раберта. Цяпер у нашай беларускай кампаніі ёсць на што паглядзець і пра што паразмаўляць...

Пасля абеду паехалі ў Пізу. Ад нашага гатэля кіламетраў сто. Як толькі прыехалі на аўтобусны вакзал у Пізе, нас адразу акружылі негры з торбамі, гадзіннікамі, парасонамі: «Давай! Давай! Купі! Купі!» Нахабныя, як «чорныя акулы капіталізму»...

Ад аўтобуснага прыпынку да Пізанскай вежы недзе кіламетр. Негры за намі ішлі амаль палову дарогі.

Пізанская вежа. Вежа як вежа. Прыгожая. Вялікая. Падае, але ўпасці не можа, бо італьянцы не даюць. Няхай так і стаіць нахіліўшыся! А нахілілася вежа, каб разгледзець, што тут за істоты двуногія снуюць сюды-туды каля яе...

Шмат турыстаў. Кітайцаў, палякаў, рускіх, немцаў...

Бачылі дом, дзе жыў Галілей. «І ўсё-ткі зямля круціцца...»

Дом, у якім жыў Максім Горкі. Дом як дом...

Помнік народнаму герою Джузэпэ Гарыбальдзі, які аб'яднаў Італію...

Праехала карэта, а ў ёй пажылы араб з маладой прыгажуняй. А мы пехатою вандруем па Пізе...

Узгадаўся гумарыст Уладзімір Ермалаеў, у якога ёсць верш з радком: «Атрымаў візу ў Пізу!..»

Шмат чаго не паглядзелі, бо за ўсё трэба плаціць...

Толькі вярнуліся да аўтобуса, як адразу да нас, прытанцоўваючы і спяваючы, падышоў негр і стаў прапаноўваць купіць торбу. Усе адмовіліся. Смеючыся, нашым кіроўцам ён апавёў, што жыве ў сметніцы...

*жнівень*

Вярнуліся ў гатэль, дзе нас чакалі парэзаныя памідоры, салата, макарона з крэветкамі, мяса з бульбай і персікі. Павячэралі, як паны...

## ДЗЕНЬ ДЗЯСЯТЫ. ЛІГУРЫЙСКАЕ МОРА

*29.08.2014.* Прачнуліся, паснедалі і на мора...

Апошні дзень на моры. Стаміўся ад сонца і ад культурнай інфармацыі, але дамоў не хочацца...

Мора ціхае, лагоднае, нібыта ведае, што мы заўтра ад'язджаем...

Плыву ў моры, і ў далечы белыя ветразі, як плаўнікі акул...

Нехта ляціць над морам на дэльтаплане, як у кіпцях цмока...

Лаўровыя дрэвы амаль каля кожнага дома...

З сябрамі пайшлі па крамах. Зазірнулі ў антыкварную. Я застаўся на вуліцы. Двор застаўлены старымі мядніцамі, рондалямі, бутлямі, амфарамі, крэсламі, столікамі. Здаецца, што яшчэ хвіліна, і да мяне з крамы выйдзе Дон Кіхот з мядніцаю на галаве і прапануе біцца за Люду Мінскую...

Насупраць гатэля ў двухпавярховіку загаласіла немаўля. Тут жа пачуліся крыкі гаспадароў і іх суседзяў. Праз хвілін дзесяць прыехала «хуткая». Забрала малое з маці, і ў двары зноў стала ціха...

Сярод карцін, храмаў і замкаў, якія пабачыў у Італіі, у маёй памяці мама і тата...

Дні напоўненыя падзеямі, як мора вадой...

Сёння вельмі горача. І мы на беразе мора, як на беразе італьянскага лета...

Нахадзіліся па горадзе. Стаміўся. Узгадалася, што загнаных коней прыстрэльваюць...

Заўтра ад'язджаем. Забыліся кінуць у мора па капейцы, каб прыехаць яшчэ раз...

Апошняя вячэра. За сталамі ўсе загарэлыя, як камбайнеры...

## ДЗЕНЬ АДЗІНАЦЦАТЫ. ЛУКА. НОЧ У АЎСТРЫЙСКІМ ГАТЭЛІ

*30.08.2014.* Хуценька паснедалі. Сёння пачынаецца доўгая дарога дадому...

За пяць дзён прызвычаіліся да гатэля і ягоных гаспадароў. Усё было добра і галоўнае — мора было блізка... *жнівень*

Выехалі а восьмай гадзіне. Нас чакае экскурсія ў Луку. Тут жыве 90 тысяч чалавек. Гэты старажытны горад, радзіма кампазітара Пучыні, лічыцца горадам ста цэркваў...

На кіпарысе чайка, як белы кнот на зялёнай свечцы...

Вузкай вуліцаю прыйшлі да помніка Пучыні. Я пастукаў пальцам па помніку. Унутры пуста. Музыка навокал...

Вуліцы, вулачкі і дамы дванаццатага стагоддзя. І людзі мясцовыя, як з тых далёкіх часоў...

Храмы, храмы, храмы і аніводнага Палаца спорту...

У Луке неграў з торбамі не было. Відаць, тут турыстаў меней...

Дарога на Мілан. Праз тры гадзіны спыніліся на запраўку. Побач з намі быў аўтобус з заўзятарамі «Ювентуса». І тут раптам на аўтазапраўцы аднекуль з'явілася каля дзясятка дзяўчат у ружовых капелюшах, адна была ў вясельным вэлюме. Заўзятары «Ювентуса» паклікалі дзяўчат да сябе. Падхапілі нявесту на рукі і з вар'яцкімі крыкамі некалькі разоў падкінулі ўгару. Дзяўчаты пайшлі, і заўзятары пачалі чапіцца да нас, каб пагуляць у футбол або пабіцца. Мы паўцякалі ў аўтобус...

Наперадзе Верона. Навокал горы...

На краі гары стаіць адзінокае дрэва, нібы сабралася саскочыць...

Аўстрыя. У кожным паселішчы храмы...

Каля дарогі сады, вінаграднікі, а ў нас часта могілкі...

Воблака зачапілася за крыж на Храме...

Птушка ў аблоках, як муха ў бавоўне...

«Калі ў цябе ў краіне палі зарастаюць быльнягом і людзі п'янствуюць, застаецца толькі ваяваць з суседзямі, якія хочуць жыць так, як людзі ў Еўропе жывуць...»

Праехалі горнай дарогаю. У кіламетры пад намі прайшоў цягнік, як вуж прапоўз...

Горная рачулка, як шампанскае цячэ...

182 кіламетры да Інсбрука. А мы будзем начаваць у аблоках, што над Альпамі...

*жнівень*

## ДЗЕНЬ ДВАНАЦЦАТЫ. МЮНХЕН

*31.08.2014.* Начавалі ў гатэлі ў Аўстрыйскіх Альпах. Нумар шыкоўны. Выходзіш на балкон, а навокал горы, неба і аблокі...

Дрэвы на гары, нібыта паломнікі ідуць да сонца...

Мы не арлы, але аблокі пад намі...

Праехалі праз Інсбрук. Горад у аблоках, што спаўзлі з гор...

На ўмоўнай мяжы Аўстрыі з Нямеччынай нас спыніла паліцыя. У салоне ўсе хуценька рамянямі прывязаліся да сваіх крэслаў. Паліцыя праверыла кіроўцу, ці піў...

Горы, горы і горы, а сонца ўсё няма і няма, нібыта яно засталося ў Італіі...

Нямеччына. А вось і вароны. Чорныя, як негры ў Італіі...

Баварыя. Мюнхен. Тут ужо няма вузкіх утульных старых вуліц і вулак, як у Італіі...

Спыніліся на плошчы каля нацыянальнага музея. Думалі, што паглядзім карціны, а нас у прыбіральню завялі...

Да нас далучылася гідэса Вера Гітнікава і павяла старым Мюнхенам. Ад яе даведаліся, што ў скверы, у які мы завіталі, каб паглядзець на сцены каралеўскага палаца, стаіць помнік Цютчаву. Помнік нам не паказала...

Сёння нядзеля. Усе крамы зачыненыя. Рэстарацыі з 12 гадзіны...

Да нас далучылася незнаёмая жанчына, як шпіёнка. Калі гідэса завяла нас на рынак і апавяла пра яго,

незнаёмка раптам падышла да нашай куратаркі Святланы і сказала: «Гэта халтура, а не экскурсія! Нельга прыводзіць людзей на рынак, які не працуе!» Жанчына аказалася масквічкай, якая прыйшла на сустрэчу з сяброўкай раней часу, таму ад няма чаго рабіць далучылася да нас...

Каля нашай экскурсіі прайшоў лёгка апрануты немец гадоў сарака, спяваючы: «Марына, Марына, Марына...»

Пачаўся дождж. Дробны і нудотны, як на пахаванні...

Амаль усе пахаваліся пад парасоны, а расіяне апранулі зялёныя цыратавыя плашчы, і адразу ўзгадаліся крымскія ветлыя зялёныя чалавечкі...

Міма нас прайшлі старыя немцы. Адзін, гледзячы на нашу кампанію, сказаў: «Русіш швайн...» *жнівень*

А дванаццатай гадзіне мы былі на Марыенплацы. Усе глядзелі на вежу Храма, дзе гадзіннік паказаў нам маленькі спектакль пад прыгожую музыку...

Як толькі заціх гадзіннік, усе разбегліся ў пошуках баварскага піва. І мы з Людай таксама пайшлі, каб дзе пасядзець. Да нас далучылася чатыры чалавекі. Трапілі ў кавярню «Францысканцы». Люда, як знаўца моў, замовіла паесці і пяць куфляў піва і, паказваючы на мяне, папрасіла: «Гэтаму не даваць!» Аднак афіцыянтка прынесла і мне маленечкі куфлік, з якога я адпіў піва на пару пальцаў. Піў і шкадаваў, што я даў сабе слова не піць да ста гадоў. Паеўшы і папіўшы, мы з сябрам пайшлі ў прыбіральню. Яна тут жа ў кавярні, але ў нейкім сутарэнні. Спускаемся. Сядзіць жанчына расфуфыраная, каля яе на століку велізарная талерка, куды трэба класці грошы. Сябра адразу як ішоў, так і пайшоў, а я спыніўся, бо грошай не ўзяў, але пяць грамаў піва ўжо дзейнічала, і я сказаў немцы: «Можна?» — «Можна!» — адказала жанчына, і я прайшоў каля яе, як фанера каля Мюнхена. Зрабіўшы сваю мокрую справу, я вызірнуў з прыбіральні. Немка сядзіць. Праўда, без аўтамата, але па ейным выглядзе я зразумеў, што калі не аплачу тое, што я рабіў у прыбіральні, яна мяне на волю не выпусціць. Я вярнуўся назад і, пастукаўшы ў дзверы, за якімі быў мой сябра, папрасіў: «Дай цэнтаў пяцьдзясят, каб выйсці адсюль...» Кінуўшы капейкі на талерку немцы, я выбег з прыбіральні, як з нямецкага палону...

На вуліцы пайшоў спорны восеньскі дождж. Мы своечасова прыйшлі на прызначанае месца, куды павінен прыехаць наш аўтобус. Аўтобус спазніўся на сорак хвілін. «Пэўна, нашыя палякі-кіроўцы ў танным бардэлі затрымаліся!» — сказаў мужчына, які стаяў побач з намі, і ўсе засмяяліся...

На выездзе з Мюнхена пабачылі стадыён «Баварыя»...

У дажджы вятрак, як стрэлкі гадзінніка, які спыніўся...

На палях каля Мюнхена расце хмель...

*жнівень*

Едзем амаль тры гадзіны. Узгадаўся сон мінулае ночы. Сніўся Валожын. Вечар. Я на аўтобусным прыпынку. Аўтобусаў няма. Мне трэба вярнуцца дамоў (Куды? У вёску? У Мінск?). Нейкі час я хадзіў па вакзале адзін. З'явіўся Уладзімір Марук, потым Адам Глобус, і мы ўтрох пачалі думаць, як выбрацца з Валожына. Раптам паўз нас праехаў аўтобус. Я пабег услед за ім. Ён не спыніўся. Я вярнуўся да хлопцаў. Глобус ужо размаўляў з нейкай жанчынай, якая паабяцала нам дапамагчы з транспартам да Ракава. Яна пайшла, і тут жа да нас незнаёмы мужчына гадоў трыццаці прыцягнуў воз і сказаў, што ён нас давязе да Ракава. «А як можна без каня ехаць?» — запытаўся я і... прачнуўся.

Едзем у бок Берліна. Краявіды раўнінныя і сумныя...

Дождж перастаў. Едзем на Дрэздэн. І ўсё бліжэй і бліжэй да Беларусі...

А дзясятай пераехалі ўмоўную мяжу Германіі і Польшчы. Нас пасялілі ў прыдарожным гатэлі. Увамкнуў святло ў пакоі, і адразу сам уключыўся тэлевізар. Паглядзеў крыху нейкі польскі гістарычны фільм, які прапагандуе тое, што ў 1945 годзе палякі перамаглі немцаў...

Заўтра ў нас наперадзе больш за тысячу кіламетраў дарогі...

## ДЗЕНЬ ТРЫНАЦЦАТЫ. ДОЎГАЯ ДАРОГА ДАДОМУ...

*1.09.2014.* Прачнуліся а шостай. Паціху сабралі валізы і торбы. Выйшлі на вуліцу. Сцюдзёна. Сняданне было вельмі багатае. Сёе-тое забралі ў дарогу...

Выехалі ў пачатку восьмай. Крыху сумнавата, што нашая вандроўка заканчваецца...

Едзем на Уроцлаў. Прамільгнуў указальнік на Лігніцу, дзе служыў Анатоль Сыс. У мяне захоўваюцца яго-ныя лісты з войска...

Лічу, колькі кіламетраў праехалі і колькі засталося. Мне здаецца, што едзем вельмі марудна...

За вакном дождж. Наша надвор'е...

Праз гадзіну выехалі з дажджу, як з самоты...

Спыніліся перакусіць у тым самым месцы, што і дванаццаць дзён таму, калі ехалі ў Італію. Знаёмая кавярня, людзі. І мы ўжо спакойныя, як дома...

Едзем праз мястэчка. Дзеці ў бела-чорных строях ідуць у школу. Сёння 1 верасня...

Бульба ў палякаў яшчэ на полі...

У Італіі лета ў самым разгары, а тут ужо восень...

Белыя гусі ходзяць па ржышчы, як прывіды тых гусей, што ўратавалі Рым...

Далеч у смузе, але там Радзіма...

На полі вароны, як манахі...

Едзем праз лес. Сям-там ходзяць грыбнікі. У некаторых поўныя вёдры грыбоў...

Праехалі праз прадмесце Варшавы. Прадмесце як прадмесце...

Не даязджаючы мяжы кіламетраў дваццаць, спыніліся ў мястэчку з вялікім харчовым супермаркетам. Мы спакойна купілі сёе-тое, а некаторыя з нашай кампаніі хапалі ўсё запар, нібыта перад вайной. А некалькі чалавек нашай куратарцы Святлане давялося за рукі выцягваць з крамы, пасля таго як ужо ўсе сядзелі ў аўтобусе хвілін пятнаццаць...

Польскую мяжу, дзякуючы таму, што наш аўтобус польскі і кіроўцы палякі, мы праехалі за паўгадзіны. Толькі праехалі метраў дваццаць да беларускага боку, як

у аўтобусе пачуліся крыкі, што трэба некаторым аформіць дакументы на вяртанне грошай, бо яны панабіралі тавараў на вялікія сумы. Аўтобус спыніўся, і мы прастаялі амаль дзве гадзіны...

Беларускія памежнікі нас пратрымалі гадзіну, і мы а дзясятай былі ў Берасці. Каля дзесяці чалавек выйшлі ў горадзе, і мы паехалі далей. У Мінску былі а палове на чацвёртую. З Людай узялі таксоўку і а чацвёртай гадзіне былі дома. На Людзіна пытанне: «Ну як табе вандроўка па Еўропе?» — я сказаў: «Лепей бы я не бачыў таго, што пабачыў. Жыў бы спакойна...» Праўда, адразу выправіўся: «Цудоўна!»

*верасень*

**X**

*2.09.2014.* За трынаццаць дзён стаміўшыся Еўропай, дваццаць гадзін аўтобусам з польскім кіроўцам і атрадам з сарака трох турыстаў вырываўся з яе палону і толькі а чацвёртай гадзіне сённяшняй раніцы ступіў на родную падлогу...

**X**

*6-7.09.2014.* Не паспеў ачуняць ад дарог па Еўропе, як зноў дарога. Заслаўе. Два дні ўдзельнічаў у святкаванні Дня беларускага пісьменства. Людзей мора. Адны прыязджалі электрычкаю, другія ад’язджалі. Музыка, песні, вершы, танцы і кнігі, кнігі, кнігі. Шмат было і пісьменнікаў. Адныя са мной віталіся, некаторыя абдымаліся, другія паглядалі здалёку, а трэціх я ўпершыню бачыў і толькі сёння даведаўся, што яны ёсць...

**X**

*8.09.2014.* Прыходзіў Анатоль Вярцінскі. Прынёс дазвол на публікацыю вершаў у падручніку. Раней такіх правіл не было і, відаць, далей не было б, калі б адзін з літаратараў не пачаў падаваць у суд на ўсіх, хто ягоныя творы ўключыў у зборнікі і падручнікі, не запытаўшыся ў яго. Наконт усяго гэтага Анатоль Ільіч сказаў: «Чалавек сам сябе выкрэслівае з беларускай літаратуры. Розум абмежаваны, а вось дурнота бязмежная...»

**х**

*9.09.2014.* Скончыў набор дарожных нататак, якія рабіў пад час вандроўкі маршрутам: Беларусь — Польшча — Чэхія — Аўстрыя — Італія — Аўстрыя — Нямеччына — Польшча — Беларусь, дзе жылі ў гатэлях, наведвалі Бадэн, Венскі лес, Венецыю, Рым, Ватыкан, Чывітавек'я, Грасэту, тэрмы Сатурнія, Фларэнцыю, Пізу, Луку, Мюнхен і шмат дробных прыгожых гарадоў. Гісторыя Заходняй Еўропы — гэта і наша гісторыя!

Пяць дзён былі на Лігурыйскім моры. Пад час набору тэксту яшчэ раз перажыў тое, што было перажыта ў вандроўцы. Мы праехалі аўтобусам больш за шэсць тысяч кіламетраў. Я баяўся дарогі. Дакладней, баяўся згубіцца ў чужых гарадах сярод чужых людзей, але ніхто не згубіўся і людзі, якіх мы сустракалі, не былі страшнымі...

*верасень*

І толькі сёння, скончыўшы набор дарожных нататак, я вярнуўся дамоў...

**х**

*11.09.2014.* Даведаўся, што 4 жніўня памёр паэт Святаслаў Макаль (сын паэта Петруся Макаля). Яму было крыху за пяцьдзясят. У 1992 годзе Святаслаў выдаў кнігу вершаў «Дзверы насцеж». Па сённяшні дзень памятаю ягоныя немудрагелістыя радкі:

*Гледзячы ў бінокль,*
*можна ўбачыць*
*зоркі...*
*Гледзячы ў бінокль,*
*можна не заўважыць,*
*што ў цябе пад нагамі...*

**х**

*11.09.2014.* «А я нешта павесялеў!» — сказаў я і ўспомніў, што так часам мне казаў бацька пра свой настрой, калі я ў Мінску даглядаў яго. Бацьку, каб павесялець, хапала добра паесці. А я павесялеў з таго, што напісаў верш. Цяпер думаю, ці есці грыбы, якія сын прывёз з лесу і якія варацца. Грыбы варацца ўжо другую гадзіну, а я раз-пораз падыходжу да рондаля і, гледзячы на вар, сам сабе кажу: «Па-мойму, тут бальшыня атрутных грыбоў!» Шкада выкідаць, але і есці страшна...

x

*12.09.2014.* Прыходзіў Алесь Бельскі. Яго можна слухаць бясконца. І пра літаратуру, і пра наша жыццё-быццё. Думаю, што студэнты любяць Алеся Іванавіча. З ім добра. Алесь абяцаў да канца года прынесці зборнік выбраных вершаў паэтаў, якія загінулі на вайне. Выдадзім ў серыі «Паэзія XX стагоддзя». З выдавецтва пайшлі разам і амаль гадзіну ішлі да майго прыпынку, стаялі, успаміналі тых, каго ўжо з намі няма. Шкадавалі, што амаль не перавыдаюцца пісьменнікі, на творах якіх мы выраслі, якія былі ў нас настаўнікамі. Ад Алеся даведаўся (яму казалі знаёмыя выкладнікі з універсітэта), што пасля смерці Вольгі Казловай (кватэра была прададзеная) кнігі і часопісы з рэдкімі аўтографамі пісьменнікаў і дзяржаўных дзеячаў валяліся на сметніцы і ў іх корпаліся бамжы. Алесь і сёння шкадуе, што, калі быў у гасцях Вольгі Васільеўны незадоўга да яе смерці і яна яму прапанавала ўзяць са сваёй бібліятэкі патрэбныя кнігі, ён пасаромеўся гэта зрабіць...

*верасень*

x

*12.09.2014.* З Людай хадзілі ў тэатр аднаго акцёра «Зніч», які паказвае спектаклі ў культурным цэнтры касцёла Св. Сымона і Алены. Запрашэнне атрымалі раніцай ад гаспадыні тэатра Галіны Дзягілевай. Сёння пачатак новага тэатральнага сезона, які для «Зніч» стаў дваццаць пятым, і пачаўся ён спектаклем «Любіць» на вершы Анатоля Вярцінскага. Ідучы ў касцёл, мы думалі, што там збярэцца шмат нашых знаёмых. Прыйшлі. Са знаёмых сустрэлі Анатоля Вярцінскага і Уладзіміра Васілевіча. Аднак зала была амаль поўная. Пераважна школьнікі, якім і адрасаваны спектакль. Слухаючы Галіну Дзягілеву, я ўспамінаў тыя часы, калі... На жаль, тыя часы прамінулі. І ўсё ж ёсць каму слухаць беларускую паэзію ў выкананні «Зніч». За маёй спінай сядзела маладая пара і, калі пачаўся спектакль, хлопец сказаў: «Ух ты! Па-беларуску!» Спектакль ішоў амаль паўтары гадзіны. Недзе ў яго сярэдзіне Галіна Аляксееўна закашлялася і папрасіла вады. Пакуль супрацоўніца тэатра несла кубак, на сцэну выйшаў Анатоль Вярцінскі і прапанаваў акторцы адпіць з яго пляшачкі. Дзягілева не адмовілася,

і адразу ўся зала выбухнула воплескамі. Атрымалася так, нібыта гэта ўсё было паводле сцэнарыя. Калі спектакль закончыўся, гледачы хвілін дзесяць не разыходзіліся. Некаторыя школьнікі фатаграфаваліся з Дзягілевай і Вярцінскім, дарылі кветкі...

**x**

*13.09.2014.* Некалькі дзён таму фотамайстра Юрый Іваноў запрасіў на сённяшні дзень у Мінскую ратушу на ўрачыстую перадачу сваёй фотакарціны «Лятучка. 1987 год» у музей сталіцы. З Людай выйшлі зараней, каб прагуляцца святочнымі вуліцамі. Зайшлі ў кнігарню «Цэнтральная», дзе сустрэлі Змітра Юркевіча. Ён запрасіў нас на прэзентацыю часопіса «Тэксты», які прысвечаны Тадэвушу Рэйтану. Імпрэза адбудзецца ў Палацы мастацтваў 26 верасня. Потым мы няспешна пайшлі да ратушы. Паслухалі выступы аркестра, народных хораў. Увайшлі ў ратушу і адразу трапілі на выставу Юрыя Каралевіча жывапісных партрэтаў гістарычных дзеячаў Беларусі «Рэмінісцэнцыя». З мастаком я пазнаёміўся сёлета ў Вязынцы пад час свята паэзіі. Усяго на выставе прадстаўленыя пятнаццаць партрэтаў. У асноўным гэта самыя значныя асобы Вялікага Княства Літоўскага: вялікія князі Гедымін, Альгерд, Кейстут, Вітаўт, Ягайла, прадстаўнікі дынастыі Радзівілаў. Карціны ўражваюць. Яны надаюць ратушы значнасць. На імпрэзу да Юрыя Іванова прыйшлі народныя артысты Ігар Лучанок і Эдуард Зарыцкі, народны мастак Іван Міско і яшчэ шмат вядомых людзей. Вёў імпрэзу кінарэжысёр Аляксандр Карпаў-малодшы. На перадачы фотакарціны музею Мінска прысутнічала і гераіня самога здымка, якому ўжо дваццаць сем гадоў. Жанчына па сённяшні дзень працуе на камвольным камбінаце. З прыемнасцю паслухалі песні з рэпертуару мулявінскіх «Песняроў» у выкананні Анатоля Кашапарава. Іван Міско ў перапынках паміж выступамі сяброў Юрыя Іванова фатаграфаваў Эдуарда Зарыцкага. Відаць, збіраецца рабіць скульптурны партрэт кампазітара. Даючы слова Эдуарду Барысавічу, Юрый Іваноў на нейкі момант забыўся ягонае прозвішча, і кампазітар падсказаў: «Моцарт!» Ігар Лучанок некалькі разоў падыходзіў да мікрафона. На жаль, нічога не сыграў і не праспяваў. Архітэктар, кіраўнік творчага калектыву

*верасень*

Анатоль Шабалін, якім была створаная Мінск-арэна, узгадваючы, як у маладосці разам з Анатолем Кашапаравым два гады спяваў у рэстарацыі гатэля «Юбілейны», сказаў: «А цяпер Анатоль амерыканец!» — «Не! Беларус!» — у адказ выгукнуў Кашапараў. Выступіў і я. Пачытаў вершы. Пасля імпрэзы ўсе фатаграфаваліся, абменьваліся думкамі пра свята. А мы з Людай, крыху пабыўшы сярод бамонду, пайшлі ў «Планету Сушы»...

**x**

*14.09.2014.* За вакном цемра, як мёртвая вада...

*верасень*

**x**

*15.09.2014.* Дарогаю да Петрапаўлаўскага сабора я ізноў бачыў народнага артыста СССР Расціслава Янкоўскага. Ён ішоў з дзвюма кавенькамі, раз-пораз спыняючыся, разглядаючы людзей, якія абганяюць яго і якія ідуць насустрач. Расціслаў Іванавіч, якому 5 лютага наступнага года будзе 85 гадоў, ішоў прыгожа, як і належыць ісці народнаму артысту. Любуючыся Расціславам Янкоўскім, я з жалем падумаў, што, відаць, ніхто, апрача мяне, не ведае, хто гэты стары, які ледзьве ідзе Нямігаю, як і я не ведаю, што за пажылы мужчына сядзіць у інвалідным вазку на ўваходзе ў дворык Петрапаўлаўскага сабора і просіць міласціну...

**x**

*16.09.2014.* У паветры праплыла павуцінка, якой былі завязаныя дзверы ўвосень...

**x**

*17.09.2014.* Калі з мора дзьме вецер, ён заўсёды ў твой твар...

**x**

*18.09.2014.* Удзельнічаў у запісе тэлепраграмы «Дыя@блог P. S.», што выходзіць на канале «Беларусь 3». Вядоўцы — Навум Гальпяровіч і Анатоль Зэкаў. Праграма пра гумар і гумарыстаў. Я на лаўры вялікага гумарыста ніколі не прэтэндаваў і цяпер не прэтэндую, але так атрымалася, што сёння вядоўцы давялі мне, што я ўсё ж вясёлы Сабака і сур’ёзны Граждан. Перад тэлезапісам

грымёрша напудрыла мяне, і я, паглядзеўшы ў люстэрка, сам сабе ў думках сказаў: «Харош! Асабліва ў змроку!» Пасля мяне запісваўся гумарыст Міхась Міранові́ч. Сваёй чаргі ён чакаў амаль гадзіну. Ідучы на запіс, мы яму далі заданне напісаць новыя эпіграмы. Сказаў, што напісаў. Выйшаўшы са студыі на вуліцу, я пабачыў грымёршу, сімпатычную дзяўчыну, якая сядзела на ганку і няспешна піла каву. І цяпер на вольным паветры, дзе з дрэў ападае першае залатое лісце, яна была прыгажэй, чым тады, калі мяне рыхтавала да гумару...

**x**

*19.09.2014.* У выдавецтва прыходзіў мужчына. Пяцьдзясят дзевяць гадоў. Жанаты. Мае будаўнічую фірму. Узімку ён быў на цёплым моры. Там здзейснілася ягоная мара — мець каханку, якая б працавала настаўніцай. Жанчыне сорак гадоў. Разведзеная. Сын ужо дарослы. Закаханы мужчына за дзевяць месяцаў напісаў каля паўтысячы вершаў. Піша, хаваючыся ад жонкі і дзяцей, у пакоі, дзе стаіць акварыум. Блізкія думаюць, што ён да ачмурэння палюбіў рыбак. Каханка вершы набірае на камп'ютары, правячы арфаграфічныя памылкі. Словам, мужчына мне ўсё апавёў, як «паэт паэту», пакінуўшы на памяць свае творы, сярод якіх і гэты: *верасень*

*Пусть темное, как ночь, вино,*
*Так бережно хранящее прохладу утра,*
*Вольется в кровь. И в прошлом беды, севшие на дно,*
*А в будущем — цветы, любовь и камасутра.*

**x**

*20.09.2014.* Прыснілася восень. Я прыехаў у вёску, каб жыць у роднай хаце. Зайшоў у залу. Змрочна. Са ўсёй столі крапае вада. Чыстая. Спрабую спыніць, але вада пачынае цячы мацней. «Я ж тут збіраўся зімаваць...» — з жахам прашаптаў я і... прачнуўся.

## ЛІДА. МУРАВАНКА. ЖАЛУДОК

*20.09.2014.* Дзякуючы прафсаюзнай арганізацыі выдавецтва, са сваімі супрацоўнікамі ездзіў у вандроўку маршрутам: Мінск — Ліда — Мураванка — Жалудок — Мінск. Люда сказала: «Для нас гэта працяг нашай нядаўняй дарогі па Еўропе...»

У Ліду ехалі маёй роднай Валожыншчынай. Час ад часу я дапамагаў Ярашу Малішэўскаму (наш гід) апавядаць пра мясціны, якія мы бачылі праз вакно...

На ўваходзе Лідскага замка нас чакаў навуковы супрацоўнік Лідскага гісторыка-мастацкага музея Алесь Хітрун. Я з ім знаёмы, і ён, павітаўшыся са мной, потым на працягу ўсёй экскурсіі стараўся гаварыць так, нібыта ўся экскурсія толькі для мяне. Алесь піша вершы. Здаецца, мае кніжку. Увесь час хацеў нас завесці ў Музей Валянціна Таўлая, што побач з замкам. На жаль, большасць нашай групы не загарэлася жаданнем завітаць да паэта...

*верасень*

У Лідзе было свята горада. Вакол замка гандлёвыя палаткі, шмат людзей, нібыта мы трапілі ў тыя часы, калі жылі князі...

Экскурсавод Алесь па знаёмстве мне дазваляў фатаграфавацца з экспанатамі замка. Калі я сеў за гасцінны княскі стол, да мяне падсела дачка нашай супрацоўніцы, і атрымаўся здымак: кароль Ягайла і Соф'я Гальшанская...

Лідскі замак мяне ўразіў, але не так, каб дух захапіла. Ён яшчэ нейкі як нежывы. Экспанатаў няшмат. Словам, замак яшчэ павінен напоўніцца духам беларускай даўніны...

Каля гатэля «Ліда» стаіць скульптура камандзіровачнага. Мясцовыя, пабачыўшы нас, сказалі, што трэба ўзяцца за нос скульптурнага мужыка. Навошта? Не патлумачылі...

Потым мы паехалі ў Мураванку, дзе стаіць Свята-Раства-Багародзіцкая царква-крэпасць абарончага тыпу. Яна размешчаная ў цэнтры вёскі на ўзвышшы. Змураваная ў 1524 годзе. Значна пашкоджана ў 1655 годзе пад час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай, але праз некалькі гадоў аднаўленая. Выгляд храма значна зменены пад час капітальнага рамонту 1871—1872 гг. У 1920-я гады царква была перароблена пад касцёл. Набажэнствы ў храме аднаўленыя ў 1988 годзе (прастольнае свята 21 верасня)...

Побач за агароджай царквы стаіць хата, на сцяне якой вісіць партрэт Сяргея Ясеніна, над якім прымацаваныя кветкі. Каля плота стаіць вядро з яблыкамі. Відаць, у хаце жыве чалавек, які любіць паэзію і які, магчыма, сам піша вершы...

Лазілі на вежы. Шрубавыя сходы вузкія і крутыя. На званіцы сядзелі галубы. Мы іх напалохалі, і яны паляцелі

высока ў неба, каб апавесці былым абаронцам царквы, што сюды прыйшлі не ворагі, а свае людзі...

У вёсках Лідчыны і Шчучыншчыны вельмі шмат старых закінутых хат. Ды і многія тыя, у якіх жывуць людзі, выглядаюць не лепей. Гледзячы на іх, успамінаў сваю родную ў Пугачах...

Наведалі Жалудок — радзіму ўдзельніка паўстання 1863—1864 гадоў Валерыя Урублеўскага і навукоўцы Канстанціна Тызенгаўза. Першы касцёл тут быў закладзены ў 1490 годзе вялікім князем Казімірам Ягелончыкам. На ўскрайку мястэчка (фарны канец) быў драўляны кармеліцкі кляштар, фундаваны ў 1686 годзе Казімірам Францкевічам. Пад алтаром сённяшняй бажніцы крыпта з пахаваннямі, сярод іх пахаванне падскарбія надворнага А. Тызенгаўза — уладальніка Жалудка. На бакавых сценах прэсбітэрыя дзве мармуровыя мемарыяльныя дошкі з барэльефнымі выявамі графіні Г. Тызенгаўз (1822—1891) і графа С. Урускага, маршалка шляхты Варшаўскай губерні (1817—1890). На ганку касцёла Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі, збудаванага ў 1853 годзе, нас сустрэў ксёндз Ян. Вельмі прыемны, з пачуццём гумару чалавек. Ён нам паказаў касцёл, апавёў ягоную гісторыю, потым абвёў вакол бажніцы. У касцёльнай школе ў яго вучыцца 1600 вучняў. На маё пытанне: «На якой мове ідзе навучанне?»— ксёндз адказаў, што падручнікі ў іх беларускія, але дзеці, якія з бацькамі вучылі малітвы і святыя кнігі чыталі, больш разумеюць польскую мову...

*верасень*

Пасля касцёла мы заехалі паглядзець палацава-паркавы ансамбль Святаполкаў-Чацвярцінскіх пачатку XX стагоддзя. Ён знаходзіцца ў Жалудку. Мы яго адразу не знайшлі, таму двойчы сюды-туды праехалі праз невялічкую вёску Зара камунізму...

Дамоў вярталіся, нібы з мінулых стагоддзяў...

**X**

*22.09.2014.* Прыснілася, што я ў Пугачах дома ў дзядзькі Шуры (бацькаў стрыечны брат). Праз расчыненыя дзверы бачу, як у сенцы з другога пакоя выйшаў бацька, каб пакінуць хату. Напачатку я хацеў зрабіць выгляд, што не бачу яго, але ўстаў і пайшоў да бацькі, які ў мяне запытаўся: «Як у цябе справы?» — «Яшчэ жывы»,— адказаў я і абняў яго на развітанне.

**х**

*23.09.2014.* Прыходзіў Валера Гапееў. Ён цяпер у Мінску на навучанні. Размаўлялі, размаўлялі і прыйшлі да высновы, што ў нашай літаратуры амаль няма твораў пра 70—90-я гады мінулага стагоддзя. Адным словам, Валера будзе не супраць пачытаць мой раман пра той час і мяне ў тым часе. Тое, што ў мяне атрымаецца напісаць цікавы твор, ён мяркуе па маіх шматлікіх (ужо надрукаваных) згадках пра перажытае. «З чаго пачаць?» — запытаўся я ў Валеры. Ён адказаў: «Пачні, як было насамрэч, з выпускнога восьмага класа, дзе ўсім хлопцам прапанавалі ісці вучыцца на трактарыстаў. Усе напісалі заявы, а ты адмовіўся...»



**х**

*24.09.2014.* Стаю на прыпынку. Спыніўся аўтобус. З яго выйшаў кампазітар Алег Чыркун і адразу падышоў да мяне. Павітаўшыся, Алег запытаўся: «Ну як там Масква?» — «Не ведаю...» — адказаў я. «Ты цяпер тут жывеш?» — «Тут».— «У Маскве ж бабкі харошыя...» — «А тут бабы харошыя...» — «Ты вельмі моцна да Шніпа падобны...» — «Няўжо?» — «Ты ж празаік Алесь Кажадуб?» — запытаўся кампазітар. «Ага!» — усміхнуўся я. «Ты вельмі моцна да Шніпа падобны!» — працягнуў размову Алег. «Мне гэта не дапамагае. Шніп мяне не друкуе»,— я пачаў выконваць ролю Алеся Кажадуба. «А ты яму даўно свае творы аддаў?» — «Зусім не даваў!» — «Ну тады занясі!» — нібы загадаў, сказаў кампазітар, і мы яшчэ хвілін дзесяць размаўлялі пра Шніпа. Нагаварыўшыся, разышліся, як у полі трактары...

**х**

*25.09.2014.* Холадна і няўтульна, як на мокрым дубе...

**х**

*27.09.2014.* Ездзіў у Пугачы...

Завітаў у «Заходні» аўтавакзал, а там каля сотні старых па гадоў 70—80. І ўсе такія, нібыта сабраліся ехаць на той свет...

Праязджаючы каля Ракаўскіх могілак, каля святой крыніцы пабачыў шмат народу. Жанчына, што сядзела

побач, сказала: «Сёння свята — Узвіжанне Крыжа Гасподняга...»

Прыехаў у вёску. Адразу дождж перастаў і засвяціла сонца...

Да хаты па сухім не прайсці. Навокал вада. На вуліцы прарвала вадавод, і ўжо амаль два месяцы цячэ вада каля нашай хаты...

Яблыкаў у траве болей, чым зорак у небе...

Хата жывая. Гадзіннік не спыніўся...

Прыехаў дзядзька Толя. Зааралі грады, пасеялі рапс. Мама была б задаволеная...

Пракапаў дзве неглыбокія канавы па метраў трыццаць. Адну каля плота на вуліцы, а другую ў садзе, каб вада сцякала. Праз гадзіну каля хаты пасушэла. І пры жыцці бацькоў вадавод нярэдка прарывала і вада падцякала пад хату, і тады калгас браўся за рамонт не адразу. Цяпер калгаса няма і спраў да вады, якая цячэ, нікому няма... *верасень*

Міма праходзіў Тонік Руткевіч (сябар маленства), запытаўся: «Як там Мінск?» — «Яшчэ стаіць!» — адказаў я.

На вуліцы паразмаўлялі з дзядзькам Шурам, з Лідай і яе мужам Валодзем. У вёсцы добра, і я вяртаўся ў Мінск, успамінаючы тыя часы, калі бацькі былі жывыя...

Яблык ляжаў на дарозе, нібыта зваліўся з неба...

У Мінск вярнуўся, як прачнуўся...

**x**

*28.09.2014.* Холадна. У скверы на лаўцы мужыкі сядзяць каля пляшкі з гарэлкай, як каля вогнішча...

**x**

*29.09.2014.* Вяртаюся з працы праз сквер. І раптам у кустах бачу касмічную ракету, падрыхтаваную да запуску. Да мяне падыходзіць касманаўт і кажа: «Вы са мной палеціце ў космас». Я не адмаўляюся, але думаю: «Хоць бы не на цэлы год...» — «Не хвалюйцеся! Палеціце на адзінаццаць дзён!» — суцяшае касманаўт і дае скафандр. Я прашу патэлефанаваць дахаты, каб не хваляваліся, дзе гэта я прапаў. Мне дазваляецца. Я тэлефаную, чую голас жонкі: «Куды гэта ты сабраўся! Тут пажар!» — і прачынаюся.

**х**

*30.09.2014.* Пазнаёміўся з Базылём. Чалавек гаваркі. Жыве ў Амерыцы (верыцца і не верыцца) і ў свой час быў добра знаёмы з Анатолем Сысам. 12 лютага 2005 года Базыль зайшоў да Анатоля дахаты. Гаворачы пра сябе, Сыс сказаў: «Тры сняжынкі маю жыцця». «Так яно і атрымалася, што пасля нашай сустрэчы паэт пражыў тры месяцы. Развітваючыся, Анатоль абяцаў, што апошні верш ён напіша для мяне, і 25 красавіка ён напісаў:

*Шрыфтам Брайля на калядным снезе*
*Птушкі вершы пішуць.*
*А чытаю — рукі змерзлі.*
*Свае руны мне не вышыць.*
*Я аслепнуў.*
*Я аглухнуў.*
*Птушак не здагнаў — спяшаю,*
*а вясновы снег пажухнуў.*
*Часу — тры сняжынкі маю.*
*А памру — паэт мо прыйдзе...»*

*верасень*

Прачытаўшы верш, Базыль папрасіў падпісаць маю «Тутэйшую тугу» і абавязкова напісаць: «Дарую Базылю, з якім удвух мы ведалі паэта Анатоля Сыса, а пазнаёміліся толькі сёння 30.09.2014 года». Дзякуючы за прысвячэнне Базыль сказаў: «Мне Сыс падпісаў кнігу і паставіў дату 3003 год».

**х**

*30.09.2014.* Апошні дзень верасня, але не жыцця...

# Змест

## Студзень — снежань, 2013



## Сарцавіна

Ш 77 **Шніп, В. А.**

Заўтра была адліга : дзённікавы раман паэта / Віктар Шніп ; маст. Уладзімір Васюк. — Мінск : Мастацкая літаратура, 2015.— 341 с.

ISBN 978-985-02-1643-4.

Кніга «Заўтра была адліга» складаецца з твораў нон-фікшн (невыдуманыя гісторыі) і вершаў, у якіх душа і сэрца паэта. Чытаючы кнігу, нехта скажа: «Тут вельмі шмат самоты!» Так. У жыцці стае самоты, і кожны ведае, што нельга быць вясёлым, калі паміраюць родныя, калі знікаюць сцяжыны да жыватворных крыніц, калі ты разумееш, чаму так неспакойна ў тваёй душы. І ўсё ж аўтар гэтай кнігі аптыміст, і ў яго ёсць пачуццё гумару і самаіроніі і ўменне пабачыць у звычайных дэталях быцця прыгажосць і філасофскі сэнс, і сваімі творамі ён сцвярджае: «Усё будзе добра!»

УДК 821.161.3
ББК 84(4Беи)

Літаратурна-мастацкае выданне

**Шніп** Віктар Анатольевіч

**ЗАЎТРА БЫЛА АДЛІГА**

*Дзённікавы раман паэта*

Рэдактар *А. В. Спрынчан*
Мастацкі рэдактар *М. Ю. Дайлідаў*
Тэхнічны рэдактар *В. М. Максімовіч*
Стылістычны рэдактар *А. М. Анцытовіч*

Падпісана да друку 09.02.2015. Фармат 60х84 $^{1}/_{16}$. Папера афсетная.
Гарнітура Georgia. Афсетны друк. Умоўн. друк. арк. 20,0.
Улік.-выд. арк. 17,35. Тыраж 1500 экз. Заказ

Выдавецкае рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства
«Мастацкая літаратура» Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюджвальніка друкаваных выданняў № 1/5 ад 09.07.2013.
Пр. Пераможцаў, 11, 220004, Мінск.
www.mastlit.by; e-mail: mail@mastlit.by

ААТ «Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюджвальніка друкаваных выданняў № 2/3 ад 04.10.2013.
Вул. Каржанеўскага, 20, 220024, Мінск.

